і Восіп Зяньковіч, які стаяў ад Мілоўскага бліжэй усіх, пра якога Мілоўскі ведаў, што ён бядняк. Ад таго і на яго, як раней на Мікоду Жука, зірнуў Мілоўскі з дакорам, але нічога не сказаў яму.

— Та-ак,—працягнуў ён, здзівіўшыся, што ніхто больш не галасуе.— А хто супроць такой прапановы? Прашу тых падняць рукі.—Супроць паднялося рук дзевяць, а рэшта зноў не галасавалі.

— Значыць і супроць не галасуеце?—уставіўся Мілоўскі паглядам ў Зяньковіча.

— Чаму? Вунь галасуюць,—кіўнуў галавой на сход Зяньковіч.

— А ты чаму не галасуеш ні за, ні супроць?

— Не хачу, дык і не галасую.

— Ён дзядзькі свайго баіцца, яму Давыдзюк за дзядзьку даводзіцца,—паведаміў Сузон.

— Не т-твая гэта справа,—агрызнуўся заікаючыся Восіп. Але агрызнуўся на Сузонавы словы і змоўк.

— Ну та-ак,—зноў працягнуў Мілоўскі.—Значыць супроць галасуюць толькі тыя, каму вызначана здаваць развёрстку, ды яшчэ двое, відаць з радні іхнай. Адным словам, як відаць, даводзіцца лічыць прынятай першую пастанову.

— Ды што ты баламуціш там?

— Хто ў нас за старшыню схода, Халамей ці хто? Што-ж гэта?

— Прашу супакоіцца,—адказаў на выкрыкі Мілоўскі.—Старшыня тут ролі не іграе, калі вы не галасуеце... А старшынства я не адбіраю. Калі ласка, вядзіце сход, грамадзянін Кот.—Мілоўскі сеў на месца.

— Ды што-ж весці, калі не галасуе ніхто.

— Бо заблыталі ўсё, не ведаем за што галасаваць.

— Нічога не заблыталі,—спакойна адказаў з месца Мілоўскі.—Усё тут ясней яснага.

— А чаму-ж ты не галасаваў за Халамееву прапанову?

— Каб на ўсіх развёрстку скласці?

— Але-ж.

— А таму, што прапанова гэта не на карысць беднаце, а на карысць багатыром вашым. Калі-ж за гэта папракаеце, я не пярэчу, няхай сабе і гэтая пастанова галасуецца. Калі ласка, стаўце на галасаванне сваю прапанову.

— Ну, добра, дык хто за яе, прашу падняць рукі.

Але зноў паднялося толькі дзевяць рук.

— Ну? Што-ж вы цяпер скажаце?—звярнуўся Мілоўскі да задніх радоў, з якіх раней крычалі і з якіх цяпер паднялося дзевяць рук.— Справа тут у вас, як відаць, не ў тым, што я некага заблытаў, а відаць у тым, што нехта некага баіцца і ад таго і не галасуе. Сам не галасуе, правільна робіць, бо не хоча на сябе долі развёрсткі браць, калі самому есці няма чаго, але і не галасуе за тое, каб багатыры плацілі, бо, відаць, баіцца іх, а баяцца няма чаго. Пара тая мінулася разам з царом, прыставам ды ўраднікам, калі бедната багатыроў баялася. Хто хоча да багатыроў падлізвацца, няхай падлізваецца, а хто сапраўды бядняк, каму дорага рэволюцыя, той павінен цвёрда голас свой мець, таму няма чаго баяцца...

— Ды мы і не баімся.

— Хто там каго баіцца?

— Да ўжо-ж, мы не дзеці малыя, каб баяцца некага.

— А што-ж вы вядзеце так, што ні туды, ні сюды?—З месца раптам падхапіўся Мікода Жук.—Я ўжо сядзеў ды маўчаў, думаў, што з таго выйдзе, думаў хоць раз пасяджу ўжо так, адпачну хоць. Але-ж не даводзіцца пасядзець. Гляджу на вас, ажно прыкра робіцца. Ну,

правільна, што ў нас такога не было, у тыя разы ўсе здавалі, хоць з апошняга, але здавалі. І сапраўды, у Мікіты засекі ломяцца ад дабра, а ён пуд за дзесяціну нёс, і Сузон тоё-ж нёс. Які-ж гэта парадак? А тут вам чалавек робіць як лепш, як след па правілу і вы не галасуеце, ды яшчэ кажаце, што не баіцеся іх? Аж слухаць такое нудна.

Па сходу прайшоўся хвалямі гоман, у якім адчуваліся і галасы згоды, галасы нездаваленяя. Мікода сеў. За сталом, разгублена паглядаючы то ў бакі на Мікоду і Мілоўскага, то ў заднія рады схода, стаяў Халамей Кот.

— Галасуйце-ж!—запрапанаваў яму Мілоўскі.

— Што-ж галасаваць, калі ўсё галасавана?

— Галасуйце за прапанову камбеда.—Мілоўскі ўзяў слова і нанава прачытаў сваю прапанову.—Вось за гэта і галасуйце.

— Ну, давайце, калі так. Будзем галасаваць за ўсё нанава. Хто за першае, прашу падняць рукі.

На гэты раз сам Халамей Кот налічыў за прапанову камбеда аж семнаццаць галасоў. За іншае галасавалі ўсе тыя-ж дзевяць чалавек.

— Такім чынам, грамадзяне,—Мілоўскі падняўся з месца на гэты раз спакойней, як калі за ўвесь вечар,—прынята першая прапанова. Грамадзянам, на якіх вызначана развёрстка, прапануецца заўтра-ж зранку здаць хлеб, завезці яго ў воласць, а сена здаць не пазней, як цераз тры-чатыры дні. Вось і ўсё.

— Не, не ўсё,—абазваўся з задніх радоў нейчы голас.—А колькі-ж галасавала, а?

— Галасавала роўна ў два разы больш, чым за другія прапановы. Развёрстка прынята большасцю галасоў і ніякіх больш гаворак па гэтаму пытанню быць не можа.

— Ну што-ж, грамадзяне,—ад сцяны падняўся і выціраючы насоўкай лоб, пайшоў паміж радамі на сярэдзіну цяжкі, лысы чалавек.— Раз такія парадкі пашлі, што адзін за ўсіх здаваць павінен, хоць за гэта і не галасуе ніхто, няхай будзе так.—На сярэдзіне ў праходзе ён спыніўся.—Здадзім і сваю долю і за ўсіх здадзім, раз ужо так палагаецца. А мы думалі, што пры савецкай уладзе больш справядлівасці будзе. Ён пакланіўся злёгку ў бок да прэзідыума і пашоў да дзвярэй. За ім падняліся ісці і Мікіта Шкробат і Давыдзюк, а пасля і Арцём Піскун.

— Чакай ад іх справядлівасці,—закрычаў, праціскаючыся паміж людзей, Мікіта.—У старыя часы дык яны хадзілі ды крычалі пра справядлівасць, аж аказваецца вось яна якая іхная справядлівасць. Каб самім нічога не даваць дзяржаве, а каб нехта за іх даваў, во якая іхная справядлівасць.—Захінуўшыся поламі кажуха, ён следам за Давыдзюком выйшаў з хаты.

— Няхай ідуць, без іх лепш будзе,—сказаў Мілоўскі ў голас.—А гэта што першым гаварыў, хто такі?—запытаў ён у Халамея.

Халамей запытання як бы не пачуў, не адказаў на яго. Здзіўлены крыху гэтым Мілоўскі зірнуў падазрона на Халамея і перапытваць яго не стаў.—„Пра цябе самога запытаць у каго-небудзь варта“—падумаў ён, прыпомніўшы Халамеевы словы, кінутыя тым на вуліцы.—„Аднае, відаць, ты маркі з імі“.

Каб не зацягваць сходу, бо было ўжо за поўнач, Мілоўскі караценька сказаў аб неабходнасці заўтра-ж усім, у каго ёсць коні, выехаць у лес для вывазкі дроў. Мікода прачытаў прысланы з гэтага поваду цыркуляр з раёну, у якім было паказана, адкуль і куды падвозіць дровы Шапятоўскаму сельсовету. На гэтым і скончылі парадак дня, вызначаны для сходу. І пакуль Халамей пытаў у схода, ці няма

ў каго якіх пытанняў у бягучых справах хто-ні-хто падняўся з месца і пачаў збірацца ісці дадому.

На заўтра, як ледзь развідняла, Мікода пашоў загадваць, *каб везлі* ў Пагулянку развёрстку, каму вызначана, і пасля снедання паехаў у воласць з іншымі і сам, а Мілоўскі застаўся ў Шапятоўцы. З Рыгарам, старшынёвым сынам, ён умовіўся, што ў дзень збярэцца моладзь і можна будзе арганізаваць ў Шапятоўцы комсамольскую ячэйку. Сход сабраўся пад поўдзень. Перад сходам прышоў дадому па Мілоўскага Рыгор, а з ім Ганорык Міхась і яшчэ адзін хлопец, якога Рыгар назваў па прозвішчу Шкробатам. Рыгор паціху, так каб не пачулі дзяўчаты, якія прыйшлі да сястры, паведаміў Мілоўскаму, што сход будзе ў іхным таку, куды і збіраецца моладзь.

— Чаму ў таку?—здзівіўся Мілоўскі.

— Каб бацькі не ведалі. Там такія хлопцы прышлі, што калі-б бацькі даведаліся, папрыбівалі-б да смерці.

— Дык усёроўна некалі-ж даведаюцца.

— Тое тады будзе, а пакуль што трэба, каб не ведалі.

Мілоўскі хуценька ўскінуў на плечы шынель і пашоў за хлапцамі. Цераз хвіліны дзве яны былі ў таку. Там іх чакала адзінаццаць чалавек моладзі. Сярод усіх было і дзве дзяўчыны. Хлопцы сядзелі і на варотніцы, і на адгародцы з бярвён, якая аддзяляе ток ад прысценка, куды ссыпаюць мякіну, і на дошцы, якую паклалі адным канцом на адгародку, а другім на варотніцу, і на парозе еўні. Хлопцы асобныя курылі, перакідваліся жартамі і рагаталі, а дзяўчаты моўчкі поруч стаялі каля сцяны адразу за варотамі так, што Мілоўскі заўважыў іх не зразу, як увайшоў у ток. Павітаўся Мілоўскі з прысутнымі, аглядзеў іх і усміхнуўся.

— Усёроўна як на нелегальны сход мы сыйшліся, каб ніхто і не ведаў.—Перад ім былі хлопцы год па пятнаццаць, семнаццаць і старэйшым самым быў з усіх Рыгор. Быў ён, як заўважыў Мілоўскі, і самым аўтарытэтным. Яго слухаліся.

— А ці ўсе таварышы ведаюць, чаго сабраліся?—звярнуўся Мілоўскі да Рыгора.

— Усе ведаюць.

— Ведаем,—падтрымалі яго хлапцы.

— У такім разе давайце пачнем сход. Я думаю, што павестка дня ў нас такая будзе:—бягучы момант—першае, і другое—арганізацыя ячэйкі КСМ, ну, і бягучыя справы. Вось і ўсё. Я пра ўсё раскажу сам, але нам трэба напісаць пратакол нашага схода, каб усё запісаць. Ёсць у вас хлопцы, якія ўмеюць пратакол пісаць?

— Ёсць, Кастусь Шкробат напіша, ён часам на сходах пісаў. Павел Пятровіч яму паказваў.

— Ну, тады, давайце яго абярэм за сакратара, а яшчэ каго-небудзь за старшыню.

— За старшыню Рыгора Жука.

— Ага, яго трэба.

— Давайце Рыгора. Усе за яго?—Мілоўскі дастаў з кішэні свой блокнот і перадаў Кастусю.—Пратакол на гэтым і пішы. На вось і аловак. Тады давайце пачынаць і я раскажу вам, таварышы, у дакладзе па бягучаму моманту аб нашым міжнародным становішчы.

Мілоўскі стаяў на таку і гаворачы бачыў усіх прысутных на сходзе і поглядам блукаў па іхных тварах, час ад часу кідаючы погляды і на дзяўчат. Дзяўчаты ўсё гэтак-жа стаялі нерухома на сваім месцы каля сцяны. Зрэдку яны паціханьку шапталі нешта адна другой на вуха і ўскідвалі вочы на Мілоўскага, але зараз-жа як сустракаліся

з ягоным поглядам, нахілялі галовы і вочы хавалі ў цень пад ілбом. А хлапцы сядзелі моўчкі і разглядалі Мілоўскага, стараючыся адгадаць, хто ён такі, з простых людзей ці не з простых, што так добра ўсё ведае, так складна гаворыць. Мілоўскі-ж, углядаючыся ў іхныя твары, гаворачы пра вайну з белагвардзейцамі і пра міжнародны рэволюцыйны рух, радаваўся, што ў арганізацыі будзе яшчэ адна вясковая комсамольская ячэйка, другая вясковая ячэйка на ўвесь павет, а галоўнае самае, ячэйка у складзе якой будзе аж дзве дзяўчыны. І абрадаваны гэтым ён гаварыў прыўзнята, з пафасам, і з пафасам скончыў прамову сваю.—Па гэтаму дакладу,—сказаў ён,—у нас можа быць самая кароткая пастанова, каб прыняўшы да ведама даклад усімі сіламі падтрымліваць рэволюцыйны рух і совецкую ўладу. А цяпер, калі будуць пытанні ў каго па дакладу, дык задавайце мне, а калі не будзе пытанняў, я адразу перайду да другога пытання, пра арганізацыю комуністычнага саюза моладзі.

Пытанняў не было. Як змоўк Мілоўскі, дзяўчаты зноў зашапталіся, а хлапцы заварушыліся па сваіх месцах. Хто-ні-хто з іх падняўся з месца і стаў каля сцяны.

— Значыць няма пытанняў?

— Няма.

— Тады пяройдзем да другога пытання.

Не доўгім быў і другі даклад Мілоўскага, але па другому дакладу пытанні былі. Першае пытанне нясмела, ціхім усхваляваным голасам паставіў сакратар схода Кастусь Шкробат.

— А ці могуць комсамольцаў паслаць на фронт?—запытаў ён і азірнуўся навокал на ўсіх і таму Мілоўскі не зразумеў, ці то ён баіцца, каб хаця не паслалі яго на фронт, ці то хоча таго.

— Калі хто захоча паступіць у Чырвоную армію, ён зможа паступіць, калі яму будзе восемнаццаць гадоў.—Адказаў і ўставіўся поглядам у Кастуся. Кастусь пачырванеў.

— А маладзейшым хіба не можна?

— Маладзейшым?—Цяпер Мілоўскі зразумеў Кастуся.—Калі становішча на фронце было цяжкое, комсамол абвяшчаў сваю мабілізацыю, тады ішлі і маладзейшыя. Такая мабілізацыя была з восені неяк. Можа быць і яшчэ.

— А калі мы захочам спектаклі наладзіць,—запытаў другі хлапец,—нам можна будзе гэта?

— Ага, і пасля ці дадуць нам з гораду кніг?—падхапіў пытанне трэці.

— Спектаклі? Калі сілы ў вас на тое хопіць,—зрабіце ласку, наладжвайце. Гэта і будзе дапамагаць выхаванню моладзі. Тое-ж і з кніжкамі. Я думаю, што ў бягучых справах мы паставім пытанне пра арганізацыю ў вас драматычнага гуртка і харавога гуртка і бібліятэкі, для якой папросім кніг у павятовай арганізацыі. За ўсімі справамі трэба будзе камандыраваць ў павятовую арганізацыю старшыню бюро, якога мы выбярэм сёння.

На гэтым пытанні скончыліся, а яшчэ цераз некалькі хвілін была вычарпана і ўся павестка дня. Тады Мілоўскі перад тым, як абвясціць запіс у комсамол, запрапанаваў Кастусю прачытаць пратакол, каб зацвердзіць пастановы, якія ён прапанаваў прыняць па кожнаму пытанню. Кастусь падняўся з месца, на якім сядзеў, выйшаў на ток, стаў там непадалёк ад Мілоўскага і пачаў чытаць напісанае.

Пратакол агульнага сходу моладзі вёскі Шапятоўкі,—чытаў ён.

— Пагулянскай вобласці, які адбыўся дваццаць трэцяга сакавіка тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага году пад кіраўніцтвам інструктара

павяткомячэйкі таварыша Мілоўскага. Прысутнічала чатырнаццаць чалавек моладзі гэтай вёскі. Старшынём схода быў абраны Рыгор Жук, а сакратаром Кастусь Шкробат. Павестка дня: першае—бягучы момант, другое—арганізацыя ячэйкі КСМ і трэцяе—бягучыя справы. Слухалі: даклад інструктара паветкомячэйкі таварыша Мілоўскага аб бягучым моманце, у якім указана становішча рабочага класа ў сучасны момант. Пры гэтым таварыш Мілоўскі абмаляваў жыццё рабочых і сялян у дарэволюцыйны час, ход рэволюцыі і важнасць сплочанасці рабочых, сялян. Пастанавілі:—даклад таварыша Мілоўскага прыняць да ведама і ўсімі сіламі падтрымліваць рэволюцыйны рух і совецкую ўладу...

Па другому пытанню аб арганізацыі ячэйкі КСМ таварыш Мілоўскі высвятліў, які ўдзел павінна, павінна,—Кастусь прыпыніўся на момант.—Гэта я тут два разы адно слова напісаў.

— Нічога, чытай далей.

— Я пасля выкрэслю... Так... Які ўдзел павінна прымаць наша рабоча-сялянская моладзь у сучасным рэволюцыйным руху, як успрыемніца ўсіх пладоў гэтага руху. Затым паказаў на тыя жорсткасці, якія можна чакаць у жыцці, калі пераможа нас буржуазія і ўрэшце якую перамогу можна атрымаць, калі мы будзем дзейнічаць арганізавана. Пастанавілі:—даклад таварыша Мілоўскага прыняць да ведама і звярнуць сур'ёзную ўвагу на тое, каб мы, як сяляне, прымалі большы ўдзел ў рэволюцыйным руху, для чаго пастанавілі зрабіць запіс усіх хто жадае паступіць у арганізацыі ячэйкі КСМ у вёсцы Шапятоўцы Пагулянскай воласці. Запіс зрабіць тут-жа на сходзе. Выбраць бюро ячэйкі ў складзе трох чалавек, прычым выбраныя аказаліся: старшынём бюро Жук Рыгор, членам Міхась Ганорык і сакратаром Кастусь Шкробат. Даручыць бюро ячэйкі правесці далейшы запіс жадаючых быць перадавымі і прыкладнымі грамадзянамі совецкай рэспублікі, у ячэйку КСМ,

У бягучых справах паднята пра арганізацыю драматычнага гуртка і харавога і пра арганізацыю бібліятэкі і пра забеспячэнне наогул літаратурай арганізаванай ячэйкі для выхавання моладзі і членаў ячэйкі ў духу часу і партыі. Пастанавілі:—гурткі арганізаваць, як драматычны, таксама і харавы і арганізаваць бібліятэку, прадбачачы, каб у далейшым перанесці ўсю работу ў былы панскі дом. Прасіць аб гэтым у волвыканкоме і волком'ячэйцы, а павятовую арганізацыю прасіць, каб адпусціла для нашай ячэйкі магчымую колькасць літаратуры, для чаго і камандыраваць у горад нашага старшыню бюро таварыша Рыгора Жука, а таксама даручаецца таварышу Жуку атрымаць агульныя паказанні для нашай ячэйкі...

Кастусь скончыў чытаць пратакол і пашоў да месца, на якім раней сядзеў.

— Здо-о-рава напісаў,—заўважыў нехта з хлапцоў.

— Так, добра напісаў,—згадзіўся Мілоўскі.

— І нічога не прапусціў, галоўнае.

Кастусь пачырванеў і моўчкі сеў.

— Цяпер,—звярнуўся да яго Мілоўскі,—ты ў пратакол запішы ўсіх, хто жадае быць комсамольцамі.

— Я сябе першым запішу,—адказаў Кастусь і схіліўся над пратаколам.—А цяпер каго?—Падняў галаву і ўставіўся паглядам ў прысутных.

— Пішы мяне,—узлаваў як-бы Рыгор Жук,—Міхася пішы, Самуся Ёську, Марылю сваю, Аксану.

— А яны ўсе згодны?—перабіў Рыгора Мілоўскі.

— Вядома-ж, што згодны, а то чаго-б яны пайшлі сюды.—І дзяўчаты згодны?—Мілоўскі кіўнуў да дзяўчат галавою і ўсміхнуўся.

— Згодны.

— Тады пішы, таварыш Шкробат!—і змоўк, чакаючы пакуль Кастусь скончыў запіс.—А цяпер, паколькі ўсе мы комсамольцы давайце праспяваем інтэрнацыянал. Мы, таварышы, з гэтага дня пачынаем новае свае жыццё, да якога заклікае нас чырвоны штандар барацьбы, узняты комуністычнай нашай партыяй. На нашым шляху будзе багата цяжкасцей, можа хто часам і спалохаецца, адойдзе ад нашых радоў, але на змену такому прыдуць новыя і мы будзем самымі лепшымі памочнікамі партыі як у змаганні з сусветнай буржуазіяй, так і ў змаганні з векавой некультурнасцю і адсталасцю. А цяпер, таварышы, праспяваем наш рэволюцыйны гімн.

Міloўскі кашлянуў і запеў. Нейкі час ён пеў адзін, пасля да ягонага голасу далучыўся нясмела яшчэ нейчый і за ім адразу некалькі галасоў яшчэ. Галасы мацнелі, выраўніваліся і рабіліся смялейшымі і калі загучэлі на поўныя грудзі, у іхным агульным струмені Міloўскі адрозніў тонкія дзявочыя. Іх спачатку не чуваць было зусім. Нейкі час яны, несмелыя, губіліся ў галасах хлапцоў, а пасля ўзняліся над імі, загучэлі панезвычайнаму ўрачыста і ўпэўнена і павялі за сабою песню.

Каб у злучнасці братняй
Падняўся людскі род,

Галасы змоўклі, але яшчэ момант усе стаялі не скранаючыся з месца. Міloўскі прыладзіў рукою валасы на галаве і надзеў шапку.—Ты пратакол перапішы,—сказаў ён Кастусю.—І памылку папраў. Не павятком ячэйкі, а інструктар павяткома, павятовага камітэта...

Вакол Міloўскага і Кастуся стаўпіліся цяпер усе. Падыйшлі бліжэй і дзяўчаты. Разыходзіцца не хацелі. Адбылося нешта вялікае і незвычайнае. Ніхто з іх не ўяўляў, у чым яно праявіцца заўтра, цераз некалькі дзён або тыдняў, але ўсе разумелі, што з гэтага моманту пачнецца нешта новае. І ад таго і ў думках кожнага і ў кожнага на твары ляжалі сляды і незвычайнай нейкай усхваляванасці і незвычайнай урачыстасці.

— Вось каб нам ды той панскі дом,—ціха выказаў свае жаданне Рыгор.—Там-бы мы сабе клуб зрабілі-б, бібліятэку.

— Там усё можна зрабіць,—гэткім-жа ціхім голасам падтрымаў яго Кастусь.

— Я ў воласці пагавару пра гэта. У доме ніхто не жыве?

— Ды ніхто пакуль што не жыве, але Халамей Кот мяркуе туды перабрацца.

— А што, у яго хаты няма?

— Хаты то няма. Але ён-жа не бядняк. Ён, чорт ведае адкуль прыехаў нявядома кім ён яшчэ быў?

— Гэта той, жто ўчора на сходзе старшынёю быў?

— Ага.

— Ну, то яму не ўдасца туды перабрацца. Я пра гэта пагавару, думаю, што выканком пярэчыць не будзе.

— Каб-жа не пярэчыў, а то-ж так вось і збірацца няма дзе. У хаце сабярэшся, дык з хаты выганяць, не захоча ніхто, каб поўную хату гразі яму нанеслі. А там самі даглядалі-б, там-бы ніхто не перашкаджаў нам.

— Нічога, зробім,—супакойваў Міloўскі,—Я вазьму ваш пратакол і буду прасіць, каб выканком належную пастанову вынес... Можна будзе нават і ў павяткоме пагаварыць. Я то буду там яшчэ не хутка, але таварыш Жук як пойдзе, дык я запіску з ім пашлю, каб адтуль у выканком паперку напісалі належную.

Цераз чатыры дні яшчэ, з самага ранку Мілоўскі выбраўся ісці ў Кірпатаўку, а Рыгор у горад. Рыгору Мілоўскі даў адрас павятовай арганізацыі і, як і абяцаў, сваю запіску да сакратара павяткома, у якой пісаў пра неабходнасць перадачы шапятоўскай ячэйцы былога Пілацыеўскага дома. Акрамя гэтай запіскі Рыгор нёс з сабою у горад і копію першага пратакола схода шапятоўскай моладзі, на якім была арганізавана ячэйка. Усе паперы, каб не згубіць іх, Рыгор паклаў у канверт і з канвертам засунуў у глыбокую унутраную кішэнь свае паддзёўкі. У дарозе, ідучы гасцінцам да гораду, Рыгор час-ад-часу здымаў рукавіцу і голай рукой абмацваў у кішэні канверт, правяраючы ці ляжыць ён на месцы. У дарозе, непадалёк ад горада, Рыгора насцігла ноч. Супроць начы ісці ў незнаёмы і невядомы горад не хацелася, не ўяўляў Рыгор, дзе ён пераначуе там і ад таго, як змеціў першую-ж каля гасцінца вёску, завярнуў на яе вуліцу і заначаваў ў сялянскай хаце. А ў горад прышоў на другі дзень раніцою.

Яшчэ стаялі хаткі нізкія, драўляныя з незачыненымі вакеніцамі, калі ўвашоў Рыгор на забрукаваную гарадскую вуліцу.

Яшчэ толькі распальваў горан у кузні каваль і Рыгор, упяршыню папаўшы ў горад, падыйшоў да цёмных адчыненых дзвярэй кузні, каб запытаць пра патрэбны адрас. З кузні, як зазасціў сабою Рыгор дзверы, павярнуўся тварам да яго каваль. У каваля чорная барада, гострая, ледзь згорблены нос пад адкінутым да патыліцы высокім ілбом і глыбокія вострыя вочы. Рукі ягоныя ў сажы, і ў сажы шырокі і кароткі, да халяў толькі, пачосны фартух, надзеты паверх кажушка. Ён дапытліва ўзіраецца ў Рыгораў твар і як-бы неахвотна адказвае на ягонае прывітанне, не пазнаўшы ў ім знаёмага.

— А скажыце,—пытае Рыгор,—ці далёка тут Гогалеўская вуліца, дом нумар семдзесят?

Каваль маўчыць, усё яшчэ разглядаючы хлапца.— А ты чый?— пытае ён замест адказа.

— Я далёкі, з Шапятоўкі, Пагулянскай воласці.

— А чый там?

— Мікодаў, Жука Мікоды.

— Ага... Гэта вашага былога пана дом тут блізка ў садзе, убачыш, як будзеш ісці. Каля дому такая з белага жанчына стаіць. От за той дом як пройдзеш два кварталы, дык павяртай налева каля саду, а за рогам зноў направа квартал і выйдзеш на Гогалеўскую. На ёй сабор у канцы ўбачыш, злева. А навошта табе тая Гогалеўская?

— Там павятовы камітэт комсамола змяшчаецца, я туды і іду.

— У комсамол?—Каваль здзіўлена пазірае на маладога вясковага хлапца, блукае поглядам, то па вялікіх ягоных гамашах, над якімі штаны галіфэ падвязаны шнуркамі ад гамаш, то па паддзёўцы, на левым рукаве якой на локці вызначаецца лапека, прышытая белымі суровымі ніткамі.—А хіба і ў вас там комсамол ўжо ёсць?

— Мы толькі што на днях яго арганізавалі.

Каваль нешта неразборліваe гаворыць сам сабе па яўрэйску і ідзе з кузні на двор.—Непадалёк, на гэты бок,—паказвае чорнай ад сажы рукой управа,—будзе гэты самы дом былога вашага пана з голай бабай, а там два кварталы і налева каля саду...

— Дзякую, я цяпер знайду. Бывайце здаровы,—развітваецца Рыгор.

— Бывай здароў.—І каваль яшчэ доўга стаіць на двары, пазіраючы услед Рыгору, бо насустрач таму з гораду едзе даўгі абоз фурманак. Разглядаючы фурманкі спыняецца, сыйшоўшы з вуліцы на замошчаны дошкамі тратуар, Рыгор. На фурманках драўляныя скрынкі, маленькія,

і вялікія, побач ідуць, з вінтоўкамі на плячах, чырвонаармейцы. Ідуць яны купкамі па некалькі чалавек і шумна гутараць. Абоз ідзе доўга, і стаміўшыся глядзець на яго, скранаецца з месца і ідзе далей Рыгор. Хутка ён бачыць у садзе з правага боку ад сябе былы панскі дом і каля дому, як гаварыў каваль, белую постаць голай жанчыны. У руках жанчына трымае белы даўгі шалік, якім закрыла левую палову грудзей, адна рука яе, левая, ляжыць акурат на грудзях. Другой рукой яна, нахіліўшы ледзь-ледзь уніз галаву, трымае шалік, скамячыўшы яго ў жмені, над каленам правай нагі. Канец шаліка абгарнуўся па назе і абвіс дзесці ззаду ажна да пят. Побач стаіць высокая, вышэй ад жанчыны, вузкая будка з дошчак. Каля дома то ў адзін, то ў другі бок па саду ходзіць вартавы чырвонаармеец. Рыгор прыцішае крокі, разглядаючы вартавога і дом, і мармуровую белую постаць жанчыны, пасля зноў ідзе па-звыкламу шпарка. Прайшоўшы два кварталы, ён павярнуў налева ў завулак каля саду, пасля, як раіў каваль, за рогам зноў павярнуў у вуліцу і цераз пару хвілін быў на Гогалеўскай вуліцы. Дайшоўшы да Гогалеўскай ён спыніўся на рагу, на скрыжаванні вуліц, мяркуючы, у які бок пайсці, каб не памыліцца. Стаяў так, збіраючыся запытацца ў каго-небудзь пра патрэбны нумар дома, але заглядаў ў твары людзям, якія праходзілі міма і не асмельваўся запытаць. Гэтак цягнулася доўга, аж пакуль не прызнаў Рыгор у адным з прахожых прастога чалавека, да якога і звярнуўся з запытаннем. Чалавек зірнуў спачатку на Рыгора, пасля на дом, які стаяў на рагу і шавяльнуўшы плячыма, сказаў, што не ведае,—ці ў тым баку семдзесяты нумар,—паказаў рукою у адзін канец вуліцы,—ці ў тым,—паказаў і ў другі.— Лепш у каго з гарадскіх запытайся,—параіў ён. Тады Рыгор перайшоў, на другі бок вуліцы і парашыў, што запытае, як напаткае маладога хлапца, які можа да ўсяго аказацца і комсамольцам.

Горад ажываў. Усё часцей ішлі па вуліцы таропкія людзі і, каб не замінаць ім, Рыгор сыйшоў з тратуара ў бок, дзе, ў рад, на сажань адзін ад другога, укапаны ў зямлю нізкія слупкі. Пад нагамі яшчэ снег, і Рыгор утоптвае яго гамашамі, углядаючыся ў твар прахожых. Так стаяў, аж пакуль убачыў, што па вуліцы едзе рамізнік.

Вышаў насустрач яму на сярэдзіну вуліцы.

— Дзе тут, скажыце, калі ласка, семдзесяты нумар?

— Семдзесяты?—Рамізнік павёў навокал сябе поглядам,—А ў той канец ступай, з таго боку глядзі. Гэта далекавата ў той канец.

— Дзякую.

Яшчэ цераз хвілін дванаццаць Рыгор спыніўся перад высокім ганкам двохпавярховага чырвонага дома. Над шырокімі, у дзве палавіны дзвярыма, вісела патрэбная Рыгору шыльда. Усё было як след. Быў на рагу, на круглай бляшчы і патрэбны семдзесяты нумар, але Рыгор не пайшоў адразу ў дзверы, нават не ступіў на парог, а пайшоў па тратуару каля дома, заглядаючы ў вокны. Вокны высока над зямлёй і цераз іх за замутнелымі шыбамі можна ўбачыць толькі палову столі і самы верх супроцьлеглай сцяны. Рыгор ідзе паўз увесь дом ажна да брамы. Брама адчынена, і ён бачыць у двары цэлую групу чырвонаармейцаў каля аўтоброневіка, але не ведае, што гэта за машына, і доўга стаіць супроць брамы, дзівячыся здалёк на машыну. Збоку рыпнулі дзверы. На парозе павяткома, выйшаўшы адтуль, спыніўся малады яшчэ, нізкі, круглатвары хлапец. Рыгор, як убачыў яго, адразу пайшоў да дзвярэй, павітаўся.

— Гэта тут комсамол, таварыш?

Круглатвары хлапец падняў галаву ўгару, дзе шыльда, як-бы хацеў праверыць, ці сапраўды стаіць ён каля комсамольскага павяткома.

— Тут. А ты, таварыш, адкуль?

— З Пагулянскай воласці, з вёскі Шапятоўкі.

— Комсамолец ты?

— Комсамолец, старшыня бюро. Вось у мяне пратакол,—Рыгор палез у кішэнь паддзёўкі і дастаў адтуль канверт.

— А даўно вы арганізавалі ячэйку?

— Яшчэ нядаўна.

— А скажы, бандыты там у вашых мясцах ёсць?

— Каля самай Шапятоўкі то няма, але ў нашай воласці ўжо дзе-ні-дзе з'явіліся.

— Значыць вясной пачнуць арудаваць. А зброя ў вас ёсць?

— Што-ні-што ёсць, што з вайны бацькі папрыносілі.

— А як-жа вы да комсамола дадумаліся, самі, ці хто расказаў вам?

— А ў нас таварыш Мілоўскі, вось ён і расказаў усё мне, а я іншым, гэтак і сабраў хлапцоў.

— У вас значыць Васька Мілоўскі?

— Ага.

— Ну, то хадзем наверх, да сакратара. Ты яму раскажаш усё і перадасі свой пратакол.—Круглатвары завярнуўся, адчыніў дзверы і пашоў угару па вузкай і крутой драўлянай лесвіцы. За ім, хвалюючыся, паспяшыў Рыгор, цяжка ступаючы цяжкімі гамашамі па скрыпучых ступеньках.

Угары на пляцоўцы круглатвары зноў адчыніў дзверы і пусціў наперад ад сябе Рыгора. Перад Рыгорам вялікі пакой з чыстай нафарбаванай падлогай. Сцены абіты цёмнымі шпалерамі. На шпалерах бліскучыя кроплі, лініі. Каля сцен мяккія, абітыя аксамітам крэслы. Насупроць вакон каля сцяны вялікае люстэрка. Убачыўшы сябе ў люстэрку, Рыгор адвярнуўся і стаў, трымаючы ў руцэ торбу. Другой рукой зняў з галавы шапку. Тымчасам круглатвары адчыніў яшчэ адны дзверы і азірнуўся назад. За яго плячыма Рыгор убачыў некалькі галоў, схіленых над шырокім сталом. Тады, як нёс, паклаў торбу на падлогу каля крэсла, а з шапкай пашоў за дзверы ў суседні пакой.

— Таварыш прыехаў з Пагулянскай воласці,—сказаў круглатвары, паказваючы кіўком галавы на Рыгора.—У іх там, Васька Мілоўскі, ён і пасабіў хлопцам з-арганізавацца.

Рыгору цераз стол, падняўшыся з крэсла, падаў руку плячысты самы хлапец. Пасля гэтак-жа павіталіся і іншыя і селі каля стала, а дзяўчына тонкая, востраносая, з падстрыжанымі сукрыстымі валасамі навялікай галаве стала каленкамі на мяккае крэсла і абаперлася локцямі на стол, на якім ляжалі кучкай толькі што прынесеныя аднекуль кніжкі.

— Як тваё прозвішча?—запытаў у Рыгора той, што першым павітаўся з ім.

— Жук. Рыгор Жук.

— Тады раскажы, таварыш Жук, з чым ты прыехаў да нас, з якімі павінамі?.. Мілоўскі, значыць, у вас? Ну, як ён?

— А нічога. Для нас дык і дужа добры. Як прыехаў, спыніўся ў нас, мой бацька старшынёю у сельсовеце, а ноччу расказаў мне ўсё пра комсамол. Я тады пераказаў усё сваім хлапцам і ў нядзелю сабраліся ў таку ў нашым і арганізавалі ячэйку КСМ.

— Колькі ж чалавек у вашай ячэйцы?

— Чатырнаццаць пакуль што.

— Чатырнаццаць?—здзівіўся сакратар.—А Мілоўскі падрабязна расказаў вам пра комсамол? Гаварыў, што можа комсамольцам давесціся ісці на фронт?

— Гаварыў, аб усім гаварыў.
— І вы не баіцеся, калі давядзецца ісці?
— А чаго-ж баяцца?—Рыгор патупіў вочы ўніз і пачырванеў.—Баяцца нам няма чаго.
— А калі на фронце заб'юць?—падхапіла востраносая і ўперлася поглядам у Рыгора. Рыгор адчуў на сябе яе погляд і, падняўшы галаву, зірнуў проста ў твар ёй.
— Заб'юць? Тады будзем забітымі, а пакуль што будзе, пажывем,— асмялеў ён, змеціўшы, што хлопцы ветліва ўсміхаюцца.
— А як бацькі не пусцяць на фронт?—дапытвае востраносая, і Рыгор злуе на яе, але адказвае.
— Мы не малыя, не дзеці мы, каб нас бацькі не пускалі.
Хлапцы зноў ветліва ўсміхаюцца, а сакратар гаворыць да дзяўчыны:
— Ты, Гэлька, лепш пра дзяўчат запытай, а не пра страх перад бацькамі. Ці ёсць у іхнай ячэйцы дзяўчаты?
— Ёсць, ажно дзве: Шкробат Марыля і Каляда Аксана.
— Ну, вось бачыш. Ажно дзве дзяўчыны ў ячэйцы. Гэта здорава,— усміхаецца сакратар.—Малайцы. Добрая ячэйка будзе. А хлопцы вашы хто? Бедпякі...
Рыгор падрабязна расказаў пра кожнага ў паасобку. І, калі скончыў, сакратар зноў пахваліў ячэйку.
— Малайцы, цяпер працуйце толькі. Як і што рабіць, вам Мілоўскі пакажа, я яму напішу аб гэтым.
— У нас тут яшчэ адна просьба ёсць,—разгарнуў урэшце свой пратакол Рыгор і прачытаў пастанову па пытанню аб арганізацыі гурткоў і бібліятэкі.
— Добра, мы дадзім троху і кніг і плакатаў. Падбяры ім,—сказаў сакратар да круглатварага.—А пасля будзем дасылаць і кнігі, і газеты поштай і ўсе нашыя паказанні, інструкцыі. А ўжо, калі давядзецца хоць каму з вашых у горадзе быць, няхай абавязкова заходзяць, дык мы заўжды перададзім тое-сёе.
— Добра. І яшчэ ў нас просьба адносна панскага дома, каб нам дазволілі у ім збірацца і адчыніць сваю бібліятэку. Аб гэтым мы і ў пратаколе напісалі, і сам таварыш Мілоўскі да вас сюды запіску напісаў, каб падтрымалі нас. Запіска вось яна.—Рыгор разгарнуў блакнотны лісток і падаў сакратару.
— Добра, мы гэта зробім. З гэтым таварышом—сакратар паказаў на круклатварага,—ты сходзіш да старшыні павятовага выканкома. Ён напіша Пагулянскаму, волвыканкому, каб дом перадалі вам пад клуб і бібліятэку. Толькі на вас, таварыш Жук, на цябе асабіста, і на ўсю ячэйку, ляжа адказнасць за дом.—Вы будзеце адказваць, калі ў доме хоць што-небудзь паломіцца, або будзе папсавана. Дом—гэта народная маёмасць.
— Мы то яго дагледзім, калі нам аддадуць, а вось калі не аддадуць, дык у ім паселяцца розныя, і тады ўжо народнага там мала будзе.
— Пасяліцца там ніхто не паселіцца, калі дом аддадуць пад клуб. А што аддадуць, гэта факт, я зараз-жа напішу просьбу да таварыша Андрэя, і з запіскай сходзіць у выканком адзін таварыш Каплан,— сакратар кіўнуў галавою на круглатварага.—А мы з табой яшчэ пагутарым.—Мішка, схадзі, брат, да таварыша Андрэя, зрабі гэнную справу для іх, а я пагутару яшчэ з таварышом Жукам. Ты калі, таварыш Жук, мяркуеш дадому пайсці?
— А сёння-ж і пайду, каб да ночы хоць у Пагулянку патрапіць.
— Ну, добра, дык ты, Мішка, валяй у выканком, зараз-жа.

Каплан пашоў з пакоя, а за ім пашлі і астатнія, захапіўшы са стала кніжкі і згорнутыя ў трубку плакаты. У пакоі застаўся Рыгор, і сакратар павяткома. Сакратар дастаў з кішэні пінжака партабак і пачаў згортваць папяросу.

Гутарка сакратарова з Рыгорам цягнулася аж пакуль прышоў з выканкома круглатвары Каплан. Ён прынёс адтуль паперку, у якой прапанавалася Пагулянскаму волвыканкому арганізаваць у былым панскім доме клуб і бібліятэку, і перадаў паперку Рыгору. Пад пахай Каплан прынёс вялікую пачку кніг і газет і скручаныя ў трубку плакаты.—Гэта я ў Цэнтрапячаці выпрасіў для вашай бібліятэкі. А цяпер пайду з нашых адбяру яшчэ. А то хадзем разам. Вы скончылі гутарку?—Каплан уставіўся ў сакратара сваімі велікаватымі, ледзь выпуклымі вачыма.

— Скончылі, можаце ісці адбіраць кніжкі. Ты яму дай пабольш, няхай чытаюць.

Рыгор падняўся з крэсла і падаў сакратару руку.

— Бывайце здаровы.

— Бывай здароў. Калі будзеш выпадкам у горадзе, ці хто другі будзе з вашых, заходзьце. Хлапцам сваім і дзяўчатам перадай ад нас комсамольскае прывітанне. А як-жа ты кнігі панясеш?—запытаў ён, убачыўшы, што Рыгор бярэ кнігі пад паху.

— У мяне торба ёсць,—кажа Рыгор,—я іх пакладу ў торбу, а плакаты ў руцэ панясу.

За дзвярыма Рыгор узяў з падлогі торбу і пашоў за Капланам у пакой, у якім стаялі дзве шафы і вялізны круглы стол пасярэдзіне. На стале ляжалі газеты. Газеты даўнія ўжо, ляжалі і на падлозе. Там-жа ляжалі грудкамі і кніжкі. Кніжак было поўна і ў шафах. Рыгор здзівіўся на такую колькасць кніг і абрадваўся, што прынясе адразу дадому такую колькасць. Ён развязаў сваю торбу, ежу пераклаў з торбы ў бакавыя, прышытыя, як у фрэнчы, зверху кішэні паддзёўкі, ад чаго яны яшчэ больш натапырыліся, а ў торбу, выцярушыўшы з яе сабе на шапку хлебныя крошкі, паклаў кніжкі. І тады адразу разгубіўся. Ад кніжак торба была зусім амаль поўнай. Пакладзі яшчэ некалькі і ўсё, больш нічога туды не ўлезе. А Каплан стаяў на каленках у куце перад кніжкамі, пачаў перабіраць іх, адкладаючы на бок тыя, што меркаваў аддаць для Шапятоўскай ячэйкі. Да яго падышоў і спыніўся побач, схіліўшыся над кнігамі, Рыгор. На кнігі ён пазіраў абрадавана і разгублена, не верачы яшчэ, што ўсё гэта будзе ў іх у ячэйцы. Ён браў кнігі ў рукі, пераглртваў іх, перачытваў загалоўкі і асцярожна клаў назад. Калі каля ног у яго вырас высокі грудок кніг і Каплан падняўся з кален, Рыгор моўчкі ўставіўся ў ягоны твар.

— Гэта вам,—сказаў Каплан.—Бяры і складвай.

— Але яны ў торбу не ўлезуць, я думаў,—не багата будзе. Можа абора якая знайшлася-б у вас тут. Я тады звязаў бы іх з торбай, каб ямчэй было несці.

— А ты на сабе панясеш?

— Панясу. А ў дарозе можа хто і падвязе, я папрашуся.

Каплан павярнуўся тварам да Рыгора і здзіўлена агледзеў яго сваімі прыкметна выпуклымі круглымі вачыма.

— Колькі да вас вёрст?

— Сорак сем лічыцца.

— І ты думаеш данесці? Папера цяжкая, гэта табе не пух.

— Данясу, абы аборка знайшлася.

— Аборка то знойдзецца.—Каплан пашоў да шафы і дастаў клубок шпагату.—Адарві колькі трэба і звяжы.—А калі ўкруціў шпага-

там кнігі Рыгор і канцамі шпагату прывязаў іх за почапку да торбы, Каплан падышоў да стала і паспрабаваў падняць іх.

— Цяжка, не занясеш ты іх гэтак. Можа пакінуў бы троху?

Гэта пытанне палохае Рыгора, і ён, спяшаючыся, бярэцца рукой за вузел, якім звязаны шпагат з почапкай, і гэтак-жа спяшаючыся, гаворыць:

— Занясу, мне толькі з гораду на сабе вынесці, а на гасцінцы я ўжо не буду несці, там багата людзей заўжды едзе, папрашуся, дык падвязуць.

— Як сабе хочаш. Калі так,—нясі.—І Каплан прашчаецца з Рыгорам за руку.—Шчаслівай дарогі..

Цераз хвіліну Рыгор, азірнуўшыся яшчэ раз на павяткомаўскі дом, каб лепш запомніць яго, ідзе па гарадской вуліцы. Цераз левае плячо ў яго перакінуты кнігі. Наперадзе звязаныя шпагатам, а ззаду на плячах, тыя, што ў торбе. Пярэдні пачак цяжэй, ён аб'яжджае ўніз, цягне за сабою торбу і вузлом муляе плячо. Ад таго Рыгор час-ад-часу бярэцца рукой за шпагат і падцягвае пачок з кнігамі вышэй, а, каб ён не абсоўваўся назад, злёгку падтрымлівае яго левай рукой. У правай руцэ ён нясе скрутак з плакатамі. Гэтак ён ідзе аж да завулка, а ў завулку, прыпыніўшыся, пераклаў кнігі з левага на правае плячо, бо левае забалела. Гэтак ідзе ён і далей і хутка абмінае дом у садзе, перад якім прыпыніўся раніцою, а пасля і кузню. Перад домам усё гэтак-жа, які раніцою, ходзіць вартавы, трымаючы ў правай руцэ вінтоўку. Рыгор толькі не можа пазнаць, той гэта самы, што быў і раніцою, ці не той. Каля кузні стаяць сялянскія фурманкі. На санях ляжаць плугі, каткі калёсныя з новымі нацягнутымі толькі што шынамі, на адных санях жалезная барана. У кузні стукацяць малаткі аб жалеза, перамешваюцца з мужчынскімі галасамі. Рыгору хочацца спыніцца, падыйсці да кузні і запытаць у мужчын, ці не едзе з іх хто ў ягоны бок, але, прыпыніўшыся, ён не ідзе да кузні, а толькі зноў перакладае звязак свой з аднаго пляча на другое.

Яшчэ хвілін цераз пятнаццаць, ён ідзе гасцінцам па цвёрда выбітай у снягу дарозе. Па абодвы бакі гасцінца неглыбокія, заснежаныя канавы. Над канавамі рэдкія бярэзіны, старыя ўжо елкі, часта хвоі, а то чыстая гала і куртатыя, свежыя яшчэ часам, пні. Далёка наперадзе сінее хвойны лес. Лес стаіць пад небасхілам роўнай паскай, ашчэрыўшыся да неба частым, няроўным зуб'ем і ад таго падобна паска лесу на даўгую, вышчарбленую, старую пілу. Над лесам, даўно сыйшоўшы за поўдня, стаіць у небе сонечны круг і свеціць проста ў твар Рыгору. Ад святла Рыгор жмурыцца і, узіраючыся ў далёкую паску лесу пад небасхілам, слухае, як свішча ўгары над галавою ў тэлефонных правадах вецер, ды гудуць густа і звонка, пераліваючыся рознымі хвалямі далёкіх гукаў, высокія тэлефонныя слупы. Абмінаючы слупы, Рыгор прыцішае крокі і ўслухоўваецца ў іхны гул, як бы хоча разгадаць яго. Час-ад-часу ён перакладае звязак свой з аднаго пляча на другое. І тады азіраецца назад, адкуль відзён яшчэ высокі цагляны комін завода, гостры шпіц касцёла і маленькая чорная, варухлівая кропля фурманкі на гасцінцу.

*(Працяг будзе).*

---

ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ

## МАЙСКІМ МАРШАМ

Мы палюбілі сваю вясну!
З холадам, з цемрай
Ішлі на вайну,
На белую банду
Ішлі вайной,
І змогшы у бойках
Адчай і гора,
Мы убіралі сваю вясну
У зелень,
У цвет,
У зоры.

Мы паднімалі сваю старану,
Як адбівалі учора.

Мая бацькаўшчына—
са мной.
Мая бацькаўшчына—
ува мне.
Народжаная вясной,
Нарачоная на вясне—
Мая бацькаўшчына
Для мяне!

Яна красуе
У сэрцы працоўных,

У сэрцы працоўных,
Усіх краін.
Яна завецца
Любімай і кроўнай,
І я-ж—
Яе родны сын.
Іду і спяваю,
І выраслі крыллі:
Я сэрцам пілот
У надзоравы край,
Байцом
Паэтычнай, цяжкой
Экскадрыллі
Запісаны ў полк
Окцябра.

Мы мужныя крочым,
Як наша вясна,
Мы майскім парадам
Праходзім сусветам.
Ля домнаў,
ля плуга,
станка
і стырна
Нязрушна і цвёрда
Стаім, як сцяна—
Мы людзі
краіны Советаў.

Ад палкага Поўдня
Да лагера Шмідта,
Ад гулкіх марэй,
Да гранітных высот.
Імёны герояў,
Як гул дынамітны,
Грымяць над сусветам
Штогод.
Халоднае неба
Ўстае над табой,
Ўсё стыне
Ў студзённым тумане,
Ды смела пускаецца
З віхрамі ў бой
Адважны пілот
Каманін.
Адважны пілот
Слепнёў
У бляску
зорных агнёў.
Сэрца патроім
на песні паэтаў—
Слава героям
Краіны Советаў!
Слава
адважным байцам
рэволюцыі,
Ўсім пераможцам
пустынь ледзяных.
Розумам,
сэрцам,
крывёю,
пачуццямі
Ў славе расцем за іх.
Яны родныя сэрцам,
Яны дарагія,
Мы любім іх,
І шануем іх
Пераможцаў жыцця,
Пераможцаў стыхіі,
Камунараў-байцоў
Агнявых.

Героі-байцы
Вызвалялі герояў,
Як вызвалім заўтра сусвет,
Каб ён расквітаў
Пад нашай зарою,
Зарою комуны
У чырвоны цвет.
Адвага-ж, геройства
з намі і нашы—
Праходзяць над светам
У майскім маршы.

---

АНАТОЛЬ ВОЛЬНЫ

# ШАСЦІДЗЕСЯТАЯ ПАРАЛЕЛЬ

*(КІНО-АПОВЕСЦЬ).*

## 1

Быў ясны марозны дзень. Асляпляла неагляднай шырынёю сонца.

Далёка раскінуўся вялікі прыгожы горад. Ён блішчэў на марозе белымі сценамі новых будынкаў, падымаў у неба заінеўшыя галовы волатаў-заводаў. І ад краю да краю відаць былі рыштаванні, з-пад якіх нараджаліся новыя заводы. У сонечным срэбры яны здаваліся казачнымі. Буйным пульсам біла гарачае калійнае сэрца Совецкага Саюза. Гэта пацвярджаў і магутны жалезны капер, і солемлын, і электростанцыя, і механізаваныя склады і размах абагацічельнай фабрыкі.

Пасярэбраны інеем стаяў гэты горад, грандыёзны не толькі сваёй шырынёй, але і вышынёю сваіх труб, і глыбінёю сваіх шахт, і нябачаным размахам сваёй тэхнікі.

Рабочыя рукі шпарка буравілі шпуры.

У буркі закладваўся дынаміт. Беглі к буркам зялёныя аганькі. Глухі ўдар... і падаюць горы сільвініта. Жалезныя далоні скрэпераў падхопліваюць сільвініт і насыпаюць яго ў ваганеткі. Падыходзіць электравоз, забірае ваганеткі і шпарка імчыць іх па шахтах, прасторных, як вуліцы горада, залітых электрычным святлом. Велізарны барабан у надшахтным памяшканні па сігнальнаму званку цягне з шахты ўгару скіп сільвініта. Добра кіруюць машынамі разумныя рукі людзей.

* * *

У шахце каля карналітавай сцяны, якая блішчыць рознакаляровымі крышталямі, стары рабочы спрытна буравіць карналітавы пласт. Старога завуць Мікітам. Ён адзін з лепшых ударнікаў-шахцёраў. Але, як кажа прыказка, „кожны чалавек сваім стылем жыве“. Мікіта для прыгожага слова любіць часам расказаць людзям і тое, чаго з ім не было. Пры гэтым Мікіта сам першы верыць у свае словы.

З суседняга штэрка да Мікіты падышоў яго зямляк, малады інжынер Рудніцкі.

— Таварыш начальнік!—звярнуўся Мікіта да Рудніцкага,—галоўны немец дазволіў не рабіць папярэдняга глыбокага бурэння. Кажа— ніякіх газаў быць не можа...

— Які гэта галоўны немец, Эдэльга, ці што?—недаўменна паглядзеў Рудніцкі.

— Ён самы,—пацвердзіў Мікіта.

Рудніцкі задумаўся, потым выняў запісную кніжку. Паглядзеў на

запісы: 24 снежня—газаноснасць 0,06. Ї, мабыць, не жадаючы кампраметаваць Эдэльга, Рудніцкі сказаў:

— Эдэльга, напэўна, не зразумеў, што справа ідзе аб карналітавых пластах. Я з ім дамоўлюся.

— Ёсць, таварыш Рудніцкі,—заключыў Мікіта.—Усё ў парадку.

2

Уначы пад каляды ў інжынера Эдэльга сабралася нямецкая калонія.

Пасярэдзіне пакою стаіць елка. Залаты дождж перасек нейкія дзівосныя цацкі, срэбраныя арэхі, фігуру паяца. А сярод гэтага сусальнага золата, на фоне снегавых ватных узгоркаў, стаіць дзедмароз.

За сталом пануе бесклапотная вясёласць. Свечкі ад елкі асвятляюць мяккім святлом твары прысутных.

Ля гарачага каміна, у скураным глыбокім крэсле сядзіць гаспадар дома—нямецкі спецыяліст, інжынер Эдэльга. Гэта пажылы чалавек, але яго твар, яго постаць кажуць аб тым, што ён яшчэ поўны сіл і энергіі. Насупроць яго сядзіць карчасты чалавек з сівой галавою і глыбокімі вачыма. Пан Крраў прыехаў з Берліна наведаць сваякоў.

Усміхаючыся, глядзелі яны на вясёлых гасцей, якія спявалі нямецкую песню. Ї пад гукі гэтай песні Эдэльга сказаў:

— Дарэчы, вы памятаеце елку ў майго прыяцеля, інжынера Рэйнгольда, на якой мы з вамі былі перад маім ад'ездам на Урал? Як ён пажывае?

— Хіба вы не чулі?

— Што?

— Што ён застрэліўся...

— Што?!

— Так. Інжынер Рэйнгольд застрэліўся. У апошні час стары быў без работы, ну і...

— Гэта жудасна... гэта... самазабойства...

— Мне таксама шкода яго, але мы не суддзі над нашай радзімаю...

Апошнія словы Крраў перарваў звонкі голас гаспадыні дома фраў Эдэльга. Яна выскачыла з-за стала і закружылася па пакоі. Потым падбегла да Эдэльга, схапіла яго за рукі і закружылася разам з ім, потым яны ўзялі Крраў і сталі кружыцца разам.

— Глюкаўф! Глюкаўф!—чулася навокал.

Карагод з песняй закружыўся навокал елкі.

— Глюкаўф! Глюкаўф!—гучэлі словы традыцыйнай нямецкай шахцёрскай песні. Ї гэта песня для кожнага гучэла па-свойму. Яна будзіла ўспаміны. Рабіла маладымі.

Калі прагучэлі апошнія словы песні, Крраў з уздымам сказаў:

— Прабачце мяне... Я буду гаварыць шчыра. Я стары салдат і хітраваць не ўмею. Калі вы будзеце сёння працаваць на Урале, вам заўтра нечага будзе рабіць на нашай радзіме. „Глюкаўф", панове, кажа шахцёрская песня. Шчаслівa-ж варочайцеся на родныя рудні. Я думаю, што вы самі ўжо занудзіліся па сваіх сем'ях і па роднай нямецкай мове...

— Так, пане Крраў,—перарваў яго майстар Шультке, які стаяў, як і іншыя, у ланцугу карагода.—Мы нудзімся без нямецкай мовы. Асабліва я. Я люблю яе, пане Крраў. Але аднаго разу на вуліцы Ганновера я сказаў толькі два нямецкіх словы: „Рот фронт"!.. Ї за гэта я два месяцы прасядзеў у турме... Па месяцу за кожнае слова.

Я баюся, што звярнуўшыся на радзіму, мне давядзецца прасядзець у турме на многа больш. Мне так многа слоў хочацца сказаць маім таварышам, ганноверскім шахцёрам.

І гэтыя словы ў такой прытульнасці, пры мігатлівых агнях елкі, разляглiся, як горны абвал.

Карагод умомант распаўся, людзі разбіліся па групах. Адчуваючы, што наспявае скандал, Эдэльга сказаў:

— Панове! Панове! Без палітыкі. Берлін і Ганновер знаходзяцца на 53 паралелі, а мы на 60-й. Тут зусім іншы клімат і ён, пане Крраў, па іншаму ўплывае на людзей. Мы прыехалі сюды працаваць, а не займацца палітыкай. Ці не праўда, панове?

— Як сказаць...—заўважыў Шультке і адышоў у бок.

* * *

Цішыню парушыў электрычны званок. Эмілія выбегла паглядзець, хто прышоў. Праз хвіліну яна ўцягвала за абедзве рукі Рудніцкага.

Эдэльга падхапіў Рудніцкага і прыгаварваючы: „Не, не, цяпер вы нікуды не пойдзеце“, пасадзіў яго за стол. Эмілія сарвала з елкі нейкую папяровую кветку і прыкалола да грудзей Рудніцкага. Заўважыўшы Крраў, яна сказала:

— Будзьце знаёмы... Мой дзядзька—пан Крраў... Інжынер Рудніцкі...

Потым падыйшла да піяніна і, паднімаючы крышку, сказала Рудніцкаму:

— Я вам сыграю нашу старую шахцёрскую песеньку...

Эмілія заспявала, і голас яе гучэў супакоем і пяшчотнасцю.

Рудніцкі адышоў з Эдэльга ў бок і ціха сказаў:

— Карл Густававіч, я прышоў паведаміць вас, што я настойліваю на папярэднім глыбокім бурэнні ў карналітавых пластах. Інакш мы можам стаць перад фактам выбуха з чалавечымі ахвярамі.

Відаць было, што Эдэльга не мог стрымаць пачуцця вялікага нездавальнення ад заўвагі Рудніцкага і ён горача сказаў:

— Ваша баязнь, Рыгор Якаўлевіч, толькі перашкаджае рабоце. Рызыка з чалавечым жыццём ёсць рызыка вытворчая. У нас у Ганноверы, калі лынула ў шахту вада, два пажылых рабочых, каб затрымаць струмень, самі кінуліся, разумееце, у напоўненую вадою шахту. Іх звалі Фрыдрых Мюллер і Оскар Мансфельд. Яны загінулі... як героі... аджа яны працавалі не на сябе, а на гаспадара... І апрача таго, уначы пад каляды,—суха закончыў ён,—давайце не займацца справамі...

Эмілія скончыла песню, яна ўстала, яна падышла да Рудніцкага.

Крраў паглядзеў на іх і сказаў да Эдэльга:

— Якія яны маладыя і шчаслівыя...

І хоць ні ў галаве, ні ў сэрцы Эдэльга не закралася пачуцця рэўнасці, ён паглядзеў на ўсмешку Эміліі і Рудніцкага і чамусці з абурэннем адказаў:

— Хіба вы ніколі не бачылі, што Эмілія ўмее так усміхацца?

Крраў кінуў на Эдэльга праніклівы і строгі позірк.

## 3

Засыпаныя снегам, пасярэбраныя інеем, як упрыгожаныя тонкімі мярэжамі, стаялі высокія, стройныя ўральскія сосны.

Дзіўным быў у кругу гэтых векавых сосен выгляд абагаціцельнай фабрыкі. З аграмаднай шматпавярховай ахаладжальнай вежы, як з зева нейкага волата, падалі бесперапынным струменем каплі калій-

ных рошчынаў. Пад яркімі праменнямі ўзыходзячага сонца гэтыя каплі здаваліся дыяментамі...

Каля вакуум-фільтраў сабралася чалавек шэсць рабочых. Адзін з рабочых выгукнуў з верхняй пляцоўкі:

— Зноў шахты падаваць перасталі...

— А колькі іх там пад зямлёю працуе—раз-два—дый аблічыўся,— заўважыў рабочы каля фільтра...

— Дый з таго, што падаюць карысці няма. Як толькі пройдзе праз вакуум-фільтры, дык і брак...

— А робім усё так, як і немцы...

— А вось, кажуць, скора немцы паедуць, тады і зусім руднік спыніцца...

— Спыніцца... і чорт з імі—глуха выгукнуў пануры, пажылы рабочы.—Я разумею, калі-б мы золата, серабро, або скажам, вугаль здабывалі. А то—калій... калій... На якое ліха ён патрэбен?!

— Зямля, кажуць, ад яго тлустай становіцца. На балотах, кажуць, як прысоляць гэтым каліем, дык балоты во якімі ўраджайнымі робяцца...

— Я сам бачыў!—весела адгукнуўся малады жвавы комсамолец Алёшка.—Як падсоляць ім зямлю, дык колас ад цяжару зямлі кланяецца...

— А я вам вось што скажу,—далучыўся да гутаркі стары з рэдкай сівай барадкою.—Свет стаў не тым, улада не тая... і наогул гэта справа непатрэбная... Я тут змалку жыву... вось тут, на гэтым месцы, дзе мы стаім, я яшчэ на прызбе сядзеў. І ў пацверджанне сваіх слов стары лятуценна дадаў:—тут яшчэ Сымонава хата стаяла...

Алёшка не вытрымаў, каб не перабіць старога:

— Ты, Пахом, усё жыццё на Сымонавай прызбе прасядзеў-бы...

— Чакай... дай дасказаць...—сярдзіта перапыніў Пахом.

— Ну, скажам, тут зараз шэсць, а можа і восем карпусоў і рабочых дзве, а можа і чатыры тысячы... многа багацця, што і казаць.

Пахом задумаўся, потым зноў дадаў:

— Толькі ўсё гэта я лічу несправядлівым і радзіць гэты калій не будзе... У Сымона тут быў свой агарод... і калі гэты пад зямлёю ляжаў... Дык чаму-ж, пытаю я, на Сымонавым агародзе нічога не расло?

Урачыста паглядзеў Пахом навокал.

— Значыць, ён несапраўдны, гэты калій... і наогул—пад зямлю лазіць несправядліва...

— А ты быў там, дзед? У шахту апускаўся?—паддражніваў Пахома Алёшка.

Дзед адмоўна паківаў галавою.

— Несправедліва гэта... Жывым пад зямлю я не палезу...

— Што, дзед, зноў пакрыўдзілі цябе хлопцы?—раптам пачуўся голас Рудніцкага.

Рудніцкі прывітаўся з рабочымі. Разам з ім былі нямецкі інжынер і нямецкі майстар.

— Вось што, таварышы,—сказаў ён,—я зараз з хімічнай лабараторыі. Там праверылі склад нашай солі і зноў замест 98°/$_0$ хлорыстага калія знайшлі 95°/$_0$. Я думаю. што вы зрабілі няправільную газіроўку. Зараз майстар Шультке зробіць прамыўку.

Майстар Шультке прыхіліўся да сцяны, моўчкі пачаў рабіць на паперы нейкія вылічэнні. Рудніцкі з інжынерам пайшлі далей.

— Я іхнюю мову добра ведаю,—кіўнуўшы галавою на немца— сказаў Пахом Алешку.—І табе, Алешка, навучыцца трэба. Будзеш, як

я, ведаць пяць нямецкіх слоў і гаварыць з імі лёгка зможаш. Спецыяльнасць іхнюю лягчэй распазнаеш...

— Якія-ж гэта словы?

— Па-першае гэта „я“, што азначае па іхняму „але“, другое „найн“, што па-іхняму „не“. Трэцяе „гут“, што значыць па іхняму „добра“. Чацвёртае „шлехт“, што значыць па іхнему „кепска“ і апошняе „ніх ферштэйн“, што значыць па іхняму „нічога не разумею“...

Алёшка падсунуўся бліжэй да немца, высунуў уперад галаву, каб лепш разгледзець, што робіць немец.

Немец з закасанымі рукавамі працаваў каля растварыцеля. Потым агледзеўся па баках і, убачыўшы, што каля яго толькі Пахом і Алёшка, клікнуў іх да сябе:

— Тут сакрэта няма,—сказаў ён,—тут патрэбна зрабіць толькі правільны разлік.

Алёшка паглядзеў на Пахома, потым многазначна дадаў:—фарштэйн

* * *

У добра абсталяваным пакоі сядзеў Кррау. На стале стаяла недапітая бутэлька віна і поўны бакал.

Кррау быў у піжамі і пантоплях. Так звычайна ён праводзіў вячэрні час у пакоі, які адвёў яму Эдэльга.

Кррау павольна падышоў да заклееных на зіму дзвярэй веранды.

Неба гарэла ў яркіх агнях заходзячага сонца. І над прасторамі, якія раскінуліся перад ім, высока ў неба падымаліся трубы абагаціцельнай фабрыкі. З труб роўнымі палоскамі ішоў блакітны дым.

Кррау адышоў ад вакна і залпам выпіў бакал, потым сеў за стол і стаў шпарка накідваць калонкі лічбаў.

Адкінуўшыся стомлена на спінку крэсла ён уголас прамовіў:

— Адзін дзень работы ў Салікамску рауняецца двум тысячам тон калія...

Кррау трывожылі ўспаміны пра няўдалую размову з сваімі землякамі, і яшчэ больш нэрвавала ўпартасць Эдэльга.

Пасля доўгага маўчання ён зноў сказаў уголас, як гэта робяць людзі ў хвіліны найвастрэйшых перажыванняў, калі іх апаноўвае адна неадступная думка:

— Вы застаецеся на 60-й паралелі таму, што тут зусім другі клімат... Добра!.. Але пачуцці, народжаныя 53 паралеллю... хіба яны памерлі?.. Я іх пабуджу ў вас, пане Эдэльга... Яны вас выганяць адсюль...

Кррау працягнуў руку да паяца, які вісеў на этажэрцы і шмаргануў яго за вяровачку. Ад моцнага штуршка паяц задрыгаў сваімі фанернымі часткамі. Рукі і ногі паяца зазвінелі адзетымі на іх званочкамі.

Кррау задумаўся і прыжмурыў вочы. Дзверы ў яго пакой нячутна расчыніліся..,

З ясным радасным позіркам Эмілія на цыпачках падыйшла да Кррау, спынілася за спінкай яго крэсла і закрыла рукамі яго вочы.

Кррау запракінуў угару галаву і ўбачыў Эмілію.

Ніколі яшчэ не бачыла яго Эмілія ў такім замяшанні.

Пяшчотнасць і невыказаная журба адлюстроўвалася на твары ў Эміліі.

— Мая бедная дзяўчынка,—сказаў ёй Кррау,—хіба можна табе траціць свае лепшыя гады ў гэтай глушы.

Яе вялікія шырока-расплюшчаныя вочы са здзіўленнем паглядзелі на Кррау.

— Эмілія... Я цябе выхоўваў... Ты маё дзіця... Табе я аддаў частку свайго сэрца... Ты павінна мяне зразумець...—Крраў шпарка падыйшоў да вакна, за вакном відаць былі карпусы абагацільнай фабрыкі, якія запаўнялі ўвесь небасхіл. Потым ён рэзка павярнуўся ад акна і ціха і з гневам запытаў:

— Скажы сама, Эмілія, хіба не здраднік гэты Шультке! Ну і няхай ён застаецца на 60-й паралелі... Але як ты можаш дапусціць, каб тут заставаўся твой муж?

Эмілія хацела супярэчыць, але Крраў рэзка перарваў яе:

— Ён сваімі ведамі здраджвае сваёй радзіме...

Тады Эмілія са злосцю паглядзела ў вочы Крраў і запытала:

— Вы гаварылі гэта майму мужу?

— Так, але ён па старэчаму нерашучы. Нам патрэбны яго веды і твая маладая воля.—І ўсё больш захапляючыся, Крраў працягваў гаварыць:—Калі-б у мяне за спіною былі крыллі, я абляцеў-бы ўвесь свет, я сабраў бы усіх немцаў і прымусіў бы іх вярнуцца на сваю радзіму... Каб усе крупінкі нямецкага генія сабраць у адзіны магутны кулак і...

— Мне з вамі страшна... якія мы розныя...

Эмілія падыйшла да дзвярэй, але Крраў схапіў яе за руку. Эмілія з сілаю вырвала сваю руку і выйшла ўсхваляваная. Тады, гледзячы ёй услед, на зачыненыя дзверы, Крраў сказаў:

— Шляхі да вашай свядомасці зачынены, паспрабуем адшукаць шляхі да вашага сэрца...

4

У габінеце дырэктара за доўгім сталом сядзелі начальнікі цэхаў. Была поўная цішыня. Нарада падыходзіла к канцу. Але ўсе нібы нечага чакалі. Дырэктар перагортваў старонкі газет. Прайшло некалькі секунд, якія ў гэтым напружаным чаканні здаваліся асабліва доўгімі.

Нарэшце цішыню парушыў тэлефонны званок. Дырэктар схапіў трубку...

— Так... Так... Давайце Маскву... Аллё... аллё... Бярэзнікі, не перашкаджайце... Сяргей Александравіч, добры дзень. Аллё... так... так... зводку выканання выслалі... Колькі? Восемдзесят сем... Так, але не хапае рабочых рук... Ведаю, ведаю... За аб'ектыўныя прычыны, безумоўна, буду адказваць суб'ектыўна. Гэтае пытанне, напэўна, уладзім. Горш другое... Мы сёння ўжо гаварылі пра настрої замежных спецыялістаў—хочуць пакінуць... Аллё... аллё... сёння без іх нам яшчэ труднавата... Вядома, прымем меры... Аллё... не перабівайце... Сяргей Александравіч, пазваніце, калі ласка, маёй жонцы, скажыце, што ліста не атрымаў. Няхай прышле дочкіну фотокартачку. Я яшчэ не бачыў яе. Ёй ўжо тры месяцы. Яна радзілася адразу-ж пасля верасьнёўскай нарады... Я думаю, што яна ўжо гаворыць. Не... Ну, пакуль...

Дырэктар павесіў трубку і націснуў кнопку званка. Увайшла сакратарша.

— Калі інжынер Эдэльга у рудаўпраўленні, — сказаў дырэктар, — папрасіце яго сюды...

Наступіўшую цішыню парушыў Шультке.

— Уладзімер Ефімавіч, калі застанецца Эдэльга, застануцца і ўсе яны...

У гэты час на парозе паказаўся Эдэльга.

— Вы мяне клікалі, пан дырэктар?

— Сядайце, калі ласка, пане Эдэльга. Я хацеў з вамі параіцца... па двух пытаннях... Першае... у нас, як вам вядома, не хапае рабо-

чых рук... Мы пасылаем дэлегацыю ў Беларусь, з якой у нас заключан дагавор аб соцыялістычнай узаемадапамозе. Хочам забраць на гэты час у вас Рудніцкага. Ён будзе на чале дэлегацыі...

Эдэльга, відаць, быў у недаўменні, чаго ад яго хацелі.

— Пан дырэктар, вы ведаеце, што я ў гэтых пытаннях нічога не разумею. Я не ведаю, з якім бюро па найму ў Беларусі ў вас заключан дагавор і наколькі яно аўтарытэтна, каб даць нам такую колькасць рабочых, якая нам патрэбна...

... Дырэктар падыходзіў да другога пытання.

— Другое... другое... гэта... адносна вашых землякоў... з прычыны настрояў аб ад'ездзе... Вы разумееце, я зараз не хочу гаварыць ні пра дагавары, ні пра неўстойкі... Я хочу гаварыць пра людзей...

Эдэльга ўсхвалявана ўскачыў з крэсла.

— Пан дырэктар, я вас перапыню. Я ні разу ў жыцці не парушыў дагавора. Гэтая размова нам не патрэбна. Пакуль я тут, я адказваю і за сябе і за іншых... Парушыць дагавор?!

Стары павярнуўся да ўсіх і, нібы шукаючы ў іх падтрымання, сказаў:

— Ну вось і ўсё ў парадку, як кажа запальшчык Мікіта,—і пагля дзеўшы на гадзіннік, дырэктар са здзіўленнем дадаў:

— Маці мая родная... хутка восем! Рудніцкі, ідзем на каток...

... Вялікі, гладкі, ледзяны, чатырохкутнік быў ахоплен дрэвамі і заліт электрычным святлом. Глуха шумелі, гаманілі хвоі. Іх як відаць здзіўляла тое, што шумны гул іх верхавін заглушалі рытмічныя гукі якогасці бравурнага марша. Гэта для іх было новае і дзіўнае. Вецер падхопліваў гукі і разносіў іх ува ўсе бакі. Месячнае святло ззяла сваімі бледнымі промнямі пад яркімі электрычнымі агнямі, якія асвятлялі каток.

У такт музыцы плаўна слізгаліся па лёдзе канькабежцы. Замысловатыя фігуры канькабежнага спорта праходзяць адна за другой.

На катку, сярод канькабежцаў пан Крраў і фраў Эдэльга. Яны ідуць побач. Да фраў Эміліі пад'язджае Рудніцкі. Рудніцкі, сагрэты хуткімі рухамі на лёгкім марозе, неяк радасна ўсхваляваны.

— Фраў Эмілія,—гучыць скрозь музыку аркестра голас Рудніцкага. Я на гэтых днях ад'язджаю...

Рудніцкі ўсміхаецца і дадае:

— Але-ж не надоўга. Я павінен ўзначальваць дэлегацыю, якая выязджае ў Беларусь... нашы землякі таксама збіраюцца пасланць свайго прадстаўніка...

Рытмічныя гукі аркестра заглушаюць іх далейшыя словы. Вецер сваімі парывамі хвілінамі падхоплівае і даносіць словы іх далейшай размовы.—Хвілінамі адносіць іх далёка ў бок. У гэтых адрыўках музыкі і слоў чутно пытанне Крраў.—хто паедзе ад немцаў? Рудніцкі нешта адказвае, але ў парывах ветра, у гуках музыкі, у шуме хвой, яго словы не былі чутны. Урачыстым маршам гучэў аркестр. Хутка імчаліся канькі па гладкай, бліскучай ад рознакаляровых агнёў электрычных лямпачак, паліраванай паверхні лёду.

Якісці хлапчук падтрымлівае пастаўленага на канькі старога Мікіту. Стары хістаецца.

— Вось халера... лягчэй было Перакоп штурмаваць, чым тут на каньках стаяць... Слухай, хлапец, калі я фізкультурай займуся, гадоў дзесяць жыцця прыбавіцца?

— Факт, прыбавіцца

— Тады я згодзен. Вельмі мне хочацца жыццё наша далей паглядзець... Як яно там усё будзе... А ну, адыйдзі ў бок.

Ён асцярожна ідзе і паступова пачынае слізгацца па лёдзе. Ён пад'язджае да Рудніцкага і крычыць яму:

— Дай дарогу, дэлегат едзе.

Усміхаючыся, ён слізгаецца—едзе далей. Рудніцкі яго даганяе. Крраў пакідае каток. Ён спяшаецца за сілуэтам якогасці чалавека, якога ён хоча дагнаць.

Крраў хутка ідзе і дыстанцыя між ім і адыходзячым усё далей сілуэтам з кожным момантам робіцца меншай. Урэшце Крраў зраўняўся з чалавекам, якога ён даганяў.

— Выбачайце... калі вы сур'ёзна ўспрынялі мае калядныя пажаданні, мне было-б непрыемна...

Чалавек, да якога звярнуўся Крраў, адхіліў свой твар і цяпер мы бачым, што гэта Шультке.

— Паверце мне, калі я бачу якіх вялікіх вынікаў дасягнулі тут большэвікі, я крыху ганаруся і за сваіх землякоў—працягваў Крраў. Твар Шультке прыняў некалькі больш ветлівы выраз.

— Я толькі не разумею аднаго. Вот зараз, таварыш Рудніцкі гаварыў аб якойсці дэлегацыі... Па мойму гэта іх унутраная справа. Я не разумею, якія адносіны маюць немцы да гэтых абавязкаў?

Гэтак побач яны ідуць далей. І бачым, як уцягнуты ў спрэчку Шультке, ужо размахвае рукамі і штосці доўга і з запалам тлумачыць Крраў. Ужо на парозе кватэры пана Эдэльга, развітваючыся з Шультке, Крраў гаворыць:

— Калі гэта так, калі, як вы кажаце, дык я быў бы шчаслівы, каб дэлегатам была выбрана фраў Эдэльга. Гэта было-б адзнакай вялікай павагі для самога пана Эдэльгі.

Крраў моцна пацiснуў руку Шультке і яны разышліся.

Эканомка пана Эдэльга фраў Шольц на працягу сваёй многагадовай работы настолькі прывыкла да сям'і Эдэльга, што яе ўсе лічылі ў доме блізкім чалавекам. Калі Крраў прышоў дадому, фраў Шольц сядзела ў сваім пакоі, і прыводзіла да парадку нейчы гарнітур.

Пан Крраў павольна зняў паліто і, звяртаючыся з калідора да фраў Шольц, сказаў:

— Я вельмі паважаю вас, фраў Шольц.

Старая прыўстала і з паклонам галавы падзяквала Крраў.

— А таму я вырашыў шчыра пагаварыць з вамі...

Праз адбітак у люстэрку, скрозь напалову адкрытыя дзверы габінета Крраў назіраў за выразам твару пана Эдэльга. Фраў Шольц з шчырым позіркам і таксама з пачуццем глыбокай павагі слухала Крраў.

— Было-б вельмі дрэнна з майго боку, каб не пагаварыць з вамі. З Эміляй штосці нядобрае. Хіба вы не заўважылі?

Старая спужана паглядзела на Крраў.

Ці хіба-ж мне не ведаць Эміліі,—працягваў Крраў.—Гэтыя дні я назіраў за ёю. Мне зусім ясна,—яна захапляецца Рудніцкім.

Са свайго габінета Эдэльга са здзіўленнем прыслухоўваўся, адарваўшы свой позірк ад кнігі. Выраз яго твару адразу зрабіўся заклапочаным.

— Што вы, што вы?—замахала на Крраў рукамі фраў Шольц.

— Ну, дай божа, каб усё добра скончылася,—сказаў Крраў.

І нібы, не бачучы. Эдэльга, ён ізноў запытаў у фраў Шольц.

— А што, пан Эдэльга дома?

— Пан Эдэльга даўно дома,—адказала фраў Шольц.

Крраў маўкліва, нібы яго збянтэжыла гэта чутка, прайшоў у свой пакой і шчыльна прычыніў дзверы.

...Ярка гарэла люстра ў сталовай пана Эдэльга, кідаючы светавыя плямы на цяжкія парт'еры і рэзбярныя этажэркі, на якіх красаваліся японскія статуэткі. Прабіла дзевяць гадзін. Вялікі, вышынёю ў чалавечы рост, гадзіннік пасля бою праіграў нейкую наіўную мелодыю. У пакой увайшла фрау Шольц накрываць на стол.

Цераз хвіліну з габінета Эдэльга адчыніліся дзверы і ў пакой увайшоў гаспадар.

— А ўсё-ж, вы позніцеся з вячэрай,—раздражнёна сказаў ён і паглядзеў на гадзіннік.

— Я чакала прыходу Эміліі.

— А хіба Эмілія яшчэ не прыходзіла?

— Не.

Эдэльга пачаў хадзіць з кутка ў куток.

— У нас, мабыць, будзе вячэраць Рудніцкі,—сказаў ён.—Пастаўце трэці прыбор.

Эдэльга пашоў у габінет.

Стол быў накрыты, але да яго ніхто не дакранаўся... У сябе ў габінеце Рудніцкі сядзеў на канапе і трымаў у руках гармонік. Радаснай упесненосцю разліваўся гармонік. У пакоі Рудніцкага, прытуліўшыся ў кутку канапы, сядзіць фрау Эмілія. Чуваць, як спявае гармонік. Потым ціха напоўголаса гучыць песня.

І вось пад гукі гармоніка, пасля таго, як скончылася песня, чуваць словы Рудніцкага:

— А потым я ў ВТНУ паступіў... Бывала, прыдзе да нас на лекцыю прафесар і пачынае—„як вам вядома, табліцы Мендэлеева", а нам нічога не было вядома...

Ціха і плаўна гучэў гармонік.

— Я скончыў ВТНУ і паехаў працаваць на Урал... Але сапраўды ВТНУ я праходжу толькі тут.

Эмілія выслухала Рудніцкага і закрыла падручнік нямецкай мовы.

— Вы мяне прабачце, фрау Эмілія.—Вы-ж ведаеце, які я прыкладны вучань, але сёння я не маю магчымасці займацца.

Эмілія падыйшла да стала і пачала рабіць якіясьці адзнакі ў сшытку.

Потым яе позірк спыніўся на старонках перакіднога календара Рудніцкага.

Перакінуўшы некалькі старонак календара, на якіх Рудніцкі планаваў свой перагружаны дзень, яна, знайшоўшы больш вольны вечар, запісала—„урок нямецкай мовы".

Калі Эмілія адвярнулася, Рудніцкі абняў гармонік рукамі і, схіліўшы галаву, задрамаў.

Эмілія ўстала і, праказаўшы ціханька, каб не парушыць сноў Рудніцкага, выйшла.

* * *

Эдэльга выйшаў са свайго габінета ў сталовую. Стол быў таксама накрыты як і раней, да яго ніхто не дакранаўся. Загадаўшы, каб падалі яму каву, ён час ад часу пачаў падмацоўваць сябе глыткамі, праглядаючы кнігу, якую ён узяў з сабою з габінета. Гэта быў адзін з тамоў Стэндаля. Перагарнуўшы некалькі старонак, яго позірк затрымаўся над падкрэсленым месцам.

„У жыцці я не баяўся нічога, апрача таго, каб погляд любімай мною жанчыны з ласкаю спыняўся на маім супрацоўніку".

Эдэльга завалодала дзіўнае хваляванне. Ён адклаў у бок кнігу і падышоў да радыёпрыёмніка.

Эдэльга ўключыў радыё і ізноў хадзіў з кутка ў куток па пакоі.

Загучэла музыка. Эдэльга апанаваў страх ад гэтае музыкі, якая перадавала яго, здавалася, абцяжараныя ад болю, крокі. Ён падыйшоў да радыёпрыёмніка і павярнуў ручку. Праз момант голас запеў нейкую арыю і Эдэльга, заспакоіўшыся, сеў у качалку і пачаў гушкацца. Перш, ён амаль зусім не слухаў песні, потым паступова прыслухаўся і пачуў:

Сердечный друг,
Желанный друг,
Приди, приди,
Я твой супруг.

І не паспеў голас прапець далейшыя словы, як Эдэльга ўскочыў і выключыў радыё і...

* * *

У Рудніцкага ўсё яшчэ звінеў гармонік, але на тым месцы, дзе сядзела Эмілія, цяпер сядзеў любімец Рудніцкага, яго зямляк Мікіта.

— Любіш яе?—пытае Мікіта.

І ў адказ на песню гармоніка Мікіта сам пацвярджае:

— Значыць любіш... А яна цябе?

І ў адказ на песню гармоніка Мікіта сам гаворыць:

— І яна цябе, значыць? Ну дык і жывіце разам...

Рудніцкі пакруціў галавою.

— Нельга?—пытае Мікіта, і тут жа сам адказвае:

— Калі нельга, дык кіньце адзін аднаго любіць...

— Люблю то люблю,—кажа Рудніцкі... Толькі яна далёка не тая, якую люблю...

А гармонік усё пяе...

— У мяне ў самога быў аднойчы такі выпадак,—згаджаецца Мікіта.— Я табе сумленна кажу. У гэты час мяне якраз сустрэў Міхаіл Іванавіч Калінін.—Мікіта,—кажа Міхаіл Іванавіч,—прыязджай, кажа, да мяне. Адпачыць табе трэба. Я, кажа, цябе разумею. Сам—з рабочых. Разам, кажа, даб'ёмся пуцёўкі і паедзем у Крым, у санаторый.

— Ну і ты паехаў?—пытаецца Рудніцкі.

— Адмовіўся. Не магу, кажу, Міхаіл Іванавіч, руднік кінуць. Вас кажу, Міхаіл Іванавіч, старшынь ЦВК шэсць чалавек, а я адзін... Міхаіл Іванавіч выслухаў мяне і адказаў:—Маладзец, гаворыць, Мікіта, любіш, гаворыць, руднік. На гэтым і разыйшліся прыяцелямі.

* * *

Эдэльга ляжыць з адкрытымі вачыма.

Калі ён пачуў званок, ён ускочыў з пасцелі, паглядзеў на гадзіннік, і хвіліну, здавалася, стараўся затушыць вогнішча, што палыхала ў яго грудзях. Потым выраз твару яго зрабіўся заклапочаным. Ён хутка прайшоў у сталовую і прыняў трэці прыбор.

Эдэльга хутка вярнуўся у спальню, лёг у пасцель і заплюшчыў вочы. Цераз момант з напоўрасчыненымі вачыма ён асцярожна паглядзеў на Эмілію.

Гэтая жанчына была такой неперахможна-прыгожай, што Эдэльга не змог сказаць ёй ніводнага слова.

* * *

Каля спускавой пляцоўкі група рабочых. Сярод спакойных твараў рабочых хмуры і ўсхваляваны твар Пахома. Побач з Пахомам стаіць Алёшка. З хваляваннем Пахом глядзіць на тое, як спускаецца клець у дзірку, шырынёю ў чатыры метры. Ён стараецца ўлавіць гул, які

вырываецца з-пад зямлі, па нерву шахты. Там свідруюць зямлю складанымі машынамі. Пахом тужэй нацягнуў шапку на вушы, адчуваючы плынь паветра, што вырывалася з-пад зямлі. Пахом адыйшоў у бок, потым ізноў праціснуўся да клеці. Як відаць, падземны гул шахты хваляваў яго. Пахом разглядваў твары людзей, якія падымаліся з шахты і ўпарта дапытваўся:

— Ну, як там?..—

Потым, звярнуўшыся да Алёшкі, сказаў:

— Вот калі-б ты спусціўся. Табе-ж скарэй паверылі...

Алёшка адыйшоў ад Пахома і пашоў у клець. Пахом пакрочыў хмура за ім, то ажываючы, то камянеючы.

Потым, нібыта адарваўшыся ад зямлі, кідаецца Пахом у клець за Алёшкам.

Звон... І клець з бразгатам ляціць уніз.

Мільгаюць цюбінгі пры святле шахцёрскіх лямп.

— Ты-ж глядзі, Алёшка, не разбіся,—просіць Пахом.

Потым са здзіўленнем дадае:—На гэтым месцы студню мы з Сымонам капалі. Сажань выкапалі і ўжо ваду чэрпалі, а тут вунь колькі падаем і нічога...

Апошнім праверыў шнуры і злучэнні правадоў Мікіта і вышаў з шахты.

Цераз хвіліну моцныя ўдары прагрымелі адзін за другім па шахце:

— Правільна!—пацвердзіў Мікіта,—усё ў парадку.

Па шахце праходзіў нямецкі бурыльшчык.

— Таварыш!—спыніў немца Мікіта.—Генозе! Мая брыгада прайшла ўжо трыццаць метраў. Я ўжо дагнаў вашу брыгаду.

І Мікіта задаволена ўсміхнуўся. Немец ні слова не разумеў парыску, але ў адказ на шырокую задаволеную ўсмешку Мікіты таксама ўсміхнуўся і адказаў:

— О, я!... я!... Мікіта здзіўлена паглядзеў на немца. І, ткнуўшы сябе пальцам у грудзі, ратлумачыў:

— Не ты, а я... Разумееш,—я дагнаў вашу брыгаду.

— Я!.. я!..—зноў пацвердзіў немец.

— Ды што ты ўсё „я“, ды „я“?—раззлаваўся Мікіта,—разумееш, я, я, Мікіта Дзмітравіч, Шушкевіч перагнаў вашу брыгаду. Значыць, я цябе дагнаў, а не ты мяне, разумееш? Фарштэйн, па вашаму.

— Я!... Я!... . гаворыць немец.

Немец адыйшоў і Мікіта застаўся адзін. У той час да Мікіты падышоў Пахом, які толькі што чуў нямецкую гаворку. Таму што ў шахце ўсеў у аднолькавай гумовай спецвопратцы і шырокаполых капелюшах, то Пахом прымае Мікіту за немца.

— Гут!..—ківаючы галавой, гаворыць Пахом і паказвае рукой навокал.

У сваю чаргу Мікіта таксама прымае Пахома за немца і, стараючыся падтрымаць гаворку, кажа:

— Гут!... Гут!... Ніхт фарштэйн, я толькі па вашаму,—растлумачыў Мікіта Пахому,—а наогул так... Гут!... Пахом здзіўлена паглядзеў на Мікіту.

— Дык ты не немец?—пытае Пахом.

— Не,— адказвае Мікіта.

— Ну, брат, а я адразу не пазнаў,—адказаў Пахом.—Я тут старажыл... от яшчэ, калі наверсе Сымонава хата стаяла, я ўжо тут быў.

Потым, як відаць, усё ж-ткі чагосьці не разумеючы, Пахом дадаў:

— Ну, а той, што я з табою гаварыў,—той немец?

— Немец,—адказаў Мікіта.

— Вось і разбяры тут дзе немец, а дзе рускі... У чатырнаццатым куды лягчэй было. Тады нас у адну форму апранулі, а іх у другую. Гэтак мы і пазнавалі адзін другога.

— Ну і сказаў!—скончыў Мікіта.—Пагаварылі і хопіць!

— Калі мы яшчэ з Міхаілам Іванавічам Калініным зямлю аралі, дык Міхаіл Іванавіч заўсёды гаварыў мне: „Не губляй дарэмна часу, Мікіта"...

— Пачакай,—перапыніў Мікіту Алёшка,—ты-ж родам з Менскай губерні, а Міхаіл Іванавіч з Тверской.

Мікіта задумаўся, потым спакойна адказаў:

— Ну, я і не спрачаюся, я араў у Менскай, а Міхаіл Іванавіч у Тверской, але-ж аралі мы абодва... Часу траціць нельга. Значыць, усё ў парадку,—скончыў Мікіта і пашоў у забой.

Пахом паглядзеў услед і з павагаю сказаў Алёшку:

—Правільны чалавек... Хоць сабе і пад зямлёй працуе...

* * *

У лабараторыі, нахіліўшыся над мікраскопам, працавала Эмілія. Як усе спрактыкаваныя мікраскапісткі, Эмілія трымала адкрытымі вочы. Гэта было адзінай магчымасцю пазбегнуць зморанасці. Правым вокам яна глядзела ў інструмант. Левым—Эмілія глядзела і нібы нічога не бачыла. Толькі медная трубка інструманта да кавалачак паперы для адзнак былі ў полі зроку.

Стук у дзверы прымусіў яе аглянуцца. У лабараторыю ўвайшоў Рудніцкі.

— Цішэй,—насцярожана прашаптала Эмілія Рудніцкаму. Рудніцкі спыніўся. Эмілія гэстам рукі падазвала яго да сябе. Рудніцкі падышоў. Тады Эмілія ізноў з перасцярогаю прашаптала:

— Цішэй!.. І ў адказ на незразумелы погляд Рудніцкага паказала ямурукою на дыванчык, на якім з салодкай утульнасцю ляжала кошка.

— Спіць,—растлумачыла Эмілія.

Рудніцкі ўсміхнуўся і падыйшоў да стала.

— Ну, што ў вас,—запытаўся ён.

— Газаноснасць у пластах карналіта 0,09.

Рудніцкі задумаўся. Міжвольна павярнуў мікраскоп, потым паглядзеў на Эмілію.

— Фрау Эдэльга, Карл Густававіч чалавек разважлівы. Вы ведаеце, як я его паважаю... Але ён не хоча ўлічваць асаблівасці нашых пластоў,— па сутнасці больш багатых, чым нямецкія. Перагаварыце з ім... прашу вас...

Якраз у гэты час Эдэльга выйшаў са свайго габінета, прываблены гукам галасоў, якія даносіліся з лабараторыі, і адчыніў дзверы. Але, убачыўшы Эмілію і Рудніцкага, схіленых над мікраскопам так блізка адзін каля другога, такіх маладых і ажыўлёных, ён спыніўся каля дзвярэй...

— Вы дакляруеце... Ці-ж не праўда?—запытаўся Рудніцкі.

— Так, дакляруюі—адказала Эмілія.

Цяжкімі крокамі Эдэльга пайшоў уперад. Фрау Эмілія і Рудніцкі адхінуліся і крышачку замяшаліся.

* * *

За сталом раскачваючыся і пабраўшы адзін другога пад рукі, спяваюць госці пана Эдэльга.

Пан Эдэльга клапатліва працягвае бакал то да аднаго, то да другога гасця.

Умомант, калі госці Эдэльга хорам падхапілі прыпеў песні, у дзвярах паказаўся Шультке. Шультке быў вясёлы не менш, чым прысутныя. Госці шумна сустрэлі ўвайшоўшага і Шультке сказаў:

— Я прынёс вам радасную навіну...

Усе застылі ў чаканні. Пан Эдэльга паклаў салфетку: Шультке падышоў да Эмілії і сказаў:

— Дазвольце вас віншаваць! Нямецкія рабочыя выбралі вас сваім прадстаўніком у склад дэлегацыі, якая на чале з Рудніцкім едзе ў Беларусь.

Тады, звярнуўшыся да Рудніцкага, Крраў сказаў:

— На вашым месцы я быў-бы шчаслівым чалавекам!..

Наступіла хвіліна нязручнай маўклівасці. Тады падняўся Эдэльга і ціха праказаў:

— На вялікі жаль, Эмілія наўрад ці зможа прыняць гэту навіну за вялікі гонар. Мы хутка, як відаць, едзем на бацькаўшчыну.

Другі замежны спецыяліст—інжынер Бухнер усхвалявана запытаў:

— А мы?

— Я думаю, што і вы паедзеце,—сказаў Крраў,—і гэта зусім зразумела, бо ў выпадку ад'езда пана Эдэльга вам заставацца проста бессэнсоўна.

Усе змоўклі. Кожны думаў, як відаць, пра сваё.

Цішыню парушыла Эмілія, якая цвёрда сказала:

— Што датычыцца мяне, дык я не збіраюся так скора звяртацца на бацькаўшчыну.

Госці пачалі па адным разыходзіцца. Якісці немец спачувальна паціснуў руку Эдэльга. Рудніцкі звярнуўся да Шультке і ўпоўголаса сказаў:

— Вы зрабілі вялікую памылку... Навошта вам было выбіраць фрау Эдэльга?

Шультке разгублена паглядзеў на Рудніцкага.

Рудніцкі падняўся з-за стала і развітаўся.

Яго вышла праводзіць фрау Эдэльга.

І доўгім позіркам праводзіў Крраў Рудніцкага і Эмілію і, звярнуўшыся да Эдэльга, ён сказаў:

— Нам, Карл Густававіч, цяжка зразумець тайнікі іх душ.

Потым Крраў, які на выгляд быў надзвычайна ўсхваляваны, узяў бакал, наліты віном і патэтычна заявіў:

— Вы можаце быць упэўнены, мой сябра, што, да звароту Эміліі з Беларусі, я вас не пакіну!

Эдэльга адкінуўся на спінку крэсла і задумаўся.

Экран паступова ідзе ў зацямненне.

* * *

Яшчэ драмалі хаты, апавітыя змрокам і туманам... Толькі вецер прабягаў па зямлі, ды падганяў раўчакі веснавога разліва.

Паступова, скрозь туман, разгараецца раніца.

Над высокімі стрэхамі павольна вырысоўваюцца рэльефы сіласных вежаў, з туману выплываюць жалезныя постаці трактароў. У гутарцы-спеве раўчукоў праходзіць свежая веснавая раніца.

У сярэдзіне адной з вясковых хат яшчэ ўсё было ахутана сном. Але хутка насустрач раніцы заіграла ў хаце радыё, перадаючы ўрок ранішняй зарадкі. І нібы ў адказ на гукі радыё, аднекуль з-пад печка адгукнуўся ўстрывожаны певень.

У адказ на крык пеўня заскрыпеў ложак. Нехта павярнуўся і запаліў святло. Яркія снапы электрычнага святла ўдарылі ў вочы і ў невялічкай хатцы стала светла, праменна.

З ложка ўзнялася старая жанчына. Яна пачала ўважліва прыслухоўвацца да посвісту ветра і да гамонкі веснавога разліва. Потым жанчына адыйшла ад вакна і пачала будзіць мужа.

— Якаў! А Якаў,—уставай, развіднівае ўжо, табе-ж у дарогу трэба збірацца... Спознішся на з'езд...

На ложку заварушыўся стары, гадоў пад шэсцьдзесят, але яшчэ моцны і рухавы чалавек. Ён акінуў поглядам хату, потым узняўся і сказаў:

— Трэба паглядзець, каторая гадзіна...

Пасля, не спяшаючыся, ён падышоў да выключацеля і выключыў святло.

Хату ахутаў змрок.

Тады стары падышоў да вакна і паглядзеў на двор.

— Гадзін шэсць будзе...

Старая ізноў запаліла святло.

* * *

У сталіцы мяккі вясенні вечар. Над будынкам-волатам Дома ўраду, апавітым лозунгамі і электрычнымі лямпачкамі прыглушана гучаць гукі аркестра.

У зале паседжанняў Дома ўраду адбываецца не зусім звычайны з'езд. Калі змоўк аркестр да стала прэзідыума ўзняўся пажылы чалавек, сціплы і просты.

— Таварышы,—сказаў ён,—слова для прывітання з'езду калгаснікаў Беларусі мае таварыш Рудніцкі—старшыня дэлегацыі Салікамскіх калійных руднікоў.

У прэзідыуме сядзяць: Рудніцкі, Эмілія і Пахом.

На трыбуну ўзыходзіць Рудніцкі. Твар у яго ўдумлівы і сур'ёзны.

— Таварышы! У вас вось тут,—Рудніцкі шырокім узмахам рукі паказаў на сцяну,—вісіць лозунг „Балота плюс калій роўны ураджаю". І сапраўды, таварышы, Беларуская Сацыялістычная Совецкая Рэспубліка мае неабсяжныя плошчы балот.

На пярэднім плане стары, які то замірае, быццам прырастаючы да свайго месца, то нервова ускаквае. Нарэшце ён штурхае ў бок свайго суседа, такога-ж самага барадатага, як і ён, калгасніка і гаворыць:

— Грыша, далібог ён!

— Цішэй ты, які табе Грыша!—буркнуў сусед.

— Мой сын! Грыша!—і стары падняўся, быццам ён хацеў пайсці насустрач сыну.

Ззаду нехта раздражнена дакрануўся да яго пляча і сярдзіта прашаптаў:

— Садзіся! Дай паслухаць чалавека...

Стары, нібы яго аглушылі, быстра сеў і пачаў слухаць.

Толькі па твару старога, які то застываў у напружанай увазе, то свяціўся невыказанай радасцю, было відаць, колькі перажываў гэты чалавек.

Рудніцкі працягваў:

— І тут, таварышы, выходзіць вельмі простая арыфметыка. Беларускія балоты плюс салікамскі калій роўны ураджаю. Беларускія балоты мінус салікамскі калій роўны балоту.

— Два гады таму назад мы з вамі, таварышы, рабілі дагавор аб соцыялістычнай узаемнай дапамозе. Гэты дагавор вы выконваеце дрэнна. Нам, таварышы, патрэбны людзі, людзі і яшчэ раз людзі. Вось чаму я не вітаю вас, а напамінаю аб вашых соцыялістычных абавязацельствах.

Стары не вытрымаў і зноў штурхануў суседа.

— Сын!

Потым крыху супакоіўся, штурхануў другога:

— Сын!

Потым ізноў супакоіўся. Перачакаўшы хвілінку, стары абярнуўся назад.

— Сын!

І калі на яго за трэцім разам зашыкалі, ён змоўк, але ненадоўга.

А калі стары прыслухаўся і прыглядзеўся на сцэну, на трыбуне сына ўжо не было. І на тым месцы, дзе толькі што стаяў сын, цяпер стаяла фраў Эдэльга.

— Таварышы, на сваёй бацькаўшчыне,—гаварыла фраў Эдэльга,— да сустрэчы са мною шахцёры глядзелі на мяне так, нібы я зрабіла якоесці злачынства. Гэта адбывалася толькі таму, што я была раней жонкай галоўнага інжынера рудніка. Я не ўсё разумею, што робіцца ў вас, але я ведаю, што ў вашай краіне кожны рабочы можа стаць галоўным інжынерам. У вашай краіне я смела пазіраю ў вочы шахцёрам і смела сустракаю іх погляды.

* * *

У сталовай пана Эдэльга гадзіннік прабіў дзесяць udараў і заіграў знаёмую мелодыю. За сталом сядзелі гаспадар і пан Крраў. Эдэльга збянтэжана і некалькі ўсхвалявана сказаў:

— Ведаеце, пра што штодзённа са мною тут гаварылі. Гэта пра машыны, пра шахты, пра руднікі, пра нормы, пра перавыкананне.

— Але вось, пан Крраў, калі захапіла асабістае,—гэтыя словы сталі нежывымі... і ажылі словы чалавечага спачування, якія пачуў я толькі ад вас.

Крраў працягнуў руку Эдэльга.

Расчулены Эдэльга ўзняўся з крэсла і абняў Крраў.

— Я не сумняваюся,—кажа Крраў,—што ад'езд Эміліі быў падрыхтаваны Рудніцкім... і ўсё гэта Рудніцкі рабіў для таго, каб памяшаць вам працаваць, каб самому заняць ваша месца, каб скампраметаваць вас. Вы цяпер самі бачыце, што ў такіх абставінах вы не зможаце працаваць.

— Вельмі ўдзячны вам, пане Крраў,—дзякую. Цяпер мне і самому усё зразумела. І я еду адгэтуль, безумоўна паеду. Але перад сваім ад'ездам я ім яшчэ пакажу, як трэба працаваць. Я ім пакажу, якія я змагу ўзяць тэмпы. І потым паглядзім, як яны без мяне абыйдуцца.

Крраў яшчэ раз узяў Эдэльга за руку, на гэты раз, здаецца шчыра патрос яе і са спачуваннем выказаў:

— Паверце, што, калі яшчэ калі-небудзь... калі я хоць чым-небудзь... я гатоў заўсёды.

Але не знайшоўшы канца сваёй фразе, Крраў абарваў сябе на поўслове і, зрабіўшы расчуленага чалавека, выйшаў з пакою.

* * *

Пасярод двара стаяла з вёдрамі ў руках матка Рудніцкага. Яна пільна ўглядалася ў кожнага з тых, хто ўваходзіў на двор.

— Ну, вось, з поўным сустракаюць,—радасна заўважыў Пахом.

Грыша падышоў да маткі. Маці прыгледзелася і пазнала сына. Кінулася да яго і непрыкметна выпусціла з рук вёдры.

— Пачакай, сынок!—разгублена сказала старая і, узяўшы вёдры і не прывітаўшыся з сынам, пайшла назад, непрыкметна выціраючы слёзы.

— Ну, як бацька? Ты што спецыяльна ў Менск ездзіў мяне сустракаць,—уваходзячы ў хату, запытаўся Грыша.

— Як гэта?—збянтэжана адказваў стары.—Я-ж, як і ты,—дэлегатам быў.

Стары палез у кішэню, дастаў з кашалька мандат, асцярожна расхіснуў яго і з гонарам паказаў сыну.

Рудніцкі ўсміхнуўся і запытаў:

— Як у вас у гэтым годзе росы цёплыя?

— Павінен быць добры ўраджай, сынок.

— Ну, а як у мінулым годзе?

— Дзе парашку не хапіла, дык там і зусім было дрэнна—дадала маці, якая ў гэты час увайшла ў хату.

— Якога парашку?—настарожана запытаў Пахом.

— З станцыі прывезлі яго,—растлумачыла маці.

— Ат, што ты разумееш!—усхвалявана супярэчыў бацька.— З Салікамска прывозяць яго. Каліем завецца.

Пахом сур'ёзна захваляваўся.

— А яны ўсе такія-ж самыя мае старыя...—Ні то з сумам, ні то з ласкай сказаў Рудніцкі.

* * *

Нерухома з зачыненымі вачыма ляжаў Эдэльга. Ён не ведаў, што яму рабіць. Ён слухаў бой гадзінніка, слухаў тахканне вагальніка ў цішы і глыбокія ўдары свайго сэрца.

Грандыёзная сімфонія гукаў адлюстроўвала яго настрой.

Эдэльга не пазнаваў сябе. Ці даўно гэты чалавек быў цвёрды і рашучы. Ці даўно ён быў гаспадаром сваёй мужнасці і свайго слова. Зараз ён ляжаў з зачыненымі вачыма і сіліўся прыдумаць нешта, зрабіць.

Эдэльга туга захутаўся ў коўдру. Яму хацелася апавядаць каму-небудзь пра свой усхваляваны стан. Апавядаць усё, пра што ён даведаўся ад Крраў.

Нарэшце, ён узняўся і пачаў хадзіць па пакоі. І раптам, нечакана для сябе, моцна сказаў:

— Так нельга. Трэба кончыць.

Гук голаса ў маўклівай цішыні пакою прымусіў яго здрыгануцца і раптам яму прышла ў галаву думка. Ён напіша пра ўсё Эміліі. Ён раскажа ў гэтым лісце пра ўсё, што ведае ён ад Крраў, пра свае хістанні, пра жаданне Рудніцкага, пры ўдзеле Эміліі скампраметаваць яго, і нарэшце, пра сваё вырашэнне неадкладна выехаць.

Ён раптам сеў за стол і дастаў паперу.

Раз-по-раз ён памачыў некалькі разоў пяро ў чарнільніцу, спрабаваў, але так і не мог напісаць ні аднаго радка. Эдэльга сумна глядзеў на лісток белай паперы. Урэшце, нервова, быстра пачаў пісаць.

Напісаўшы ліст, ён паклаў яго у канверт і надпісаў адрас:

„Менск гасцініца Еўропа, інжынеру Рудніцкаму для Эміліі Эдэльга“.

Апошняе слова падкрэсліў.

Гадзіннік прабіў сем. Эдэльга быстра апрануўся і падышоў да вакна. Потым ён сышоў па лесвіцы, выйшаў на вуліцу і перайшоў цераз дарогу да звычайнай паштовай скрынкі.

Паглядзеў, калі адбываецца выемка лістоў:—А дзевятай, у тры і дзевяць.

Праверыў адрас і ўкінуў ліст.

Звярнуўшыся Эдэльга сеў у глыбокае скуранае крэсла і задумаўся. Паступова ён задрамаў.

Праз туманную пялёнку комінаў яму ўяўлялася, што Эмілію ласкава абнімае Рудніцкі, потым яму прыгадваліся ззяючыя аганькі елкі і жвавая вясёлая Эмілія... Потым... заіскрыўся смех і яны—радасныя, маладыя і блізкія—імчацца на лыжах... І зноў пялёнка снягоў, а скрозь снягі праступае паштовая скрынка і таблічка гадзін—выемкі лістоў: дзевяць, тры і дзевяць.

Гадзіннік біў роўнамернымі ўдарамі.

Эдэльга ўсхапіўся. Ён не зразумеў, дзе ён. Потым паглядзеў на гадзіннік, які з апошнім ударам паказваў дзевяць і, як Мапасанаўскі Венерадэ, кінуўся па лесвіцы ўніз.

Каля паштовай скрынкі стаяў лістаносец. Ён толькі што дастаў лісты са скрынкі.

— Добрая раніца!—сказаў Эдэльга.

— Добрая раніца.

— Слухайце, таварыш лістаносец, я ўкінуў у скрынку ліст, які мне патрэбны. Дайце мне яго назад,

— На вялікі жаль, я не магу.

— Але-ж я вам кажу, што ліст мне патрэбен. Гэта ліст да маёй жонкі. Вы-ж мяне ведаеце...

— Не магу. Выемка аўтаматычная. І лістаносец пайшоў.

— Я вас вельмі прашу. У вас-жа ёсць ключ.

Эдэльга зрабіў некалькі крокаў за лістаносцам.

— Вы чуеце? Мне патрэбен гэты ліст.

Лістаносец адыходзіў не аглядаючыся. Эдэльга паглядзеў яму ўслед і застаўся стаяць на месцы. Потым, калі лістаносец ужо быў далёка, Эдэльга павярнуўся і павольна пайшоў дамоў.

* * *

Бацька Рудніцкага і Пахом ішлі па двары калгаса. З-за дрэў скрозь відаць былі новыя будынкі, якія гаварылі пра вялікую працу, толькі што праробленую тут калгаснікамі. Навокал гэтых ужо значных будынкаў будаваліся новыя.

Ішлі Пахом і бацька Рудніцкага.

— Сцяпан,—крыкнуў Рудніцкі калгасніку, які ішоў у воддалі.— Зайдзі да мяне ў хату. Сын прыехаў. Ён між іншым інжынер!

Ішлі.

— Ануфрэй!—крычаў бацька Рудніцкага другому калгасніку, які быў у воддалі каля кузні.—Сын прыехаў. Ён між іншым інжынер!

Ішлі.

І яшчэ некуды ў бок крычаў бацька.

— Між іншым, інжынер!..

Ішлі.

— Разумееце, тут-жа нічога не было,—паказваючы на сіласныя вежы, трактарны парк, вялікія новыя будынкі Суцінскага калгаса, гаварыў бацька Рудніцкага Пахому.

— Разумееце, толькі некалькі хат стаяла, ды і тыя былі як ветрам падшытыя.

— У нас яшчэ і больш за тое, нічога не было,—з павагаю засупярэчыў Пахом,—адна толькі Сымонава хата стаяла ды лес...

— У нас дык і лесу не было... Усяго тры хвоі стаялі,—паправіў бацька Рудніцкага Пахома.—На роўным месцы пачалі.

— У нас дык і роўнага месца не было,—падкрэсліў Пахом.

Бацька Рудніцкага задумаўся...

— У нас такія чортавы вокны былі ў балоце, што калі пападаў чалавек,—помні як звалі.

— У нас дык у зямлі мы самі адно вакно выкапалі,—перапыніў Пахом,—што ўвесь ваш калгас з усімі сядзібамі і абагуленым сектарам схаваецца.

Ішлі.

І ўбачыў Пахом заводскіх кароў, якія кармілі маленькіх цялят, убачыў кабыл з жарабятамі, парасят, якія раззявіўшы раты скігіталі каля матак. Гэта былі яшчэ вельмі маладыя жыхары на гэтым свеце, і таму яны былі яшчэ са сваімі маткамі. Асобна стаялі больш старыя. Выгляд гэтай жывёлагадоўчай фермы надзвычай усхваляваў Пахома, які ніколі і нікуды не выязджаў з Салікамска; гэта нават расчуліла яго.

Бацька Рудніцкага, які любіў коняй таксама, як і зямлю, з любасцю паляпаў па шыі заводскага жарабца і, паказаўшы на Пахома, звяртаючыся да жарабка, сказаў:

— Паглядзі, Васька... Салікамскі дэлегат прыехаў... гэта да нашай работы, Васька, ды іх парашок, заможнымі будзем.

Жарабец адчуў знаёмы голас бацькі Рудніцкага, радасна заірзаў і махнуў галавою.

— Разумееш!—задаволена сказаў стары,--а другім тлумачыць трэба... даводзіць...

Старыя выйшлі на калгасны двор і, канчаючы сваю гутарку з Пахомам, бацька Рудніцкага сказаў:

— Разумееш, а пачалі мы на роўным месцы.

* * *

У шахце Салікамска ішла напружаная работа. Гулі выбухі. Прабягалі электравозы. Падземны горад, пабудаваны на месцы былой Сымонавай хаты, здзіўляў чыстатой і бліскучым размахам сваіх тэхнічных магчымасцей. Самую складаную работу рабілі машыны сілай электрычнасці.

І недзе з-забою звінела песня:

Одна и таже работа у нас,
Мы помним, товарищи, друг о друге.
Одни и теже плакаты у нас,
На крайнем севере, и на крайнем юге.
Одна и та же задача у нас:
Перестроить мир, лежащий в развалинах.
Одна и та же партия у нас,
Огненная партия Ленина-Сталина.

І яшчэ на экране гучыць песня, а апарат фіксуе ўжо Суцінскі калгас.

На абшарах цмянага неабдымнага балота кішаць шэрыя світкі. Людзі пракладаюць вялікія, як і самы балоты, канавы. Людзі сцелюць масты. З неабсяжных нетраў балот далятаюць выбухі—там людзі аманалам узрываюць карчы. Разам з карчамі ўзлятаюць ў неба велізарныя пласты зямлі.

Над гэтымі палямі і над гэтай работай, як далёкае рэха, праплывае салікамская песня:

Одна и таже звезда у нас—
Пять лучей во все страны света.
Одна и таже земля у нас,
Трижды любимая земля Советов.

* * *

Да прызбы каля хаты Рудніцкага па адным збіраліся калгаснікі. Падыходзілі старыя, падыходзіла моладзь паслухаць ад сына Рудніцкага пра тое, што робіцца на свеце. Абкружаны натоўпам калгаснікаў, Пахом з важным выглядам сядзеў і курыў люльку. Бацька Рудніцкага гаварыў Эміліі:

— Грыша, сын мой, на праўленні калгаса зараз умовы падпісвае.

Стары зайшоў у хату, цераз момант прынёс гармонік, сеў каля Эміліі і, як відаць, жадаючы здзівіць яе сваім мастацтвам, заіграў.

Гукі вылятала адрывучатыя і чыстыя, ні разу не збіваючыся між сабою. На момант яны змаўкалі, потым узрасталі ізноў.

Гаварыў Пахом пад песню гармоніка, ад якога павявала лесам і раўчукамі, узгоркамі і туманамі беларускіх балот, вёскаю і акрайцам сонца над хатай.

— Я вам даклярую,—як старажыл... так сказаць... у гэтым годзе у нас парашку хопіць. Слова свае даю. Мы свой план выканаем.

Пахому нехта супярэчыў:

— Парашок дык ён нам сапраўды патрэбен... Толькі, ведаеце, не царскі час зараз, каб у Сібір ехаць.

Пахом патаптаўся на месцы.

— Калі вы не паедзеце, дык і парашку не будзе... Будзе ён ляжаць пад зямлёю, не сапраўдным, значыць будзе, растлумачыў Пахом,—калі так разважаць будзеце, дык гэта... гэта, як пры цару выйдзе.

І на дапамогу Пахому з усім палам свайго ўзросту выступіў малады хлапец.

— Ты, Іван, не адказвай за ўсіх. Я, напрыклад, у Сібір хачу, у шахту хачу, на рабфак хачу, інжынерам хачу,—як Грыша... Потым паправіўся,—як Рыгор Якаўлевіч.

У адказ на гэтыя словы Пахом пацвердзіў:

— І будзеш інжынерам, Алёшка.

— Ды ён не Алёшка, паправіў Пахом,—а Васіль.

— Усёроўна Алёшка! Інжынерам будзе!—цвёрда скончыў Пахом.

* * *

На кругавідзе на фоне зубчастых хвой віднеліся фігуры людзей, якія сядзелі на трактарах. Трактары з цмянымі постацямі людзей павольна рухаліся на яркім фоне вячэрняга неба.

Далёкі грукат матораў напаўняў балотныя прасторы Суцінскага масіва.

Пах мокрай зямлі разам з водырам першых веснавых пупышкаў, лісткоў, травы, красак—поўнілі сабою вячэрняе паветра.

Пахому была радасна на сэрцы. Яму даволі было зірнуць на постаці людзей на трактарах для таго, каб весела ўсміхнуцца. Пахому было прыемна ўпэўніцца ў тым, што на палях раскідвалі іх калій. З калгасных стайняў чуўся топат коняй. Недзе недалёка збягаліся раўчакі веснавой паводкі—роўныя, безупынныя—яны спявалі сваю мяккую веснавую песню.

Пахом сядзеў адзін на прызбе і поглядам поўнаўласнага гаспадара аглядаў наўколле. І раптам нечакана пачуўся стук бразготкі начнога вартаўніка. Стук бразготкі быў як-бы акампаніментам надколатай, як гук самое бразготкі, старэчай песні.

Последний нонешний денечек
Гуляю с вами я, друзья
А завтра рано чуть светочек,
Заплачет вся моя семья.

Разам з надколатым гукам бразготкі і слоў „заплача ўся мая сям'я" уваходзіць стары вартаўнік. Твар вартаўніка ўкрылі глыбокія маршчыны, ён аброс рэдзенькаю бародкаю. Праз плячо старога перакінута старэнькая бярданка. Лілася песня:

Заплачут братья мои, сёстры,
Заплачет мать моя, отец.

І песня гэта ніяк не ўвязвалася з цвятлівай прыродай і настроем Пахома. Ён здзіўлена паглядзеў на старога і запытаў:

— Што, ад'язджаеш?

Стары адмоўна паківаў галавою, паглядзеў на свае боты, пакруціў у руках бразготку і адказаў:

— Не бяруць... На вугаль не ўзялі... будаваць на вадзе гідрастанцыю не ўзялі... Да вас у Сібір таксама не бяруць... Кажуць, спецыяліста з мяне не выйдзе. Стары задумаўся і заспяваў:

Еще заплачет дорогая,
С которой шел я под венец.

І пад гукі гэтай песні мы бачым на экране, на фоне цвятлівага дрэва хлапца і дзяўчыну. Яны цалуюцца.

— Як я цяпер буду працаваць, Алеся. Ты пабачыш, бо і ты-ж прыедзеш, праўда?

Яны сядзелі, шчыльна прытуліўшыся адзін да другога. Лёгкія павевы ветра абвявалі іх пяшчотным шолахам.

— Нам будзе так добра...

— Будзеш разам са мною вучыцца...

Алёся шчасліва ўсміхаецца і цалуе яго. Між тым стары, які стаяў перад Пахомам, патаптаўся на месцы і працягваў:

— А спецыяльнасць у мяне ёсць!

Ён грозна застукаў бразготкаю...

— Вартую!..

І трасучы над галавою бразготкай, стары амаль што закрычаў:

— Не толькі што трактары, але і шахту вартаваць магу.

Пахом выслухаў старога нерухома, сур'ёзна і маўкліва. І, быццам скінуўшы з сэрца цяжкі груз, стары амаль шэптам дадаў:

— Яны нават песні патрэбнай на ад'езд не спяваюць... Разумееш!

Стары выпрастаўся і, надаючы паважнасць свайму надломанаму голасу заспяваў:

К крыльцу коляска подкатила,
С коляски старики кричат...

Стары павольна ідзе і песня яго паступова заміраe. І аднекуль здалёк, як далёкае рэха, наплывам на старэчы голас,—усё гучней і гучней, як пераможны гімн, вырываюцца словы:

Одна и та же работа у нас
Мы помним, товарищи, друг о друге.
Одни и те же плакаты у нас
На крайнем севере и крайнем юге.

Выбух за выбухам прагулі па шахтах. Падаў густою масаю карналіт. Па штрэках хутка імчаліся электравозы, скрэперы цягнулі карналітавыя пласты. Бяжыць карналіт па канвееру. Электрычныя раты буравоў спяваюць гучней. Навакол уважлівыя твары рабочых. Апарат ад'язджае ад бурыльшчыкаў і імчыцца з электравозам к вершлагам шахты.

Нібы даганяючы электравоз, гучыць выбух, які перакрывае ўсю сімфонію гукаў падземнага горада. І вось ужо людзі бягуць па штрэках і да вершлагаў.

Выбух гудзе і перакачваецца і нейчая рука разбівае пажарны сігнал.

Недзе наверсе запаліліся трывожныя сігнальныя аганькі і пераліваюцца звонам.

Мы бачым, як каля спускавой пляцоўкі стаіць атрад выратоўчай каманды.

Туга абнімаюць у машынным аддзяленні стальныя тросы грандыёзныя барабаны. У габінеце дырэктара стаіць некалькі чалавек. Бесперапынныя званкі тэлефона сведчаць аб тым, што здарылася нешта вялікае і трывожнае.

Клець падымае шахцёраў групу за групай.

Усхвалёвана гаворыць Эдэльга.

— Я не магу зразумець... У нас гэтага ніколі не было... Я зараз высвятлю...

Газавая плёнка наплывае мацней і мацней.

Яна захоплівае усё новыя і новыя штрэкі.

Бесперапынна выразна працуе клець. З максімальнай хуткасцю яна падымае наверх апошнія атрады шахцёраў.

Эдэльга падышоў да стала, на якім раскінуты план шахт. Ён паглядзеў за стрэлкамі, якія паказвалі плынь вентыляцыі.

Ва ўсёй яго фігуры відаць вялікая ўсхвалёванасць і разгубленасць.

Газ слаўся па столі штрэкаў і мяняў абрысы.

* * *

У паліце, каля парт‘ер, у гасцініцы ў Менску стаяў Рудніцкі. Ён узяў ключ ад нумару і разам з ключом яму парт‘е перадаў ліст і тэлеграму.

Рудніцкі паглядзеў на ліст:

„Менск гасцініца Еўропа, інжынеру Рудніцкаму, для Эміліі Эдэльга“.

Рудніцкі пераклаў ліст у другую руку і раскрыў тэлеграму: „Неадкладна выязджайце. Ваша меркаванне наконт газаноснасці пацвердзілася. Работы спынены.“

Ён сунуў ліст у кішэню і запытаў парт‘е:

— Калі ідзе кур‘ерскі цягнік?

— Восем пяцьдзесят тры.

Рудніцкі паглядзеў на гадзіннік і гадзіннік паказваў шэсць сорак пяць.

Рудніцкі яшчэ раз паглядзеў на тэлеграму.

* * *

Эдэльга сядзеў за сталом у сваім габінеце. Паглядзеўшы на гадзіннік, ён ізноў схіляецца над чарцяжамі. Урэшце, адкладвае ў бок чарцяжы, узнімаецца і ідзе па пакоі.

Ён падыходзіць да радыё і, ужо было дакранаецца да прыёмніка, але штосці ўспомніўшы, аднімае руку і трывожна пачынае ізноў хадзіць з кутка ў куток. Гадзіннік б‘е дзевяць разоў і іграе знаёмую мелодыю. Эдэльга ізноў садзіцца за чарцяжы, але ён не бачыць іх.

Гэта быў такі момант, калі чалавек глядзіць перад сабою і нічога не бачыць. Гэтак сядзеў над чарцяжамі Эдэльга, а позірк яго быў накіраваны ў адзін невядомы нікому далёкі пункт. У габінет вайшоў Крраў.

— Я прышоў паведаміць вас аб тым, што ёсць тэлеграма, што цягнік, з якім едуць Эмілія і Рудніцкі, з прычыны снежных заносаў, позніцца.

Эдэльга аддаўся сваім думкам і, здавалася, не чуў таго, што яму гаварыў Кррау.

— Так... гэта вялікая катастрофа,—працягваў гутарку Кррау.

— Добра яшчэ, што яна абышлася без чалавечых ахвяр... Ва ўсякім разе руднік будзе стаяць больш месяца.

Кррау ўсміхнуўся і сказаў:

— Падлічыце наколькі ім гэта будзе каштаваць!

— Ва ўсякім разе я прыму ўсе меры для таго, каб ім гэта менш каштавала,—сказаў Эдэльга.

Кррау доўгім позіркам паглядзеў на Эдэльга, потым выразна выгаварваючы словы, сказаў:

— Я думаю, што пасля ўсіх вашых рознагалоссяў з Рудніцкім, і вашага ўпартага нежадання ўзяць на сябе папярэдняга бурэння... лічыць гэты выбух выпадковым больш чым дзіўна...

Эдэльга ўскочыў з крэсла.

— Вы не маеце права лічыць мяне несумленным чалавекам...

Кррау падышоў шчыльна да Эдэльга і амаль што ва ўпор праказаў:

— Значыць вы ізноў гатовы служыць ім?!

Эдэльга паглядзеў на Кррау і адышоў. Наступіла цішыня, якую парушыў гадзіннік сваім боем.

— Я вас прашу спаткаць іх,—сказаў Эдэльга.—Я павінен падрыхтаваць да паседжання свой план ліквідацыі катастрофы. Перадайце Рудніцкаму, каб ён адразу-ж з цягніка ішоў да дырэктара, а я пачакаю Эмілію дома.

І паглядзеўшы на гадзіннік, дадаў:

— Я думаю, што я не спазнюся на паседжанне.

— Добра,—сказаў Кррау,—я паклапачуся ўгаварыць Эмілію, каб яна вярнулася дамоў.

— Што вы гэтым хочаце сказаць?—з злосцю запытаўся Эдэльга.

— Толькі тое, што нам цяжка зразумець гэтыя загадкавыя натуры.

Уздоўж сталі штрэкаў тонкімі звілінамі марскіх туманоў сцелецца газ.

... пустымі сталі штрэкі. І свярдлы, якія зусім нядаўна свідравал новыя тоны карналіта, ляжаць без справы.

Якімсці пакінутым, беспрытульным здаецца стоячы у кутку электравоз.

* * *

Да новай, у светлай фарбе станцыі, „Салікамск" падышоў цягнік.

На пероне Кррау ўжо гаворыць Эміліі:

— Я прапаную табе, Эмілія, паехаць непасрэдна на спатканне, тым больш, што Эдэльга безумоўна ўжо там.

Павольна з зацямнення з'яўляецца хмуры і заклапочаны твар дырэктара.

Перад расхінутым планам шахт стаяў Рудніцкі і, падкрэсліваючы алоўкам, гаварыў:

— Тут я прапаную паставіць цагляную перагародку і добра яе ўмацаваць, зрабіць яе так, каб не праходзіла паветра. Перад самай перагародкай трэба прабіць вентыляцыйную збойку на вентыляцыйны штрэйк.

Рудніцкі алоўкам паказаў на чарцяжы.

— І тады паветра, атручанае газам, пойдзе... вось сюды, да вентыляцыйнай шахты. Гэтыя пытанні мы абдумалі яшчэ ў цягніку. Я мяркую, што мы не памыліліся.

На паседжанні сядзіць Эмілія, якая з трывогаю кідае зірк на свой маленькі ручны гадзіннік.

Рудніцкі працягвае:

— Добра было-б выслухаць план Карла Густававіча, але, на вялікі жаль, Карл Густававіч да гэтага часу не прышоў...

* * *

Эдэльга паглядзеў на гадзіннік і пачаў павольна апранацца. Ён апрануў паліто, потым капелюш, уважліва паглядзеў на сябе ў люстэрка і, узяўшы з кутка тростачку, выйшаў.

Эдэльга спускаўся па лесвіцы цяжка і грузна. Ступенькі скрыпелі пасля кожнага кроку.

Калі выйшаў на вуліцу—перайшоў цераз дарогу і, затрымаўшыся позіркам на паштовай скрынцы, абапіраючыся на тростачку, пайшоў на паседжанне.

Паседжанне ў дырэктара было ў разгары. Рудніцкі ўсё яшчэ гаварыў:

— Цяжкасць у тым, што вентыляцыйную збойку трэба прайсці не выбухамі, а з адбойнымі малаткамі таму, што мы можам выклікаць новыя газавыя выбухі. На гэту збойку, якая будзе роўна тром метрам, нам трэба ад трох да пяці дзён. Само сабою, што працаваць прыдзецца ў процівагазах.

Пад канец выказвання Рудніцкага на паседжанне прышоў Эдэльга. Ён акінуў усіх прысутных позіркам і, заўважыўшы Эмілію, сеў у самым канцы стала. Ён аблакаціўся на руку, і ўся яго застыглая ў такой позе фігура гаварыла пра вялікую зморанасць.

— Карл Густававіч, скажыце, колькі часу вам, па вашым меркаванням, патрэбна для таго, каб пусціць шахту?

* * *

Эдэльга нібы прачнуўся, паглядзеў на дырэктара і стараючыся ні на Эмілію ні на Рудніцкага не глядзець, адказаў некуды ў бок:

— Я сёння яшчэ нічога не магу сказаць пэўнага... Я яшчэ недастаткова прадумаў, але мяркую, што месяц ці два для гэтага неабходна.

— Ну, зразумела...—сказаў дырэктар.—Будзем лічыць паседжанне закончаным.

* * *

Ноч...

Свеціць месяц.

Скрыпіць пад нагамі снег...

Маўкліва, не кажучы ні слова, ідуць Эдэльга, Эмілія, Рудніцкі.

Каля дома Рудніцкага ўсе спыніліся.

Эдэльга насцярожана паглядзеў на Эмілію.

— Ну бывайце, здаровы, Грыгоры Якаўлевіч,—проста сказала Эмілія.

І Эдэльга дадаў:

— Спакойнай ночы.

Свяціў месяц... Скрыпеў снег пад нагамі. Эмілія гаварыла мужу:

— Ведаеш, Карл, мне здаецца, што Рудніцкі падаў рэальную прапанову.

— Не ведаю,—гаворыць Эдэльга. Думаю, з гэтага нічога не выйдзе...

— Чаму?

— Хто гэта з рабочых, рызыкуючы жыццём, згодзіцца спускацца ў газаносную шахту?

— Але-ж для людзей не будзе ніякай небяспекі,—сказала Эмілія.— Яны будуць працаваць у процівагазах.

— У процівагазах?—усміхнуўся Эдэльга.—Што гэта, фронт?

* * *

Каля спускавой пляцоўкі ў коле вялікага натоўпа рабочых стаяў Мікіта.

— У чатырнаццатым годзе быў фронт?—запытаўся Мікіта і тут-жа сам адказаў:

— Быў!..

— А наша будаўніцтва—гэта фронт?—Фронт!

— Ёсць: Пішы, Алёшка, што я па свайму, значыць, жаданню патрабую, каб мне выдалі процівагаз і апусцілі ў шахту.

— І мяне,—кажа Пахом.—Я там дакляраваў за ўсіх вас, што мы з веснавой пасеўнай дадзім калій. Слова свае даў. Вы-ж мяне сваім дэлегатам выбралі. Яны мне, дэлегату, і так сказаць, вартаўніку, даверылі... Дык як-жа цяпер з маім словам будзе?

У нерашучасці стаялі рабочыя. З аднаго боку нібы, ісці трэба, а з другога, усёж такі газ.

Асобна падыйшла і стаяла група немцаў.

Адчувалася, што яны гатовы прыняць удзел у агульнай рабоце, але ўсё-ж такі нечага чакалі.

Да рабочых падышоў Шультке. Ён акінуў позіркам тых, што сабраліся і сказаў:

— Алёшка запішыце мяне.

Потым паглядзеў і працягваў:

— Геносен... таварышы. Штодзённа ў сябе на бацькаўшчыне мы спускаліся ў шахты і штодзённа перад спускам нам гаварылі: „Глюкаўф",—што азначае „шчасліва ўверх". Шультке акінуў наўкол позіркам і застанавіўся на сваіх таварышах, нямецкіх рабочых.

— Я, таварышы, успамінаю адзін выпадак з Фрыдрыхам Мюллерам і Аскарам Мансфельдам. Гэта былі пажылыя рабочыя—бацькі сямей. Калі ў Ганноверы ў шахты хлынула вада, стары Мюллер сказаў мне:—Шчаслівы выпадак забяспечыць сям'ю пад старасць. І перш, чым я паспеў што-кольвеч зразумець, Фрыдрых Мюллер разам са старым Мансфельдам кінуліся ў заліваемую вадой шахту. Іх абвясцілі героямі. Сем'ям выдалі страхавую прэмію... і цераз месяц выселілі з кватэр. І зноў штодзённа мы слухалі „глюкаўф", „глюкаўф", але шчаслівымі ад гэтага не былі. Першы раз на савецкай зямлі—і дазвольце мне назваць яе сваёй зямлёй,—мы шчаслівы. І дзеля шчасця ганноверскіх, уэльскіх і рурскіх Мюллераў і Мансфельдаў мы з вамі спускаемся ў шахту і шчаслівымі падымаемся наверх.

— Глюкаўф, таварышы,—скончыў Шультке і адышоў ад папругі процівагаза.

— Ну, калі гэта дзеля немцаў,—дык цяхай немцы і лезуць,— сказаў нехта з натоўпу.

— Хто гэта сказаў?!—сурова запытаў Мікіта.

— Я, сказаў!

Нізкарослы хлапец выйшаў на сярэдзіну.

Мікіта акінуў яго позіркам з галавы да ног і пракказаў:

— Што такое тваё „я" калі гэта „я" гавару...

Мікіта паглядзеў наўкола і працягваў:

— Я, які з Міхаілам Іванавічам Калініным зямлю араў, я, які з Варашылавым ваяваў і, як апошні аргумент,—раптам нечакана для сябе самога чамусьці сказаў:—Я, які Кліменцію Ефрэмавічу каня падарыў...

— Ці не гэтага?—з усмешкаю выклікнуў прыземісты хлапец, паказваючы на партрэт, на якім Кліменцій Ефрэмавіч зняты на кані.

Мікіта на хвіліну задумаўся, потым цвёрда і ўпэўнена сказаў.

— Гэтага, Васькаю звалі.

Рабочыя хісталіся і Мікіта працягваў:

— Зараз не чатырнаццаты год, каб так разважаць. У чатырнаццатым годзе мяне не было. Гэта значыць, што я жыў, але мяне...—Мікіта задумаўся...—мяне, як такавога, не было... І Пахома не было, і Шультке не было, і вось нас, як такавых не было, таму што і Савецкага саюза, як такавога, не было.—Мікіта задумаўся.—І Алёшкі не было... Алёшка гэта таксама міліметр. Ты, Пахом, ведаеш, што такое міліметр?

— Міліметр... міліметр... гэта такая вялічыня...

Пахом паглядзеў на Алёшку:

— Міліметр такая вялічыня, якая заслугоўвае ўсякай увагі.

— Так,—адказаў Мікіта. Гэтак, значыць—новая велічыня.

— І вось, калі ўсе мы,—працягваў Мікіта,—усе мы, як такавыя... дык няхай будзе ён немец, яўрэй, альбо рускі, усёроўна, толк і яго будзе адзін і вораг—таксама.

Нехта пачаў надзяваць процівагаз, і вось ужо па адным далучаліся рабочыя да чаргі, якая на чале з Рудніцкім, Мікітам і Шультке сабралася каля клеці.

Людзі стаяць вытрымана, спакойна. Зачыняюцца дзверы клеці, і пры святле электрычных ліхтароў фантастычнымі здаюцца фігуры рабочых у процівогазах.

Ніжэй і ніжэй спускаецца клець і скрозь лёгкую, амаль празрыстую, плёнку газа ужо можна разглядзець цэнтральны квершлаг.

Людзі ўпэўнена ідуць уперад, пакуль не даходзяць да сцяны, якую трэба перамагчы.

Уключаны рубільнікі.

Цішыню праразае толькі цокат пнеўматычных малаткоў, які стварае ўвесь настрой і ўвесь рытм работы. Змена змяняе змену, але цокат малаткоў бесперапынна і роўнамерна гаворыць аб тым, што людзі не адыйдуць ад сцяны, пакуль не зменяць плыні атручанага газам паветра.

Пад гэты роўнамерны цокат малаткоў мы бачым людзей наверсе, якія чакаюць сваёй чаргі для спуска ў шахты.

Людзі ходзяць па спускавой пляцоўцы і прыслухоўваюцца да таго, што робіцца пад зямлёй. Людзі ведаюць, што ад таго, што зараз адбываецца ў шахце, залежыць шмат.

* * *

Усё змяшалася ў Эдэльга.

Былі згублены пункты апоры, былі забыты звычкі.

Эдэльга, чалавек вялікай энергіі і ўпэўненасці, сядзеў зараз зусім знішчожаны.

— Я вас папярэджваў,—казаў яму Кррау,—што той, хто не выйдзе адгэтуль у час, спозніцца.

— Вы спазніліся... Вы самі падсеклі сук, на якім сядзеді, падсеклі для сябе і для нашай бацькаўшчыны... у Рудніцкага больш вострае вока і большая эрудыцыя. Гэтага мы з вамі не даглядзелі.

Кррау паглядзеў на Эдэльга і вышаў.

У пакоі засталіся Эмілія і Эдэльга. Эдэльга прайшоўся па пакоі і застанавіўся каля Эміліі, якая сядзела ў крэсле.

— Я, як выявілася, быў не пісьменным у сваёй рабоце. Мае вучні аперадзілі мяне. Так... Так... Яны мяне аперадзілі для таго, каб потым выгнаць мяне, а я... замест таго, каб сачыць за работай, бегаў і шукаў цябе. Я не хацеў слухаць нічога аб магчымасці газаносных узрываў, таму што гэта было прадыктавана Рудніцкім... Я спецыяліст-інжынер... з трыццацігадовым стажам... былы галоўны інжынер... шахты „Эліза"... былы галоўны кансультант Саюзкалія.

У пакой увайшоў з радаснай усмешкай Рудніцкі.

— Карл Густававіч, я прышоў вас віншаваць: вораг адступае! У трэцім штрэку ўжо можна працаваць.

— Навошта вы мне гэта кажаце? Для таго, каб здзеквацца нада мною!

Эдэльга быстра падышоў да стала і пачаў пісаць.

— Вазьміце,—сказаў ён, і працягнуў паперку Рудніцкаму.

Рудніцкі прачытаў і, паглядзеўшы ў бок Эміліі, у непаразуменні пацiснуў плячыма. Эмілія падышла да Рудніцкага і, стоячы побач з ім, прачытала заяву свайго мужа.

— Карл Густававіч, калі-б мы з-за кожнай памылкі кідалі сваю работу, мы-б мала зрабілі. Вы інжынер з трыццацігадовым стажам, у вас ёсць столькі работы.

Эдэльга нічога не адказаў Рудніцкаму і выйшаў з пакою.

Эмілія старалася захаваць спакой.

— Рыгор Якаўлевіч, я сама не разумею, што тут адбываецца, тым больш, што Карл Густававіч не палічыў патрэбным напісаць ні аднаго радка.

Рудніцкі зірнуў на Эмілію і, штосці ўспомніўшы, сказаў:

— Я перад вамі вельмі вінаваты.

Ён пачаў хутка шукаць па кішэнях і, урэшце, знайшоўшы ліст, перадаў яго Эміліі і, нібы ў апраўданне, сказаў:

— Я атрымаў яго адначасова з тэлеграмай аб выбуху.

Эмілія чытала ліст, але не выказала ні аднаго слова, збянтэжаная і ўсхваляваная.

Рудніцкі хацеў папрасіць у Эміліі дазволу прайсці да Эдэльга, але паглядзеўшы на Эмілію, не сказаў ні слова і выйшаў.

Эдэльга неяк нязручна павярнуўся і паглядзеў на Рудніцкага, які ўваходзіў у яго пакой. Заўважыўшы, што Рудніцкі збіраецца яму штосьці сказаць, Эдэльга махнуў рукою і перапыніў яго:

— Вы гэта ўсё, Рыгор Якаўлевіч, геніяльна прыдумалі.

Рудніцкі шчыра ўспрыняў словы Эдэльга і адказаў:

— Карл Густававіч, калі вы лічыце мае меры па ліквідацыі аварыі геніяльнымі, дык я прышоў расказаць яшчэ адну, яшчэ больш геніяльную навіну... Я жанюся!

Эдэльга злобна паглядзеў на Рудніцкага. Сам не ведаючы, Рудніцкі нанёс вялікі ўдар.

— Яна зараз на практыцы ў Данбасе і сёння я паслаў ёй тэлеграму: „Шахту пусцілі. Люблю. Цалую. Грыша".

Эдэльга адышоў у бок, потым падышоў да Рудніцкага і заплакаў.

Эмілія стаяла перад Крраў высокая, гордая, моцная, з расчырванеўшымся тварам, з распаленымі вачыма.

— Чытайце,—сказала яна і працягнула яму ліст.

Крраў стаяў і не гаварыў ні слова, напружана ўглядаючыся ў твар Эміліі. Потым узяў ліст і пачаў яго чытаць.

Эмілія не зводзіла вачэй з Крраў, стараючыся як лепш прачытаць яго думкі. Між іншым па твары Крраў цяжка было зразумець, што ён адчувае ў гэту хвіліну.

Кррау прачытаў і заклапочана адказаў:

— Неўрастэнік!

Зняважаная да глыбіні душы Эмілія ішла проста на Кррау.

— Вон адгэтуль! Вон!.. Чуеце!

Кррау, стараючыся захаваць гонар, разгублена адыходзіў да дзвярэй.

І калі Эмілія ўвайшла ў пакой, Эдэльга ўбачыў чалавека, які доўга барукаўся з патрабаваннямі наплакацца і, урэшце, даў волю слязам,—але ўсё-ж яшчэ стараўся стрымаць сябе.

Рудніцкі не ведаў, што рабіць. Вельмі крануты і здзіўлены гэтым горам, ён стаяў разгублены і нічога не разумеў.

Быстрым ласкавым рухам Эмілія ўзяла мужа за руку. На некалькі хвілін яна пакінула свае рукі ў яго руках, але пры гэтым адчувалася, што яна бязмерна ўсхвалявана.

— Я ніколі не думаў,—сказаў Эдэльга,—што могуць быць такія вялікія газаносныя выбухі.

І пасля невялікай паузы дадаў:

— І такія надзвычайныя людзі.

* * *

На перроне вакзала з чайнікам, прывязаным да папругі, мітусіўся Пахом. На пуці стаяў састаў, нагружаны каліем і ўпрыгожаны лозунгамі. І калі раздаўся гудок паравоза, Пахом рынуўся да пляцоўкі вагона, на якой ужо чакаў яго Алёшка. Мікіта падбег да пляцоўкі, працягваючы пачатую з Пахомам гутарку, але Алёшка перагнаў яго, крыкнуў:

— Дапамажы, Мікіта, каменданту эшалона ўзлезці.

Пахома падсадзілі на пляцоўку, і цягнік пачаў павольна адыходзіць. Праводзячы састаў, Мікіта канчаў пачатую гаворку:

— І вось Міхаіл Іванавіч і гаворыць: Як толькі поўнасцю пойдзе руднік, дык вам ардэны і выдадзім. А я яму і адказваю:—пастараемся Міхаіл Іванавіч, а наконт ардэноў мы і пачакаць можам.

Цягнік ішоў усё быстрэй і ўжо наўздагон яму Мікіта крыкнуў:

— Усёроўна ардэны ад нас нікуды не дзенуцца!

Мільгануў апошні вагон, на якім крэйдай было напісана:

*„АД САЛІКАМСКІХ ШАХЦЁРАЎ БЕЛАРУСКІМ КАЛГАСНІКАМ“*

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

## ГАРБУН*)

### РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### ХЛЕБ

1

Сонца знікала за стрэхі,
За дрэвы, за панскі сад,
Калі скакаў праз Арэхі
У пыле і ўстоме атрад.
Трымаючыся за лейцы,
Плылі ў вечаровы спакой
Прыгожыя продармейцы
Над радаснаю зямлёй.

2

Насустрач ішлі барадатыя,
Прыбраныя ў рушнікі,
Гасцей сустракаць багатыя
І хітрыя мужыкі.
Трымаючы сцяг чырвоны—
— Ура!—крычалі яны,
І нізка б'ючы паклоны,
— Адкуль вы?—пыталі.
— З вайны!

3

І бег ад хаты да хаты,
Гасцей размяшчаючы, Ром,
І іх частавалі дзяўчаты
Святочным тады пірагом.
І мёд быў з пчаліных хатак,
І рыба з вуд рыбака,
І рыжы рагаты статак
З атаў прынёс малака.

4

Глухою поўночнай парою
Яны ўсе заснулі калі,

* Канец. Гл. „П Р“ №№ 6—7, 8

Вяскоўцы забралі ў іх зброю,
А коні на хутар вялі.
І ў цемры маўклівай, глыбокай,
Праз гул дарог і праз сон
Прымчаў сюды з пушчы далёкай,
І ўсё гэта бачыў Антон.

5

У страляніне і ў стоме
Сяло пакідаў продатрад.
Самотна плылі на пароме
Байцы і глядзелі назад.
Там іхнага камісара
Замкнулі ў дубовую клець...
Пярун паліў дрэвы, а хмара
Расла і гарэла, як медзь.

6

Антон сачыў. Спачатку Ром
У дзверы біў старанна,
У камісара пад вакном
Пасля хістаўся п'яна.
Пад ім гула зямля, як склеп,
А поўначы, трывожна,
І поўз па травах яго шэпт
Таемна, асцярожна:
— Хаваць цябе жывога ў дол
Я заўтра загадаю,
Мой брат табе ўжо высек кол
З асінавага гаю!
Ром рагатаў, а камісар
Не адказаў нічога,
І быў спакойны ў вязня твар,
Далёкаю—трывога.
— Праклён табе ад нашых глеб,
Ты край трывожыў мірны:
Камбеды—хлеб, комуны—хлеб,
У склепы лез і ў свірны...
Ром рагатаў:—Праклён! Праклён!—
А сам знікаў у змроках;
І падымаўся з траў Антон
Услед па яго кроках.

7

Ен доўга адгібаў прабой,
І выў ажно ад болю,
А потым вязня за сабой
Вёў комунар на волю.
Казаў яму:—За мной, за мной!
Тут конь ёсць мой і рэчы.
На ім паскачам мы з табой
У комуну, чалавеча!
Там будзеш ты, як друг, як госць,

Там зробіш свае справы!
Вялікія ў нас зоры ёсць!..
Дубы-ж гудуць! А травы!..
Працуем дзень, працуем ноч
І вечары, і ранкі...
Мы дрэва пілім, палім корч,
Капаючы землянкі.
Гарыць агнішча, дол дрыжыць,
А ў твар б'е дождж і сцюжа...
Мы ў тых землянках будзем жыць,
Як у харомах, дружа!
Даніла Дыб і немец Курт
Куюць у лесе зброю—
На нас пагром рыхтуюць тут
І мы чакаем бою!

8

І чуў Антон адказ такі:
— Скачы-ж туды, дзе зоры!
Імчы адзін паўз ветракі,
Мінаючы вазёры!
Сюды склікай людзей сваіх—
Хавацца ў лесе годзе!
Скажы ім, каб у стрэльбах іх
Былі куркі на ўзводзе.
Хутчэй! бо голад праз франты
Ідзе ўжо у сталіцы...
Гарыць совецкія парты,
Казацкія станіцы!

## ЗАБОЙСТВА

1

На балоце гонг аб дрэва
Нечакана ўдарыў сам,
Захістаўся ўправа, ўлева...
Шандабыла скача там!
. . . . . . . . . . . . . . .
У дрыгве і пад карчамі
Пракапана магістраль,
Карнявішчамі, імхамі
Зарасла яна амаль.
Чуе гонг сваё выгнанне
І плыве з балота звон,
Комунараў на змаганне,
І да працы кліча ён!
. . . . . . . . . . . . . . .
І гудуць лясы ў пагрозе,
А між дрэў блішчыць агонь,
У прысадах, на дарозе
З цемры вырас коннік, конь.
Як віхор магутнай сілы,
Конь імчыць пад ветракі;

У яго на скронях жылы,
Як дубовыя сукі!
. . . . . . . . . . .
Ля вогнішча комунары
Рыхтаваліся ў паход:
Набівалі патронташы,
Стрэльбы ставілі на ўзвод.
. . . . . . . . . . . . . . .
Шкандыбала ў соснах, дзікіх
Прыпыніў каня свайго
Заірзаў і капытамі
Ў дол ударыў конь яго.
Ён праз кручы і выбоі,
І праз вогнішчавы дым
Бег ізноў на шлях:—за мною!
І скакалі ўсе за ім.

2

— Гаспадар!—загукаў
Даніла.—
Адчыняй насцеж гумны
і склеп,
Жыта сёлета добра
ўрадзіла,
Мы прышлі малаціць свой
хлеб!
Пачынаецца так
Сказ аб хлебе,
Сказ пра страшную ноч,
Калі
Зоры ярка гарэлі
Ў небе,
Чалавек паміраў
На зямлі.
. . . . . . . . . . . . .
Сеўшы ў крэсла за стол
дубовы
На куце, рагатаў
гаспадар.
— Дзе ключы?—малады
і суровы
Запытаўся ў яго
камісар.
Ром зірнуў яму ў вочы.
Стаў роўна,
І ад злосці затросся,
Як кат,
Потым кінуўся ў дзверы
Раптоўна,
Потым грозна паклікаў ён:
— Брат!
І маўчалі стагоднія
хвоі;
Яны ведалі толькі
адно,

Як у братавым цёмным
пакоі
Ў лес адчынена насцеж
акно.
Што ў глыб леса бег брат
І нёс зброю—
Дубальтоўку, дубец
І калун,
Што апошні раз біўся
Аб хвою
Шандабыла Антон,
Гарбун,
Калі бачыў, як дрэвы
крывыя
Падымаліся, падалі
ў ноч
Калыхаліся травы
чужыя,
А па кручах бег камень
і корч.
Шандабыла праз лес
Ад поўначы
Аж да самае раніцы
Поўз,
Закрываў яго сумныя
Вочы
Вераснёвы, світальны
Мароз.
Нават цяжка мне выказаць
вершам—
І як нёс, і як клаў
на парог,
І як выў над забітым,
памершым
Валацуга і парабак
Рог.

3

Потым там іх піла
Галасіла,
Потым падала ў лесе
Сасна.
Ром сякерай засек
Шандабылу
І нябожчыку будзе
Труна.
Не прасілі яны
Чужой ласкі—
Самі пільшчыкі,
Цесляры...
Распілоўвалі дрэва
На часткі,
Габлявалі яго
На зары.

4

Як хавалі яны
Шандабылу,
Быў цяжкі і бясконцы
Іх шлях:
Неслі гроб на сябе
Да магілы,
Чорны сцяг і чырвоны
Сцяг.
А хавалі яны яго
У полі,
Сярод восенскіх красак
І бур,
У мясцовасці гэтай
Ніколі
Не было такіх мужных
Хаўтур.
Там нябожчыка
Паміналі
Людзі з вёсак вакольных
І сёл,
Яны доўга над гробам
Стаялі
І пад імі халодны быў
Дол.
Калі ж труп засыпалі
Зямлёю,
Змоўкла ўзлессе,
Прыслухаўся стэп:
Над магілай апошнім
Боем
Тройчы біла дванаццаць
Стрэльб.

## ЭПІЛОГ

1

Быў час між лета і вясны
Спачатку дрэвы сонца грэла,
А потым білі пяруны
І хата цэлы дзень гарэла.
У хаце жыў Агей Жаўна
І не заспеў быць на пажары,
Ён перад гэтым ад відна
Касіў, араў свае папары.
Калі ён прыскакаў, агнём
Ахоплены былі ўсе сцежкі,
Вакол стаяў і трэск, і гром,
І сыпаліся галавешкі...
Згарэлі ўсе будынкі, сад
І дзве калоды пчол пад клёнам,
А жыта сек за хатай град

І ў сосны біўся ён са звонам.
Раўла стыхія хмар і рэк,
І рагатала на ігрышчы,
Яе ахвяра—чалавек
Стаяў адзін на папялішчы.

2

Там, дзе крывавыя сляды,
Там, дзе халодны жвір магілы,
Растуць будынкі і сады
Імя Антона Шандабыла.

3

У комуну дарогай
бясконцай,
Што праз рэкі, лясы
ідзе ў свет,
Коні быстрыя
скачуць пад сонцам,
Госці едуць
на сход,
На банкет.
Першы госць—сакратар райкома
Праз палі едзе ў даль
спакваля
Міма чэрвеньскіх красак,
вядома,
І высокага жыта
каля.
Бачыць: травы, а ў травах—
магіла,
Вецер цені на ёй захістаў.
І тут злазіць з каня
Дыб Даніла
Адпачыць сярод жыта
і траў.
І начальнік палітаддзела
Едзе ў госці праз лес
на бальшак,
Пад ім конь скача ўпэўнена,
смела,
Дрэвы-ж, кручы нагадваюць,
Як
Быў ён некалі тут
камісарам,
Гэты лес і троп гэты
якраз,
Перадаўшы наказ
комунарам,
Мінаў конна і пеша
ў той час.

4

Гарацъ ярка сцягі
над комунаю,
Ёй сягодня пятнаццаць
год.
Старшыня стаіць
за трыбунаю,
І прыехалі госці
на сход.
Урачыстыя будуць
праводзіны
Большэвіцкай вясны
і сяўбы,
У высокае лета
ўваходзіны,
Свята працы і
барацьбы!

1932-34.

---

ІВАН ЛЭ

# РАДЫЁ-БОЛЬШЭВІКІ

...„гэта не адраджэнне, а выраджэнне Нямеччыны... гэта толькі паказ самых подлых людскіх пачуццяў, паказ найбольшай чалавечай ганьбы, жорсткасці і беззаконня..."

*Альфрэд Керр* (нямецкі лева-буржуазны тэатральны крытык).

Перадгісторыя падзеі пачыналася яшчэ за некалькі дзён і мела самы звычайны для фашысцкага Берліна характар.

Хто такі Карл Таўбер, можа і не цікава было-б ведаць, калі і так уся Нямеччына перапоўнена новымі імёнамі. Але ў падзеі гэтай імя прагучэла сярод стогнаў зкатаваных рабочых, пралунала, як пратэст, як знак барацьбы і неперарможнасці сілы пролетарыята.

Карл Таўбер толькі другі месяц, як быў без сталай работы. Яго, найлепшага майстра з цэха радыё-прыладаў у Вертгейма, звольнілі апошнім і то пасля адмаўлення перакваліфікавацца. Цэх перабудоўваўся для вырабу рэчаў вайсковага характара, і Карлу трэба было сайсці да обер-лейтэнанта Гейнеса, даць яму абяцанне ў вернасці Нямеччыне і згадзіцца працаваць за васемнаццаць марак у тыдзень. Зарабляючы на працягу трох гадоў у таго-ж Вертгейма трыццаць адну марку, Карл Таўбер не бачыў ніякай карысці пераходзіць на васемнаццаць.

Адмовіўся зайсці да обер лейтэнанта.

У сваім жыцці гэта быў звычайны чалавек. Жывуць яны з Анель ужо адзіннаццаць гадоў, маюць трое дзяцей і ў нямецкую „нацыю"— цяпер вельмі моднае слова ў Нямеччыне—абодвы вераць не больш за ўсякага свядомага рабочага. Абцяжараны дробнымі дзяцьмі, Карл сваёй работаю і паводзінамі ў цэху не даваў ніякага права ні старэйшаму майстру, ні інжынеру-канструктару і начальніку цэха, Фон-Брэдэлю, лічыць сябе гультаём і прагульшчыкам. Найнавейшыя канструкцыйныя змены Фон-Брэдэля Карл засвойваў на хаду, без найменшай затрымкі вытворчага працэса, і гэта давала мажлівасці Вертгейму навізною прадукцыі канкураваць з найлепшымі фірмамі. Маючы нязменную трыццаць адну марку тыднёвага заработка, Карл спадзяваўся, што яго выкінуць з гэтага прадпрыемства толькі тады, як яно спыніць сваё існаванне. Ці яно спыніць яго калі-небудзь, гэта не было для Карла праблемай дня, бо інерцыя сталых трыццаць адной маркі збівала з такіх думак. І ён сумленна працаваў нават тады, калі з прадпрыемстваў забіралі актыўнейшых рабочых, меўшых ці не меўшых адносіны да дома „Карла Лібкнехта". Куды іх забіралі, навошта,— усё гэта не было тайнаю нават у Вертгейма на прадпрыемстве, дзе больш наглядальнікаў, чым рабочых.

Тое, што Вертгейм не чысты арыец, а яўрэй, нісколькі не ўплывала на яго камерцыйныя перспектывы. Нездарма імя Вертгейма стаяла адным з першых у спіску нелічаных дабрадзеяў-прамыслоўцаў, што падаравалі Гіндэнбургу ў дзень яго васьмідзесяцігадовага юбілея, найбагацейшы маёнтак Нейдэк. Але-ж ўся прамысловасць Нямеччыны наперабой кінулася вырабляць найнавейшую радыё-апаратуру, і найлепшыя вертгеймаўскія апараты пачалі ўсё больш і больш залежвацца ў крамах, і Вертгейм вырашыў перайсці на больш устойлівыя вырабы.

Толькі дома, на Остэнштрасе, Карл дакладна зразумеў, што з ім зрабілася. Яго выкінулі на вуліцу, як выкінулі Кюнца, Лізберга, Штэйна.

І павінен цяпер штодня думаць пра тое, як заўтра пракарміць немалую сваю сям'ю.

Але ён добры радыёмайстар, ён не можа гуляць і беспрацоўным. Вось толькі трэба сабраць заказчыкаў, заахвоціць іх сваёй спраўнай работай. А там напэўна зменяцца абставіны...

Як яны зменяцца, Карл не меў уяўлення. Але сама думка, што усё-такі зменяцца, ён чуў ад Кюнца і, верачы яму, чакаў гэтай змены. Таварышы яшчэ з імперыялістычнай вайны, Кюнц і Лізберг зайшлі да яго ў той-жа дзень, як толькі даведаліся, што і Таўбер ужо без працы. Сорамна было гэтых таварышоў. Было вядома, што Карл трымаўся трохі ў баку ад іх, асабліва ад Кюнца. Цяпер захацелася і пра гэта ім сказаць і запэўніць, што ён ужо не асуджае нават іхнюю ранейшую прыязнь да дому „Карла Лібкнехта". Ці быў Кюнц комуністам ці не—Карл не ведаў і вельмі здзівіўся, што той пасля фашысцкага перавароту хаваецца ад паліцыі...

Гэтыя таварышы паабяцалі надаслаць Карлу заказчыкаў, надсылалі самі сабраную імі для рамонту апаратуру, і Карл мог, працуючы дні і ночы, усё-ж зарабіць сабе дваццаць-дваццаць пяць марак на тыдзень.

Ну, вось, здаецца, і ўсё пра Таўбера з яго мінулага...

У пачатку мая 1933 года у позны цёмны вечар да Карла прышоў з радыёпрыёмнікам стары рабочы, зусім яму незнаёмы.

— Мяне прыслаў Кюнц, калі такога ведаеце. Кажа, майстар вы добры.

— Кюнц?—прыемна. Сядайце і паказвайце, што там у вас... Столькі работы цяпер...

— Гэта горш, калі вы так перагружаны... Трэба тэрмінова...—занепакоіўся госць і перастаў разматваць з газет свой радыёпрыёмнік. Карлу здалося, што заказчык абразіўся, бо аблічча ў яго нібы замкнулася на замок пасля такой карлавай перасцярогі і па вачах прыкметна, як апанавала ім унутранае раскаянне.

— Вы можа і абразіліся. Я-ж толькі сказаў... Але я яшчэ не ведаю, што ў вас за работа. Мусіць, дробязь нейкая і, да таго-ж... Кюнц...

Карлава згадка пра Кюнца павярнула думкі старога. Ён, нібы вырашаючы нейкую складаную праблему, адказаў не адразу. Ці мо' сцярогся Анэль, якая праходзіла па пакоі, ці абмяркоўваў шчырасць карлавых слоў. І такі вырашыў:

— У тым уся і справа, што рамонт тут не просты. Я, уласна кажучы, і запіску маю да вас ад Кюнца... Але лепей на словах перадам.

І падсеў бліжэй да Карла. У вачах гарэла упартасць ці можа злосць, што сам не можа наладзіць апарат так, як гэта яму патрэбна.

Пачалася ціхая размова двух незнаёмых рабочых, якія стараліся як можна асцярожней трымацца і не выкрыць, часам, таго ўнутранага, што ў гэты час хавалі мільёны нямецкіх пролетарыяў і спаўперызаваных сялян.

— Тут, значыць, не рамонт, а пераробка...

— Пераробка? Дык можа лепш новы апарат прыдбаць? Сколькі іх на паліцах цяпер.—Карл зразумеў ужо, што рабочы (можа разам з Кюнцам, ды і не з адным Кюнцам) доўга думаў, раней чым панесці да яго перарабляць гэты апарат.

— Кажу, лепей новы купіць...

— Вядома, лепш новы, хоць і гэты нядаўна куплены. Але і новы цяпер трэба перарабляць... Не прыймае... разумееце, сілы станцыі... Карл усміхнуўся.

— Вы маеце на ўвазе гэтыя недарэчнасці, што учыняе наша бэрлінская радыёстанцыя са зменнымі хвалямі?

— Ну так... Хвалі што раз мяняюцца, і, разумееце... мы таксама па троху мяняемся, а апарат, ён машына: не можа не падначаліцца добраму майстру.

— Вы і іншыя станцыі слухаеце? Ваш апарат доўгахвальны і здаецца...

— Не, не, што вы! Гэта наш, значыць, нямецкі, цэйсаўскі. Нават Варшаву яшчэ так-сяк зловіць, а ўжо далей не дабірае...

— Толькі Варшаву? Гэта дзіўна...—Карлу ўжо захацелася смяяцца.

— Так, от і мы кажам...—усё так-жа канспірацыйна пацвердзіў рабочы.

— М-да!—працягнуў Карл глыбокадумна,—калі далей Варшавы не дасягае, дык што-ж за прыёмнік? Ды яшчэ гэтыя выкрунтасы Берлінскай радыёстанцыі з загадам міністра прапаганды... Вядома, апарат нібы і сапсаваны.

— Ну вось вы і самі, як бачу, зразумелі... Кюнц мне і гаварыў, што самі вы, таварыш Таўбер. здаецца так ваша прозвішча, самі вы разумееце нашы... як бы сказаць, густы... Варшава, яна, вядома, цікава, хто-ж супроць. Ну, а калі і яна абрыдне?

— Дык я вам скажу, проста абразліва: маеш апарат, а... а... не іначай толькі і свету, што ў вакне. Я сам вось сваім прыёмнікам...

— Слухаеце?

— Каго? Вы можа думаеце...

— Не, барані божа, чаго-б я гэта думаў, ды яшчэ і на вас... Я-ж вас першы раз бачу...—Рабочы таксама ледзьве стрымліваў усмешку на губах. Карл нахіліўся да таго, зусім новага прыёмніка, і аглядаў яго з такой незахаванай цікавасцю, што здавалася, ён упершыню бачыць гэтую аж надта знаёмую цэйсаўскую універсальную канструкцыю доўгахвальнага камбінаванага апарата.

— Так, цэйсаўскі... гэтым цяпер не возьмеш.

— Ніяк, уявіце сабе, не возьмеш... А я і не сам, сорам такі перад імі... Бывае, Кюнц да мяне зайдзе. Хата ў мяне вялікая, ну збяруцца, ды і...

— Даўно ўжо вы перасталі слухаць?

— Каго?..—Цяпер ужо рабочы настарожана запытаў у Карла.

— Ды яе-ж, Варшаву... ці... па-за Варшаваю...

— Яе?—яшчэ раз перапытаў рабочы азіраючыся.

І абодвы змоўклі. Яны ўжо дакладна ўмовіліся. Карл пераканаўся, што Кюнц мае рацыю, пасылаючы гэты апарат толькі да яго. Перарабіць апарат, каб слухаць Маскву, не зважаючы на перашкоды берлінскай радыёстанцыі, якая намагаецца заглушыць станцыю „імя Камінтэрна“, так перарабіць не ўсякага майстра папросіш. Загады міністра прапаганды Іосіфа Геббельса пра забарону слухаць радыёстанцыі Савецкага Саюза рабілі сваю справу не толькі ў галовах фашысцкай паліцыі, яны ўплывалі і на майстраў, далёка не прыхільных да Геббельса і яго загадаў.

Карл зразумеў, што апарат ён павінен наладзіць не для гэтага старога рабочага, да якога „Кюнц зайдзе". Апарат патрэбен для цэлага калектыва упартых і непахісных парушальнікаў геббельсавай фашысцкай волі, і ад такога усведамлення Карл адчуў гордасць за сваё ўмельства, за сваіх сяброў. Ён пакіне ўсякую неадкладнейшую работу, ён укладзе ўсю сваю невычарпальную вынаходлівасць і частку сябе самога, каб тыя, якія збіраюцца ў гэтага рабочага і слухаюць перарobленым Карлам Таўберам апаратам, каб яны зразумелі, што Кюнц сваіх рэкамендацый на вецер не раскідае...

— Так-бы і сказалі... А то Варшава, Варшава. Я і сапраўды думаў, што толькі Варшава...

— Калі-ж бы, чалавеча добры, толькі Варшава, я-б і не клапаціўся так. Блізкі свет мне з Эльзасерштрасе цягнуцца сюды супроць ночы...

А на развітанне аддаў такі запіску Кюнца. Карл тут-жа у дзвярах прачытаў яе і толькі яшчэ раз вачыма даў згоду ды наўздагон кінуў рабочаму:

— За чатыры-пяць дзён...

У запісцы напісана рукою Кюнца:

„Карл! За работу заплачу я, бо гэты стары таксама беспрацоўны. Трэба толькі зрабіць апарат так, каб ім можна было шырокай рабочай аўдыторыі слухаць маскоўскія інтэрнацыянальныя радыёканцэрты, абмінаючы перашкоды іншых станцый. Калі ўправішся—зрабі, а як не, дык звярні яму апарат і запіску.

Прывітанне ад таварышоў.

Твой К—ц."

* * *

Позна ўвечары дзесятага мая 1933 г. варочаўся Карл Таўбер з Эльзасерштрасе дадому. Пляц берлінскай оперы насупроць універсітэта, раптам запылаў заравамі велічэзнага вогнішча. Калі-б не марш „Хорст Весель" ды гімн „Дойчланд, Дойчланд, і бер аллес", дык Карл мог-бы падумаць, што пажар ад усегерманскага рэйхстага яшчэ і на сёння не патушан. Ён паракідаецца на оперу, на універсітэт, ён неадступна суправаджае кепска-сыграны, але пагардліва шумлівы фашысцкі спектакль Гітлера-Геббельса.

Пляц абкружан атрадамі штурмавікоў. Аркестры разрываюцца, выціскаючы наперабой у паветра то марш „Весель", то гімн. Гукі аркестраў перарываліся ачмурэлымі крыкамі штурмавікоў. Карл трапіў у хвалі дэманстрантаў і, жывасілам перанесены праз увесь пляц, намагаўся за мармурам манументаў затрымацца і вырвацца з абдымкаў экзальтаваных штурмавікоў.

І зразумеў. Карл Таўбер не быў вялікім прыхільнікам усякай кніжкі, але калі пабачыў, што робіцца тут на пляцу, ён жахнуўся. Глыбіня людской агіднасці ўтраціла сваю меру. Карл Таўбер зразумеў цяпер не спартсменскую заўзятасць таварышоў Кюнца, наперакор гітлерызму слухаць усё-такі маскоўскую радыёстанцыю. Гэта была патрэба ідэйная, патрэба зберажэння класавых сіл, гэта была культурная патрэба, на фоне гэтага барбарызма і лютасці.

На пляцу палалі кніжкі „ненямецкага характара", як апавяшчалі вячэрнія бюлетэні газет і афіцыйныя комюніке самога міністра прапаганды Іосіфа Геббельса. Гэта ён так праводзіць прапаганду супроць марксізма, спальваючы ў першую чаргу найкаштоўнейшыя ўклады культуры прагрэсіўнага чалавецтва, сабраныя ў бібліятэках Берліна. Ён нішчыў на кастрах мысль, што, пылаючы ў розумах лепшых

сыноў чалавецтва, грэла сваім вогнішчам, абуджала лепшыя парывы· узбуджала надзеі...

— Мы не ёсць і не хочам быць краінай Гётэ і Эйнштэйна!—пачуў Карл нечы піскілівы, істэрычны выклік з рэпрадуктара пляцу.

І радыёмайстар пабачыў малюнак, поўны глыбокага суму, жудаснага сімвалу сёняшняй нікчэмнасці Германіі і незабытны акт кандэнсаванага юродства. Тут, на пляцу,—аутадафэ, абкружаным тысячамі гітлераўскіх наймітаў і паплечнікаў, дзе палае пажар з кніжак, тут сапраўды нічога няма ні ад Гётэ, ні ад Энштэйна. Гісторыя ведае яшчэ Каліфа, які спаліў славутую Александрыйскую бібліятэку, з такой-жа нямудрай логікай. Яму не трэба было ў іншых кніжках таго, што ўжо напісана ў Каране, і ён паліў такія кніжкі. Дык калі-ж у кніжках было напісана не тое, што ў Каране—ён таксама паліў і такія кніжкі, як шкодныя...

— „Вось чаму паліцыя загадвала ўключыць радыёпрыёмнікі, каб слухаць берлінскую радыёстанцыю...“—падумаў Таўбер, і затаіў дыханне. Ён успомніў, што там... зараз слухаюць іншыя прамовы з станцыі „імя Комінтэрна“. Нават холадна стала раптам. А з рэпрадуктараў трашчэлі словы:

Крывава-барвовым водбліскам адсвечваліся ад таго аутадафэ медныя постаці манументаў Александра і Вільгельма Гумбольдтаў. Фундатар берлінскага універсітэта і друг паэта Гётэ, Вільгельм фон-Гумбольдт, з нейкай дзіўнай ірoніяй выпадку сваім манументам стаў фонам для Іосіфа Геббельса, і меддзю даваў рэзананс словам пракляцця Гётэ, пракляцця культуры, для якой ён, Гумбольдт, жыў.

На кастры гарэлі кніжкі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна і Карла Лібкнехта.

Міністр прапаганды стаяў супроць помніка Гумбольдтам, палаючы радасцю „перамогі“ над марксізмам. Яго абкружалі дзесяткі мікрафонаў, якія слалі ў эфір гэтую пагромніцкую прамову супроць культуры, супроць комуністаў і неарыйцаў.

* * *

— ...Мы палім ворагаў нашай непераможнай нацыі, мы знішчаем тую атруту, што раз'ядае наша маладое, асабліва рабочае пакаленне. Гэта толькі пачатак нашага паходу за культуру моцнай нацыі. Літаратура, тэатры, кіно, музыка, радыё—усё павінна стаць толькі нямецкім. Усё не нямецкае неўмольна аддадзім знішчальнай стыхіі агню! Агонь марксізму, агонь здраднікам Нямеччыны, агонь радыёзладзеям, якія слухаюць ганебныя нямецкаму званню...

— Пане Геббельс!—прагучэў ва ўсе рэпрадуктары больш гучнейшы за слабадухі геббельсаў голас. Карл бачыў, як да трыбуны праштурхаўся запыханы карычневы штурмавік. На яго ўзрушаны твар паклала адзнаку надзвычайная падзея, якая сваёй значнасцю далёка перавышала гэтую, на пляцы берлінскай оперы.

— Пане Геббельс! На рагу Эльзасерштрасе... дзе змяшчаецца інтэрнацыянальны студэнцкі клуб, у кватэры рабочага...

— Што? што?.. Што здарылася, пракляцце! Не марудзь!

— Яны...—радыёзладзеі, пане Геббельс! Маскву слухалі.

— Маскву?—Міністр так прыцішыў голас, што ніводзін мікрафон не злавіў гэтага перапалоханага запытання. І апамятаўся. Цяпер выразна вылівалася злосць у рэпрадуктарах:

— Маскву слухалі? Колькі іх? Хто яны? Здраднікі, большэвіцкія агенты.

— Іх адзіннаццаць, пане Геббельс, з некалькіх прадпрыемстваў... Галоўным чынам, вялікіх прадпрыемстваў: Сіменса, Шукерта, электрычнай кампаніі, Вольфа і іншыя... Апарат працуе беззаганна, нейкі вынаход...

— Дарэшты знішчыць!

— Ёсць, зроблена, пане Геббельс, дарэшты. Рабочыя арыштаваны, адзін уцёк.

— Згнаіць здраднікаў. Тапчыце комунізм... Гаспадара кватэры зараз-жа ў канцэнтрацыйны лагер, у Дахаў яго! Дзе ён апарат такі набыў?..

Настрой міністра сапсаваны настолькі, што ён і прамовы сваёй не скончыў, прамігнуўшы ў аўто, сярод выстрочаных радоў штурмавікоў. Гостры і слізкі цень ад машыны гайсануў па натоўпу. Карл правёў яго вачыма і толькі цяпер зразумеў, што азначаюць словы: „Дзе ён апарат такі набыў“? Яны захочуць адказа на гэтае злавеснае запытанне.

Успомніў сёнешні дзень. Да чацвертай гадзіны сядзеў у яго Кюнц і той стары рабочы, чакалі заканчэння. Карл спяшаў і забыў ізаляваць зваротную праводку ад „дыферэнцыяльнага“ трансфарматара, які з'яўляецца яго ўласным канструкцыйным вынаходствам. Прыпомніў толькі падчас абеду і, не скончыўшы яго, пабег даганяць таварышоў з радыёпрыёмнікам. З галавы не выходзілі магчымыя дакоры таварышоў, калі яны даведаюцца пра такую недаробку. Так і скажуць: Падліза, апошні ад Вертгейма звольніўся...

У „унтэргрундэ“ у вагонах аб'явы пра ўсенароднае свята спальвання ненямецкіх кніжак на пляцу берлінскай оперы. На перасадцы у „Галішэс Тоор“ паліцыя затрымала чатырох рабочых з радыёапаратамі і адаслала да штурмавікоў у аўто, тут-жа пад эстакадаю „унтэргрунда“...

Дзве гадзіны сядзеў у таго рабочага і разам з паўтара дзесяткам рабочых слухаў станцыю імя „Комінтэрна“. Апарат працаваў лепш, як спадзяваўся сам Карл Таўбер...

Успомніўшы гэта у такой пагрозлівай для сябе сітуацыі, Карл азірнуўся навокал і раптам яшчэ прыпомніў, што паліцэйскі на рагу Эльзасерштрасе нібы дзівіўся на радыёмайстра пільней, чымся вымагае гэтага дзяржаўны абавязак. Спускаючыся ў „унтэргрунд“ каля Фрыдрыхбангофа, Таўбер у астатні раз азірнуўся на паліцэйскага і... нібы зараз вось бачыць яго каля трыбуны. Здаецца ён заўважыў Карла. Ен нацягвае свае белыя пальчаткі і...

Карл завярнуў за манумент, зірнуў з другога боку і, не ўбачыўшы каля трыбуны таго палісмена, выбіраючы найцямнейшыя і найцяснейшыя закуткі людскога натоўпу, кінуўся ўцякаць.

А на пляцу ўсё новыя і новыя аўто старанна падвозілі партыі кніжак з бліскучымі каштоўнымі пераплётамі. Вар'яцтва нацыяналістаў набывала характар оргіі ў Вальпургіеву ноч... У тую ноч быў прысланы не адзін атрад штурмавікоў на берлінскія рабочыя акраіны. Разбіваліся радыёпрыёмнікі ў кватэрах рабочых, ішлі арышты смелякоў, якія хвалілі сваю радыёмаёмасць. І гучна пралунала новае для Нямеччыны і для ўсяго света слова:

— Радыёбольшэвікі!

* * *

Дома, у сваім рабочым пакоі, Карл заспеў чатырох штурмавікоў. Яны капаліся ў яго майстэрні, шукалі невядома чаго і вымагалі ад Анэль прызнацца, куды схаваўся ці ўцёк яе Карл. Анэль плакала, шчыра клялася, што не ведае, бо і сапраўды не ведала дзе ён зараз.

— Можа ў піўной дзе заседзеўся...

Толькі на адно мгненне Карл збянтэжыўся, перашоўшы дзверы. Нават кальнула вострае і найхутчэйшае жаданне павярнуць і знікнуць у глухіх завулках Остэнштрасе, над брудпаю Шпрэе, ды то было толькі мгненне. Перад штурмавікамі стаяў Карл Таўбер, як манумент, упарты і рашучы. Ён такі і праўда заходзіў у піўную і выпіў два куфлі чорнага піва, каб ахаладзіць тую сухасць у роце і ў грудзях, што так пякуча сушыла, смактала яго ўвесь час, пасля ўцёку з пляцу.

Яго выгляд спакойна-здзіўлены. Ён не разумее, што патрэбна гэтым паважным кавалерам ордэна чорнай свастыкі ў яго прыватнай і досыць беднай майстэрні, у гэтым далёкім завулку горада.

— Карл!—першая кінулася Анэль.

Карл адсунуў яе рукою і падступіў бліжэй да штурмавікоў. Сярод іх ён пабачыў свайго ранейшага майстра і раптам так стала весела з невядомай прычыны.

— Герр Гельдман, што гэта павінна азначаць?..

Гельдман, як кансультант штурмавікоў, пакінуў аглядаць апаратуру, інструмант,—ён і рабіў гэта больш з прафесіянальнай зацікаўленасці. Старшы штурмавік звярнуўся да Карла, на дзіва спакойна:

— Дзе вы былі да першай гадзіны ночы герр Таўбер?

— На пляцу... паліў кніжкі і... трошкі ў піўной, вось у чэха!..

— Я-ж вам гаварыла... куфель піва то-ж яго слабасць, нават калі ён беспрацоўны,—адразу схамянулася Анэль.

Такі адказ Карла і дзіўнае спалучэнне папярэдняга паведамлення Анэль яшчэ больш улагодзілі старшага, хоць ён і не задаволіўся гэтым. Ён далей правяраў Карла:

— А што было на пляцу, вы зможаце дакладна расказаць?

— Палілі кніжкі...

— І?...

— І... гаварыў міністар прапаганды, потым раптоўна паехаў...

Карла перабіў зусім пераконаны Гельдман:

— Гэта, уласна кажучы, і не вобыск у цябе, Карл Таўбер. Уладзе вядома твая чэснасць, твая... работа ў Вертгейма. Ёсць загад правярыць усіх радыёмайстраў. Пра цябе ніхто не скажа дрэннага...

І Карлу стала лягчэй у грудзях. Нават пазяхнуць захацелася, а стомленыя вочы прывегна і ўдзячна праводзілі штурмавікоў.

Калі-б не Анэль, Карл сапраўды можа ўпаў бы і заснуў, заспакоены бяспекаю нават ад штурмавікоў. Але-ж Анэль:

— За каго яны цябе прымаюць, Карл?

Можа яна мела на ўвазе запытаць зусім не тое, што пачулася Карлу. Напэўна, хацела даведацца, ці не за бальшэвіка яны яго прымалі, калі прыйшлі рабіць вобыск. Але Карл у словах жонкі зразумеў іншае і жахнуўся.

— За якога, Анэль? Мая лаяльнасць, чэснасць... яны думаюць, Анэль, што Карл Таўбер, таксама за... „нямецкую нацыю". Карл Таўбер не здатны змагацца супроць іх, каб абараніць свой клас... абараняць свае права на нармальнае рабочае жыццё... Ха-ха-ха!.. Яны лічаць Карла сваім. Ганьба, Анэль, ганьба! Не, я пайду і адмоўлюся ад такой ласкі. Я скажу ім, хто перарабляў той апарат. Я ім у твар наплюю. Карл Таўбер рабочы, ён не хоча, каб Кюнц пачуў, што Таўбер будзе абараняць нацыю. Не... Ён зубамі будзе адгрызацца ад такой ласкі і... ніхто не мае права лічыць яго штрэйкбрэхерам агульна-пролетарскай справы, здраднікам самому сабе...

Анэль учапілася за мужа. Было ясна, што Карл сёння выпіў больш, як адзін куфель піва, і гэта яе асабліва непакоіла. А што як сапраўды

пойдзе? Цвярозы ён-бы гэтага нізавошта не зрабіў. Што будзе рабіць яна, застаўшыся з гэтымі трыма дзецьмі? Хіба не ведае яна сем'яў, дзе мужыкі колькі месяцаў, як пайшлі вось гэтак і да гэтага часу не вярнуліся. Нават не ўсе ведаюць, у якім канцлагеры іх шукаць і ці жывыя яны. Не, на такую бязглуздую яўку яна не пусціць Карла са сваёй кватэры.

— Карл, Карл! Нават для таго, каб давесці тваю адданасць Кюнцу... лепш быць на волі, чымся ісці і аддавацца ў рукі... Ты выпіў троху. Ляж, адпачнеш. Такія падзеі разгортваюцца, а ў нас дзеці малыя.

Так да раніцы сядзеў Карл у змрочным пакоі і выслухоўваў разумныя парады Анэль.

* * *

У міністэрстве прапаганды была ўрачыстая ўзнятасць. Упяршыню за некалькі месяцаў міністэрства адчувала, што яно робіць для народа, для „нацыі", робячы такую важную справу. У міністэрстве знала гітлераву думку: рабочая маса не патрабуе нічога, апрача абывательска-банальнага „хлеба і відовішч". Гэтай масе недаступны якія-небудзь іншыя ідэалы і мы не можам разлічваць на прыхільнасць да сябе вялікіх мас рабочых". Але міністэрства спадзяецца, што схіліць іх да сябе, бо без гэтага і ўлада не ўлада.

Такія надзеі пакладаліся на новы „Народны дом", які ўхвалена спешна і ўпотайку перабудаваць з вялікага недабудаванага кафэ-рэстарана „Гох Дзюран" на „Ортодокс Палацы".

— Не трэба баяцца тое-сёе запазычаць і ў большэвікоў,—гаварыў Геббельс.—„Народны дом" павінен ўладзіць усе незадаваленні і засляпіць рабочага раскошаю і высокаю тэхнікаю культуры, на якую здольна нямецкая нацыя. Асігнаванне на бесплатнае карыстанне рабочага люду культурнымі ўгодамі будынка нам значна таней будзе абыходзіцца, чымся даць рабочым волю самім слухаць шкодныя духу нашага народа радыёхвалі...

Кафэ-рэстаран „Гох Дзюран" будаваў нейкі польскі камерсант, яўрэй. З мэтаю захавання „чыстаты арыйскага паходжання ў нямецкім народзе", камерсанту ціха-мірна звярнулі страты і прапанавалі выехаць з Нямеччыны, а недабудаванае кафэ „сюрпрызам" вырашылі дабудаваць, як будучы дом правядзення міністэрствам прапаганды шырокай масава-выхаваўчай работы сярод рабочых. Яго трэба для гэтага значна пашырыць, троху перапланаваць, але збудаваны ўжо вялічэзны зал на дзве тысячы людзей даваў мажлівасць тэрмінова ўправіцца з заканчэннем усёй работы.

У дзень першага жніўня мелі адкрыць гэты будынак грандыёзным усенямецкім злётам старых кадравых рабочых з найбольшых прадпрыемстваў Нямеччыны. На гэтым злёце будзе дадзен надзвычайны радыё-канцэрт з дакладамі, каб супроцьставіць гэта ўсё святу антываеннага дня. Міністэрства клапоціцца пра тое, каб на злёце ўсё, ад праезду рабочых і аж да найменшых дробязяй, давалася ўдзельнікам бесплатна, праўдзівей—за кошт міністэрства прапаганды.

Чутка пра такую падзею, у дзень сусветнай антываеннай прапаганды не была агалошана ў нямецкіх газетах, але не сыходзіла з вуснаў не толькі жыхароў Берліна, а і за яго межамі.

На „Ортодокс Палацы" сапраўды заварушыліся будаўнікі. Да будынку „Гох Дюран" зноў гужамі пацягнуліся аўтамабілі з матэрыяламі. Да вячэрніх газет дадаваліся спецыяльныя „рэвю" міністэрства, у якіх не толькі змяшчаўся агляд работы на будаўніцтве Народнага

дома на „Ортодокс Палацы“, а і вялася асцярожная падрыхтоўка правядзення ў ім першага дня.

Карл Таўбер, пасля той ночы сваіх маральных мук, не выходзіў з кватэры. Заказы на рамонт радыёапаратуры рэзка зменшыліся, а то і зусім прыпыніліся. Нават некаторыя старыя заказчыкі не заходзілі забраць свае гатовыя апараты, — так настойліва ўплываў закон пра забарону радыёслухання ў прыватных памяшканнях.

Такое становішча пагражала Карлу і Анэль голадам сям'і, перспектываю жабрацтва.

І вось у такія напружаныя дні да Карла ўдзень заходзіць майстар Гельдман. З пашаны да Карла, і толькі з пашаны, ён зайшоў да яго сёння і нават не распранаў цывільнага паліто, каб не паказваць Карлу свастыкі на рукаве карычневай блузы.

— Паважаючы цябе, Карл, я зайшоў па дужа важнай для цябе справе... Ты маеш пра сябе добрую думку ў Вертгейма і ў інжынера фон-Брэдэля.

— Дзякую,—настарожана адказаў Карл.

— Глупства, не варта... Ты такі добры майстар... Вертгейму прапанавалі радыёабсталяваць новы будынак міністэрства прапаганды на „Ортодокс Палацы“. Інжынер фон-Брэдэль будзе весці гэтую работу і набірае чэсных і кваліфікаваных рабочых-немцаў. Цябе ён успомніў у першую чаргу...

І зноў Карлу Таўберу зрабілася на нейкую хвіліну цёпла і лёгка на душы. У дзвярах стаяла схуднялая, заклапочаная пра дзяцей Анэль. Яна чула ўсё і радасна блішчэлі яе вочы. Мары пра аванс у інжынера фон-Брэдэля, а там і пра сталую работу для Карла суцешна заспакойвалі яе.

Толькі калі праходзілі паўз палісмена, які спазнаў Гельдмана і казырнуў яму па вайсковаму, толькі тады Карлу зноў стала не па сабе. Значыць заўтра чаго добрага гэты ж шуцман будзе казыраць таксама і яму, Карлу, як сёння Гельдману.

Але да фон-Брэдэля усё-ж зайшоў з Гельдманам і на працу стаў. Калі-б не гэтыя бліскучыя ад радасці вочы Анэль, ён-бы яшчэ вагаўся. Не, без ваганняў адмовіўся-б так ганебна супрацоўнічаць з людзьмі, якія рабочай крывёю заплямілі свае імя, свой шлях...

Карл Таўбер стаў бліжэйшым памочнікам фон-Брэдэля ў рэалізацыі яго новай вынаходкі „вібруючай антэны“.

Карлу было цікава даведацца пра такую навіну ў радыётэхніцы і нават гордасць нейкую адчуваў, што імена яму, а не шмат каму з іншых майстраў даверылі гэтую тэхнічную навіну—і таямніцу.

— Трэба так зрабіць, герр Таўбер, каб бальшэвіцкія станцыі не псавалі настрою рабочаму немцу.

Гэта і атруціла арыйскую чыстату ў Карла...

Звярнуўшыся з работы, Карл да позняй ночы сядзеў у сваім пакоі, правяраў тэарэтычныя здагадкі і ідэі. Вынаходка фон-Брэдэля разбудзіла ў Карла яго ўпарты канструкцыйны геній, які кожную канструкцыю інжынера дапаўняў, нават кардынальна мяняў, падганяемы толькі яго новай ідэяй.

„Вібруючая антэна“ можа і не зрабіла-б такога рашаючага ўплыву на Карлавы здольнасці, калі-б яна не несла ў сабе пагрозу заглушыць усе не нямецкія радыёстанцыі, у тым ліку і бальшэвіцкія.

І Карл Таўбер працаваў у дзень на „Ортодокс Палацы“, а ўночы за сваім рабочым сталом. Яму выплацілі наперад за месяц па сорак марак тыднёвага заработка, яму абяцалі забяспечыць такі заработак і на далей, пасля заканчэння гэтай тэрміновай работы.

Ад недасыпання пачалі запальвацца і балець вочы—давялося зноў надзець сінія акуляры, як і калісці, пры звышурочнай рабоце у Вертгейма. Ні на дамаганні Анэль, ні на хваробу вачэй не зважаў Карл, працуючы над „вібруючай антэнай“ фон-Брэдэля. Прапускаючы праз трансфарматар асвятляльны струмень, ён прымушаў сваю мініатурную мадэль антэны вібраваць ад таго струменя з такой чыстатою, што пераставаў бачыць яе нават з дапамогай спецыяльных ультра-чуйных фотапрыладаў. Уключаючы такую дзеючую антэну ў магнесавае поле, спецыяльна створанае ультра-кароткімі радыёхвалямі, Карл сапраўды здабываў ашаламляючыя вынікі. Антэна абарачвалася ў гатовы і матэматычна паслухмяны радыёпрыёмнік у руках тэхнікі...

Карл зайздросціў фон-Брэдэлю і ганарыўся сабою.

* * *

Перад першым жніўня, за два дні адбывалася проба і прыём народнага дома. Для Карла Таўбера гэта быў яшчэ і іспыт, апошні іспыт яго творчых здольнасцей.

Інжынер фон-Брэдэль, урачыста настроены, злёгку нервуючыся, паказваў будынак урадавай камісіі. Прыгожая велічэзная зала асабліва падабалася камісіі. Да яе тры разы вярталіся, каб не толькі пахваліць. прыняць ад будаўнікоў, але і задаволіць свае эстэтычныя пачуцці.

Нарэшце пачалі прабаваць радыёабсталяванне, якім так ганарыўся фон-Брэдэль і пра якое гаварылі нават у габінеце самога Гітлера.

Інжынер раней чым пачаць пробу, коратка расказаў пра самую канструкцыю абсталявання. Вядома, для камісіі не цікава ведаць дэталі канструкцыі, вылічэнні. Цікавей-гэта „вібруючая антэна“. Яе нідзе не відаць, але яна ёсць. І пры найменшым жаданні тэхніка яна ловіць патрэбныя будынку радыёхвалі. Антэна пракладзена ў верхнім поясе сцяны ўсяго будынка Цэлаю сістэмаю ізалятараў (гэта-ж навіна ў тэхніцы ізаляцыі) гэтая антэна ізалявана ад зазямлення праз масіў сцяны. Інжынер фон-Брэдэля нічога не сказаў камісіі, што гэтыя ізалятары вынайшоў яго майстар Карл Таўбер. І Карл ніскольні не абразіўся на гэта. Ён стаяў на трыбуне каля размеркавальнай дошкі, гатовы ўключыць першую лепшую радыёстанцыю! Яшчэ ўчора ён меў выпадак рабіць гэта і апаратура працавала цудоўна.

Карл такі-ж, як заўжды—спакойны, упэўнены. Яму ўчора абяцаў інжынер узнагароду і рэкамендацыю ў партыю нацыянал-соцыялістаў. Часам на Карла находзілі хвіліны нейкага заняпаду і ўпэўненасць яго знікала. Ён нібы збіраўся ў далёкую дарогу, альбо хацеў перад смерцю параіцца з найбліжэйшымі сябрамі. Але-ж дзе яны, хто гэтыя сябры? Каму ён раскрые сваю душу, зменшыць болі і развее сумненні...

Але гэта толькі хвіліны. А варта інжынеру ці Гельдману звярнуць на яго сваю высокую ўвагу, пахваліць ці ўцешыць яго ўпраўнаю работаю, як Карл камянее, знаходзіць сябе і здаецца вось-вось заражгоча ад калючай свавольнай упэўненасці, ад унутраных бравурных адчуванняў...

Камісія ўважліва слухала цэлы захапляючы трактат інжынера фон-Брэдэля пра яго ўласную вынаходку.

— Гэтыя лічбовыя чарапашкі нашага лепнага ўзору на карнізе, вось той вышуканы „рококо“ па столі, на сценах—гэта ўсё найчутлівейшыя рэпрадуктары, непасрэдна з'яднаныя з вузламі антэны ў некалькіх месцах. Кожны такі вузел дзейнічае, як радыёпрыёмнік. Мы кіруем антэнай і вузламі там, на размеркавальнай дошцы і маем магчымасць лавіць любую станцыю найпрасцейшым спосабам, мяняючы

частату вібрацыі антэны. Гэта такі паслухмяны апарат, такі дакладны ў адносінах да рэагавання і такі ўдасканалены, якога яшчэ не мела ніводная тэхнічная галіна...

Карл адчуваў, што вось-вось скончыцца інжынерава лекцыя, і тады будзе дзейнічаць ён Карл Таўбер, радыёмайстар, памочнік інжынера-канструктара.

Намагаўся адагнаць успаміны, такія нядаўнія і такія неадчэпныя. І кватэру рабочага на Эльзасерштрасе і тых паўтары дзесяткі адважных байцоў, што слухалі Маскву, яго, Карлавым, апаратам і... Кюнца.

Рукі прыкметна задрыжэлі на рычажках размеркавальнай дошкі. Ху! такі непрыемны ўспамін і ў такую хвіліну...

...Пазаўчора ён дастаў ананімку. У ёй друкарскім машынным шрыфтам напісана:

*„Карл Таўбер! Кюнц асуджан на смерць, але ён не сказаў, хто перарабляў апарат. Ці здатны ты на такі гераізм, будучы памочнікам Брэдэля, ці ўступіш у партыю фашыстаў?“*

Тады Карл парваў тую ананімку і кавалкі спаліў. Але не забыў, і штодня тыя словы агнём палілі мозг...

— Герр Таўбер!—гукнуў ужо разгневаны інжынер,—я даю вам сігналы, а вы... як... нібы адубеў чалавек... давайце берлінскую цэнтральную...

Карл заварушыўся і правай рукой павярнуў рычажок угору, аж пакуль на шкале пабачыў лічбу „6“. Тады леваю проста ўключыў рубільнік „вібратар антэны“ і зала запоўнілася мелодыяй:

„Berlin, Berlin! Die Stadt die Schöne Frauen! *)

Так нібы само паветра, гэты аб'ём залі загаварыў гукамі, і хацелася сапраўды верыць, што толькі горад прыгожых дзяўчат здатны зачароўваць урадавую камісію такімі акустычнымі і музычнымі дасягненнямі.

Фон-Брэдэль узняў угору руку і Карл адным рухам на дошцы нібы вырваў з мясам гэтыя гукі. Толькі ледзь-ледзь чуліся адгалоскі амаль неўлоўных тонаў.

— Італію, Рым...—загадаў інжынер Карлу.

І гэты ж зал закалыхаўся ў гуках квартэту скрыпак. Мімавольная ўсмешка захаплення, зачараванасці, расцвіла на тварах камісіі. Карл стаяў суровы, як геній гэтай чараўніцы-машыны, і варта інжынеру заварушыць адным пальцам, як зала напаўнялася новымі і новымі гукамі ад класічных будапештаўскіх узвываў вечнага скрыпічнага соло, ды найзадорыстага парыжскага джаза.

Старшыня камісіі нешта сказаў інжынеру на вуха і фон-Брэдэль узняў руку ўгору, каб Карл спыніў.

Зала змоўкла. Нават гукі „вібруючай антэны“ былі ўдала захаваны спецыяльнымі ўлавіцелямі. Зала так змоўкла, што Карл чуў зусім ціхае запытанне старшыні ўрадавай камісіі:

— А большэвіцкія станцыі?

Інжынер упэўнена і горда засмяяўся. А Карл ледзь прыкметна нават для самога сябе задрыжэў.

— У гэтым і ўвесь магутны сакрэт, што большэвіцкія станцыі зусім выключаны з антэны.

— Зусім? Вось гэта дасягненне.

— Абсалютна. Нават калі-б мы спецыяльна хацелі ўключыцца ў адну з большэвіцкіх станцый, яны на-мёртва ізаляваны.—Нагнуўшыся да вуха старшыні камісіі, дадаў:—Але мы ўпэўнены, што рабо-

*) „Берлін, ты горад прыгожых жанчын“.

чыя захочуць пачуць Маскву. Мы і да гэтага гатовы. Дамо „Маскву". Берлінская станцыя на новай сваёй філіі выпрабляе спецыяльныя „маскоўскія нумары".

Старшыня запырскаў стрыманым смехам. У тон яму, безгучна, адным толькі жыватом смяючыся, інжынер фон-Брэдэль тлумачыў далей:

— Першага жніўня я сам буду кіраваць радыёвяшчаннем у будынку і ўсё зраблю дакладна і „дэмакратычна". Надалей давядзецца ставіць якога-небудзь тэхніка. Ці ўсім тэхнікам можна даверыць зараз такую адказную справу... Таму лепш выключыць, зусім ізаляваць Маскву...

— Больш пэўна...—пацвердзіў старшыня камісіі, задаволены такім тлумачэннем.

Карл зразумеў і таксама задаволены, нібы ў тон свайму інжынеру усміхнуўся.

* * *

А дзевятай гадзіне ўвечары зала была поўнай: Карл стаяў у вестыбюлі і разглядаў сотні прадстаўнікоў сапраўды рабочага класа Нямеччыны, якія з'ехаліся з усіх яе канцоў, з перадавых і найбольшых прадпрыемстваў нямецкай індустрыі. Яны адчувалі сябе не зусім вольна у такім раскошным вестыбюлі і нерашуча групамі праходзілі ў залу. Адзін рабочы з нейкага берлінскага прадпрыемства спыніўся ў дзвярах і востра падзівіўся на Карла. Можа спазнаў, бо і Карлу здалося, што недзе сустракаўся з ім—ці то ў Кюнца, ці то на мітынгах у „Тіргартэне". Рабочы ўвайшоў у залу толькі тады, як Карл адвёў ад яго вочы на іншыя групы пажылых і маладых, вясёлых і салідна-сумных рабочых, якія праходзілі ў залу.

Ужо хацеў таксама зайсці ў залу, каб паслухаць, аб чым будзе сёння гаварыць знаёмы ужо міністр прапаганды Іосіф Геббельс, як у дзвярах Карла ветліва спыніў інжынер фон-Брэдэль:

— Вы, герр Таўбер, сёння можаце ісці і адпачываць. Сёння я сам дэманструю радыёпрылады, а далей... калі вы ўжо вырашылі, напэўна, вас паставяць на сталую работу...

Карл нібы адчуў у гэтых словах абразу, прынамсі так здалося інжынеру. Карлу ўсплылі на памяць частыя нагадванні пра абавязковую ўмову ўступіць у члены фашысцкай партыі, каб быць дастойным радыётэхнікам будынка і атрымліваць пяцьдзесят марак тыднёвага заработку, сталага заработку...

Пяцьдзесят марак!

Успомніліся і засмучаныя вочы Анэль, і трое дзяцей, што ў апошні час апрануты і не галодныя, не горш як у суседа, нейкага газетнага работніка афіцыёзнай газеты...

Толькі вачыма падзякаваў інжынеру і пайшоў да выхаду. Ужо ля пад'езда пачуў, як адзін з рабочых спытаўся у другога:

— А не чуў, савецкія станцыі будуць уключаць?

— Не чуў, але напэўна будуць... У запрашэннях напісана, што ўсе станцыі Еўропы, Азіі і нават Амерыкі...

Карл спыніўся, нават парываўся спыніць гэтых рабочых, каб растлумачыць, але стрымаўся і, толькі горка ўсміхнуўшыся, шпарка рушыў дадому. Калі ён выходзіў з станцыі „унтэргрунда", пачуў лёгкі воклік:

— Таўбер!

Азірнуўся і пабачыў Штэйна, які заходзіў на станцыю. Ён пальцам паклікаў Карла.

— Кюнц учора ўцёк з-пад расстрэла.

— Уцёк?—у Карла ледзь не выскачылі вочы з арбіт, такім пачуццём напоўніла яго гэтая звестка.

Штэйн толькі паціснуў Карлу руку, а на развітанне зусім ціха прамовіў:

— Чакаем, як ты адкажаш ім. Згодзішся, ці... У нас-жа ёсць свая комуністычная партыя.

І знік у натоўпе, які нахлынуў на станцыю.

Карлу хацелася адказаць, пагаварыць яшчэ са Штэйнам, але толькі капелюш яго прамігнуў у паветры ўжо за будачкаю касы...

Дома на гадзінніку Карла было за палову на дзесятую.

— У Маскве зараз на дванаццатую набіраецца, — прамармытаў Карл, надзяваючы навушнік ад свайго радыёпрыёмніка, каб слухаць, што будзе даваць радыёстанцыя ў „Народны дом“, на „Ортодокс Палацы“...

...„Народны дом“ гудзеў, як велізарны улей, выпускаючы адразу не адзін, а некалькі раёў. Рабочыя з захапленнем аглядалі выстаўкі ў пакоях і абмяркоўвалі паміж сабою чутку: будзе ці не будзе дана станцыі „імя Комінтэрна?“ Нейчае настойлівае намаганне перадавалася з вуснаў у вусны.

— Прапануем падаць Маскву...

У зале адзін за адным выступалі прамоўцы ад усякіх міністэрстваў, каб працягнуць час да прыезда ўпаўнаважанага ад самога Геббельса. Геббельс у гэты час нагаворваў для сёняшняга вечара патэфонную пласцінку, каб цэнтральная берлінская радыёстанцыя падала прамову ў эфір, і сам-бы ён паслухаў яе ў міністэрстве...

— Разам з пролетарыятам Нямеччыны...—гаварыў ён, усміхаючыся ад удалага жарту.

Нарэшце і ўпаўнаважаны прыехаў у „Народны дом“.

— Зараз мы распачынаем наш усегерманскі радыёканцэрт!—пачуў Карл Таўбер сваім радыёпрыёмнікам і ўскочыў з-за стала.

Зала замерла, напружваючы слых. Інжынер фон-Брэдэль сачыў за ўпаўнаважаным міністэрства прапаганды, чакаючы сігнала, Галава ўпаўнаважанага ледзьве паварушылася і інжынер паставіў рычаг на берлінскую станцыю. Лёгкі шэлест са сцен, са столі. Інжынер ціханька прамовіў у тэлефонную трубку, звязаную з радыёстанцыяй:

— Давайце! І ў зале прарваліся бравурныя гукі ўсё таго-ж марша „Хорст Весель“. Рабочыя пераглянуліся, нібы так ужо абрыдзеў ім гэты помнік фашысцкаму „герою“ Веселю. Нібы і станцыя зразумела гэтую пагарду і ўдала гарманічна перайшла на іншы матыў. Асобныя галасы ў зале фарсіста падхапілі гэты матыў і змоўклі, спатканыя не зусім прыветнымі позіркамі таварышоў-суседзяў. „Dnutschland, Deutsch land über alles, über alles in der Welt*).

Але „Welt“ ахвотнікі праспявалі ўжо без адпаведнага матыва з рэпрадуктараў.

Адбылося нешта незразумелае. Інжынер быў упэўнены, што станцыя пераблытала—раней падаючы не тое, што трэба,—таму не чапаў апаратуры, што так надзвычайна пачала працаваць сёння, так ідэальна працавала ўчора і пазаўчора.

З рэпрадуктараў чуваць была спачатку гармонія гукаў гімна, потым нібы гімн патрапіў у нейкія бураны іншых гукаў. Яны завіхрылі ў какафоніі, зараўлі раздзіраючым душу хаосам гукаў. Нібы счапіліся ў смяротнай бойцы два ворагі, і цішыня пакажа вынікі гэтай бойкі. А хаос то патухаў, то зноў запальваўся, нібы і будынак раскачваў

*) „Нямеччына вышэй за ўсё, вышэй за ўсё на свеце“.

сваімі незвычайнымі буранамі гукаў. Вось-вось разарве гэтую камяніцу, выпархне на прастор, каб яго бязмежнасцю патушыць тую стыхію ў эфіры...

Але бойка гукаў выроўнівалася. Гукі знаходзілі свае гарманічныя тоны, тэхніка залы пераможна мабілізавала свае акустычныя дасягненні, убірала гукі ў сістэму, у выразную... страшную мелодыю.

Інжынер фон-Брэдэль пабялеў, як мармур размеркавальнай дошкі, а рабочая аўдыторыя паволі з пашанаю ўставала з крэслаў.

Зала напоўнілася гарманічнай мелодыяй так даўно нечутых гукаў „Інтэрнацыянала" з Маскоўскай станцыі „імя Комінтэрна".

...„Чуеш, трубы зайгралі, час расплаты настаў... З Інтэрнацыяналам..."

Не вытрымала рабочая аўдыторыя. Усе дзве тысячы рабочых цяпер стаялі на нагах і слухалі гімн перамогі пролетарыята „Інтэрнацыянал".

Першым схамянуўся інжынер фон-Брэдэль. Ён рашуча выключыў „вібратар", і... вочы яго палезлі на лоб—радыё не выключылася, а працягвала таксама ідэальна прымаць Маскву і сотнямі рэпрадуктараў-чарапашак „рококо" перадаваць гэтай задаволена-здзіўленай аўдыторыі.

— Разайдзіся! Вон з залы! — крыкнуў упаўнаважаны Геббельса зразумеўшы, што з радыёпрыладамі стала нешта такое, што не мае сілы выправіць і сам напоўзвар'яцелы інжынер. Рабочыя заварушыліся, але не выходзілі. Нават дысцыплінавана пачалі рассаджвацца, калі закончыўся „Інтэрнацыянал" і ў рэпрадуктарах гукнуў голас:

— Genossen! „Зараз распачынаем наш інтэрнацыянальны радыё-вечар для рабочых і калгаснікаў нямецкіх раёнаў БССР. У праграме даклад на тэму: „Міжнародны антываенны дзень і наступ гітлерызма-фашызма на пролетарыят Нямеччыны". Слова мае..."

— Вон!—зноў закрычаў упаўнаважаны. — Паліцыя! Дзе паліцыя, лейтэнант Гейнес. Страляйце ў гэтую пякельную машыну, падстроеную большэвікамі. Здрада... Здрада... Радыёбольшэвікі!

Ён першы пачаў страляць з маўзера ў карнізы, у столь, каб сапсаваць прылады і прамову дакладчыка з Маскоўскай радыёстанцыі. Знайшліся яшчэ такія-ж разумныя. Страляніна сапраўды перашкаджала нармальна слухаць даклад. Рабочыя, скліканыя з усёй Нямеччыны, таксама збянтэжыліся. Што гэта, сапраўды нейкае тэхнічнае непаразуменне, ці маскоўская станцыя перахітрыла кваліфікаванага канструктара фон-Брэдэля..

Паміж радамі ў праходзе прабег інжынер фон-Брэдэль і несамавіта крычаў:

— Паліцыя! Штурмавікі! Дзе Карл Таубер? Хутчэй да яго! Радыёбольшэвікі!..

* * *

Рабочыя кінуліся ўцякаць з залы толькі тады, калі пабачылі ў дзвярах запыханых карычневых штурмавікоў. У гэты міг адзін за адным стрэлілі чатыры залпы пад карніз зала, дзе павінна быць закладзена ў сцяне „вібруючая антэна". Сам упаўнаважаны кіраваў штурмавікамі. Пасыпаўся тынк са столі, з „рококо". Рабочыя выціснулі штурмавікоў з дзвярэй, рвануліся, хто куды. Радыё захрыпела і з апошнім залпам змоўкла...

...Карл Таубер вымкнуў штэпсель у сябе дома, з асвятляльнай сеткі. Нібы п'яны прайшоў па хаце, выціраючы пот з твару.

— Анэль! Бывай! Я пайшоў уцякаць. Паслухай, калі заўтра не расстраляюць, значыць, уцёк і хаваюся разам з... Кюнцам.

— Карл, Карл, што ты вярзеш! Карл...
— А апаратуру...—паспяшаў Карл,—апаратуру... але-ж яе усёроўна знішчаць, дык лепей я сам.
Падбег да штэпселя, ткнуў яго ў электрасетку, а сам кінуўся да апарата, павярнуў рычажок да краю...
Успыхнула рэзкім электрычным выбухам, засляпіла вочы Анэль, у хаце запахла гарэлая смала і затуманіў дым.
— Ну, цяпер усё...—нібы скрозь сон гаварыў Карл.—Пажару не будзе, не палохайся, а там... не ведаю...

* * *

На другі дзень у „Рэвю“ міністэрства прапаганды было ўпершыню апублікавана Карлава імя. Яго падхапілі іншыя газеты: „Радыёбольшэвізм.
Майстар Карл Таўбер прадаўся маскоўскім большэвікам і здрадзіў Нямеччыне. Ён сваёй хатняй радыёустаноўкай уключыў радыёустаноўкі „Народнага дома“ ў хвалі Маскоўскай станцыі і даў магчымасць двум тысячам радыёбольшэвікоў у зале дома слухаць супроцьнямецкі даклад. Каля сотні радыёбольшэвікоў затрымана. Сам здраднік Карл Таўбер знік без следу“.
Так прагучэла імя радыёбольшэвіка Карла Таўбера.

Пераклаў з украінскай мовы
В. Каваль.

З. АКСЕЛЬРОД

## НІЗКА ВЕРШАЎ

* * *

Вясна мінула. Ліпень у палях.
Калоссе налілося буйным зернем.
А я толькі цяпер іду на шлях,
Як вол рагамі сілы свае мерацъ.

Нялёгка дужацца з кім-небудзь—не!
З самім сабой цяжэй непараўнана.
Я чую—кроў бурліць ва мне
І поўніць жылы сілаю нязнанай.

Да твару гуленькі ў дзіцячыя часы,
Быць свістуном прыемна не заўсёды.
Калі сівее скронь, радзеюць валасы,
Якую-ж я знайду за гэта ўзнагароду?

Свайго канца сівы чакае дзед,
І грудзі мацеры знаёмы так дзіцяці.
А я—сярод шляхоў разблытаў след
Пачаў у тысячы бакоў вяртацца, прыглядацца.

Дык часам трудна маёй чорнай галаве
Свой цяжар падымаць, кідаць па свеце,
Бо колас выветраны цягнецца уверх,
А колас поўны долу хіліць вецер.

Вясна мінула. Ліпень у палях.
Смяецца збожжа бляскам даспявання
А я толькі цяпер іду на шлях,
Каб яснасць цвёрдую знайсці ў вандраванні.

1928 г.

* * *

Калі я друкаваць прынёс трывожна
Свой першы верш, усе сюды прышлі.
Не ведаў я:
Ці глянуць на іх можна,
Ці мо' стаяць шчэ некалькіх хвілін...

Чугунка-грубачка распаленым вуголлем
Нагрэла горача пакой.
Ï растлумачыць мне ніхто не эдолеў,
Чаго хачу я ў песні той.

Ï штосьз мяне ірвалася такое,
Яшчэ і больш хацеў тады.
Я свой юнацкі пал, сумленне і настроі
Ў радках маленечкіх прынёс туды.

Назаўтра раніцой расклеілі газеты,
Лістоўкі жоўтыя на вуліцы, рагу.
Ï я, да „Веккера“ падскочыўшы з імпэтам,
Сам сабе прамовіў на-бягу:

Мой першы спеў—для вуліцы вітанне!
Мой першы спеў—для ўсіх! Усім!
Ï яснасць гэткая у сэрцы нарастала,
Бы толькі што імя сваё пазнаў я ў ім.

1929

* * *

Не курыў-жа я ніколі,
А цяпер куру, пабач!
Растае дымок паволі,
Як дзіцяці хліпат-плач...

Тут сяджу я, а яна там.
Добра! Цішыня. Імгла.
Загулялі, нібы ў карты,
Мы ля круглага стала...

Даму трэф сабе бяру я,
Ёй валеты па душы.
Усміхнулася, жартуе:
— Абнімі, а не душы!

Я змяшаў і зблытаў карты,
Рызыкоўны, палкі ход...
Ты, як хлопчык, ад азарта,
Хлопчык мой, жыві сто год!

1926

* * *

Сёння песняй хачу я жыццю зазвінець,
Жыццю, што не зморыцца, насіць мяне.

Жыццю, што бярэ свой пачатак з віхроў,
З крывавых змаганняў, чырвоных сцягоў.

З матулек старэнькіх, што слепнуць ад слёз,
Сыноў каб на фронце сустрэў добры лёс.

Сыноў, што са зброяй змагацца пайшлі
За кожны кавалак совецкай зямлі.

Тады, калі ў рускі мароз і снягі
З мястэчак пайшлі мы, пайшлі без тугі.

Ї мчалі далей, у Расію глыбей
Праз дождж, завіруху пад енкі завей...

Калі свой магутны і светлы ход
Пачаў у крыві дваццаты год.

Сёння песняй хачу я жыццю празвінець,
Жыццю, што не зморыцца, носіць мяне.

Хоць раптоўна збіваўся з шляхоў барацьбы,
Не тое, што трэба, што можна, рабіў.

Але не, ты не здрадзіў ніколі, нідзе
Братам і сябрам па сягонешні дзень.

Ї ты чуеш імпэтны крыві разгон
Па звілінах-жылках, праз голую скронь.

І да самай касці дабіраецца боль
Ад смутку, што мусіў брысці за табой.

Як бродзіць за бойкай услед дзікі крык
Ї коціцца, б'ецца аб стрэльбы, аб штык.

Сёння песняй хачу я жыццю зазвінець,
Жыццю, што не зморыцца, носіць мяне.

Якое вяло нас, імчала, кідала,
Ад шэрай пустыні да Арктыкі дальняй.

Якое спускалася ўніз на ільды,—
Ля кругу палярнага ніклі сляды.

Ты ніколі брывёю густой не ўздрыгнеш,
Калі надзяваеш свой шлем і шынель

Ї ўзнімаеш з наганам руку сваю
Ля слупоў, што мяжуюць Вялікі Саюз

Калі горда ў крыві развівае свой ход
Трэці дзесятак праменістых год,

Хочацца песняй жыццю зазвінець,
Жыццё, не марыся, імчы-ж ты мяне!..

З яўрэйскай мовы пераклаў
Ізраіль Плаўнік

ПАЎЛО ТЫЧЫНА

## ПЕСНЯ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

А скажы, скажы, скажы,
Што тут за акраса—
У бляску сілы і жыцця
І здароўя класа?

— Падай, падай, упадай
Самаўладства з тронаў:—
Не спыняцца нам нідзе,
Арміі Чырвонай!

А скажы, скажы, скажы
Ці-ж ўжо цяжка гэтак
Адвыкаць нам ад ярма
Ды ад цемры света?

— Падай, падай, упадай
Звычай цемры ў доме;—
Мы пісьменныя ўсе
Класава-свядомы!

А скажы, скажы, скажы
Прошласць даканаем?
Ну які-ж у вас прысуд
Буржуазным зграям?

— Падай, падай, упадай!
Партыя сказала:—
З намі слаўны Варашылаў
І штандараў слава!

А скажы, скажы, скажы
Дзе-ж канец алюру?
Хто Дзянікіна разбіў,
Калчака, Петлюру?

— Падай, падай, упадай
Тхлань з царкоўным звонам...
Не спыняцца нам нідзе,
Арміі Чырвонай!

З украінскае мовы пераклаў
Вал. Маракоў.

АЛЕКСАНДР МІРОНАЎ

# ЧАЦВЕРАНОГАЕ БАЖАСТВО

Настойліва і цвёрда шырокімі ступнямі ног з поўдня ішла вясна. Крокі вясны лахмаціліся апошнімі пургамі, звонка храбусцелі рэшткамі зімніх маразоў і ярка іскрыліся халодным агнём зор у бяздоннай смузе неба...

Сакавік.

Блакітная вясна.

Незабытная вясна Чукоткі.

Людзі рыхтаваліся да сустрэчы кароценькага, як ласты маржа, лета, рыхтаваліся да гарачай пары звярынага промысла: ладзілі гарпуны, латалі байдары, радаваліся вясне...

Веснавое ажыўленне ўзварушвала людзей прагай да дзейнасці і руху. Людзі радаваліся адыходу доўгай зімы, спатыкалі вясну святамі паляўнічага спрыту і гасціннасці.

## I

Яранга Ульхургына рыхтавалася да свята сустрэчы вясны. Задоўга да намечанага дня Ульхургын папярэдзіў сваякоў і блізкіх роду арадвелян аб надыходзячай урачыстасці, і ў дзень перад святам пазімоваму белыя снягі сопак выкінулі да стойбішча Энурмын некалькі шпаркіх запражак гасцей.

Ульхургын сустракаў гасцей ля ярангі, дапамагаючы выпрагаць сабак, распытваў пра дарогу. Пад вечар у ярангу сабраліся ўсе запрошаныя. Яны адзін за адным спаражнялі вялізныя чайнікі і жонка Ульхургіна, Нэнэцт, часта падкладвала на шырозныя драўляныя сподкі сакавітае маржовае мяса.

Госці сталі расказваць аб навінах стойбішч, аб зіме, аб паляванні і людзях. Запас навін, растайваючы, як снег вясной, у сваю чаргу заступіў месца казкам і паданням, якія з роду ў род, з пакалення ў пакаленне перадаваліся дзядамі і апавядальнікамі казачнікамі. Зменяючы адзін аднаго, мімікай і гестамі дапаўняючы скупыя словы, яны гаварылі аб паляванні—

— аб хітрых птушках і страшных мядзведзях,—

— аб магутных маржах і драпежных ваўках,—

— аб звярах краіны блакітных прастораў.

Навокал сядзелі слухачы, нямыя ад напружанай увагі, шмат хто ўжо раней чулі апавяданні, але зачараваныя рытмам сказаў, не заўважалі гэтага і слухалі з неаслабнай увагай, на-нова перажываючы аповесці блакітных снягоў.

Тры жырнікі ярка асвятлялі палог. Бліжэй да жырнікаў сядзелі старыя, разам з гаспадаром і гасцём-шаманам. А далей у цемры, адкідваючы недарэчныя цені на сцены палога,—маладыя госці, жанчыны і дзеці.

Пасля апавядання слухачы маўчалі, абдумваючы пачутае, потым па чарзе гаварылі, абмяркоўваючы яго. А калі падняўся шаман, людзі прыціхлі, гатовыя слухаць страшнае і цікавае:—пра духоў. Шаман набіў люльку валакністым і пахучым тытунём, закурыў і пасля некалькіх глыбокіх, як уздых стомленага бягуна, зацяжак, загаварыў.

— Вось Таютэйкін зараз гаварыў пра паляванне на умку. Добра гаварыў Таютэйкін, так. Таютэйкін слаўны паляўнічы! А ці ведае ён, якога умку можна забіваць, а якога нельга? Не, не ведае гэтага Таютэйкін і мала хто ведае гэта. А трэба ведаць, бо іначай так можа быць: спаткае паляўнічы ўмку, будзе страляць і замест умкі набудзе сабе бяду. Вялікую бяду набудзе, але...

Шаман змоўк, паправіў агенёк у люльцы, зноў зацягнуўся глыбока і сакавіта:

— Я ведаю, якога умку нельга забіваць. Я—шаман Тайел. Ї зараз скажу гэта вам, аравелян... Вось калі умка цягне за сабою заднюю левую лапу, яна ў яго нібы карацей другіх—такога умку нельга забіваць. Ён бывае белы, а нага кароткая жоўтая і ідзе ён прысядаючы. Нават калі папрабаваць забіць яго,—усёроўна не заб'еш, але, у ім жыве дух... Умка свяшчэнны... Калі спаткаеш яго, трэба сыйсці з дарогі і пакланіцца, як старэйшаму. Тады ён убачыць, што *ты не маеш* да яго зла і ён не зачэпіць. Іначай будзе бяда...

Тайел змоўк. Маўчалі і ўсё у яранзе, і кожны успамінаў пра мядзведзяй, якіх некалі спаткаў у бязмежных прасторах краіны ледзянога маўчання.

* * *

Сын Ульхургына—Онна—сядзеў у баку з маладымі. Ён мала сустракаў мядведзяй за свае восемнаццаць зім, і зараз, слухаючы шамана, радаваўся, даведаўшыся прыкметы свяшчэннага умкі. Ї запомніў іх моцна—на ўсё жыццё.

— Спаткаю умку,—рашыў ён,—буду ведаць свяшчэнны, ці не.

* * *

Раніца была радаснай, пахла вясной. Сонца прышло яркае, абмытае снегам. Разам з сонцам з ярангі Ульхургына вышлі госці і гаспадар.

Госці запраглі сабак у вузкія і шпаркія, як стрэлы, нарты. Гаспадар расклаў на снезе чай, табак, нож, скуры маржа і нерпы. З усіх яранг стойбішча сышліся суседзі—мужчыны і жанчыны, дзеці і старыя змяшаліся з гасцямі, густым і лахматым натоўпам абкружылі раскладзенае на снезе... Ї тады гаспадар правёў перад ярангой глыбокую рысу...

Ля рысы радком выстраіліся шэсць запражак, сабакі шостай нецярпліва вішчэлі і горача ірваліся ў бег, і каюр-гаспадар Ульхургін—ледзьве стрымліваў іх.

Шаман Тайел папярэдзіў каюраў пра пачатак бега і тыя застыглі, напружана сочачы за яго рукою. Тайел не спяшаў, любуючыся незвычайнай лёгкасцю сабак і нарт. Разам з шаманам заціхлі ўсе гледачы, усхвалёваныя будучым бегам.

— Пайшоў!—Тайел рэзка ўзмахнуў рукою. Запражкі ірванулі разам; каюры закрычалі зразумелае сабакам і сабе і, падаючы ў нарты, гналі сабак. Нарты скрыпелі марознымі і тонкімі галасамі. Ззаду ад іх віхрыўся падняты сабачымі лапамі снег.

Сабакі імчаліся навыперадкі, згараючы азартам перагнаць. Спачатку ўсе шэсць запражак ішлі радам (ніхто не хацеў адставаць),

потым блытаючыся яны збіліся ў адзін камок узвіхранага снега і паімчаліся, усё больш і больш аддаляючыся ад стойбішча. Снег, падняты запражкамі, сцяною закрываў людзей. Снегавое воблака, хутка аддаляючыся, рабілася ўсё меншым і меншым, і нарэшце зусім знікла ў бялёсай імгле бясконцай далі.

Людзі каля ярангі чакалі, усё больш і больш хвалюючыся. Людзі спрачаліся:

— Хто прыедзе першым?!—і горача называлі імёны каюраў лепшых сабак.

Найбольш дальназоркі крыкнуў:

— Ідуць!

У далечыні, дзе з гурбы снягоў уставаў бірузовы край веснавога неба, мігала малюсенькая чорная кропка. Кропка расла ў памерах, выцягвалася ў запражку. За ёю вырасла другая... трэцяя... чацвертая... пятая... шостая...

— Хто першы?

Адрозніць не мог ніхто, але кожны хацеў убачыць свайго кандыдата і людзі спрачаліся:

— Ульхургын!

— Тайютэйкін!

— Карэм!

Кропкі раслі перад фінішам, набіраючы найбольшую шпаркасць і хутка гледачы ўбачылі першага—лепшага каюра і лепшых сабак стойбішча.

— Ульхургын!

Запражка, губляючы апошнія сілы, перарэзала глыбокую рысу фініша і ў снег ускочыў Ульхургын. Ён узяў вялікую і мяккую шкуру маржа, радасна патрос ёю і падбег да старой у натоўпе:

— На!—ён падаў скуру. Шый сабе тарбазы...

Гаспадар ярангі, ззяючы гордасцю, падараваў сваю прэмію самай старой і самай беднай жанчыне стойбішча. Ульхургын ласкава выпраг сабак і тыя закачаліся па снезе... Гаспадар зноў расклаў на снезе прэміі, разам з усімі стаяў ля фініша, наглядаючы за бегам моладзі. Кожны з бягуноў, прыходзячы да фініша, браў аблюбаваны заранеей прыз і адыходзіў у бок, радуючыся маладосці і перамозе.

А потым зноў у полагу пілі чай, елі сакавітае і пахучае мяса, слухалі казкі. Позна ўвечары шаман Тайел заклікаў да ярангі добрых духоў і ўдачу ў веснавых промыслах.

## 2

— Онна, ты пойдзеш у Ванкарэм у факторыю... Няма чаю, няма цукру і тытуню, трэба купіць.—Ульхургын адхлібнуў гарачай вады са спадочка: чаю не было, на свята вышлі ўсе запасы.

Онна памаўчаў, адхлёбваючы, як і бацька, гарачую ваду. Не атрымаўшы адказа, Ульхургын працягваў:

— Сабакі стаміліся ў гонках, ты пехатою пойдзеш...

— Добра.—Онна устаў.—Пайду пехатою...

Ён рана лёг спаць і з першымі праблескамі раніцы выйшаў з ярангі. Бірузовая раніца ззяла непарушнай цішынёй, на ўсходзе аграмадным кастром разгаралася зара. У пяшчотных паўценях світання снег быў блакітным, накатам адыходзіў да скаванага ільдом мора. За ярангамі ён моўчкі адыходзіў у нямыя сопкі берага, у горы, парэзаныя глыбокімі далінамі.

Онна паправіў заплечны мяшок, моцна прывязаў на ногі снегаступы,

закінуў за спіну вінчэстэр. Ля ўвахода ў ярангу, наглядаючы за зборамі брата, стаяў Нэнэк—малодшы сын Ульхургына.

— Ты скора вернешся, Онна?—спытаў ён.

— Але, Нэнэк. І прынясу табе слаўны падарунак...

— Не трэба падарунка, ты лепш сам прыходзь хутчэй. А падарунак прывязі маленькім дзецям. Бо я ўжо вялікі!

Хлапчук любаваўся прыгожым братам. Высокі і стройны, хударлявы і шырокі ў плечах, Онна ўяўляўся яму, як узор мужчыны і слаўнага паляўнічага аравелян, а чулыя адносіны хлапца да дзяцей, клопаты і гасцінцы моцна прывязалі да яго малых і больш за ўсіх браціка Нэнэка.

Нават знаходзячыся ў Ванкарэмскай школе-інтэрнаце, маленькі Нэнэк часта ўспамінаў брата, з гордасцю расказваў пра яго таварышам школьнікам і невыказана радаваўся рэдкім прыходам Онны. І зараз, прыехаўшы на вакацыі ў ярангу бацькі, ён стараўся не адыходзіць ад любімага брата, а адыход Онна на некалькі дзён у Ванкарэмскую факторыю зажурыў хлапчука.

— Хутка, хутка варочайся назад, Онна!—крычаў ён услед брату, які шпарка аддаляўся. Ён доўгім позіркам праводзіў брата, а калі той схаваўся за ўзгоркамі, цяжка ўздыхнуў і павольна пайшоў у ярангу

* * *

Пад вечар Онна прышоў у стойбішча Коунэн, у Калючынскай губе. Заначаваў у яранзе знаёмага чукчы Вахатуры. Палова дарогі была адкінута за спіну, і ланцужок лёгкіх слядоў снегаступаў Онны яшчэ не замецены веснавым снегам. Заўтра такі-ж лёгкі ланцужок будзе. ляжаць у аснежаных сопках, а падвечар Онна будзе у Ванкарэме. А там яшчэ два доўгіх і светлых дні і зноў мыс „Сэрца-Камень“ і роднае стойбішча Энурмын. Зноў у яранзе будзе цукер і чай, а дзеці радасна засмяюцца доўга чаканым падарункам брата...

...І—

— Вось:

— веснавым досвіткам выйшаў Онна з ярангі Вахатуры. Адпачыўшае за нач цела было бадзёрым, лёгкі мароз шчыпаў твар, а сонца і вецер былі за плячыма, вясёлыя як маладосць. Вецер скарачаў шлях, штурхаў у спіну.

Зноў сопкі маўкліва абкружылі падарожніка, здзіўлена наглядаючы за шпаркай хадою парушыцеля нечапанага спакою. Онна ішоў чуць нахіліўшыся ўперад, заклаўшы за спіну рукі. Так ходзяць прыморскія чукчы, лепшыя хадуны поўначы. Ён думаў пра блізкія промыслы, пра адвагу паляўнічага, пра людзей свайго і чужых стойбішч.

Крокі скрыпелі рытмічна і роўна.

Сопкі купаліся ў сонцы.

Нараджаўся дзень.

У поўдзень вецер сціх, і над снягамі краіны блакітных прастораў распасцерлася нерухомасць штыля. Крокі чалавека станавіліся павольнымі ад стомленасці. Онна ішоў:

— Раз.—Два.—Пяць.—Дзесяць...

— Гадзіна... Дзве... Яшчэ гадзіна...

— Скрып снегаступаў.

— Дарога...

А калі да стойбішча Ванкарэм застаўся невялікі час снегавога перахода, падарожнік спыніўся і абярнуўся назад. Непадалёк ад яго, нізка апусціўшы галаву і абнюхваючы сляды чалавека брыў аграмадны мядведзь.

Онна спрытна скінуў з пляча вінчэстэр, прысядаючы на калена.

Чакаў, падпускаючы мядведзя бліжэй. Мядведзь заўважыў насцярожанасць чалавека і, ужо не нюхаючы след, пайшоў на яго. Чорны трохкутнік мядвежага носа бесперастанку рухаўся, ловячы пах двуногага ворага. Мядведзь быў па-веснавому галодны і павеснавому злы. Онна бачыў яркую бялізну яго скуры, ён адчуваў небяспеку промаха, але вопыт паляўнічага рабіў рукі моцнымі і ўпэўненымі, і Онна спакойна падняў вінчэстэр да пляча.

Прыцэліўся, ловячы на мушку лютае вока умкі. Мядведзь чуць павярнуўся бокам і Онна апусціў стрэльбу: на ярка белай звярынай скуры плямаю вылучалася жоўтая нага. На заднюю левую нагу мядведзь прысядаў, трошку вялочачы яе за сабою.

— Свяшчэнны умка!—успомніў Онна прыкметы, аб якіх чуў ад шамана Тайела. Ён апусціў вінчэстэр і ўстаў. Мядведзь таксама спыніўся. Ён сачыў за чалавекам.

— О, умка!—загаварыў Онна.—Я мірны падарожнік і не хачу табе зла. Я не буду страляць, я ціха пайду. Вось я пакідаю свой снегаступ, толькі не чапай мяне.—Ён хутка адвязаў снегаступ і, пакінуўшы яго на снезе, пайшоў ад мядведзя. Мядведзь пастаяў нерухома, падышоў да снегаступа, абнюхаў яго, зачмыхаў і зноў пайшоў за чалавекам.

— „Мала яму аднаго снегаступа“—падумаў хлапец, скідваючы другі. Ён спяшаўся, стараючыся ўцячы ад чацвёраногага бажаства, але мядведзь нават не спыніўся ля снегаступа.

Онна абярнуўся.

— Не чапай мяне, умка. Я мірны падарожнік,—паўтарыў ён.

— Вось я кідаю свой нож. Я не хачу крыўдзіць цябе.

Нож астаўся ў снезе адзінокім і непатрэбным. Мядведзь абнюхаў яго мімаходам і пайшоў далей...

На чалавека!

Тады Онне стала горача: душыў страх. Ён прасіў мядведзя не чапаць мірнага падарожніка, абяцаў яму добрую ахвяру, раскідаў патроны і, задыхаючыся, бег наперад, глыбока правальваючыся ў снег. У даліну спусціўся змрок блізкага вечара. У змроку бег чалавек, ахоплены вялікім страхам, а за чалавекам, цяжка дыхаючы, ужо даганяючы ахвяру, бег мядведзь. Онна адчуваў за сабою яго гарачае дыханне, мядведзь чмыхаў злосна і неўмольна...

Чалавек зноў абярнуўся;

— Стой, ты! Ён ускінуў да пляча вінчэстэр.—Не чапай мяне!

Мядведзь спыніўся.

— Не чапай!—паўтарыў Онна.—Я пайду і ты ідзі. Чуеш, умка? А то буду страляць!—Чалавек чакаў адказа, гатовы да барацьбы. У гэтую хвіліну у ім прачнуўся гарачы інстынкт паляўнічага, ён гатоў быў кінуцца і ў барацьбе перамагчы альбо памерці. Але мядведзь павольна варушыў аграмаднай галавою, і ў свядомасці чалавека зноў усплылі словы шамана: і страх яшчэ большы, чым страх смерці:

— Страх перад духамі.

Мядведзь зноў ступіў да яго, чалавек апусціў вінчэстэр і слабым голасам прамовіў:

— Умка, вялікі і свяшчэнны! Я аддаю табе апошняе—стрэльбу, табе мала таго, што я даў раней—на, вазьмі апошняе, але пакінь мне жыццё.—Ён кінуў мядведзю вінчэстэр, павярнуўся і, хістаючыся, пайшоў ад звера, без агляду і без надзеі.

Мядведзь абнюхаў вінчэстэр, наступіў на яго лапаю і зарыкаў, нібы зразумеў чалавечую слабасць перад ім—зверам. І павольна крадучыся, пашоў за двуногім, мігаючы маленькімі і злымі шчэлкамі вачэй і аскаляючы вострыя зубы.

## 3

На трэці дзень пасля адыхода брата Нэнэк выбег з ярангі. Ен хацеў убачыць сярод белых сопак стройную фігуру Онна. Хлопчык доўга стаяў на марозе, углядаючыся ў даль. Нэнэк вярнуўся ў ярангу сумны і задуменны. Уначы спаў трывожна, часта прачынаўся.

Наступны дзень таксама не прынёс Онну. Хлопчык стаў непакоіцца. А калі прайшоў яшчэ дзень і Онна не вярнуўся у стойбішча, непакой Нэнэка перадаўся Ульхургыну: ён рашыў ехаць у Ванкарэм за сынам.

— Што магло здарыцца з Оннай? думаў Ульхургын, паганяючы сабак. Ён перабраў дзесяткі прычын, якія маглі-б затрымаць сына, але ўсе прычыны здаваліся не важкімі. Ульхургын прыехаў у Коунэнь, не ведаючы, як растлумачыць тайну.

— Онна быў?—спытаў ён у Вахатуры.

— І-і—начаваў шэсць начэй назад...

— Куды пашоў?

— У Ванкарэм пашоў. Гаварыў—у факторыю...

— А назад?

— Назад не ішоў,—чукча развёў рукамі:—не было Онна. А што?

— Пашоў у факторыю і не вярнуўся, дзе можа быць?

— Э, не ведаю. Едзь у Ванкарэм, Ульхургын.

Не спыняючыся на начлег, не даўшы адпачыць сабакам, Ульхургын пагнаў запражку у Ванкарэм. Аб'еджаная дарога лёгка гнала нарты, але з кожнай нямеранай міляй бег сабак усё больш і больш станавіўся павольным. Прыехаўшы у стойбішча, сабакі пападалі ля першай ярангі, высунуўшы вялікія і ласкавыя языкі.

— У факторыі Онна не быў,—адказаў Крывдун, загадчык фактырыяй.—Не прыходзіў Онна. Не ведаю, дзе ён. Можа заблудзіўся.

— Не!—Ульхургын разгублена і беспакойна кіўнуў галавою,—Ён ведае дарогу, многа разоў хадзіў у Ванкарэм.—

— А як хадзіў?

— Гарамі. Так усе ходзяць. А нарты гоняць па беразе, там дарога раўней.

Ульхургын пастаяў у факторыі, коратка адказваючы на пытанні рускага. Ён зноў абдумваў, шукаў прычыны знікнення сына: „Заблудзіўся?—не, ведае дарогу. Умку спаткаў і загінуў?—Не. У яго вінчэстэр, страляе Онна трапна. Пургою занесла?—Зноў не, пургі-ж не было ўсе гэтыя дні! Дык дзе-ж ён?..“

* * *

І яшчэ прайшло тры доўгіх, як пры хваробе дні. Онна не было ў Ванкарэме, ні ў Коунэне, ні ў родным стойбішчы Юнырмын.

* * *

Яшчэ рана, ледзь толькі сонца доўгімі пальцамі-праменнямі пачало ашчупваць гарызонт, з стойбішча Коунэнь выйшлі дзве сабачыя запражкі. На пярэдняй, углядаючыся ў застыўшыя старыя сляды снегаступаў, ехаў Ульхургын, задняй кіраваў Вахатуры. Першую гадзіну дарогі Ульхургын паўтараў упэўнена і пераконана некалькі разоў пад рад:

— Так, так. Гэта след снегаступаў Онна. Я добра ведаю іх: вось у левага на пяце ўціснута—тут вузел, я сам завязваў перад адыходам Онна.

След цягнуўся ў звілінах сопак, пераваліваючы праз невысокія

ўзгоркі, перасек даліну. У некаторых месцах свежыя пленкі снегавога намёта, і тады Ульхургын трывожна ўглядаўся ўперад, шукаючы загубленае.

— І не знаходзіў—

— і зноў гнаў сабак

— і зноў думаў:

— „Што магло здарыцца з Оннай? Ён дужы хлапец, слаўны паляўнічы. Што? мядведзь?—не. Заблудзіўся?—не. Пурга?—не. Што? Няўжо... калі злыя духі заўладалі ім?

Бацькава трывога і непакой былі відаць у нервовых крыках на сабак. Сабакі, заражаючыся хваляваннем чалавека, ірваліся з пастромак, лёгка нясучы нарту. А потым, наступіў час, калі далёка ўперадзе стала відаць нешта чорнае. У гэтым месцы ў даліне вецер намёў з навакольных сопак свежыя гурбы снегу і замёў сляды. Каюры гналі сабак наўздагад удоўж даліны. Невядомы прадмет уперадзе пацвердзіў правільнасць іхняй дарогі.

— Онна ішоў тут!

Нарты параўналіся са знаходкай—яна аказалася снегаступам.

— Гэта яго снегаступ!—узрадаваўся Ульхургын.—Але дзе сам Онна?

Зноў імчалі сабакі наперад і зноў уперадзе нешта зачарнела.

— Зноў снегаступ!—крыкнуў каюр задняй запражкі.—

Побач са снегаступам людзі заўважылі сляды чалавека і... аграмадныя адбіткі мядвежых лап: снег зачарсцвеў, новыя наносы засталіся ззаду, у снезе выразна відняліся сляды звера і чалавека.

— Умка!—выгукнулі абодвы каюры. Яны зразумелі—Онна спаткаў мядведзя; але недаўменне людзей вырасла яшчэ больш, калі на снезе не заўважылі крывавых плям.

— Онна не страляў. Чаму?

... Потым знайшлі маленькія цыліндры патронаў ад вінчэсцера, знайшлі нож—і далей не было ніводнай каплі крыві.

Людзі чыталі па слядах, як у кнізе. Сляды расказвалі аб незразумелай падзеі ў сівым абкружэнні сопак. Людзі бачылі:

— Ішоў чалавек

І

Ішоў мядведзь.

— Чалавек азіраўся, спыняўся, нешта рабіў. Тут снег чуць закрануты наском торбаза—і адразу глыбокі правал нагі: тут чалавек спатknуўся, ледзьве не паваліўся. За чалавекам неадступна ішоў мядведзь.

Спрактыкаваныя вочы паляўнічых лёгка вызначылі велічыню звера па адлегласці між адбіткамі пярэдніх і задніх лап. Паляўнічым вокам Ульхургын убачыў: мядзедзь чуць кульгаў на левую заднюю лапу. След яе быў глыбей трох астатніх.—і трошку валачыў яе за сабою, кіпцюрамі разграбаючы снегавую скарынку.

І тады

— раптоўна,

— нечакана,

Адразу

Ульхургын успомніў: свой палог, свята і апавяданне шамана Тайела. Зразумеў і спыніў сабачы бег.

* * *

„Нібы адпачыць прылёг,—падумаў Вахатуры. гледзячы на труп Онны. Хлапец ляжаў, падклаўшы пад галаву руку. Ногі сагнуты ў каленах, уся постаць нібы адпачыць лягла ў пушысты снег. Толькі на спіне крывавай ранай ззяла разарваная камлейка і замест другой рукі з пляча звісаў абгрызены абрубак.

...І яшчэ...

Спакойны і чысты твар юнака здзіўляў сваімі вачыма. Чорныя і глыбокія, яны шырока глядзелі на свет і людзей, на сопкі... Нерухомыя, яны здавалася сачылі за ўсім і нічога не заўважалі.

Бацька панура глядзеў на труп, твар яго быў абыякавым і халодным, і толькі вочы чорныя і бяздонныя,як у сына, пералсывалі пакуту, журбу, боль за дарагое і страчанае назаўсёды. Падарожнік, шкадуючы чалавека, станавіўся суровым, як і Ульхургын.

Людзі не гаварылі, не плакалі, не скардзіліся: людзі глушылі глыбокае гора сумнай маскай абыякавасці.

— Ён спаткаў свяшчэннага ўмку і ўмка яго забіў,—сурова прамовіў бацька, нагінаючыся над трупам. Людзі распранулі нябожчыка, выраўнілі скаванае смерцю цела, павярнулі на спіну, паклаўшы галавою на ўсход і нагамі на захад—па звычаю продкаў. Мерцвяк ляжаў спакойны, яго нерухомыя шырока-адкрытыя вочы здзіўлена глядзелі ў неаглядны блакіт неба, быццам шукалі ў ім маўклівага і па-веснавому радаснага тлумачэння непатрэбнай і крыўднай смерці.

Людзі дробненька парэзалі вопратку Онна, кавалкамі раскідалі навокал трупа. Побач паклалі снегаступы, нож і падабраны вінчэсцер. Ульхургын паправіў вупраж на сабаках, і сабакі пашлі назад па свайму следу, панура апусціўшы галовы. Каюр зморана ўпаў на нарты. За першай запражкай пайшла другая, і хутка яны ледзьве прыкметнымі кропкамі мільгалі ў глыбіні даліны, пакідаючы яе назаўсёды.

А па слядах людзей, крадучыся з шорахам ветра з сопак на даліну—на краіну блакітных прастораў

— зышло
— вялікае
белае
маўчанне

І пакрыла даліну, і сопкі блакітнае марава веснавога дня безмяцежнай спрадвечнай плёнкаю лёдавай цішыні.

4

У ярангу Ульхургын вярнуўся увечары. Быў ён раўнадушны, нібы каменны, не спяшаючыся распрог сабак і кінуў ім корм. Нават увайшоўшы ў ярангу, ён маўчаў, разам з ім маўчалі і ўсе, бо падарожнік гаворыць толькі тады, калі будзе накормлены і сагрэты.

Загаварыў ён, адхлёбваючы гарачую ваду (так і не паспеў купіць у Ванкарэме чаю), і кожнае слова Ульхургына падала ў напружаную ўвагу слухачоў, нібы вялікія і цяжкія глыбы ільда ў веснавым хаосе разводдзя. Здавалася, балючы жах страты дарагога і блізкага паралізаваў рухі людзей, ператварыў іх у згусткі сціснутага дыхання і жудасці...

— Умка забіў Онну,—скончыў Ульхургын.—Свяшчэнны ўмка, пра якога гаварыў шаман Тайел.

— Але чаму забіў?—не вытрымалі з боку.—Тайел гаварыў, што калі не чапаць свяшчэннага умку, дык ён таксама не зачэпіць падарожніка, а Онна...

— Онна не чапаў умку,—рэзка перабіў Ульхургын.—Ён аддаў умку усе свае рэчы, але умка забіў Онну.

— Чаму забіў?—зноў спытаў нясмелы голас.

Ульхургын не спяшаў з адказам. У душы яго адбывалася глыбокая барацьба: ён разумеў—калі-б Онна забіў мядзведзя, ён быў-бы зараз у яранзе, цэлым і вясёлым, а аддаўшы мядзведзю зброю, ён стаў ахвярай звера. І Ульхургын хацеў адказаць на запытанне аб прычыне

смерці: „У смерці вінават шаман Тайел, бо шаман падманіў і Онну і Ульхургына і ўсіх, гаворачы аб святасці ўмкі і недатыкальнасці пакорнага духам падарожніка.“ Але сівыя, як жыццё, спрадвечныя, як зямля і сонца, законы продкаў, загадвалі яму, Ульхургыну, і разам з ім усім аравелян слухацца тых, хто можа весці гутарку з духамі, хто ведае волю духоў. І законы продкаў прымусілі бацьку забітага адказаць скупымі словамі:

— Не мне ведаць, чаму забіў. Духі лепш ведаюць, яны даручылі свяшчэннаму умку забіць Онну.

У яранзе наступіла густая і цяжкая, як смерць, цішыня. Людзі хавалі позіркі ад другіх, яны згаджаліся з Ульхургынам, але ў патупленых чалавечых позірках было недавер'е да слоў апавядальніка і неўпэўненасць у яго праваце.

— Так хацелі духі і гэта добра...—жалобным голасам пацвердзіла Нэнэцт, Ульхургынава жонка.

* * *

Нэнэк выбег з ярангі ў цемень звонкай веснавой ночы. Хлопчыка душылі слёзы, гора, адчай. Ён бег далей у цемень, стрымліваючы плач. Потым паваліўся.

Заціх.

І раптам заплакаў ціха і горка, даўшы ў слязах выхад свайму гору.

У галаве ў хлапчука, нібы пурга, праносіліся абрыўкі думак. Ён адчуваў непатрэбнасць смерці і неправату шамана. Думаў: „Не здарма ў школе настаўнік гаварыў, што шаманы не заўсёды правы, менш праўдзівы, чым простыя аравелян... О, настаўнік быў правы. Нэнэк зараз сам бачыць: шаман Тайел падманіў Онну. І Онна загінуў дарэмна!..“

Хлопчык ускочыў на ногі, заліваючыся слязмі. Яго маленькая постаць скруцілася ў тугі камок злосці, і з пагрозай падняты ў начную сінь кулак быў сімвалам нянавісці маладой і магутнай:

— Чакай Онна!—голасна закрычаў хлопчык.—Чакай, я адпомшчу за цябе, Онна! Вырасту, буду працаваць і тады скажу ўсім, усім аравелян, каб не верылі абманшчыкам шаманам!

---

БУЗА

## МАСОЎКА

Серабрыцца
Стужкай Свіслач.
Над вадою
Сонца звісла.
Сонца звісла,
Поле-шоўкам.
Выйшаў горад
На масоўку.

Неба сіняе.
Высока
Самалёт ляціць
На ветры—
То плыве
Паважна
Бокам,
То нырае
У паветры.

Ї лятуць
Лістоўкі роем,
Як жывыя
З неба долу.
Мы іх ловім
Грамадою.
Грае музыка
Вясёла.

Палымнее
Сцяг чырвоны.
Гучна радыё
Спявае.
Крочаць юныя
Калоны
Белых блузак,
Сініх маек.

Сэрцу радасна
Бясконца.
Мора кветак.
Пахне мёдам.
Маладосць
Шугае сонцам
Нашых фабрык
Ї заводаў.

Маладосць
Граніц не мае
У рэспубліцы
Советаў.
Мы спяваем.
Нас вітаюць
Радасць,
Маладосць
Ї лета.

---

## ЧЫРВОНЫЯ КАСЫНКІ

Калгасныя дажынкі.
Пад музыку жняяркі
Апошні колас жыта
Схіляе галаву.
Чырвоныя касынкі
Гараць на сонцы ярка—
Калгасніцы дзяўчаты
Збіраюць збажыну.

Дажынкам кожны рады.
А дзень такі вясёлы!

Плыве над намі сонца,
На кветкі звіўся рой...
Я сёння ў брыгадзе
Ударніц-комсамолак
Нашу снапы і стаўлю
У бабкі пад гарой.

Чырвоныя касынкі
Агнём гараць у сэрцы,
Фарбуюць мае шчокі.
Ліецца пот расой.

Калгасныя дажынкі—
Ня чуюць стомы плечы
Пад музыку жняяркі,
Пад шолах каласоў.

Ідзе ступой няспыннай
Паважна і павольна
З пад лесу шэры вечар.
Туман плыве з лагчын.
Сціхае гул машыны
На шырачэзным полі.
Спыняецца работа—
Пад срэбны дым начы.

Чырвоныя касынкі
Прыкметны ледзь у мроку.
Глядзіць на далі месяц,
Гарадь мільёны зор.
Калгасныя дажынкі.
Ідзём павольным крокам
Дарогаю, а песні
Імчацца у прастор.

А. НЕКРАШЭВІЧ

# ПІСЬМЕННІК І КІНО

Усім вядома ацэнка Леніным кіно, як важнейшага з мастацтваў. І сапраўды ніводзін з відаў мастацтва не можа зраўняцца па сваёй масавасці з мастацтвам кіно. Калі лепшыя тэатры ахапляюць тысячы гледачоў, дык кіно ахапляе мільёны. Кіно—самы даступны від мастацтва. Калі тэатр патрабуе для лепшых сваіх пастановак адпаведных умоў, якія не ў кожным месцы ў наяўнасці, дык самы лепшы фільм даступны калгасу ў самым глухім пакуль кутку нашае вялікае радзімы так-жа, як і самаму буйнаму яе цэнтру. Прыход гука у кіно спачатку некалькі абмежаваў магчымасці кіно: па-першае, мова стала ў некаторай ступені перашкодай яго інтэрнацыянальнай даступнасці, і, па-другое, недастатковая тэхнічная база часова стала перашкодай пранікненню кіно туды, дзе гукавых установак пакуль яшчэ няма.

Аднак і гэтыя перашкоды досыць хутка перамагаюцца кіно. Моўная, калі так можна сказаць, перашкода ліквідуецца праз вытворчасць, адначасова фільма ў некалькіх моўных варыянтах і праз умелае скарыстанне дыялага і яго спалучэнне з іншымі кампанентамі кіно так, што неведанне той ці іншай мовы гледачом амаль не перашкаджае ўспрыйманню фільма. Разрыў-жа гукавога кіно з тэхнічнай яго базай (гука-устаноўка) таксама досыць шпарка ліквідуецца і ўжо зараз спраектавана партатыўная гука-перасоўка, якая робіць даступным гукавы кіно-фільм для самага невялікага паселішча.

Не варта тут спыняцца на тым, што ў нас кіно ўвайшло ў паласу росквіта толькі пасля Кастрычніка, а нацыянальнае кіно ёсць просты прадукт перамогі пролетарыята і правільнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі. Увогуле кіно, якое налічвае 25—30 год свайго існавання, стала сапраўдным мастацтвам толькі пасля Кастрычніка і змагло даць такія шэдэўры, як „Броненосец Пацёмкін“ Эйзенштэйна, „Маці“ Пудоўкіна, „Сустрэчны“ Эрмлера.

Асноўнае, што адрознівае наша совецкае кіно ад дарэволюцыйнага рускага, а таксама і сёняшняга капіталістычнага—гэта яго высокая ідэйная насычанасць у спалучэнні з высокім майстэрствам.

Капіталістычнае кіно, як і ўсе бакі жыцця капіталістычных краін, перажывае найвялікшы крызіс. Нельга сказаць, і гэта было-б неправільна, што капіталістычнае кіно безідэйнае, не. Далёка не! Яно там выконвае вельмі важную функцыю адцягнення шырокіх працоўных мас ад социяльных праблем, ад змагання з капіталізмам, з аднаго боку, і спрабуе мабілізаваць масы на змаганне з краінай социялізма.

У некаторых краінах, як напрыклад, Японія, яно нават „расквітае“: за адзін толькі апошні год японскай буржуазіяй спечана 2000 (!!) антысовецкіх карцін.

Нямецкія фашысты цалкам мабілізавалі кіно на вызваленне „пра-

вадыра"—„храбрага" чыстакроўнага арыйца штурмавіка. На гэтую тэму створан рад велізарнейшых фільм, затрачаны надзвычайна вялікія грошы, але масавы гледач, па прызнанню саміх фашысцкіх газет, не хоча глядзець гэтых ура-патрыятычных карцін. Гэта зразумела. Ніколі нямецкае кіно не было такім тупым, антымастацкім, вульгарным, якім яно стала за апошні час панавання фашысцкай дыктатуры.

Гніенне капіталізма, нечуваны крызіс, які ахапіў усю капіталістычную сістэму, не мог не выклікаць розных тэорый і тэорыяк свайго выратавання. „Назад да сераднявякоўя"—крычаць нямецкія фашысты. „Далоў тэхніку, назад на зямлю, да першабытных спосабаў яе апрацоўкі"—паддакваюць ім у сваіх тэорыях і тэорыйках фашысцкія „вучоныя".

І кіно, вядома, не адстае. Яно заўсёды было перадавым і зараз-жа тэорыі і тэорыйкі рэалізуе ў „мастацкіх" вобразах на экране.

Вельмі характэрным прыкладам прадукцыі гэтага тыпа з'яўляецца нядаўна зроблены ў Амерыцы фільм „Кінг-Конг", які давялося бачыць мне. Гэты фільм вельмі паказальны, як з боку густу, так і па сваёй накіраванасці і таму спынімся коратка на яго змесце.

Кіно-рэжысёр бадзяецца без працы па гораду і ўсім скардзіцца, што ён не мае тэмы для свае чарговай пастаноўкі. Знаёмы капітан карабля раіць яму паехаць разам з ім на маладаследваны востраў, дзе адбываецца нешта надзвычайнае. Рэжысёр знаходзіць у чарзе беспрацоўных прыгожую дзяўчыну, бярэ яе за акторку, бярэ сабе памочнікаў і на караблі едзе на востраў. Як і павінна быць у амерыканскім фільме, у дзяўчыну па дарозе ён закахаўся. Прыязджаюць на востраў і бачаць, што на невялікай яго частцы, адгароджанай ад рэшты вострава высачэзнай сцяной, мясцовыя жыхары—дзікуны робяць якісьці абрад над дзяўчынай-туземкай. Вёрткі кіно-аператар пачынае здымаць, але дзікуны заўважваюць гэта, нападаюць на брыгаду і брыгада ледзь выратоўваецца, уцёкшы на карабель. А ноччу з карабля знікае дзяўчына-акторка. Тым часам дзікуны скрадзеную дзяўчыну прыбіраюць, выводзяць за вароты і прывязваюць да ахвярніка, а самі хутка ўцякаюць. І пакуль брыгада збіралася ў пагоню, ды з вялікімі цяжкасцямі адчыняла вароты, да дзяўчыны падыходзіць аранг-утанг, у 10—15 разоў большы ад звычайнага, настолькі вялікі, што, калі ён бярэ дзяўчыну, дык яна змяшчаецца ў яго на далоні. А далей пачынаецца нешта жахлівае. Аранг-утанг, нясучы дзяўчыну ў глыбіню вострава, б'ецца з такімі-ж як ён гігантамі звярыма, не падобнымі ні на аднаго з зараз існуючых, абараняючы ад іх дзяўчыну, у якую ён проста-на-проста... закаханы. Брыгада гоніцца па слядах аранг-утанга, падыходзіць да вялікага возера і на плыце збіраецца яго пераплысці, але ў часе плавання з вады паказваецца велізарнейшае страшыдла, настолькі вялікае, што плыт з людзьмі лёгка змяшчаецца ў яго на невялікай параўнальна з ім галаве. Плыт перавернут, брыгада у вадзе, а страшыдла па чарзе, нібы семячкі, бярэ з вады людзей, каштуе і... выплёўвае. Усё-ж частка брыгады выратоўваецца з вады і гоніцца за аранг-утангам. У часе пагоні аранг-утанг скідае ў прорву рэшту пагоні і выратоўваецца толькі адзін, закаханы ў дзяўчыну. Аранг-утанг хавае дзяўчыну на высачэзнай гары над морам, а сам знікае. Тут яе знаходзіць яе каханак і, ратуючыся ад вярнуўшагася аранг-утанга, кідаецца з ёю у мора. Нарэшце з вады пападае да рэшты людзей з карабля, пакінутых на беразе. Аранг-утанг хутка іх даганяе і толькі пры дапамозе некалькіх бомб яго раняць і раненага забіраюць з сабой.

Другая серыя карціны пачынаецца ўжо ў вялікім горадзе, куды

вярнулася брыгада. Перапоўненая зала і на сцэне рэжысёр з каханай і прыкаваны аранг-утанг. Рэжысёр расказвае свае прыгоды. У гэты час аранг-утанг ірве ланцуг і праз залу па людзях, ломячы ўсё па дарозе, выбягае на вуліцу. Ён настолькі вялікі, што самыя высокія небаскробы ад яго не больш чым у 2—3 разы. Дзяўчына з рэжысёрам хаваюцца ў самым высокім доме. Аранг-утанг шукае дзяўчыну па ўсім горадзе: разбурае дамы, ён ломіць, нібы саломінку, надземную чыгунку, ён, як па мурашках, ідзе па людзях. Нарэшце, ён знаходзіць дзяўчыну і хавае яе на даху самага высокага у горадзе небаскроба. Горад у паніцы. Супроць аранг-утанга мабілізаваны ўсе сілы людзей, але непераможны аранг-утанг, як цар прыроды, стаіць над горадам. Супроць яго мабілізавана авіяцыя з кулямётамі, але і кулямёты не даюць рады, і толькі калі самалёты пачынаюць залішненазаляць аранг-утангу і падлятаюць блізка, ён ловіць іх у жменю, нібы мухі і разбівае аб зямлю. Нарэшце аранг-утанг усё-ж забіты. Ён гарою падае на горад.

На гэтым канчаецца фільм.

Тэхнічна ён зроблены бездакорна. Гэта — дзіўная дэманстрацыя магчымасцей кіно, але па густу цяжка сабе ўявіць што-небудзь больш грубае: кроў, енкі, крыкі, хруст чалавечых касцей—вось з чым мы сутыкаемся на працягу ўсёй карціны.

Трэба мець атупленыя нервы, каб усё гэта ўспрыймаць. Але не гэта характэрна ў карціне. Гэта толькі характарызуе густы гледача-абывацэля капіталістычнага кіно Характэрна другое. Не гледзячы на ўвесь жах, які у вас выклікае гігант аранг-утанг, вы яму міжволі спачуваеце і, калі ён гіне, шкадуеце. І гэта асноўная задача карціны—паказаць нікчэмнасць чалавека і веліч непакоранай прыроды. Гэта як раз тое, аб чым гавораць фашысцкія тэорэтыкі ў сваіх дэзурбаністкіх тэорыйках.

Пры ўсёй тэхнічнай вышыні гэтых пастановак з іх так і нясе бязгусціцай, песімізмам, стратай веры да чалавека. У гэтых карцінах культывізуюцца самыя паганыя бакі чалавека капіталістычнай грамады.

Калі да гэтага дадаць шырока-пашыраны тып так званай кіно-аперэты з адвечным „трохкутнікам": „ён", „яна" і „трэці", з паказам па магчымасці большай колькасці жаночых азадкаў і іншых частак жаночага цела—малюнак будзе поўным.

На другім полюсе сусветнай кіно-культуры—совецкае кіно. У нас няма „Кінг-конгаў", але ў нас ёсць „Гроза", „Встречный" і шэраг іншых карцін, якія гавораць, што і кіно-мастацтва можа быць мастацтвам толькі ў краіне соцыялізма. І нездарма-ж той факт, што на тыя нашы карціны, якія пападаюць за мяжу, валам валіць гледач.

Можна смела сказаць, што сёння совецкае кіно—Медзіна і Мекка ўсёй перадавой кінематаграфічнай думкі света.

Аднак, у нашым несупынным і пераможным руху наперад, мы не можам і не маем права спыняцца на велізарнейшых нашых дасягненнях. Больш таго—мы маем права сказаць, што вырасшыя запатрабаванні совецкага гледача патрабуюць большага, што кіно значна адстае ад агульных тэмпаў развіцця нашай краіны, а ў тым ліку і ад іншых відаў мастацтва, у прыватнасці ад літаратуры і тэатра.

Кіно яшчэ не дабілася поўнай рэалізацыі задач, пастаўленых партыяй—быць занімальным, даваць адпачынак і ўзнімаць культурны ўзровень гледача. Кіно часта яшчэ збіваецца на голую агітпропаўшчыну, яно жанрава аднастайна і таму часам наш гледач галасуе за нас... нагамі.

Калі ставіць пытанне, дзе-ж самае слабае месца ў кіно, дык можна

з упэўненасцю сказаць, што самае слабае звяно ў яго працы—драматургія. Мы маем шэраг выдатнейшых майстроў-рэжысёраў совецкага кіно, але на працягу апошняга часу мы мелі такое становішча, што значная частка кінорэжысуры была ў прастоі з-за адсутнасці сцэнарыяў.

Совецкая кіно-рэжысура за апошнія гады дала высокія прыклады рэжысёрскага майстэрства. Варта ўспомніць паасобныя кавалкі з „Дэзертыра" Пудоўкіна, „Івана" Доўжэнкі і інш.

Аднак усё-ж гэтыя карціны нашым гледачом не прыняты. Чаму?

Прычынай гэтага ў большасці з'яўляецца іх бессюжэтнасць. Вось як характарызуе становішча на гэтым фронце ў кіно тав. Дзінамаў у сваім артыкуле „За сюжетное искусство": „Бывают и более крупные неудачи, как „Дезертир" Пудовкина. Как замечательно сделаны почти все кадры, когда берешь их отдельно. Звук органически влит в картину, он, как воздух, пронизывает все ее движение. Имеются куски потрясающей силы, как борьба за знамя с полицией. Каждый кадр стоит художнику много времени и энергии, он отточен, как драгоценный камень. А в целом все-же картина не вышла. Почему? Отдельные кадры рассыпались без единой нити сюжета. В картине нет напряженного повествования о людях, нет интересной для зрителя судьбы героев.

А вот картина Эрмлера и Юткевича „Встречный" имела огромный успех... В чем же простой секрет успеха картины „Встречный". В том, прежде всего, что в центр картины поставлены люди, строящие страну советов, близкие и родные для миллионов зрителей, они—народные герои, их мысли и чувства волнуют и заражают широкие массы. Во-вторых, поступки и действия этих типичных для массы людей связаны в одну яркую цепь крепко сбитым сюжетом, отдельные эпизоды не рассыпаются, как горох по полу, но сливаются в одну стройную и цельную картину. В третьих, поскольку взяты типичные характеры в свойственных им положениях, картина вышла радостной и бодрой, она дает зрителю оптимистическую зарядку, помогает ему увереннее бороться. „Встречный"—картина о счастливой жизни. В картине наша действительность не лакируется, трудности не замазываются. „Нет таких крепостей, которых не могли бы взять большевики"—вот что расцветает во „Встречном" жизненными и волнующими образами. Сюжетность—это один из основных элементов художественной формы".

Значыць—адзін з недахопаў у бяссюжэтнасці.

Калі-ж пакапацца далей, дык пабачым, што прычына гэтага з'явішча ў большасці закладзена ў пачатку стварэння карціны, а іменна ў сцэнарыі.

Сцэнарый у кіно займае надзвычай вялікае месца. Ён з'яўляецца для кіно тым, чым п'еса для тэатра.

І нездарма ўся пролетарская грамадскасць, пісьменніцкія арганізацыі звярнулі на драматургію такую вялікую ўвагу...

Праведзеныя Усесаюзны, а таксама і Усебеларускі конкурсы значна пасунулі наперад совецкую драматургію. На жаль, гэтага нельга сказаць пра кіно-драматургію. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца першы з'езд пісьменнікаў БССР, на якім нават пры пастаноўцы спецыяльнага даклада аб драматургіі, ні дакладчык, ніводзін з выступаўшых ні слова не сказалі пра кіно-драматургію. Між тым, нават тая незначная праца, якая прароблена Белдзяржкіно і яго фабрыкай мае ўжо такія вынікі, аб якіх варта і трэба гаварыць. Даволі сказаць толькі аб тым, што за апошні час пастаўлены карціны па сцэнарыях

пісьменнікаў Броўкі, Кобеца і Даўгапольскага. Нельга таксама абмінуць і кіно-драматурга Брадзянскага, які вырас на нашай фабрыцы, і па сцэнарыях якога пастаўлен шэраг карцін, у тым ліку „Слава света“, „Першы ўзвод“ і зараз ставіцца карціна „Высокае напружанне“. Здадзен на фабрыку сцэнарый Барашка і Фельдмана на вельмі актуальную тэму паказа контр-рэволюцыйнай ролі беларускай нацдэмаўшчыны.

Непараўнальна большай увагай кіно-драматургія карыстаецца сярод пісьменнікаў РСФСР. У першую чаргу гэта выяўляецца ў практычным удзеле рускіх пісьменнікаў у стварэнні кіно-драматургіі. 1934 год у значнай меры забяспечан сцэнарыямі, створанымі пісьменнікамі: Шолахавым, Пагодзіным, Тынянавым, Толстым і шэрагам іншых, якія працавалі і працуюць над сцэнарыямі. Нават для беларускай кінематаграфіі імі зроблена не мала, і зараз над сцэнарыямі для нашай фабрыкі працуюць: Катаеў, Зорыч, Б. Левін, Дорахаў, Бражнін і інш.

Як вынік неўважлівых да апошняга часу адносін пісьменнікаў да кіно, з'явілася запаўненне кінодраматургіі часта любіцелямі лёгкага хлеба і не менш лёгка здабываемай славы. На кінофабрыкі, у тым ліку і на нашу фабрыку, сотнямі паступаюць прапановы сцэнарыяў на любую тэму і на любое месца дзеяння.

Тут можна прывесці пару анекдатычных прыкладаў гэтага парадку „драматургіі“. Вось нейкі Ярэміч прапануе фабрыцы напісаць сцэнарый на матарыяле сучаснай вёскі, атрымлівае, вядома, аванс і праз некаторы час прадстаўляе лібрэто, змест якога наступны: рыжая кабыла стаіць са сваім жарабём і думае пра сваё жыццё. Пасля кулака, дзе гэтай кабыле жылося не так ужо дрэнна (незразумела толькі, чаму гэтая свядомая кабыла мірылася з кулацкай кабалой), яна пападае ў калгас да дрэннага канюха, які чуць яе не пагубіў, але... прыехаў начальнік палітаддзела, і ўсё пайшло на лад. І стаіць цяпер рыжая кабыла і марыць аб усіх гэтых падзеях, паглядаючы на свайго любага сыночка.

Не будзем тут займацца разборам гэтага „лібрэто“—коратка расказаны яго змест гаворыць сам за сябе.

Вось далей, нейкі д'Актыль, які, не саромячыся, слова ў слова спісвае гісторыю са спадчынай у Ільфа і Петрова з „Золотого теленка“ і для прыдання, так сказаць, нацыянальнага каларыта, пераносіць месца дзеі ў Менск, а героя называе Вася Дарагапупец (!!) і Волечка Вайніловіч.

Вось прапанова аб напісанні сцэнарыя ўжо больш вядомага аўтара (праўда вядомага таксама далёка не са станоўчага боку) Ройзмана, якая носіць характар заяўкі, г. зн. у ёй павінна быць ідэя рэчы, намечаны некаторыя вобразы і сюжэтная лінія. Падаем яе даслоўна, да рэчы, з захаваннем аўтарскай арфаграфіі.

„Оставшиеся в живых партизане, борцы с германскими оккупантами, родственники партизан организовали промысловый колхоз, еврейскую местечковую кирпичную артель (выходзіць што арцелі бываюць цагляныя, невядома толькі чаму не жалезабетонныя,—усё-ж яно мацней) и белорусский деревенский колхоз. Еврейское (раввин) и белорусское (бывший хозяйчик гончарной) ополчаются на промколхоз (з элементарнай граматыкі нават дарэволюцыйнага выдання, вядома, што „раввин“ и „хозяйчик“ мужчынскага роду), подорвавший их последнюю базу существования. Чтобы расстроить ряды промколхозников враг подбрасывает прокламацию, угрожая расправиться с коммунистами и промколхозниками. Это вызывае панику (да чаго пужлівы ў нас у калгасах народ, асабліва партызаны, якія, нават па

аўтару, змагаліся з германскімі акупантамі, а тут узялі ды і спужаліся праклямацыі!) Партийная ячейка организует караулы и оцепляет район (Здарава! Нават цэлы раён!) Тогда враги поджигают (!!) могилу одиннадцати партизан, надеясь на раздор между белоруссами и евреями. Секретарь ячейки промколхоза обеззоруживает своими выступлениями сообщников врага (да чаго-ж проста змаганне з ворагам па Ройзману). А это еще больше скрепляет единение промколхозников.

В центре будущего сценария: секретарь ячэйкі, бывший партизан-белорусс, его зам.—еврей и любовь последнего к местной учительнице, дочери белорусса-партизана.

Кулачье группируется вокруг местечкового раввина, цепляющегося за оставшуюся последнюю синагогу, и зава гончарной, бывшего хозяйчика, получившего негласное одобрение от секретаря, зараженного нацдемовщиной (дзіўны гэты сакратар: то ён сваімі прамовамі „ізнічтожает“ класавага ворага, то згаджаецца з „хозяйчиком“.)

В звуковом сценарии белоруссы будут говорить на своем родном языке с таким расчетом, что корни слов будут взяты из русского языка, а стало быть доступны широким массам“. (Падкреслена мною.—*А. Н.*) М. Ройзман.

Здаецца гэтых прыкладаў хопіць, каб чытач зразумеў, што часам плыве ў кіно на незанятае і па праву належачае пісьменніку месца. Аднак, „прырода не церпіць пустаты“—гаварылі калісьці. І не дзіва пасля прыведзеных вышэй прыкладаў, што пры прыёме ў саюз савецкіх пісьменнікаў у Ленінградзе са сцэнарыстаў прыняты толькі адзін чалавек (Брадзянскі).

Усё гэта так, скажа чытач, але ўсё-ж чаму савецкі пісьменнік БССР так далёка стаіць ад кіно?

Паспрабуем у гэтым па магчымасці разабрацца.

Да апошняга часу кінодраматург у кіно не займаў адпаведнага яму месца як тварэц ідэі, вобразаў, сюжэта і фабулы рэчы. Ён, аўтар, з пэўнай пары на задворках. Што гэта так, можна праверыць на несвоеасаблівай „кіно- віктарыне“. Хто быў аўтарам кіно-сцэнарыяў „Броненосец Поцемкин“, „Потомка Чингис-Хана“, „Петербургских ночей“, „Окраины“.

Мы знарок назвалі найбольш вядомыя для масавага гледача кіно-творы і ўпэўнены ў тым, што на наша пытанне не зможа адказаць не толькі радавы кіно-гледач, але часта і кіно-работнік.

Мы не ўпэўнены ў тым, што гэты-ж гледач адкажа на пытанне адносна сцэнарыстаў карцін і вытворчасці Белдзяржкіно, напрыклад, „Да заўтра“ „Двойчы народжаны“, „Першы ўзвод“ і інш. І зусім лёгка гледач адкажа, хто аўтары п'ес „Рэйкі гудуць“, „Разлом“, „Гута“, „Бацькаўшчына“. За гэтай, на першы погляд дробяззю, хаваецца вельмі многа.

Той-жа аўтар, як правіла, да сканчэння сцэнарыя ўвесь час павінен падладжвацца да ідэй, густаў і патрабаванняў кіно-рэжысёра, які часта ніжэй аўтара і палітычна, і культурна, і творча.

Неабходнасць гэтага падлажвання створана ўсёй сістэмай кінематаграфіі і ў прыватнасці бюракратычнай арыентыроўкай аўтара сцэнарыя на пэўнага рэжысёра. Пры нармальнай пастаноўцы працы нічога дрэннага ў гэтым няма. Больш таго, гэта дае магчымасць двум мастакам як след дагаварыцца з тым, каб унікнуць цэлага рада непаразуменняў, якія, як правіла, узнікаюць пры афармленні сцэнарыя ў карціну. Але ў кінематаграфіі гэта правільнае мерапрыемства перарадзілася ў шкодную справу, бо звычайна аўтар арыентуецца толькі на аднаго рэжысёра. Калі-ж замысел аўтара чаму-небудзь не спада-

баецца рэжысёру, дык такі сцэнарый не заказваецца незалежна ад творчых якасцяй аўтара. Так, напрыклад, здарылася з Безыменскім, які даўно прапануе Маскоўскай фабрыцы напісаць сцэнарый, але фабрыка ніяк не можа „з'арыентаваць“ на работу гэтага безумоўна цікавага для кіно аўтара.

Такое становішча нельга прызнаць нармальным, і ў доказ гэтага можна прывесці зноў такі аналогію з тэатрам. Хіба, напрыклад, Горкі, калі ён пісаў свайго „Егора Булычева“, быў звязан „арыентоўкай“ на якога-небудзь пэўнага рэжысёра і толькі на яго, альбо Кіршон пісаў свой „Чудесный сплав“ таксама на пэўнага рэжысёра? Вядома, не. Аднак гэта не пашкодзіла таму, каб п'есы Горкага і Кіршона ішлі ў шмат якіх і вельмі кваліфікаваных тэатрах і пры больш высокакваліфікаваных рэжысёрах, чым гэта мае месца ў кіно. Праўда, адрозненне тут у тым, што няўдача ў пастаноўцы п'есы ў адным якім-небудзь тэатры не азначае яе правала, што здараецца з кіно-сцэнарыем пры няўдачы яго на якой-небудзь адной фабрыцы.

Факт застаецца фактам, што ў кіно стварылася такое становішча, што аўтар рэчы падпарадкаваны яе мастацкаму інтэрпрэтатару.

Як вынік гэтай анамаліі мы маем у кіно яшчэ дзве ненармальныя і, нават больш, ганебныя рэчы.

Па- першае, зусім бесцэрамоннае абыходжанне рэжысёра з ужо прынятым сцэнарыем. Настолькі бесцэрамоннае, што калі карціна выходзіць на экран, дык ёй ад аўтарскага замысла амаль нічога, за выключэннем назвы рэчы і аўтарскага прозвішча (і то незаўсёды), не застаецца. Гэта ў сваю чаргу цягне за сабою прыём фабрыкамі і рэжысурай ад аўтараў недапрацаваных сцэнарыяў. Усёроўна „паправіцца“. „дапрацуецца“ і г. д. А гэтыя „дапрацоўкі“ і „папраўкі“ не заўсёды выклікаюцца неабходнасцю, а часта галоўным чынам жаданнем рэжысёра ўлезці ў суаўтарства і тым самым павялічыць сваю славу, а таксама і... долю аўтарскіх ад праката карціны.

У дачыненні да работы над сцэнарыямі пісьменнікаў БССР далучаецца яшчэ і поўнае няведанне рэжысурай нашай фабрыкі, канкрэтных умоў рэспублікі, настолькі дзікае, што калі рэжысёру Файнцымеру было прапанавана пазнаёміцца з аповесцю Зм. Бядулі „Салавей“ ён ад гэтага адмовіўся няведаннем беларускай мовы. Гэта няведанне пры прымаце рэжысёра над аўтарам наогул дае такія вынікі, як карціна „Жулік“ па сцэнарыю П. Броўкі. Сцэнарыст у сцэнарыі апісвае добрускіх комсамольцаў, а ў рэжысёра Авербаха ў карціне па экрану ходзяць малайцы з Лігаўкі,

Вывад тут напрашваецца сам сабою. Патрэбна каб аўтар сцэнарыя заняў у кіно належнае яму па праву месца, патрэбна рашучая барацьба з суаўтарствам рэжысуры, патрэбна не менш рашучая барацьба з нездаровай „дыктатурай“ рэжысёрскага самавольства, навязвання ею аўтару сваіх ідэй, ідэек і густаў з адначасовым крытычным успрыманнем ім аўтарскага замысла і мастацкага ператварэння яго ў карціне, падобна таму, як гэта мае месца ў тэатры. Рэжысёрскага гонару гэта не паменшыць, бо не паменшыўся... рэжысёрскі аўтарытэт Станіслаўскага ад таго, што ён правільна ператвараў на сцэне творчыя замыслы Чэхава, а для савецкага кіно толку і карысці будзе куды больш.

Гэта першы рад прычын, уласцівых усёй савецкай кінематаграфіі. Ёсць шэраг прычын, уласцівых беларускаму кіно, прычын, якія перашкаджаюць дадаткова савецкаму пісьменніку БССР актыўна ўключыцца у творчую працу кіно.

Па-першае, гэта невер'е у сілы пісьменнікаў БССР. Гэтым настроем прасякнута як работа фабрыкі, так і асабліва трэста Белдзярж-

кіно. Фразы-„ўсёроўна нічога не выйдзе"—у дачыненні работы пісьменніка да сцэнарыя тут досыць часта чуюцца. Прызывам пісьменнікаў у кіно ніхто сур'ёзна не займаецца, а, калі часам гэтае пытанне і ўзнімалася, дык у такой пачварнай форме, як артыкул Губарэвіча аб прыцягненні пісьменніка ў... касу. Вядома пасля такой, з прабачэння сказаць, дэкларацыі трудна чакаць асаблівага энтузіязма ў пісьменніка да працы ў кіно. І, калі для фабрыкі можна зрабіць хоць сякую-такую „скідку" на яе адлегласць ад Менска, дык пасіўнасць у гэтым пытанні трэста, які знаходзіцца пад бокам у пісьменніцкіх арганізацый БССР, нічым не апраўдваецца.

Калі да гэтага дадаць, мякка кажучы, неахайныя адносіны да пісьменніка БССР і творчых работнікаў фабрыкі, дык малюнак будзе поўным. Праўда, ва ўрачыстых выступленнях, дэкларацыях і асабліва банкетах недахопу не адчувалася, мо' нават было і залішне. Брыгада творчых работнікаў фабрыкі, так чалавек па пятнаццаць, прыязджала на пленум Аргкамітэта зімою 1933 г., рабіла прамовы і інш. Некалькі пісьменнікаў прыязджалі нядаўна на фабрыку і тут фабрычная АРРК (асоцыяцыя работнікаў рэвалюцыйнай кінематаграфіі) ўнесла прапанову заключыць умову аб узаемадапамозе, але.., пісьменнік Лынькоў, які зараз-жа пасля гэтае ўмовы застаўся на фабрыцы для напісання сцэнарыя, не атрымаў ад творчых работнікаў фабрыкі ні слова парады, а рэжысёр, які на ўрачыстым сходзе не менш урачыста заявіў, што аб такой тэме, на якую збіраецца працаваць Лынькоў, ён марыў з маленства, да сёняшняга дня нават не зацікавіўся, як аўтар працуе над гэтай тэмай. Нават больш таго, забыўшыся на ўсё свае захапленне, моцна арыентуецца на што-небудзь іншае.

Наогул, калі прасачыць адносіны да беларускага пісьменніка на фабрыцы, дык яны характарызуюцца наступнымі этапамі: папершае, гэта поўнае недавер'е у сілы пісьменніка БССР („што можа даць правінцыя"—разважалі некаторыя белдзяржкінаўскія „сталічныя" маладыя людзі). Далей, калі ва ўсёй кінематаграфіі крута павярнулі да пісьменніка, пачалося перахвальванне работ пісьменніка, што было не менш шкодным, чым і недавер'е. Так здарылася са сцэнарыем Броўкі і Зарэцкага. У выніку—са сцэнарыя першага вышла пасрэдная карціна, а сцэнарый другога, калі падышлі да справы, зусім не маглі рэалізаваць у карціну. І, нарэшце, у апошні час—поўнае безразлічча. У гэтую паласу адносін да пісьменніка творчых работнікаў папалі са сваімі працамі Лынькоў, Гартны, Барашка і Фельдман. Усе пры папярэдніх абгаварэннях тэм гэтых аўтароў крычалі, што гэта „замечательно", але ніхто канкрэтнай дапамогі не зрабіў. І калі ў Гартнага вышаў сцэнарый, дык творчыя работнікі ў гэтым ні душою, ні целам не вінаваты. Сцэнарый Барашкі і Фельдмана на вельмі актуальную і патрэбную тэму паказа контр-рэвалюцыйнай інтэрвенцыяніцкай сутнасці беларускага нацыянал-дэмакратызма, апрабіраваны дырэктыўнымі арганізацыямі БССР, не ставіцца да гэтага часу таму, што рэжысёр Файнцымер, якому прапанавалі ставіць карціну па гэтаму сцэнарыю, адмовіўся, спасылаючыся на тое, што гэтая тэма яго не хвалюе і для яго не цікавая, а, замест гэтага, прапанаваў ставіць „Поединок" Купрына.

Гэта той комплекс прычын, якія, на нашу думку, перашкаджаюць пісьменніку БССР па-сапраўднаму ўключыцца ў працу кіно, прычын, якія цалкам залежаць ад самога беларускага кіно.

Але ёсць шэраг прычын, якія залежаць і ад самога пісьменніка.

Гэта, у першую чаргу, ацэнка сцэнарыя як нейкага нізкага жанра. Тут зараз прыкладна такое-ж становішча, як нядаўна было на фронце

мастацкага нарыса. Праўда, прычынай гэтага часта з'яўляецца і той досыць нізкі мастацкі ўзровень тых сцэнарыяў; з якімі часамі выпадкова даводзілася знаёміцца пісьменнікам, але гэта залежыць ад тых прычын, пра якія гаварылася вышэй, імення ад таго, што пісьменнікі, як след, не ўключыліся ў кінематаграфію. Праца над сцэнарыем вельмі адказная і вельмі цяжкая праца, якая вымагае ад мастака сапраўды сур'ёзных адносін і значнай мабілізацыі яго творчых сіл. Што гэта так, сведчыць і нядаўная перадавая ў „Литературной газете". Вось што гаворыцца там: „На фоне этих творческих показателей (справа ідзе аб сцэнарыях Доўжэнкі, Олешы і інш.— А. Н.) работы над сценарием становится совершенно недопустимым невнимание и равнодушие к кино-драматургии со стороны литературных организаций и общественности. (Папрок проста па адрасу былога Аргкамітэта ССПБ). Это равнодушие было бы реакцией на ремесленичество сценаристов в кавычках. Но нельзя же из-за деревьев леса не видеть... Подлинная кинодраматургия— участок литературы". („Литературная газета" № 82 (398) 28/VI—1934 г.).

Да другой групы перашкод трэба аднесці баязнь з боку пісьменніка спецыфікі кіно-сцэнарыя. Так сапраўды, як ужо было сказана, праца над сцэнарыем вымагае вялікай працы, пэўных ведаў і ўліку таго, што кіно-сцэнарый вымагае іншых сродкаў вырашэння, чым, напрыклад, аповесць альбо раман. Тут самае важнае ў тым, што кіно-сцэнарый патрабуе пластычных вобразаў і моцнага сюжэта. Сцэнарый разам з тым павінен укласціся ў рамкі паўтарагадзіннага прагляду гатовага фільма. Гэта таксама стварае рад дадатковых труднасцей для пісьменніка, прызвычаенага ў сваёй літаратурнай працы быць неабмежаваным часам, патрэбным для чытача на чытанне яго твора.

Прызнанне спецыфічных труднасцей у працы над сцэнарыем, аднак, не павінна адпужваць пісьменніка ад кінодраматургіі. Драматургія ў тэатры мае не менш спецыфічных труднасцей, аднак-жа гэта не перашкодзіла пры жаданні працаваць над драматургічным творам паэту Александровічу—напісаць свой „Напор", а баечніку і навелісту Крапіве—„Канец дружбы". Значыць, для сапраўднага мастака гэтыя труднасці не з'яўляюцца непераможанымі. Што гэта так, сведчыць і работа над сцэнарыем Зм. Бядулі, які ў першай апублікаванай частцы сцэнарыя „Салавей" паказаў узор добраякаснага, кінематаграфічна-пісьменнага твора.

Цяжкасці ў прыцягненні пісьменніка БССР да кіно непараўнальна меншыя, чым тыя, якія закладзены ў самым кіно і яго арганізацыі, і можна з упэўненасцю сказаць, што пры добрым жаданні з аднаго і другога боку гэтыя цяжкасці могуць быць лёгка пераможаны. А перамаганне іх ёсць узбагачэнне як кіно, так і пісьменніка вельмі цікавага жанра, якім з'яўляецца кіно-сцэнарый. Работа над сцэнарыем, як ні над чым другім, прывучае пісьменніка да лаканічнасці, да сапраўднай працы над сюжэтам, фабулай, што, як вядома, вельмі не шкодзіць для шмат каго з беларускіх пісьменнікаў.

Задачы кіномастацтва зусім акрэслена пастаўлены перад намі нашай партыяй,—кіно павінна быць занімацельным, даваць адпачынак і ўзнімаць культурны ўзровень гледача. Для беларускага кіно гэтая задача правільна вырашаецца на канкрэтным матарыяле соцыялістычнага будаўніцтва БССР. Старыя шкодныя ўстаноўкі на так званы агітпропфільм зараз усімі асуджаны і адкінуты. Нам патрэбна даць карціны пра нашых людзей, пра народных герояў вялікай нашай

радзімы, нам трэба даць магчымасць нашаму гледачу па-сапраўднаму хваляваца на нашых карцінах і па-сапраўднаму радасна смяяцца. Нам патрэбен паказ шчаслівых людзей нашай найшчаслівай эпохі з усімі іхнімі радасцямі і горам. Трэба рашуча абвясціць амністыю чалавечым пачуццям: каханню, нянавісці і скончыць са славутай і ўсім абрыдлай схемай—чырвоныя—белыя, схемай, якая дае магчымасць гледачу ўжо з першых кадраў прадугадаць, як правіла, беспамылкова, канец карціны, не выклікаючы ў гледача аніякіх пачуццяў і ніякай зацікаўленасці.

Гэтыя задачы, пастаўленыя перад гатовым фільмам, цалкам адносяцца і да кіно-сцэнарыя.

За апошні год, не глядзячы на ўсе паказаныя труднасці, пісьменнік БССР усё-ж пачынае падыходзіць да кіно. Фабрыка мае дагаворы з тт. Бядуляй, Гурскім, Лыньковым, Харыкам, Шапавалавым, Самуйленкам і Вольным. Не так даўно скончылі сваю працу тт. Зарэцкі, Гартны, Вольны і Барашка. Абяцалі пачаць працу тт. Александровіч, Чорны, Колас. Думаецца, што і шэраг іншых таварышоў, у прыватнасці Крапіва, Даўгапольскі, Крапачоў, могуць даць цікавыя сцэнарыі, у прыватнасці на калгасным матарыяле.

Але і ўмоў, і абяцанняў, вядома, мала,—можна мець і тое і другое і не мець сцэнарыяў. Каб іх атрымаць патрэбна вельмі сур'ёзная і чулая праца кіно-фабрыкі, а таксама праўлення ССПБ і фабрычнай АРРК. Трэба, каб паміж гэтымі двума творчымі арганізацыямі ўстанавіўся сапраўдны творчы кантакт, пры якім атрымаецца іскра сапраўднага мастацтва, вартага нашае эпохі, якое пакладзе канец і „рыжым кабылам" і „Васям Дарагапупцам" і „партызанам".

За сапраўдны ўдзел пісьменніка ў стварэнні кіномастацтва.

---

К. КРАПІВА

# ПРА ПЕРАБУДОВУ І „НЕДАБУДОВУ“ *)

Гаварыць аб творчай перабудове Ц. Гартнага даюць права яго творы за апошнія 5 год. Гэта некалькі апавяданняў, сабраных у кніжцы „Гоман зарніц“ і кніжка нарысаў „Наступ на горны“. Пры самым павярхоўным азнаямленні з гэтымі кнігамі вы зразу заўважаеце вялікую перамену ў творчасці Ц. Гартнага: падзеі, якія там апісваюцца, адбываюцца на заводзе і ў калгасе, персанажы, выведзеныя ў гэтых творах—гэта рабочыя і калгаснікі, а пераважна кіраўнікі: гаспадарнікі, проф.-і партработнікі. Аднак матэрыял і тэматыка з'яўляюцца часта знадворнай адзнакай перабудовы. Маючы гэту адзнаку, мы ўправе далей паставіць пытанне, якія-ж праблемы ставіць аўтар перад чытачом, якія пытанні закранае ён і як іх развязвае на канкрэтных вобразах. І трэба сказаць, што кола гэтых пытанняў у апошніх творах Ц. Гартнага вельмі невялікае. Аўтар у большасці твораў ставіць перад сабою вельмі скромную і немудрую задачу—адлюстраваць жыццё завода ці калгаса і пахваліць іх кіраўнікоў. І ўжо ў такой устаноўцы закладзены прадпасылкі натуралістычнага апісацельства, якое распаўсюджваецца на ўсе элементы твора. Я не таму гавару пра натуралізм, каб прычапіць ярлык Ц. Гартнаму, альбо каб напужаць каго гэтым страшным словам. Справа не ў слове, справа ў тым, што пры такой ўстаноўцы звычайна няма яскрава выражанай ідэі твора, значыць няма яго душы. Як бы аўтар старанна ні апісваў рэчы, людзей, іх знадворны выгляд і рухі, усёроўна, калі бракуе ідэі, выйдзе толькі анатомія, а не жывы мастацкі арганізм. Людзі могуць хадзіць, гаварыць, смяяцца і пець, калі хочаце, яны могуць быць нават жывымі людзьмі, але не будуць жывымі вобразамі мастацкага твора. Без выразнай ідэі ў творы няма таго магніта, які з рознастайнага матэрыяла прыцягваў бы да сябе толькі патрэбнае, адбіраў бы важнае ад неважнага, законамернае ад выпадковага, тыповае ад нетыповага. У такіх выпадках, асабліва калі ў аўтара яшчэ бракуе маляўнічых сродкаў, выходзіць не твор, а шэрая пустыня натуралізма, адолець якую чытач не ў сілах, падае знясілены, не дацягнуўшы і да сярэдзіны.

Сістэма вобразаў у творах Ц. Гартнага у адпаведнасці з узятай устаноўкай простая да схематычнасці. У цэнтры ўвагі аўтара знаходзіцца самая шматлікая група — кіруючых работнікаў на заводзе і ў калгасе: сакратары ячэек, дырэктары заводаў, старшыні калгасаў, профработнікі і г. д. Гэта ўсе людзі „без сучка, без задзёрынкі“, цвёрдакаменныя комуністы. Другая група—рабочыя і калгаснікі таксама вытрыманыя і свядомыя настолькі, каб слухаць сваіх кіраўнікоў. Трэцяя група — гэта паасобныя бракаробы і шкоднікі на заводзе,

*Даклад на пленуме праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў БССР.

кулакі ў калгасе. Першыя дзве групы змагаюцца з трэцяй і, вядома, шчасліва перамагаюць.

Вытрыманасць пераважнай большасці дадатных герояў настолькі стандартна-стопрацэнтная, настолькі яны пазбаўлены свайго натуральнага света, сваіх індывідуальных асаблівасцей, што ўсе зліваюцца у адну шэрую масу і адрозніваюцца толькі іменамі, не гледзячы на тое, што Ц. Гартны стараецца апісаць часамі самыя незначныя іх рухі і нават інтанацыю голаса. Ц. Гартны злоўжывае сваім аўтарскім правам даваць атэстацыі сваім героям і забывае даць слова ім самім. Таму іх стопрацэнтнасць нікога не пераконвае, чытач не верыць панегірыкам аўтара, калі бачыць перад сабою шэранькіх людзей, якія мітусяцца, часамі шмат гавораць без патрэбы, але геройскія ўчынкі якія знаходзяцца недзе па-за тэкстам.

Вось „Гаспадар" адно з першых апавяданняў ў Ц. Гартнага на вытворчую тэму. Герой апавядання Якаў Гузік, рабочы, якога за яго гаспадарлівасць высоўваюць на пасаду нам. дырэктара завода. Як-жа паказан гэты перадавік вытворчасці? Аўтар увесь час старанна падкрэслівае адну яго рысу—гаспадарлівасць. Гаспадарлівасць гэта канкрэтна выяўляецца ў тым, што Якаў Гузік, ідучы па двары завода, падняў кусок жалеза „цаляў пяць даўжынёй", з яго „выйдзе некалькі ручак у плузе". Выходзячы з цэху, ён, як аўтар кажа, „дбайліва азіраючы па бакох, пайшоў праўцом да дзвярэй. Мінаючы варштаты, абмацваў іх, падчышчаў, падняў з падлогі некалькі кавалкаў дрэва і дроту". Застаўшыся намеснікам дырэктара, Якаў Гузік ходзіць па заводзе, аглядае станкі і таксама падымае кавалачкі жалеза і дроту (стар. 18).

Размах, як мы бачым, для намесніка дырэктара не вельмі вялікі. Паказу Якава Гузіка на рабоце няма, а таму сцверджанні, што ён мае вялікія гаспадарскія здольнасці, чытача не пераконвае. Аўтар сам, напэўна, адчуваў гэта і ў адным месцы спрабуе пераканаць чытача ў здольнасцях Якава Гузіка досыць своеасабліва і арыгінальна. Старшыня заўкому сказаў Гузіку, што яго мяркуюць назначыць намеснікам дырэктара. Гэта яго і ўзрадавала і заклапоціла: ён, відаць, не да канца быў упэўнены ў сабе. І вось, прышоўшы дадому, бярэ аловак і паперу і пачынае падлічваць ды правяраць свае здольнасці. Жонка напамінае, што ўжо і вячэраць пара, а ён усё падлічвае ды чэрціць.

„Яна мяльком закідала на Якавіны паперы ўзрокі і здзіўлена адвярталася назад: на паперы стаялі выведзеныя Якавам замысловатыя малюнкі дамоў, баштаў, дарог",—кажа аўтар. Урэшце: „К адзінаццатай гадзіне Якаў Гузік узважыў свае сілы і здольнасці і вывеў, што яму пара ўзыйсці на вышэйшую ступню".

Усё гэта вельмі мала падобна на праўду, вельмі наіўна і сведчыць толькі аб тым, што аўтар мала ведае тое, пра што ён піша. Якаў Гузік не паказан ні адным штрыхом, ні як грамадскі працаўнік, ні як рабочы ля станка да свайго намесніцтва. Але адна рыса у Якава Гузіка паказана досыць пераканаўча—гэта яго хваравітая ганарлівасць і самалюбства.

Пра сваю асобу Якаў Гузік не забывае на працягу ўсяго апавядання. А тут яшчэ знайшліся ў цэху зубаскалы Палікар Скрынка, Дзям'ян Рашка, Сымон Кошык, якія насміхаюцца з Гузіка і нават далі яму мянушку „гаспадар", чым Гузік штрашэнна абражан. Застаўшыся нам. дырэктара, Гузік думаў, што цяпер ужо Скрынка не асмеліцца яго дражніць, адно-ж не паспеў Гузік аднаго разу адыйсціся некалькі крокаў, як да яго данесліся выразныя склады слова

„гаспадар“, і гэта ўжо канчаткова выводзіць Гузіка з роўнавагі. Для вырашэння ўзаемаадносін Гузіка, з аднаго боку — Скрынкі, Рашкі і Кошыка, з другога, аўтар наладжвае аж два сходы. З першага Гузік, не дабыўшы да канца, адыходзіць пакрыўджаны, а на другі, калі ўжо справу разбірае РСІ, ён трапляе выпадкова і чуе, што за яго рабочыя заступаюцца і хваляць. Гузік зараз-жа бярэ слова і дзякуе рабочым.

„Гучны ўрачысты свіст сірэны—кажа аўтар—падхапіў яго словы і панёс высока і далёка па-за сцены заводу“.

На гэтым канчаецца гэта поўная „драматызма“ гісторыя.

Такім чынам Якаў Гузік па замыслу аўтара з'яўляецца новым чалавекам, вылучэнцам на вытворчасці, а тым часам некаторымі сваімі істотнымі рысамі вельмі нагадвае аднаго з герояў міргарадскіх аповесцей—Івана Іванавіча Перарэпенку. Гэта здарылася таму, што ў заводскую абстаноўку Ц. Гартны перанёс старога свайго героя з яго індывідуалізмам і не здолеў надзяліць яго новымі якасцямі ўдарніка на прадпрыемстве.

Твор „Напевы сірэн“, які з'яўляецца нарысам аб заводзе „Комунар“ (праўда, аўтар чамусьці замаскаваў назву завода і прозвішчы людзей). Героі гэтага твору ўжо не носяць на сабе тых адзнак дробнабуржуазнай самаўлюбленасці, якія мы бачылі ў папярэднім творы, яны не заняты так сваею асобай, як Якаў Гузік, але затое яны наогул не маюць яркіх індывідуальных асаблівасцей. Унутраны іх свет перад чытачом не раскрыт. Гэтыя людзі не маюць трох вымярэнняў—яны пададзены ўсе ў адной плоскасці. Усе яны гавораць адной мовай і толькі пра адно,—пра выкананне промфінплана. Гавораць вельмі шмат, а раскрываюць сябе ў дзеянні вельмі мала. Прычым іх дзеянні і гаворкі замкнуты ў сценах завода. Твору не хапае паветра. Аўтар не дае праекцыі ў бок тае вышэйшай мэты, для якой будуюцца ўсе заводы і выконваюцца ўсе промфінпланы. Уражанне ад твору такое, што аўтар хадзіў па заводзе разам з сакратаром парткалектыва Шумкіным і старанна фатаграфаваў і стэнаграфаваў усё тое, што там бачыў і чуў. Фатаграфаваў без разбору і адбору, аддаючы кожнаму факту, кожнай дробязі аднолькавую ўвагу. А ў выніку рэч вышла досыць шэрая, цяжка чытаецца і дрэнна ўспрымаецца чытачом.

Калі ў чытача хопіць цярплівасці ды ён прачытае твор другі і трэці раз, тады ён сам пачне вылучаць важнейшыя моманты, якія, дзякуючы натуралістычнай ураўнілаўцы ў падыходзе аўтара да матэрыяла, патанулі ў моры непатрэбных дэталей. Аказваецца, што заводу пагражае прарыў. Трыкутнік завода прымае меры, каб яго не дапусціць. Па цэхах праходзяць піонеры з барабанамі і лозунгамі, якія напамінаюць аб небяспецы прарыва; дырэктар на сходзе рабочых робіць даклад і рабочыя бяруць на сябе абавязак перавыканаць план. Апартуніст, майстар кавальнага цэха Аблонскі, які дапусціў у цэху разгільдзяйства і брак, знімаецца з работы. Бракаробаў судзяць грамадскім судом. І ў выніку ўсяго гэтага завод выходзіць пераможцам.

Недахоп канкрэтнага і глыбокага паказу людзей аўтар стараецца кампенсаваць узнятай дэкламацыяй як па адрасу сваіх герояў, так і пра асобныя моманты вытворчасці. Вось, напрыклад, сакратар парткалектыва ў габінеце разглядае паперы.

„Адна за другою паперкі перабягалі праз рукі сакратара парткалектыва. Ён лавіў іх сэнс наляту, умоўленымі знакамі адмячаючы прагледжаную. Было відаць, як напружаная праца думак уцягвала ў свой вадакруг дзесяткі featureрознастайных заданняў бягучае працы. Кожнаму з гэтых заданняў, як шрубкам у станку, Шумкін адводзіў

адзначаны тэрмін, пакуль папярэдні, а пасля больш дэталёва распрацаваны. Усе гэтыя перагледжаныя паперы складалі сабою неад'емныя частачкі аднае складанае, абымаючае ўвесь завод кіпучае і пявучае працы па выпаўненні бягучых вытворчых планаў. Беленькія лісточкі з сінімі радкамі зместу былі непарыўны з выкручастымі, вёрткімі стружкамі з-пад фрэзера, з бліскучымі, вымеранымі да міліметра пазамі цяжкіх вечак камнядрабілак. Удары молатаў і букеты палкіх іскраў, бегатня пасоў і паверт свярдзелкаў убіраліся купкамі выразных, засядаючых у галаве, як пуля ў дубе, сказаў".

Фальшывы пафас гэтай дэкламацыі адразу кідаецца ў вочы. І на гэтым фоне асабліва вылучаюцца такія каравыя па сваёй вобразнасці фразы, як апошняя фраза з пададзенай вытрымкі.

Ці ўзяць такія мясціны як:

„Навакола дыхала бадзёрым творным уздымам раскалыханай, расхваляванай энергіі. Абдымала нечуваным размахам нараджальных сягаючых у цёмную бяздонную высь соцыялістычных тэмпаў, пераможных дасягненняў".

„Дырэктар з сакратаром парткалектыва замілавана глядзелі на стройны раскалыханы працэс ударнае соцыялістычнае працы".

„Барацьбіт"—аграмаджанае прадпрыемства рабочага класа, як кіраўніка, комуністычнае партыі, усяе совецкае краіны. Іх калектыў—адзін з атрадаў на фронце рашучага змагання за соцыялістычнае будаўніцтва. Як цэмантам, зліты і з'яднаны аднымі інтарэсамі, аднэй воляй, аднымі імкненнямі ўсе пролетары... Яны кладуць фундамент соцыялізму.

Гэтыя вялікія, неасяжныя ў сваіх размахах і незмярымыя ў сваёй вагромнасці зыркія, уздымныя ісціны прасякаюць нутро барацьбітоў".

Такія прыклады мы знойдзем амаль на кожнай старонцы. Гэты „пафас" нікольні справе не дапамагае, а толькі сведчыць аб слабасці аўтара ў паказе сваіх герояў.

Можна было думаць, што недахопы разгледжаных твораў абумоўліваюцца тым, што аўтар упершыню сустракаецца з вытворчай тэмай, з заводскім матэрыялам. Але апавяданне „Зялёны шум" сведчыць аб тым, што ад перамены тэмы і матэрыялу творчы метад аўтара не мяняецца. Тут тыя-ж самыя адзнакі гэтага метаду—схематызм і натуралістычнае апісацельства. У апавяданні расказваецца пра тое, як у вёсцы Булаўка арганізоўвалі калгас. Схему мы тут бачым ужо ў самай расстаноўцы сіл: за калгас—прысланы з завода рабочы Якаў Плот, вясковыя актывісты—Юстын Плот, Тамаш Хіб, Мікола Жвыр, Гальяш Сукня і, як аўтар упэўняе, уся вясковая ячэйка, хоць дзейнасць яе нічым не паказана; уся сялянская маса ідзе за актывам. З другога боку—тры ці чатыры кулакі. Ніякіх хістанняў у людзей няма. Кулакі змагаюцца супроць калгаса адны, самі па сабе, не робячы ні на кога ніякага ўплыву. Вядома, што пры такой сітуацыі ўсялякія цяжкасці арганізацыі калгаса знімаюцца. Выпадае самая характарная асаблівасць гэтага моманту—цяжкасці перахода селяніна ад індывідуальнай гаспадаркі да калектыўнай. Праўда, каб упэўніцца, што ў калгасе жывецца лепш, дэлегацыя, з Якавам Плотам на чале едзе ў розгляды ў калгас Асмінаўку. Аўтар апісвае ўсё іх падарожжа, але пакідае чытача ў невяданні, як толькі дэлегацыя пад'язджае да калгаса. Што яна там бачыла, так і засталося невядомым. Толькі з ліста Якава Плота на завод аднаму з работнікаў мы даведваемся, што:

„Але не меней суцешылі мяне і калгасы. Адзін з іх „Асмінаўка" робіць дужа выгаднае ўражанне... Гэта ўжо моцны калектыў. Людзі

ў ім падабраліся адзін да другога, старанныя, памяркоўныя, даладныя, і праца ідзе на яцы! Зараз шырока разгорнута будаўніцтва устаноў агульнага абслугоўвання, як школа, млын, ветэрынарны пункт. Агульныя хлявы скончаны яшчэ вясною—і ты-б паглядзеў, браце, што за хараство! Адносіны да жывёлы дбайныя і гаспадарныя.

Летась калектыў выплаціў увесь падатак і яшчэ заставіў сабе значны рэзерв. Цікава, што абагуленне вельмі хутка ўспрынялося ўсімі сябрамі калектыву, які набліжаецца да комуны. У працы—звычаёвае спаборніцтва. Ніхто нікога не падганяе, ніхто нікога не ўпікае ў гультайнасці... Ну, паверыш, не хлушу, мяне ўсё гэта да таго захапіла, што я, трапіўшы да бацькоў, звязаўся з ячэйкаю і зацята павёў агітацыю за пабудову калгаса ў сваёй вёсцы. Якраз мой прыезд прыпаў на момант, калі думка пра калгасы стала азадачваць нашых сялян. Аставалася аформіць іх намеры і перад намі новы калгас „Уздым"... Вось як лёгка і гладка гэта ўсё робіцца.

Пра вёску Булаўку Якаў піша, што пасля агляду „настрой у бядняцка-серадняцкага сялянства—цалкам за калектывізацыю".

На гэтым месцы кулак страляе ў Якава Плота праз акно з абрэза і раніць яго ў плячо. Кулакоў арыштоўваюць. Якаў у больніцы вылечваецца, а ў Булаўцы арганізоўваецца моцны калгас.

Такі самы схематызм мы бачым і ў абмалёўцы персанажаў. Вось Якаў Плот прыехаў да свайго бацькі Юстына Плота. Тут яшчэ трое сялян, аднадумцаў, добрых знаёмых. І вось у сваёй хаце сярод блізкіх людзей Якаў Гузік агітуе:

„Толькі адзіная калектыўная форма гаспадаркі можа падняць добрабыт нашага бядняцкага ды серадняцкага сялянства... Калектывізацыя ёсць адзіны фактар перабудавання вясковага жыцця"...

„Рэволюцыя, дзядзькі, не канчаецца прагонам паноў, генералаў ды фабрыкантаў. Рэволюцыя ад гэтага, можна сказаць, пачынаецца. Па дарозе да комунізма яна мусіць змяніць усё наша жыццё... Так, так! Ад палітычнага ладу, ад агульных узаемаадносін у грамадзе—да поўнага пераіначвання кожнае адзінкі".

Відавочна, што такога характару прамова зусім не адпавядае той абстаноўцы, у якой яна гаворыцца,—выходзіць фальшыва і непераканаўча.

Часамі аўтар стараецца надаць жывыя рысы сваім героям, але нельга сказаць, каб гэта выходзіла вельмі ўдала. Юстын Плот яшчэ да арганізацыі калгаса арэ на сваёй палосцы. Ён бачыць, як у суседні соўгас варочаюцца з поля трактары. Да яго далятаюць з соўгаса розныя гукі. Юстын Плот захапляецца усім гэтым і самім соўгасам. І аўтар падае гэта такім чынам:

— Цягне мяне да вас, браточкі!—умільна вымавіў Юстын і расплыўся покатным смехам у адказ на густыя медныя гукі саўгаснага гонгу.

Аўтар, відавочна, разважаў так: Юстын радуецца, гледзячы на саўгаснае жыццё. А калі чалавек радуецца, тады ён смяецца. А паколькі Юстын моцна радуецца, дык ён павінен бакі падрываць з рогату, у адказ на медныя гукі гонга.

Праўда, мне маглі-б заўважыць, што ў адным невялічкім апавяданні нельга ўсебакова асвятліць тэму калектывізацыі. Але, па-першае, гэта „невялікае" апавяданне займае не менш чатырох друкаваных аркушоў. А па-другое я тут якраз не за усебаковасць паказа. Добрае апавяданне якраз тады і выходзіць, калі аўтар здолее улавіць адзін які-небудзь, але тыповы, момант і здолее яскрава і сцісла яго падаць. Ц. Гартны, наадварот, разгарнуў досыць шырока, зачапіў некалькі важных момантаў, але ніводнага з іх, як належыць, не раскрыў.

Цікава, што старанна апісваючы розныя дробязі, абстаноўку, гутаркі, Ц. Гартны робіцца вельмі скупым, калі прыходзіцца паказваць вузлавыя, найбольш важныя моманты. Я ўжо гаварыў пра тое, што Гартны не паказаў нам, што бачыла дэлегацыя ў суседнім калгасе. У паказе кулака таксама ўзяты не самыя істотныя яго рысы. Ён паказан толькі як багатыр, што ён ненавідзіць калгасы. А што сваё багацце ён набыў эксплаатацыяй, гэта не паказана і пра гэта не напісана. Не паказана, што ён мае які-небудзь уплыў на беднату і серадняка, г. зн., не паказана самае небяспечнае ў кулаку. А таму хоць кулак і страляе з абрэза у Якава Плота, ён усё-ж такі не страшны кулак, паколькі застаецца у адзіноцтве і нікога за сабою на вядзе. Змагацца з такім кулаком не цяжка. Такім чынам, дзякуючы схематызму, дзякуючы неўменню ухапіць і паказаць найбольш істотныя моманты нашай сапраўднасці, мы тут бачым ідэалагічны зрыў у Ц. Гартнага, Далей, не гледзячы на тэму аб калектывізацыі, мы ў гэтым творы не бачым ніводнага серадняка. А між тым пытанне арганізацыі калгасаў гэта ў першую чаргу пытанне вайны з кулаком за серадняка, за тое, каб асноўную масу сялянства павярнуць да калектыўнай гаспадаркі. У апавяданні, праўда глуха ўпамінаецца аб тым, што спачатку не ўсе былі за калгас, некаторыя думалі пра пасёлкі, але пасля агітацыі Якава Плота і пасля таго, як з гораду на „буланым аўтамабілі", прыехала акруговае начальства, усё пашло, як па масле, усе беднякі і серадпякі апыніліся ў калгасе, а кулакі адлучыліся самі сабою.

Апрача „Гомана зарніц" у 1932 г. у выданні Акадэміі Навук вышла другая кніжка Ц. Гартнага „Наступ на горны". Гэты зборнік, як аўтар зазначае, з'явіўся ў выніку двухгадовай працы аўтара на заводзе „Комунар". Доўга спыняцца на разглядзе гэтага зборніка я не буду з тае простай прычыны, што большасць таго, што тут змешчана, нельга разглядаць, як мастацкую творчасць. Гэта зборнік сыравіны, якая, напэўна, яшчэ спатрэбіцца аўтару у яго далейшых творах.

Самая большая сваім памерам рэч у гэтым зборніку і найбольш бадай апрацаваная—гэта нарыс „Напевы сірэн", які змешчан і ў зборніку „Гоман зарніц", і які я нядаўна разбіраў. Заслугоўвае ўвагі яшчэ апавяданне „Прыкры выпадак" аб тым, як добры майстар кавальнага цэху Хвядос Сілоўскі, скампраметаваны даведкай сельсовета, што яго бацька кулак. Рвачы і бракаробы скарыстоўваюць становішча і яшчэ больш кампраметуюць Сілоўскага рознымі на яго паклёпамі. Дысцыпліна ў цэху падае. Сілоўскі балюча перажывае ўсё гэта, пачынае выпіваць, не з'яўляецца на работу. Цэхавая ячэйка прымае пастанову аб тым, каб прапанаваць адміністрацыі зняць Сілоўскага з работы, але тым часам праверыць правільнасць сельсовецкай даведкі. У хуткім часе справа аб Сілоўскім разбіраецца на бюро партналектыва. І тут якраз атрымліваецца даведка з таго-ж сельсовета, за подпісам новага старшыні, дзе сведчыцца, што Сілоўскі—сын партызана і што пра яго кулацкае паходжание былы старшыня напісаў па злосці. Сілоўскі рэабілітуецца і ужо, як радавы рабочы, становіцца ўдарнікам. Сітуацыя досыць цікавая і магла-б быць скарыстана для таго, каб паказаць псіхалогію ударніка вытворчасці, які апынуўся у такім цяжкім і фальшывым становішчы. Але аўтар, верны свайму натуралістычнаму метаду, неадступна ідзе па пятах за фактам і дачаснай даведкай сельсовета ліквідуе ўсякія канфлікты, знімае ўсякія калізіі. Такім чынам „Прыкры выпадак" так і застаецца прыкрым выпадкам, а не тыповай з'явай.

У зборніку яшчэ змешчана некалькі, калі можна так назваць, нарысаў пра асобных людзей завода „Комунар"—пра двух майстроў,

двух намеснікаў дырэктара, пра рэдактара шматтыражкі Раю Шыфрыну. Каб надаць гэтым нарысам больш ронастайнасці, аўтар пад загалоўкам азначае жанр амаль кожнага з гэтых нарысаў. Пад адным загалоўкам стаіць „сылюэт“, пад другім „ўдарныя узмахі“ (жанр, трэба сказаць, зусім новы ў нашай літаратуры), пад трэцім проста „Нарыс“, пад чацвертым—„скіц“. Даведацца па характару самога твору, што гэта слова азначае, няма ніякай магчымасці, бо ўсе нарысы напісаны на адзін узор: даецца невялікая біяграфічная даведка аб тым ці іншым працаўніку, а пасля—яго кароценькая характарыстыка, як работніка на вытворчасці. Напісаны гэтыя нарысы без асаблівай прэтэнзіі на мастацкасць, а паколькі і самыя героі ў сваёй большасці ніякім геройствам не вызначаюцца, дык вышла досыць шэра. Нават тых цікавых момантаў, якія аўтару трапляліся ў рукі, ён як належыць не выкарыстаў. Вось, напрыклад, характарызуючы рэдактара шматтыражкі Раю Шыфрыну, як адданага сваёй справе работніка, Ц. Гартны гаворыць аб тым, што яна не занядбала работы нават тады, калі захварэла яе дзіця. Але аўтар толькі ўпамінае пра гэта, а гэта вельмі зручны момант, каб паказаць Раю глыбей і паўней і як працаўніка і як маці, так паказаць, каб чытач не толькі ведаў факты з яе біяграфіі, а каб ён моцна палюбіў Раю Шыфрыну.

У гэтым-жа зборніку змешчана некалькі вершаў. Нічога новага ў параўнанні з прозаю ў сэнсе перабудовы Ц. Гартнага яны не даюць. Гэта той самы „пафас“ захаплення будаўніцтвам, элементы якога мы бачым і ў прозе, толькі пафас гэты тут вершаваны і пададзены ў чыстым выглядзе, г. зн. што ён тут пазбаўлены і тае канкрэтнасці, якая ёсць у празаічных творах Ц. Гартнага. Усе гэтыя вершы маюць пераважна агітацыйны характар і складаюцца з горнаў, малатоў, гудкоў і абстрактных лозунгаў. На фоне гэтай лазунгоўшчыны сустракаюцца дзе-ні-дзе такія нядрэнныя паэтычныя радкі, як:

Мінулыя з'явы—
Іх вецер раздзьмухаў,
Ім песню адходную
Воран адкаркаў.

Разглядаць кожны з гэтых вершаў паасобку няма патрэбы, бо нічым асабліва яны адзін ад другога не адрозніваюцца. Для характарыстыкі можна прачытаць любы з іх, першы, які мне трапіцца пад руку, хоць-бы верш „Ударнікам“,

Чытаеш гэтыя вершы і чамусьці не пераконвае патэтычны ўздым аўтара. Думаецца, што каб аўтар сапраўды і глыбока быў захоплен, дык знайшоў бы словы мацнейшыя і цяплейшыя, хоць і не такія крыклівыя. А так пафас выходзіць крыху паказны, навязчывы.

Недахопы, якія ёсць у творчасці Ц. Гартнага, значна ўсугубляюцца асаблівасцямі яго мовы, ад якой павявае глыбокай правінцыяльнасцю. Я маю на ўвазе не толькі слоўнік, а ўвесь склад, усе элементы мовы. У лексіцы Ц. Гартнага ёсць шмат правінцыялізмаў, як напрыклад:

| | |
|---|---|
| Добрахаць (добраахвотна) | мэрам-бы |
| убачай (выбачай), | унічышча |
| бразак (бразганне) | наператоч—упоперак |
| мітрэгна | буркліва |
| дрэнчыла | заграбяшыў |
| прабеглец | коўць—(глыток) |
| харангелачка (флажок), | башта—(вежа) |
| ралкі (галінкі), | апука—(мячык) |
| пілявыя вочы | ласне |

зашчэмы (арг. непаладкі)
займа здароў—нізавошта.
мерскануў
крымінал—(злачынства, беспарадак)
праўздом—(проста)
Пелапая
уверра—(упэўненасць).

Разам з гэтым трапляюцца і такія русізмы, як:

запертыя—(дзверы)
схожасць—(падабенства).
рожыца.
віновен
пасудзі (падумай)
жалетка
лісцілі.
смірненькі
трэзвы
пачасаў патыліцу
затылак
перадвасхіцілі
сметліва.

Дзе-ні-дзе паланізмы.

Але больш за ўсё слоў, якія-б я назваў цішкізмамі. Гэта словы, якія ўтвораны самым аўтарам ад самых звычайных, вядомых усім слоў, але ўтвораныя, не гледзячы ні на якія моўныя законы. Такое слова заўсёды выпірае рубам са сказу, і чытаючы на яго заўсёды спатыкнешся. Сюды я залічваю і звычайныя словы, але ўжытыя не ў тым сэнсе, у якім яны ў мове бытуюць:

Заліўны рогат, зацягнуўся ў працу (захапіўся працай), заўвага да жалеза (увага), цяглы (цягавіты), цвёрдым ступам (крокам) раз'юшаны працэс работы, гаспадарня (гаспадаранне) рог вуглавога дома, раскалыханы працэс ударнай працы, святошня (па-святочнаму), гаручыя вочы, улягалася зямля ад надаву важкіх ступаў (дрыжала зямля пад цяжкімі крокамі) выгінастая стужка, лірычная марнасць (мары, лятуценні), начная цём (цемра), свяціла яшчэ ненагрэтае сонца (146), вешальніца (шыбеніца), зыск (эксплаатацыя), узгрудак (узгорак), узнёскі (паі), плюхі хваляк, падлёг сабе навуку, заслежаныя вочы, разгорненая маці (ад слова „горна“), разыдзёныя людзі (якія разышліся), трапяткія навіны, крохкія гутаркі, ліст дастаны (атрыманы) ад разносчыка, зыркія ісціны, распрэжваў каня і г. д.

Калі Ц. Гартны не ладзіць часамі з марфалогіяй, дык ён яшчэ часцей не ладзіць з сінтаксам. Каструбаватыя словы, злучаныя ў не менш каструбаваныя па сваёй форме сказы, з'яўляюцца для чытача неперамножнай перашкодай. Вось некалькі такіх сказаў:

1. Лірычная марнасць адзінкавых энтузіястаў вырастала ў рэальныя вобразы набліжаючай наступнасці.

2. Яны (воплескі) насілі на сабе задаваленыя ўхмылкі зацята апладыраваўшаму кавалём прэзідыуму.

3. Яе (ухмылку) Бурэвіч падмацняў нервовым трапяханнем рук і раскіданымі паваротамі.

4. За падводай, матаючы шапкамі і рукамі, пераносіўся працяг творчага сходу з двара сельсовета да месца спынкі гасцей.

5. І кожны станок, точачы валік, ці абдзіраючы шкіў, ці раўнуючы рубы камянерубілак, адліваюць сваімі павертамі сумовыя адзінкі дадзеных цэху наметак.

Падобных прыкладаў можна было-б прывесці дзесяткі. Я хачу спыніцца яшчэ на адным цікавым пытанні, а якраз на тым, як натуралістычны творчы метад Ц. Гартнага выяўляецца ў такіх дробных кампанентах стылю, як падача паасобнай дэталі. Той ці іншы гест, рух, нават гук аўтар імкнецца перадаць шляхам яго фотаграфавання, дакладнага знадворнага апісання.

„Ужо Шумкін разняў губы, каб перапытаць ці маюцца тыя ці іншыя прапановы“.

„Вока пасунулася да рамы, а на слізкім шкле лягло вуха“.

„Брудная патрэсканая яго рука павольна паднялася ўгару, да галавы і разлажыла на бакі густыя скамечаныя валасы“.

„Натруджаная рука Юстына выпусціла правы тронак плугу і працерла ўспацелы лоб“.

„Юстын, як еў, палажыў неаблізаную лыжку на агрызку хлеба і вышаў на вёску“.

„Перад тым, як заварушыць языком, сакратар раёну абег у думках даўгую вычварна-завілую граніцу раёна“.

„Трое рук абярнуліся казыркамі над устрэмленымі ўправа пільнымі ўзрокамі шасці вачэй“.

„Толькі праз гадзіну пачуты тупат чатырох ног агаласіў сабою спакой ціхае вуліцы“.

Такі спосаб падачы дэталі—з'ява бясспрэчна адмоўная. Ён не толькі не дапамагае канкрэтнаму ўспрыманню, а, наадварот, затрудняе яго і робіць далёка неэстэтычнае ўражанне.

Пячаць натуралізма і правінцыяльнай абмежаванасці, захалусця ляжыць на маляўнічых сродках Ц. Гартнага, на яго метафарах і параўнаннях. Найчасцей гэта выяўляецца ў тым, што абстрактныя паняцці, з'явы грамадскага і псіхалагічнага парадку механізуюцца і матэрыялізуюцца, асоцыіруюцца ў свядомасці аўтара з рэчамі хатняга ўжытку сялянскай гаспадаркі, напрыклад:

„Якавіна постаць выглядала сталлю, ад якое адскочыць і шрот“. (Характарызуецца цвёрдасць большэвіка).

„Бліснуўшы перад ім вобраз Сымона Кошыка адцягнуў з а ш м а р г у з а д у м а ў.“

„І распеўшая сірэна, прыбіваючы Аблоўскага да аднаго месца, праводзіла Леміна ўправа, Лабрусевіча ўлева“.

„Дырэктар зажмурыў левае вока і апяразаў яго вяночкам усцешлівай тонкай ухмылкі“.

„Заложаны пластамі старых навыкаў выбіваўся да чыннасці цвярозы класавы крытэрый. Асцярожліва, але ўверана павярнула яго л ё з а д а р а з р э з у з а с т о е н а г а а к а л е н н я“.

„А цяпер цяжар і прыгнёт гэтае працы астаўся д а л ё к а п а з а д з е, з а г л ы б о к а ю р а з о р а ю, ш т о п а д з я л і л а ж ы ц ц ё на чорны праклятты час царызму і яскравы ўрачысты час Кастрычнікавай рэволюцыі“.

Але нідзе, мусіць, натуралізм і правінцыяльная абмежаванасць у творчасці Ц. Гартнага так не праявілася, як у прозвішчах яго герояў. Мы ведаем, што такія выдатныя мастакі, як Гогаль, Чэхаў, Талстой надавалі вялікае значэнне выбару прозвішча для свайго героя. Ц. Гартны ніколі над гэтым не задумваецца. Трэба яму герой, ён зараз гляне ў мыцельнік альбо качарэжнік і—калі ласка,—на некалькі раманаў хопіць. А мала—то ён можа заглянуць пад паветку альбо ў хлеў. А ў выніку выходзіць проста здзек і над героямі, якіх ён выводзіць, і над усёй мастацкай творчасцю. Вось напрыклад, якія прозвішчы вы сустрэнеце ў яго „Гомане зарніц“ і „Наступе на горны“: Гузік, Скрынка, Кадаўбец, Рашка, Кошык, Кавадла, Тапчан, Друк, Багна, Сажан, Рошчына, Лямец, Брыль, Коўш, Міска, Плот, Світка, Хіб, Сукня, Ляшка, Брызня, Завала, Жвір, Лебяда, Абруч, Чарада, Чарон, Абутка, Матавіла, Затока, Тачыла, Біч (Прут), Атоса, Пераклад, Млён, Кубел.

Калі мы ўспомнім яшчэ з ранейшых твораў Цішкі Гартнага такія прозвішчы, як Бераг, Загон, Псюк, Крупнік, Стаўбун, Пуза, Чмель, Акраец, Ступа, Даўбня, Канач, Гляк, Клін, Вілка, Грэбень, Сук, Марыля Рубец, Брушка, Плеўка, Цэўка, Камель, Браварка, Слой,

Плаха, Бізун, Пуга, Ложка, Парог, дык убачым, што ў аўтара гэта сістэма, з якой ён не расстаецца да самага апошняга часу.

Ёсць у Ц. Гартнага творы, якія і не маюць усіх адзначаных недахопаў. Хоць бы у тым-жа „Гомане зарніц“ апавяданне „Круты паварот“. Яно не вызначаецца асаблівым майстэрствам і тэма яго не вельмі актуальная: тут расказваецца пра тое, як адзін чалавек, бядняк-селянін, выбіваўся ў людзі; як ён марыў стаць цыркавым барцом, дасягнуў гэтага, потым расчараваўся у сваёй прафесіі і пашоў працаваць на завод. Прынцыпова новае ў гэтым апавяданні у параўнанні з вышэй разгледжанымі гэта тое, што тут прысутнічае чалавек з яго марамі, надзеямі, удачамі і неўдачамі. Чытач цікавіцца лёсам героя, баіцца за яго і радуецца яго, хоць маленькімі, радасцямі. Псуюць твор паузы, якія робіць герой, расказваючы аб сабе. Яны робяцца аўтарам для таго, каб даць магчымасць герою чым-небудзь захапіцца і сказаць патэтычную прамову. Ідуць трактары—ён захапляецца і гаворыць прамовы, праходзіць рота чырвонаармейцаў—зноў. Гэтым аўтар хоча падкрэсліць яго адданасць соцыялістычнаму будаўніцтву. Куды больш пераканаўча было-б, каб аўтар паказаў свайго героя хоць адным штрыхом на працы.

Вышэй значна стаіць апавяданне „Смерць Германа Васермана“ на тэму аб замежным жыцці. У чым тут рэч, вы адразу дагадаецеся, параўнаўшы толькі загалоўкі разгледжаных мною раней твораў з загалоўкам гэтага апавядання. Там „Напевы сірэн“, „Зялёны шум“—тут „Смерць Германа Васермана“. Там у аснову твора бярэцца працэс, тут—чалавек і яго лёс. Дзіўна крыху: рабочых і калгаснікаў я сустракаю досыць часта, ведаю іх у жыцці, а чытаючы творы Ц. Гартнага, не магу ўявіць сабе іх, як жывыя вобразы. А вот служачы фінансавай установы у Германіі, якога я ні разу не бачыў,—Герман Васерман устае перада мною, як жывы. Больш таго, я люблю гэтага чалавека, я абураюся разам з ім, я шкадую яго, калі ён паміраe. У Васермана баліць бок пасля няўдачнай аперацыі—мне яго шкода. Адным словам, Герман Васерман жывы чалавек, а не адна толькі функцыя на двух нагах, як Якаў Плот з апавядання „Зялёны шум“ ці Шумкін з „Напевы сірэн“. Больш таго—Васерман не толькі жывы чалавек, ён літаратурны вобраз, бо ў ім паказаны тыя істотныя рысы, якія ўласцівы комуністу у Германіі і паказаны ў тыповых абставінах. Гэта апавяданне, не гледзячы на шурпатасць стылю Ц. Гартнага, з'яўляецца сапраўды мастацкім творам і аўтар смела можа залічыць яго ў актыў свае творчае перабудовы, хоць ён, напэўна, пісаў гэты твор не спецыяльна для перабудовы.

Які-ж вывад адгэтуль? Што аўтар не павінен брацца за вытворчую і калгасную тэматыку, а павінен шукаць сабе мэты недзе на перыферыі нашай сапраўднасці, ці за мяжой? Наадварот, аўтар настолькі павінен зрадніцца з соцыялістычным будаўніцтвам, каб пісаць пра яго стала яго арганічнай патрэбай, унутранай неабходнасцю.

Ц. Гартны зрабіў значны крок на шляху сваёй творчай перабудовы, пачаўшы яе з свайго ідэёвага пераўзбраення. Ён уключыўся сваёй тэматыкай у соцыялістычнае будаўніцтва на найбольш адказных яго участках, ён падыходзіць да сапраўднасці з совецкіх пазіцый, але ўсё-ж гэта толькі першы крок. Адчуваецца яшчэ, што Ц Гартны пісаў некаторыя творы з думкай: „Мне-ж трэба перабудавацца. І хутка-ж гэта трэба зрабіць“. Адгэтуль—пауфабрыкат, а не поўнацэнны мастацкі твор, адгэтуль і схематызм вобразаў, які кампенсуецца патэтыкай, лобавай агітацыяй. Гэта перабудова яшчэ, калі можна так сказаць, *для сябе*. Для совецкага чытача з такой перабудовы

карысці не так шмат; ён такія творы чытае вельмі неахвотна. Далейшая задача для Ц. Гартнага, на маю думку, гэта перагледзець свой метад паказа совецкай сапраўднасці, паставіўшы ў цэнтр увагі чалавека, а не працэс; перамагчы натуралізм, у палоне якога знаходзіцца Ц. Гартны; перагледзець увесь арсенал сваіх мастацкіх сродкаў, бо гэтыя сродкі ў аўтара, трэба проста сказаць, часамі вельмі саматужныя і прымітыўныя. З такімі сродкамі нельга стварыць высока-мастацкага твора, як нельга зрабіць блюмінг пры дапамозе малатка і напільніка. Апавяданне „Смерць Германа Васермана“ сведчыць аб тым, што пры правільным падыходзе да тэмы, да вобраза і пры больш упартай і стараннай працы над творам Ц. Гартны здолее даць добрыя мастацкія творы, якія паслужаць на карысць соц. будаўніцтву. Пажадаем яму найлепшых поспехаў на гэтым шляху.

САЛАМОН ЛЕВІН

# НА НАШ БЕРАГ

(*Творчасць Т. Кляшторнага*).

## I

## У АСЕННІМ ЦАРСТВЕ

Т. Кляшторны прышоў у беларускую паэзію, як паэт, вузка-індывідуалістычных перажыванняў, выражаючы сваёй паэзіяй думкі і настроі той часткі інтэлігенцыі, якая, прымаючы і вітаючы ў свой час рэволюцыю, ніяк не змагла зразумець логіку тых працэсаў, якія адбываліся ў нашай краіне пасля рэволюцыі і ў выніку рэволюцыі, тых будаўнічых працэсаў, якія адбываліся ў нас на этапе аднаўленчага перыяда.

Дамініруючае месца ў першых кнігах вершаў Т. Кляшторнага „Кляновыя завеі“ (1927 г.) і „Светацені“ (1928 г.) займае прыродаапісанне.

Малюнкі прыроды ў імпрэсіяністычных занатоўках, на фоне гэтых малюнкаў выяўленне сваіх індывідуалістычных, вузка-суб'ектыўных перажыванняў—вось што характэрна для першых кніг Т. Кляшторнага.

Запушчаны сад, з якога пад моцным націскам асенняга ветра ва ўсе бакі разлятаюцца пажоўклыя лісты і на фоне гэтага сада,—паэт, ахоплены асеннім экстазам, якому ў сумным шэлесце кляновых лістоў чуюцца словы каханай некалі дзяўчыны,—вось асноўны лейт-матыў першых кніжак паэта.

Паэт ніяк не можа забыць „разбітага кахання“, ён увесь час аддаецца далёкім марам, ён хоча маліцца „над чаркай выпітых гадоў“, ён любіць, седзячы адзін у цішыні асенняга саду аднаўляць у памяці:

„Даўно рассыпаныя мары,
Даўно развеяныя сны.“

Паэт закаханы ў ціхую, сонечную восень, у „сады вераснёвыя“, у „казачны верасень“, у „затоны крыштальныя“:

...„Эх вы, спежкі—дарожанькі вузкія
Эх ты, просінь, тыняная просінь...
Хоць прыгожа вясна беларуская,—
Прыгажэй беларуская восень.“

Ён стаіць на дарозе, глядзіць на багатыя фарбы паміраючай восені, на залацісты дыван кляновых лістоў, на чырвоныя жмуты рабінавых ягад і ўспамінае мінулае. У яго душы ўваскрасаюць даўно забытыя абразкі: далёкая восень, такі-ж самы сад, у золаце асенняга адцві-

тання, пяшчотныя і цёплыя праменні асенняга сонца, якое залацістым шарам апусцілася за далёкую палявую хвойку і на гэтым фоне усплывае далёкі вобраз бледнай дзяўчынкі—каханкі паэта.

Па сутнасці у першых двух кнігах вершаў т. Кляшторнага ёсць два паэты. Адзін—бледны, рамантычны, безгрунтоўны лятуценнік, адарваны ад жыцця. Другі—малады, бадзёры, чырвона-шчокі, які прагне зліцца з нашай баявой моладдзю—комсамолам. Але першы паэт амаль цалкам засланяе сабою фігуру другога. Заклікі да новага жыцця на гэтым этапе у Т. Кляшторнага гучаць абстрактна, непераканаўча:

...„Перайдзём застыўшыя даліны,
Перастанем верыць міражам
Будзем знаць сапраўдныя пуціны,
К дарагім, далёкім маякам."

Сказаць, што мы будзем імкнуцца да нейкіх „маякоў" ды к таму яшчэ да „далёкіх маякоў",—гэта яшчэ значыць сказаць і вельмі мала і вельмі туманна. Больш пераканаўча на гэтым этапе у Т. Кляшторнага атрымліваецца, калі ён гаворыць пра старое, пра далёкае.

Больш правільна будзе ахарактарызаваць паэта на гэтым этапе яго-ж словамі:

„У душы, як у забытай капліцы
Па далёкаму плачуць званы".

Паэт глядзіць на новае жыццё наіўнымі дзіцячымі вачмі, для яго незразумелы заканамернасці жыццёвых з'яў.

...„Імклівіць час
А што?
Што далей будзе?
Слатой за праснiцай праносяцца гады
Жыццё—жыццё!
Як шырак свет і людзі,
І як-жа як
Павабны гарады!"

Аб адарванасці паэта ад жыцця і ад рэволюцыйных падзей сведчыць верш, прысвечаны кітайскім падзеям. „На ўсходзе дальнім, на палёх Кітая", у якім паэт пытаецца ў прыляцеўшых з далёкіх краін гусей:

„Што на свеце робіцца?
Што на свеце дзеецца?
Кажуць—непагодзіцца,—
Крыўдай зоры сцелюцца?!"

На рад вершаў, змешчаных у кнігах „Кляновыя завеі" і „Светацені" значны ўплыў зрабіла паэзія нацыяналістычных „рыцараў". Гэты ўплыў дае сябе адчуваць у паасобных вобразах, у слоўным матэрыяле, у своеасаблівай пабудове паэтычнага радка.

Ёсць паасобныя месцы, дзе гэтыя ўплывы прарываюцца ў больш адкрытай форме,—праз выказванне сваіх поглядаў на Беларусь, праз буржуазна-нацыяналістычнае апяванне „роднага края", праз непрыняцце пролетарскага горада.

Дастаткова прыгадаць наступныя радкі з „Кляновых завей", дзе Т. Кляшторны ў наступных словах ідэалізуе Беларусь:

...„Тут кожны куст пяе каханне,
Тут рэчка казкаю журчыць,
Аповесць доўгую змагання
Тут навявае кожны крыж."

Або вельмі блізкія да гэтых, радкі „Светаценяў“:

…„Тут паланець душа не перастане,
Тут не астыне ў жылах кроў,
Тут кожны крыж—адвечнае змаганне,
Тут кожны куст—адвечная любоў.“

Паэт абяцае „ружовыя вянкі“ славы таму, хто аддасць душу за „маці-Беларусь“, таму, хто золата сваіх паэм перасыпле горкімі слязьмі „бацькаўшчыны“.

…„Хто над шляхамі ў сонечнае ранне
(Дзе шапаціць бярозавы абрус)
Аддаў душу за вечнае змаганне,
Распяў душу за маці-Беларусь?!
Хто над вякамі кладкі перакінуў
І сонцакрылыя паставіў маякі,—
Таму пляце,—
Пляце яго краіна
З пялёстак шчырасці ружовыя вянкі.“

У першых двух кнігах вершаў Т. Кляшторнага цёмныя, змрочныя матывы яго лірыкі засланяюць сабою бадзёрыя, радасныя, светлыя матывы, хмурная восень засланяе сабою светлую вясну, ціхая, ідылічная вёска засланяе сабою шумны пролетарскі горад.

Амаль праз усе вершы „Кляновых завей“ і „Светаценяў“ праходзіць вобраз каханай дзяўчынкі, аб якой паэт думае заўсёды. Паэт слухае шум асенняга ветра і ў яго душы ўзнікаюць дзіуныя асоцыяцыі: яму здаецца, што яго каханую дзяўчынку панеслі некуды далёка хуткія коні:

„Сумна мне!.. У ціхай казцы лістоў
Чую нешта, таемнае чую:
Быццам коні пад свісты вятроў,
Панясьлі ад мяне дарагую.“

Каханне для паэта кончылася трагічна. Паэту сумна. Сум усё павялічваецца і пераходзіць у роспач, у адчай. Не залаціцца больш у сваім багатым убраніі асенні сад. Цэлымі днямі і вечарамі ідуць дажджы, кроплі аднатонна стукаюць па даху, за брамаю абмок любімы клён паэта, каханая дзяўчына пранеслася „дэпешай без пуцёўкі“ і паэт застаўся адзін:

„Сяджу адзін… Сягоння я адзін…
Мярцвеюць мокрыя за вокнамі пацёмкі
У сэрцы тысячы абшчыпаных асін,
А думкі блудныя дэпешы без пуцёўкі,
Сяджу адзін… Сягоння я адзін“…

## II

## ЭСТЭТЫЧНЫ АЛКАГАЛІЗМ

Яшчэ ў „Кляновых завеях“ і „Светаценях“ Т. Кляшторнага чытач адчуваў моцны пах гарэлкі. Яшчэ ў гэтых кніжках чытач даволі часта сустракаў рэстаранныя прылады: кілішкі, келіхі, чаркі, якія служылі аб'ектам любавання паэта і якія, уваходзячы ў яго паэтычны радок,—складалі фактычна асноўную вобразную тканіну многіх вершаў.

Вось прыклады, узятыя толькі з „Кляновых завей“:

„Як сумна любая дакоры
З твайго кілішка дапіваць“
„Хачу спяваць,
Хачу маліцца,
Над чаркай выпітых гадоў“

„Я разаб'ю пустую чарку
На полі выпітых гадоў“
„Зацвілі сярэбраныя росы
У кілішках выцвіўшых лістоў“
„Што ты душу і сэрца падарыла
У шыпучы кубак сонечнай вясны“
„Не выпіць змрок кілішкамі зарніц“
„Гадзіны чаркамі вычэрпваюць вечнасць“
„Многа ў дружбе расчокана дзён“
і т. д. і т. д.

Але ёсць прыказка: пап'янствавалі і досыць—„пара і чэсць знаць“. Трэба заплаціць за выпітае:

„Праходзяць дні,—
А з днямі ўсё праходзіць,
На скаце дзён праз чорнае вакно
Стары карчмар нас разлічыцца просіць
За п'янае юнацкае віно.“

Так канчаецца другая кніга вершаў Т. Кляшторнага „Светацені“.

* * *

Але калі заплочана старому карчмару за выпіўку, дык гэта яшчэ не значыць, што ўсё ўжо скончана. Ніхто не сказаў, што нельга піць яшчэ. І усе кілішкі, келіхі, і чаркі, якія мы бачылі ў першых кнігах Т. Кляшторнага, пераванДравалі ў паэму „Калі асядае муць“. Паэма „Калі асядае муць“ уся заліта віном. У гэтай паэме Т. Кляшторны ўдарыўся ў нейкі своеасаблівы, я-б сказаў, эстэтычны алкагалізм. Але не ў адным алкаголі справа. Паэма „Калі асядае муць“—упадніцкі, песімістычны, шкодны твор. У паэме „Калі асядае муць“ паэт дайшоў, як кажуць, „до точки“. Сум, журботнасць, непрыстасаванасць да жыцця і неразуменне жыцця—вось што характэрна для ўсіх, абсалютна ўсіх герояў паэмы „Калі асядае муць“. Але героі героямі. Дрэнна тое, што і сам паэт зліваецца з імі. У гэтай паэме Т. Кляшторны падае нам два асноўных персанажы: Яську і Андрэя. Яська прымаў удзел у рэволюцыі, але калі скончылася рэволюцыя, для Яські стала незразумелым, за што ён змагаўся. Яська бачыў класавую барацьбу толькі ў навальніцах грамадзянскай вайны, у імклівым разбезе конніцы па бяскрайніх стэпавых прасторах. Для Яські змаганне за рэволюцыю было несур'ёзным змаганнем,—не змаганнем за пэўныя, ясна акрэсленыя мэты,—для яго гэта змаганне было толькі „дзіцячай гульнёй“,—праўда, гульнёй, у якой было многа рамантычнага.

Рэволюцыя скончылася перамогай пролетарыята. Цяпер рамантычнае захапленне Яські праходзіць і ён, не разумеючы новых паслякастрычніцкіх этапаў барацьбы пролетарыята, прымушан сядзець спакойна і ўспамінаць мівулыя агні кананад. Яська прызнаецца, што новая „ўкомаўская пасада“ яму не па плячу, што ён „дагарае“ на гэтай пасадзе. Яська прызнаецца, што „ружовыя далі“, з-за якіх магчыма ён прымаў удзел у рэволюцыі, пахмурнелі, і што з кожным днём поступы новага жыцця робяцца для яго ўсё больш і больш незразумелымі:

...„А на сэрцы расла супярэчнасць,
Пахмурнела ружовая даль“.

Дробна-буржуазны рамантык Яська думае, што ён адзін змагаўся за рэволюцыю, а другое, маладзейшае за яго, пакаленне прышло ужо на „гатовенькае“, і на яго твары з'яўляецца скептычная ўсмешка.

Яна, гэтая ўсмешка, як-бы гаворыць: самае галоўнае зрабіў я, я заклаў падмурак новаму жыццю, а вы, маладзейшае пакаленне, нічога не робіце. Ваша праца раўняецца нулю. Другі асноўны персанаж паэмы, Андрэй,—гэта проста гарадскі абыватаґь, незадаволены сучаснасцю. Па ходу развіцця паэмы можна здагадацца, што раней яму жылося не дрэнна на вёсцы, што ён быў кулаком. У рэпліках Андрэя—поўнае адмаўленне новага жыцця. Андрэй гаворыць, што сяляне (чытай: кулакі!), якія прышлі ў пролетарскі горад, адчураўшыся сваёй роднай вёскі, у горадзе псуюцца, успрымаюць горшыя бакі гарадской культуры, губяць сябе ў рэстаранах:

...„Вось знаю некалькі жанчын,
Прышлі сюды ад вёсак дальніх,
Як у бары расцвіўшы цмін,
Так міла, проста выглядалі.
А сёння, брат, сябе найшлі,
Дзе грукат кол, дзе вечны лёскат.
На што ім дальнія палі,
На што ім бацькаўшчына, вёска?
У іх цяпер зусім няма
Сялянскай простае фігуры...
Успрынялі не горад наш,
А больш мяшчанскую культуру“.

А гэта ўсё здараецца ад таго, што паводле Андрэя, вёска „сама шукае пуцявін, ніхто ёй больш не памагае“. А вось як Андрэй разважае пра беларускую літаратуру:

...„Прыложым долу галаву,—
Мы гутарку сялян пачуем:
„Чытаем толькі Крапіву,
Купалу, Коласа, Бядулю,
А рэшта дзе?! Яшчэ адказ:
(Адказ, бадай зусім да толку)
Культурны сёняшні Парнас
Чытае аднаго Дубоўку“.

Гэта—паклёп на беларускую літаратуру! Гэта—няпраўда! Працоўныя масы апрача Купалы, Коласа, Бядулі і Крапівы чыталі і чытаюць такіх беларускіх пісьменнікаў, як М. Чарот, А. Александровіч, М. Лынькоў, П. Галавач і інш. А нацыяналістычнага „рыцара“, контррэволюцыянера Дубоўку чыталі такія, як Андрэй, для таго, каб ідэямі, якія рассыпаны ў творах гэтага контррэволюцыянера, атручваць свядомасць працоўных.

Яська, Андрэй і разам з імі сам паэт увесь свой час праводзяць за сталамі рэстаранаў. Праўда, паэт адчувае, што за „чорнымі сценамі рэстаранаў“ будуецца другое жыццё, але ён вельмі далёкі ад гэтага другога жыцця. Яму, відаць, цяжка разлучыцца са сваімі сябрамі:

...„Мне хацелася
Жыць па-другому,
А ці здолен я?!
Цяжка сказаць...
Мо' ніколі жытнёвым заломам
Самастойна на ногі не стаць“.

Трэці асноўны персанаж паэмы—Ніна. Гэтая жанчына прыцягвае да сябе, як магнэс усіх астатніх герояў паэмы. Нават у самога паэта выйшаў трагічны раман з Нінай. Як бачым, і тут паэт ні на крок не адступае ад дзеянняў сваіх герояў. Відаць моцна завязалася ў іх сяброўства! Усе героі паэмы ў каханні шукаюць забыцця ад „треволнений

жизни". Што-ж уяўляе сабою Ніна? Гэтая куртызанка звяла са шляху не аднаго мужчыну. У сваім прызнанні Андрэю яна гаворыць:

..."Я не кахаю Тодара, ні Яську
І толькі ты, і толькі ты, Андрэй,
Як ля вакна расквечаная астра,
Ад усяго на свеце даражэй..."

Ніна—глыбока адмоўны вобраз жанчыны. Для яе жывёльнае здавальненне даражэй усяго. Яна сябе лічыць нешчаслівай іменна і толькі таму, што ў яе адабралі самае дарагое,—гэта значыць: „і цела збэсцілі, і збэсцілі душу". Пасля гэтага Ніна не знаходзіць сабе ў жыцці ніякага месца:

..."І для мяне на сёняшнім экране
Застаўся дым...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Не хочу я, каб кожная кухарка
Смяялася над дальнім дарагім,
Каму патрэбна выпітая чарка?..
Прывет жывым!"

У паэме „Калі асядае муць" ёсць месца, калі Яська выходзячы з рэстарана ціха напявае:

..."Шляхі ў тумане абрываюцца,
А сані коцяцца з гары.
Авансам дні жыцця губляюцца,
Авансам так і дагарым".

Гэтыя словы Яські можна цалкам дапасаваць да творчасці Т. Кляшторнага на этапе паэмы „Калі асядае муць".

Паэма Т. Кляшторнага „Калі асядае муць"—бездапаможны крык паэта аб сваім бяссіллі падняцца з таго дна соцыяльнай багемы, да якога ён апусціўся. Паэма „Калі асядае муць"—найбольш упадніцкі твор Т. Кляшторнага.

## III

## ЗАГІПНАТЫЗАВАНЫЯ БЯРОЗЫ.

У адным з сваіх вершаў 1929 г. Т. Кляшторны пісаў:

„Аб чым шумяць над возерам бярозы?
Аб чым гамоняць хвалі між трысця?
Ці гэта ноч і месяц пад гіпнозам?
Ці я пад хмелем мудрасці жыцця?

Такое неразуменне і схіленне перад з'явамі прыроды характарызуе слабасць мастака і мастацтва. У гэтым вершы Т. Кляшторны заяўляе, што ён знаходзіцца „пад хмелем мудрасці жыцця", і што для яго незразумелы асноўныя законы жыццёвага руху.

..."Як разгадаць?!
А ўрэшце і не варта
Канцоў, прычын няведамых шукаць.
О, не філосаф я... і не на зорнай варце,
Каб таямніцы свету вартаваць".

У гэтым вершы Т. Кляшторнага ёсць выражэнне таго, што ў свой час Гегель назваў „первым отношением мысли к действительности". Т. Кляшторны выказвае ў гэтым вершы погляды паслядоўных (Беркли) і непаслядоўных (Кант) агностыкаў.

Хутчэй за ўсё паэт у гэтым вершы выказвае погляды непаслядоўнага агностыка Канта, які гаварыў, што па-за намі існуюць нейкія рэчы, але мы маем справу не з імі, а са сваімі ўласнымі адчуваннямі і ўзорамі рэчаў, якія вырастаюць ў нашай свядомасці і на іх аснове. Непаслядоўны агностык гаворыць, з аднаго боку, што нельга пазнаць рэчаіснасць шляхам лагічнага мыслення, а з другога боку імкнецца пазнаць рэчаіснасць тым, што „воспроизводит содержание ощущений и созерцаний, делая его содержанием мысли“ (Гегель). У гэтым вершы Т. Кляшторнага праглядае і своеасаблівае разуменне паэзіі, як нейкай містычнай сілы, своеасаблівае абагатварэнне паэзіі, якая можа пазнаць гоман кожнай хвойкі і крокі туманаў. „Творчыя аганькі“ паэта—гэта нешта ідэальнае, перад якім ніштo „жыццёвыя дробязі“:

...„Таму і злосць, і крыўду прабачаю
У лёгкім тлуме творчых аганькоў.“

Паэт аддаецца цалкам непасрэдным уражанням, якія праяўляюцца ў яго душы у момант моцнага хвалявання. Ён не хоча аналізаваць свае пачуцці, ён не разглядае свае пачуцці шляхам разумовых разважанняў, а здавальняецца тым, што праяўляе гэтыя пачуцці на паперы. Для яго не існуе ніякіх разумовых катэгорый, ён стаіць на пункце погляда падсвядомага пазнання рэчаіснасці, якое ў свой час абгрунтаваў венскі доктар Зігмунд Фрэйд і яго паслядоўца Альфрэд Адлер.

Няма патрэбы даводзіць, што такім падсвядомым спосабам пазнаць рэчаіснасць нельга. Тэорыі фрэйдыстаў даўно разбіты марксізмам. Паэт сам адчувае неправільны шлях пазнання рэчаіснасці, якім ён пайшоў і вымушан прызнацца:

„Таму і ноч, і месяц пад гіпнозам,
А я пад хмелем музыкі жыцця.“

На гэтым вершы Т. Кляшторнага і на радзе іншых яго вершаў ёсць вялікія ўплывы імпрэсіянізма. Імпрэсіянізм, як мы ведаем, змагаўся супроць ўсяго разумовага, якое быццам-бы парушае чыстату і непасрэднасць эстэтычнага ўражання. Імпрэсіяністы вельмі блізка падыходзілі, калі не сказаць, змыкаліся, з рэлятывістамі, якія бачылі ў паняцці рэчы толькі зручны сродак хутчэйшай арыентацыі, толькі прыём эканоміі мыслення. Яны не прызнавалі за гэтым паняццем унутраной ісціннасці. Як для імпрэсіяністаў, так і для рэлятывістаў самае галоўнае—у р а ж а н н е, адлюстраванне рэчаў толькі ў нашых адчуваннях. Французскі фізік Эрнст Мах, які развіў тэорыю рэлятывізма у сваёй рабоце „Beiträge zur Analuse der Empfindungen“ (аналіз адчуванняў) яшчэ ў 1886 г. імкнуўся давесці выключнае значэнне адчуванняў для пазнання. Выступаючы супроць Маха, Авенарыуса, Багданава і іншых рэлятывістаў і агностыкаў В. І. Ленін гаварыў, што ў іх „філасофскі суб'ектывізм, які немінуча прыводзіць да адмаўлення аб'ектыўнай ісціны“. Выступаючы супроць філасофскіх ідэалістаў рознага толку, В. І. Ленін у сваёй кнізе „Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм“ пісаў,

„Ён (агностык) н е  і д з е  д а л е й за адчуванні,—ён с п ы н я е ц ц а  н а  г э т ы  б о к  з'я ў, адмаўляючыся бачыць, што-б ні было „верагоднае“ за межамі адчуванняў. А б  с а м і х  г э т ы х  р э ч а х, гэта значыць аб рэчах у сабе, аб'ектах саміх па сабе мы нічога верагоднага ведаць не можам,—гэткая зусім поўная заява агностыка... Агностык не дапускае с а м о е  д у м к і аб рэчах у сабе, заяўляючы, што нічога верагоднага аб іх мы ведаць не можам.“ *)

*) В. І. Ленін, „Матэрыялізм і эмпірыокрытыцызм“, стар. 84.

Трэба памятаць, што мастацтва моцнае тады, калі яно выражае вялікія думкі. Адны пачуцці—гэта яшчэ не мастацтва. Адны думкі—таксама. Мастацтва трэба разумець як пэўную сістэматызацыю і пачуццяў і думак. Аб гэтым вельмі добра піша Г. В. Плеханаў, крытыкуючы погляды на мастацтва Л. Н. Талстога. Г. В. Плеханаў па гэтаму пытанню піша наступнае:

„Неправільна таксама і тое, што мастацтва выражае толькі пачуцці людзей. Не, яно выражае і пачуццё іх, і думкі, але выражае не адцягнена, а ў жывых вобразах, і ў гэтым заключаецца яго самая галоўная адрозніваючая рыса. Па думцы Талстога „мастацтва пачынаецца тады, калі чалавек, з мэтай перадаць другім перажытае ім пачуцце, ізноў выклікае яго ў сябе і пэўнымі знешнімі знакамі выражае яго“. Я-ж думаю, што мастацтва пачынаецца тады, калі чалавек ізноў выклікае ў сябе пачуцці і думкі, перажытыя ім пад уплывам акружаючай яго рэчаіснасці, і надае ім пэўнае вобразнае выражэнне. Само сабою зразумела, што ў вялікай большасці выпадкаў ён робіць гэта з мэтай перадаць перадуманае і перажытае ім другім людзям. Мастацтва ёсць грамадская з'ява“ *.)

Гэтымі словамі Г. В. Плеханава сказана ўсё!

## IV

## НЕНАДЗЕЙНЫЯ ВЕТРАЗІ

У 1929 г. вышла трэцяя кніга вершаў Т. Кляшторнага „Ветразі“, у якую ўвайшлі вершы, напісаныя ў 1927-28 і 29 г. г. і дзве паэмы: „Праксэда“ (1926 г.) і „Беларусь“ (1928 г.) „Ветразі“—найбольш супярэчлівая з усіх кніг Т. Кляшторнага. У „Ветразях“ ёсць рад вершаў, накіраваных супроць мяшчанства („Сямейны прымус“), прысвечаных падняволеным Заходняй Беларусі („Пад Заходняй зарой“, „Лукішкі“) і рад іншых вершаў, у якіх паэт спрабуе ісці ў нагу з жыццём. Але гэтыя вершы—бледныя і мімалётныя (хоць і радасныя!) аганькі, якія ўспыхваюць на паасобных старонках „Ветразяй“ і зараз-жа гаснуць на агульным, змрочным фоне усёй кнігі.

Пераважная большасць вершаў „Ветразяй“, асноўны лейт-матыў кнігі—працяг тых матываў у творчасці Т. Кляшторнага, якія мы сустракалі ўжо ў яго „Кляновых завеях“ і „Светаценях“. Гэта — неразуменне новага жыцця, буржуазна-нацыяналістычныя матывы, кіданне ад горада да вёскі, зварот да мінулага, хворае сентыментальнае каханне.

У адным з сваіх вершаў Т. Кляшторны заяўляе, што ён як-бы пераглядзеў свае старыя творчыя шляхі і прышоў да вывада, што гэтыя творчыя шляхі трэба ў далейшым змяніць. Калі жыццё імкліва ідзе наперад, дык нельга паэту займацца старымі перапевамі і ўвесь час стаяць на „точке замерзания“. Але-ж ці здолен Т. Кляшторны змяніць свае творчыя шляхі? Ці здолен ён сыйсці з гэтай „точки замерзания“ і пайсці разам з жыццём? Ці здолен ён аддаць свой розум і пачуцці, душу і сэрца сваёй краіне? Вось як адказвае на гэта паэт:

„Часамі смеласці бракуе
Прыйсці да нейкіх пэўных рэчаў—
Душа за песню галасуе,
Развага гэтаму пярэчыць.“

---

*) Г. В. Плеханаў. Творы, том XIV, стар. 2.

Следам за гэтым прызнаннем праз увесь верш чырвонай істужкай праходзіць адно хвалюючае, ракавое пытанне:

„Ці варта лірыкай займацца?“

Займацца лірыкай варта і трэба, але трэба, каб пачуццё і розум не былі ў разладзе. Калі „душа за песню галасуе“, а „развага гэтаму пярэчыць“, як прызнаецца сам паэт, тады ў яго атрымаецца дрэнная лірыка. Сапраўдная, савецкая, высока-мастацкая, пачуццёвая, страстная лірыка можа ўзнікнуць тады, калі розум паэта дзейнічае заадно з пачуццямі і калі пачуцці падпарадкуюцца розуму. Пра тое, што „душа за песню галасуе, а „развага гэтаму пярэчыць“ сведчыць амаль уся кніга „Ветразі“. Гэта асабліва яскрава можна ўбачыць на паэмах „Праксэда“ і „Беларусь“. Але аб іх ніжэй. Цяпер-жа некалькі заўваг аб некаторых вершах, змешчаных у „Ветразях“.

І ідэі, і пейзаж, і слоўна-мастацкія сродкі у „Ветразях“ тыя-ж, што і ў ранейшых кнігах паэта. Тая-ж ціхая восень у „рабінавым колеры“, што „прышла гаспадарыць“ у вячэрніх садах, у якіх ужо „даспяваюць апошнія вішні“ і „дзе-ні-дзе ападаюць лісты“, той-жа вобраз бледнай дзяўчынкі—каханкі паэта, праходзяць праз усю кнігу. Паэт не заўважыў будаўнічых працэсаў у пролетарскім горадзе і таму яму хутка робіцца ў ім сумна і яго ізноў цягне на вёску:

„Сумна тут, у мурох да адчаю
Здэцца просіцца сэрца ў палі,
Дзе вясна залатымі ключамі
Адмыкае таемнасць зямлі“

Не бачачы радасці ў сёнешнім дні, паэт хоча развесяліць сябе ўспамінамі аб далёкіх, шчаслівых днях маладосці:

„Не журыся, таварыш Кляшторны,
Не рыдай аб далёкай вясне,
Не рыдай...
Там пад месяцам недзе,
Дзе склікаюцца тайны начэй
У гаі беларускую „лэдзі“
Аклікае паэт-салавей.
І яна—векавая бяроза
Лепш умее каханне дарыць..
Ты прыпомніш юнацкія крозы,
Ты прыпомніш далёкія дні“.

У вершы „Маці“ Т. Кляшторны неправільна вырашае праблему біялагічнага і класавага. Два родныя браты служаць розным мэтам. Адзін—чырвонаармеец, другі—у варожым стане. Чырвонаармеец падае забітым ад рукі роднага брата-белагвардзейца. І калі старая маці даведваецца аб сваім сыне-забойцы, яна ў першы момант абураецца. У парыве хвалявання яна кажа:

„Яму сама я грудзі разарву
вужачае дастану сэрца“.

Але не паспела яшчэ астыць матчына злосць, як дзверы ў хату адчыняюцца і на насілках уносяць параненага злачынца. І тут біялагічны момант перамагае класавы. Ад ранейшай матчынай злосці не застаецца і следу.

„А праз гадзіну да яго павек
Яна кранулася ўпоцем:
— І ты-ж, сынок, таксама чалавек
І ты-ж не вырас на балоце.“

Пад знакам „гуманізма“ і „агульнай-чалавечнасці“ напісан верш „Растратчык“. У гэтым вершы падаецца вобраз галоўнага бухгалтара, які зрабіў растрату і якога потым так мучыць сумленне, што ён прымушан кінуцца праз вагоннае вакно і скончыць жыццё самагубствам. Для растратчыка такі ўчынак не з'яўляецца характэрным. Ён сам ніколі не будзе кідацца праз вакно. Наадварот,—ён хутчэй выкіне праз вакно таго, хто яго паспрабуе затрымаць, як падазронага чалавека. Такія людзі змагаюцца за сваё жыццё нават і тады, калі ім па біялагічнаму закону час паміраць!

У паэме „Праксэда“ Т. Кляшторны імкнецца даць вобраз гераічнай жанчыны-партызанкі Праксэды. Але калі мы больш глыбока ўдумаемся ў вобраз Праксэды, дык убачым, што гэта не гераічная жанчына, а какаіністка і толькі. Праксэду пакахаў афіцэр, каб абарваць назаўсёды яе маладое жыццё:

„Пакахаў,
Каб туманамі кроз
Як вінам упіцца на хвіліну...
Цалаваць як восенскі мароз
Лебяду цалуе каля тыну.“

Праксэда, якая любіць адважнага партызана Сцяпана і афіцэра, не можа ніяк разабрацца ў сваіх пачуццях, бо яна:

„У каханні бачыць забыццё“.

І Праксэда не ведае, што ёй рабіць:

„У душы,—
Бы ў кратэры вулкана
Чалавек змагаецца і звер...
Ёй шкада адважнага Сцяпана
І ёй дораг зараз афіцэр.

І словы Праксэды аб тым, што яна хоча загінуць „з КІМ“ам на грудзёх“, зусім не абгрунтаваны.

Праз вобраз Праксэды шмат губляе і вобраз Сцяпана. Паводле развіцця паэмы выходзіць, што Сцяпан пайшоў змагацца супроць ворага выключна за сваю Праксэду:

„За злачынства,
Крыўду і абман
За Праксэду,
Любую Праксэду,
Ён пашоў,
Каб нечуваны боль
Прамяняць на баявую зброю...“

Калі-б прааналізаваць і глыбока ўдумацца ў асноўныя вобразы гэтай паэмы Т. Кляшторнага, дык няцяжка ўбачыць, што яны ўжо мелі ў творчасці паэта сваіх папярэднікаў—прататыпаў: Праксэда—у вобразе Ніны з паэмы „Калі асядае муць“ і Сцяпан—у вобразе Андрэя з той-жа паэмы.

У паэме „Беларусь“ паэт вуснамі старога дзеда расказвае маленькаму хлопчыку пра нядаўнае мінулае Беларусі,—пра імперыялістычную і грамадзянскую вайну. Гэтага старога дзеда нельга разглядаць інакш як беларускага, „самабытнага“, нацыяналістычнага дзеда.

Дзед „ускрывае“ маленькаму хлопчыку, свайму ўнуку, галоўную прычыну крывавых боек:

„Калісці даўно генерал Мураўёў
Мячамі, агнём і прымусам
На тонкай сасне беларускіх гаёў
Павесіў душу Беларусі.“

Што гэта за „душа Беларусі“? Ага!.. Дагадваемся!.. Гэта—Кастусь Каліноўскі!.. Так!.. Правільна!.. Нацыянал-дэмакраты лічылі яго „душой Беларусі“! І вось з таго часу, як генерал Мураўеў павесіў гэту „душу Беларусі“ і загарэўся сыр-бор.

І з гэтага часу між сёл і далін
Нібыта між зорак камета,
Пайшоў беларускі мужык-селянін
Шукаць сваю долю па свеце.“

Стары дзед з абурэннем гаворыць, што на імперыялістычнай вайне

„Забіты салдацік не рад, а гатоў
Пайсці і на роднага брата.“

Відаць, што ў „праблеме братоў“ „старый дедушка“ не вельмі ўжо разбіраецца. Паводле апавяданняў гэтага „дедушки“ у часе наступлення на совецкую рэспубліку Юдэніча, Дэнікіна, Пятлюры, Калчака і інш. ішлі на фронт змагацца за лепшую долю толькі *славяне* і ішлі яны змагацца сапраўды *па славянску*: „без пратэста без скаргі і слоў!“

Няўжо на франтах грамадзянскай вайны паміралі за лепшую долю толькі адны славяне!?. Мы гэтага зусім не ведалі? Таварыш Кляшторны! Прашу ўшанаваць памяць ўсіх „неславянаў“, якія на франтах грамадзянскай вайны загінулі за справу пролетарыята

Вобраз храбрага чырвонаармейца Мікіты—можа быць паміма жадання аўтара паэмы, атрымаўся няўдалым. Мікіта —вузка-нацыяналістычны герой. Гэта пацвярджаюць словы старога дзеда, калі ён гаворыць пра Мікіту:

„Такіх і нябачна цяпер малайцоў!“

Скончылася грамадзянская вайна. Совецкая краіна перамагла сваіх ворагаў. Пачалася будаўнічая работа, але стары дзед не ведае, што гэта за работа:

„Дзе мёртвыя цені ад вечнай жуды
Па чорных руінах паснулі,
Там горда магутна рука маладых
Вялікае *нешта* будуе.
А што, да чаго там, не мне адказаць.“

І неяк двухсэнсова гучаць апошнія, заключныя радкі паэмы:

„Я скора, Міхаська, як бачна, памру
А жыць бы хацелася болей...
Там знойдзе, там знойдзе мужык-беларус
Сваю незнаходную долю.“

Слова „там“ можна разумець па-рознаму. З вуснаў дзеда гэтае „там“ гучыць у сэнсе „У магіле“. Калі так,—то гэта глыбока песімістычныя радкі, гэта—няверʻе ў тое, што працоўны селянін пры совецкай уладзе выйдзе на светлы радасны шлях жыцця. Гэтыя словы цалкам апровергнуты ўсім ходам нашай сапраўднасці!

Я ўжо падкрэсліваў, што „Ветразі“ Т. Кляшторнага—адна з найбольш супярэчлівых яго кніг. Побач з вершамі, якія адлюстроўваюць упадніцкія, песімістычныя, мяшчанскія настроі, у кнізе ёсць вершы, дзе т. Кляшторны вітае новае будаўніцтва, у якіх паэт замест буржуазнага рамантыка, безгрунтоўнага лятуценніка і скептыка выступае маладым, здаровым, жыццярадасным паэтам нашай эпохі. Пра

гэта сведчаць такія, вершы, як „Інжынер“, „Пад чырвоны шлем“ і інш. У адным з гэтых вершаў Т. Кляшторны гаворыць:

„Якое шчасце сёння працаваць,—
Ды мець душу заўсёды маладую...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
„З нас кожны, кожны сёння інжынер
Для нас пасіўнасць сёння невядома,—
Мы на канве,
Небачанай канве,
Штодзенна творым планы пабудовы.“

Большасць вершаў робіць „Ветразі“ Г. Кляшторнага вельмі ненадзейнымі. Гэтыя „Ветразі“ вельмі далёка адвялі паэта ад берагоў совецкай паэзіі. Але паасобныя вершы, у якіх праглядаюць бадзёрыя, радасныя матывы, не дазволілі „Ветразям“ накіраваць карабель паэта на „той бераг“.

V

## НА НАШ БЕРАГ

Значны ідэалагічны крок наперад зрабіў Т. Кляшторны сваёй паэмай „Палі загаманілі.“ Паэт імкнуўся у гэтай паэме паказаць працэсы калектывізацыі ў нашай краіне, даць героіку нашага будаўніцтва. Наколькі аўтар справіўся з пастаўленай перад сабою задачай? Для адказа на гэта пытанне звернемся да характарыстыкі асноўных герояў паэмы. Сормавец—кіраўнік калектывізацыі, паводле папярэдняй характарыстыкі паэта, чалавек палітычна вытрыманы, маючы класавую пільнасць, адданы сваёй справе комуніст.

Але той, хто пачне удумліва чытаць паэму з самага пачатку убачыць, што вобраз Сормаўца больш за ўсё зніжаецца якраз па лініі паказа яго класавой пільнасці. У раздзеле „Так пачынаецца паэма“ Сормавец гаворыць з аграномам-шкоднікам, як са сваім лепшым таварышом. На разважанні агранома аб тым, што:

„Нам пульсаваць ніхто не перашкодзіць
А дзень... Наш дзень раўняецца нулю.“

Сормавец з вялікай наіўнасцю дзівіцца, як гэта агроном не бачыць вялікіх творчых зрухаў у нашай краіне, не бачыць таго, што:

„Тут камень, тут граніт адчулі пульс эпохі,
Тут нават мёртвыя гатовы гаварыць.“

Трэба быць палітычна зусім сляпым чалавекам, каб не раскрыць усю класавую сутнасць агранома з яго першых-жа слоў. Цікава адзначыць той факт, што пра дзеі, учынкі, планы агранома першым даведваецца не Сормавец, а даведваюцца калгаснікі, якія неаднаразова заяўляюць свайму кіраўніку:

„Тут ходзяць чуткі, быццам аграном
Знарок псаваў гароднае насенне.“
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Мы не павінны болей патураць
Злачыннаму нядбайству агранома.“
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Наш аграном збіраецца у Крым.“
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А пападзе напэўна ў крымвышук.“

І не гледзячы нн тое, што самі калгаснікі раскрылі амаль усе карты агранома і зусім законна абураюцца, жадаючы як-небудзь пазбавіцца ад гэтага чалавека,—Сормавец лічыць, што калгаснікі зрабіліся „актыўнымі залішне“.

„Таварышы, ну дайце-ж гаварыць!
Сягоння вы,—актыўныя залішне...
Унікнем лепш пустых сямейных спраў
Наш аграном—не дзеўчына з пасагам.“

Трэба адзначыць, што класавы вораг (аграном, поп Шалюта і інш.) паказаны Т. Кляшторным лепш, чым калгасная маса, якая змагаецца супроць гэтых ворагаў. Аграном Максім Прохаравіч паказан як вельмі добры стратэг і тактык, які ўмее прыстасавацца, умее прыкінуцца „лаяльным“ там, дзе гэта яму патрэбна. Мы ведаем добра нават з гісторыі беларускай буржуазіі, што яна сапраўды крыху „прыціхла“, „звыклася“ з совецкай уладай у часы новай эканамічнай палітыкі, разлічваючы на тое, што новая эканамічная палітыка ёсць зварот да капіталізма, што гэтая палітыка азначае павольны „спуск на тармазох“. І прадстаўнікі беларускай буржуазіі некаторы час спакойна адсежваліся на цёплых мясцах, якія ім удалося заняць. Мары буржуазіі аб звароце да капіталізма ў нашай краіне разбіліся канчаткова ў вялікім паступацельным ходзе наперад соцыялістычнага будаўніцтва. І цяпер ідэолагі буржуазіі кідаюць свае наседжаныя месцы, дастаюць зброю, выступаюць у больш адкрытай форме, спрабуючы перайсці ў рашучае наступленне супроць соцыялізма. Гэты пераход класавага ворага ад адной тактыкі да другой удала паказан у паэме „Палі загаманілі“.

Вось як выказвае свае настроі аграном у гутарцы з Шалютам.

„Я далёкія громы адчуў,
Я адчуў, што на вогнішчы Рыму
Не адродзіцца спалены Рым.
Наша спадчына слаўнай культуры
Не пяройдзе у побыт і кроў.
Яны нашага цалкам не прымуць...
А таму,
Вось патрэбна цяпер
Нам агонь пачынаць з Рубікону.“

Аграном выканаў сваю „ролю“ да канца. Але выклікае супярэчнасці вобраз папа Шалюты. Раскрыць да канца гэты вобраз паэту не ўдалося. Мы ведаем, якую ролю ў класавай барацьбе адыгрываюць прадстаўнікі рэлігійных культаў. У паэме ёсць месца, дзе Шалюта, гэты „святы чалавек“, які ў часе грамадзянскай вайны выдаваў чырвонаармейцаў беламу штабу,—паказан як чалавек, які нават гатовы ўліцца ў сям'ю калгаснікаў. Шалюта спрабуе нават „пераканаць“ агранома, што ў жыцці адбыліся зрухі. Нарэшце Шалюта на „ўсяночнай“, адракаючыся ад свайго папоўства, выдае шкодніцкія планы папа Залыскага і агранома. І тут-жа падае забітым ад кулі агранома.

Вось словы Шалюты:

„Я шчыра адмаўляюся служыць
Я даведу вам зараз, што
Залыскія са мной не па дарозе.
Залыскія,
Сініцкія,
З Максімам на чале
Што падхалімствам нек
Пралез у аграномы
Задумалі калгас уночы падпаліць.“

Гэтыя словы папа Шалюты не ўмяшчаюцца ў галаве. Ім цяжка паверыць. Гэта мабыць адчуў пасля і паэт, адчуў, што такі чалавек, як Шалюта, не можа стаць у рады калгаснай масы і таму зрабіў яму такую хуткую смерць.

Цікава і тое, што калгас удалося выратаваць ад ворагаў толькі дзякуючы таму, што:

„Падвяла агранома трывожная ноч,  
Тая ноч яго выдала планы,  
Не па адрасу ён два лісты напісаў  
Пераблытаў канверты, лісты пераблытаў,  
І злачынны свой выдаў намер.“

Зусім зразумела, чаму паэт ужыў у сваёй паэме прыём „пераблытвання адрасоў“. Вельмі проста: ніякім другім чынам нельга было раскрыць шкодніцкія планы агранома і выратаваць калгас. Чаму нельга было? Таму, што ні асноўная маса калгаснікаў, ні тым больш кіраўнік гэтай масы—Сормавец нічога не ведалі аб планах агранома. І гэты прыём „пераблытвання адрасоў“, зусім натуральна, спатрэбіўся паэту для таго, каб апраўдаць ход развіцця сваей паэмы, скончыўшы яе „патрэбным канцом“.

Так ці іначай,—а паэма „Палі загаманілі“,—сведчыць пра значны ідэалагічны зрух у творчасці Т. Кляшторнага, сведчыць пра паступовы пераход паэта да актуальнай тэматыкі социялістычнага будаўніцтва, сведчыць пра тое, што ён канчаткова адышоў ад сваіх ранейшых „асенніх настрояў“.

* * *

У 1934 г. вышла новая кніга вершаў Т. Кляшторнага „Праз шторм на штурм“. Праз усю гэтую кнігу праходзіць адно усведамленне паэта, усведамленне аб тым, што:

„На два франты падзелены сусвет  
На барыкадах боек соцыяльных.

Т. Кляшторны ў радзе вершаў сваёй апошняй кнігі („Нацыянал дэмакратам“, „Сляды дарог“ і інш.) выкрывае контр-рэволюцыйную здрадніцкую ролю нацыял-дэмакратаў.

У вершы „Нацыянал-дэмакратам“ паэт выступае ў якасці суровага абвінаваўца беларускіх нацыяналістычных „рыцараў“, пытаючыся ў іх:

— Ну, так,  
панове,  
так,  
За нацыю вы...  
Што-ж!?  
А хто, нібы жабрак,  
Вільгельму клянчыў,  
хто?!  
А хто,  
скажыце нам,  
У краме  
чорных спраў  
Фашыстам  
І панам  
Краіну прадаваў?“

І паказваючы тыя дасягненні, якіх мы дамагліся, паказваючы, што наша краіна з'яўляецца бацькаўшчынай усіх працоўных,—паэт грозна канчае сваю размову з нацыянал-дэмакратычнымі нягоднікамі:

„Гісторыя
за нас!
А вы?!
нікчэмнасць тут!
Мы
(мільёны нас)
Падпішам вам прысуд."

У паэме „Сляды дарог", паэме аб дарожным будаўніцтве ёсць таксама шмат моцных мясцін, дзе паэт выступае супроць „нацыянальных Іудаў". Класавай ненавісцю і ўпэўненасцю ў канчатковую перамогу пролетарыята гучаць наступныя радкі:

„Супроць замежных
і сваіх
баранаў з прошлым
І баронаў
трымаем моцна
востры штых
На дбайнай варце
абароны!"

У кнізе „Праз шторм на штурм" ёсць адзін цікавы верш. Гэта верш—„Старшыня Алеся". Верш гэты з боку яго мастацкай апрацоўкі слабаваты, але цікавы тым, што ў ім паэт канчаткова разрывае са сваімі старымі вобразамі. Замест свайго старога зарослага, запусцелага, мяшчанскага сада у гэтым вершы падаецца калгасны сад. А дзе-ж той стары сад у залатым убранні кляновых лістоў, у якім паэт хацеў калісці збудаваць сабе „асенняе царства"?

„Даўно пасечан сад стары,
Рукой гісторыі пасечан...
І точаць могільнік вятры,
Які касцямі пнёў памечан.
Не зацвіце струхнелы сад
Яму гнісці пад сцюжай золкай"...

Змяніўся сад паэта! І не толькі сад! Змянілася і асноўная гераіня паэта! Новая гераіня паэта—гэта не томная Андрэеўская гімназістка з раскрытай кніжкай Арцыбашава ў руках! Гэта—маладая калгасніца—комсамолка Алеся, якая разам з астатнімі калгаснікамі будуе новае жыццё!

У т. Кляшторнага, які на працягу рада гадоў адлюстроўваў сваёй творчасцю настроі слабых людзей, упаднікаў,—была свая вобразная сістэма, свой аблюбаваны рад вобразаў. Цяпер пры падыходзе паэта да новага матэрыяла, яму трэба зламаць сваю старую вобразную сістэму. А гэта ўдаецца не так лёгка. І ад таго, у многіх новых вершах няма новай формы, а ёсць толькі змест. Ад таго, што гэты змест не выяўлен у належнай форме, ён шмат траціць. Таму ў новых вершах Т. Кляшторнага і сустракаюцца, напрыклад, такія радкі:

„Размах утрой
І якасць дай,
І якасць дай
І тэмпы дай.
Эх."

Адзін новы змест вершаў, не апрануты ў адпаведную форму, мала дапаможа творчай перабудове Т. Кляшторнага. Аб узаемаадносінах формы і зместа яшчэ даўно Гегель сказаў наступнае:

„Можна сказаць аб Іліядзе, што яе зместам з'яўляецца Траянская вайна, альбо яшчэ больш дакладна, гнеў Ахіла; гэта дае нам усё і адначасова яшчэ вельмі мала, бо тое, што робіць Іліяду Іліядай, ёсць тая паэтычная форма, у якой выражан змест*.

Для таго, каб канчаткова ўзарваць свой стары, аблюбаваны круг вобразаў, Т. Кляшторны павінен шчыльна зліцца з нашым жыццём. Новая кніга вершаў Т. Кляшторнага „Праз шторм на штурм" сведчыць пра тое, што паэт перабудоўваецца пакуль што не па ўсяму фронту, а на паасобных участках. Кніжка „Праз шторм на штурм" мае многа творчых зрываў. Але ўсё-ж Т. Кляшторнага трэба вітаць з выхадам гэтай яго кніжкі, бо яна,—гэтая кніжка,—пры далейшай упартай рабоце паэта можа зрабіцца пачаткам новага Кляшторнага—паэта, песні якога будуць апраменены сонцам новай, вялікай эпохі!

* * *

На першых этапах сваёй творчасці Т. Кляшторны знаходзіўся ў мастацкім „затворнічестве", у чатырох сценах свайго творчага габінета, завешанага партрэтамі дэкадэнтаў і лірычнымі пастаралямі,—каб адсюль з гэтага своеасабліва убранага творчага габінета не бачыць новага чалавека, будаўніка нашай рэчаіснасці, а для таго, каб бачыць адсюль п'яніц, разбітых людзей мінулага, рамантычных „шукальнікаў харaства"!

Ранейшыя творы Т. Кляшторнага—гэта хваравітыя настроі слабых людзей, людзей мінулага, жывых нябожчыкаў, якія нават ва ўрачыстыя дні хаваюцца на ціхіх ускраінах, у цяні сваіх вішнёвых садкоў, баючыся выйсці на вялікі, многалюдны пляц, заліты праменнямі вялікага жыватворчага сонца. Гэтым людзям чыліканне хатніх канарэек даражэй прызыўных гукаў баявых фанфар!

Цяпер паэт зразумеў, што далей заставацца ў мастацкім „затворничестве" нельга, ён зразумеў, што нельга механічна разрываць сваю працу і жыццё, што паэт павінен быць адначасова і грамадзянінам, што для таго, каб пісаць, трэба жыць, і жыць не мінулым, а сёньнешнім,—такім багатым і такім, рознастайным, днём. Паэт зразумеў, што ён не можа далей заставацца у чатырох сценах свайго цёмнага, напоўненага містычным паўзмрокам творчага габінета і закрываць свае вочы ад сонечнага святла, якое ззяе сёння, ад ветра, які сёння гойдае галіны дрэў, ад дзяўчыны, якая сёння-ж можа сказаць паэту сваё „люблю!"...

Паэт ужо вырываецца і ёсць надзея вырвецца назаўсёды з сваёй цёмнай, зачыненай вежы і адчыніць вокны ў яскравы дзённы свет, у блакіт неба, у яркую зеляніну дрэў, у вясну новага жыцця!

---

*) Гегель, т. I, стар. 225.

ПЕТР ХАТУЛЁЎ

# СІЛА „ТАЙНЫ“

## ПАСТАНОЎКА ПЫТАННЯ

Яна ідзе амаль праз усе вякі, як адна з галоўнейшых службовых адзінак мастацкага твора, як адна з галоўнейшых форм фабулы.

На парозе XIX ст., у эпоху загнівання феадалізма і разгортвання буржуазных рэволюцый—асаблівай зацікаўленасці да сябе фабульны прыём тайны набывае ў прадстаўнікоў „школы кашмара“—Люіса-Мечурына і Анны Рэдкліф. Прадстаўніца фантастычнага рамантызма, ангельская пісьменніца Анна Рэдкліф, фактычна, з'яўляецца заснавальніцай „рамана тайн“.

Анна Рэдкліф шырока выкарыстоўвала „раман тайн“, як магутную зброю барацьбы арыстакратычнай рэакцыі супроць растучага і вызраваючага буржуазнага лада, супроць растучых капіталістычных адносін.

Амаль усе раманы Анны Рэдкліф пабудаваны наступным чынам: гераіня пападае ў замак, бачыць у ім напаўзгніўшы труп, за фіранкай ў замку блукаюць здані, хтосці ўстаўляе свае рэплікі ў гутарку п'яных разбойнікаў і г. д.

У канцы рамана даецца разгадка тайн: труп аказваецца васковым, пастаўлены продкам уладара графа па прыказанню папы для „пакаяния“, таемны голас належыць палоннаму, які блукае па замку, карыстаючыся таемным ходам і г. д.

У Анны Рэдкліф тайна адыгрывала ролю элемента, света, хаоса і жахаў. Свет хаоса, жахаў, свет трагічнай напружанасці—тут эстэтызуецца.

Тайны ў Рэдкліф (творы—„Видения в Пиринейском замке“, „Тайны Удольфского замка“)—гэта добра зроблены вянок з апошніх кветак асуджанага класа, вянок, які сваімі кветкамі жаха і эстэтызма—упрыгожвае труну класа арыстакратыі.

Канец XVIII, пачатак і сярэдзіна XIX ст. вызначаюцца ростам раманаў тайн, ростам авантурна-прыгодніцкай літаратуры.

Рэдкліф, побач з вялікім уплывам, які яна зрабіла на ўсю заходнееўрапейскую літаратуру, зрабіла значны ўплыў на літаратуру рускую. Гэты ўплыў сказваецца у раманах Загоскіна („Юрий Милославский“) Нарэжнага („Барсукі“). Адным са сваіх настаўнікаў Дастаеўскі лічыў Рэдкліф. Але кашмар і тайна ў Дастаеўскага мае сваю іншую соцыяльную функцыю, чым у Рэдкліф,

Геніяльны прадстаўнік літаратурнага стыля, створанага гарадскім мяшчанствам ва ўмовах разбурэння саслоўна-крэпасніцкага ладу і нараджэння капіталізма—Дастаеўскі ў сваіх творах выказаў катастрафічнае разбурэнне дробнага мяшчанства. Ад філасофскай асновы света-

погляда Дастаеўскага—свет-катастрафічнае разбурэнне, над усім пануе пачатак хаотычнасці і чалавеку неабходна прымірыцца з хаосам разбурэння, не бегчы ад пакут, а любіць іх, як адзінае і вышэйшае апраўданне чалавечай істоты-ідзе і ўся філасофія кампазіцыі яго твораў. Стыль Дастаеўскага нясе адзнак змрочнасці і трагізма. Для яго стыля характэрны хаотычны дынамізм, віхравое разгортванне часу, „событийная" хаотычнасць.

Тайна тут з'яўляецца звяном непазнанай і непазнаваемай стыхіі светахаосу, перад якімі трэба схіляцца.

Пра гэта даволі ярка гавораць творы „Двойник", „Преступление и наказание" і інш.

У Дастаеўскага ярка выступае імкненне схапіць і зафіксаваць усе жыццёвыя ўражанні, не прыводзячы іх у сістэму, захоўваючы за імі ўсю выпадковасць, беспарадкавасць. Гэтае імкненне расчыніць і паказаць жыццё не ў яго закончаных формах, а ў адвечна ўзнікаючым і разбураючым вельмі добра рэалізоўвалася прыёмам тайн. Тут тайна была сродкам стварэння выпадковасці, незакончанасці, абрыўчатасці з'яў. Шмат у чым наследуючы старым класічным прынцыпам XVIII ст., першую спробу стварыць раман новага тыпа, з выкарыстоўваннем фабульнага прыёма тайны—зрабіў вядомы англійскі пісьменнік Дзікенс.

Раманы тайн Дзікенса ў вогуле („Крошка Доррит" і інш,) не падобны на раманы тайн папярэднікаў, але, адначасова, некаторыя бакі яго раманаў з'яўляюцца простым перайманнем прыёмаў авантурна-прыгодніцкага рамана.

Веліч Дзікенса, не гледзячы на ўсю абмежаванасць светапогляда пісьменніка—заключаецца ў тым, што Дзікенс ва ўсёй еўрапейскай літаратуры з'яўляецца вялікім майстрам фабульнага рамана, які з'явіўся „предтечей" новага рамана—соцыяльна-вытворчага рамана.

Вялікі выразіцель пакут дробнай буржуазіі Англіі ў эпоху „мірнага" роста капіталізма, вялікі гумарыст—усё свае творчае жыццё хістаўся паміж смехам караючым і смехам прымiраючым, аддаючыся пад канец ва ўладу апошняга. Супярэчлівая двоістасць сатырыка і рэлігійна-маральнага прымірэнца была прычынай таго, што новыя соцыяльныя ідэі рэволюцыйнай барацьбы, якія поўнасцю не разумеў Дзікенс—часта апраналіся ў вопратку старой фабульнай класікі.

Складаная фабульная будова раманаў Дзікенса ў сваёй аснове выражае імкненне аўтара з аднаго боку—знізіць драматычна-трагічную абстаноўку жыцця да рэлігійнага непрацiўлення, а з другога—падняцца да сатырычнай крытыкі класа эксплаататараў.

Асабліва гэта можна заўважыць у рамане „Крошка Доррит". Фабула разгортвання вобраза Крошкі Дорыт, не гледзячы на тое, што яна (фабула) тут выступае самадаўлеюча і сведчыць пра некрытычнае ўспрыняцце фабульнай спадчыны аўтарам малюе, з аднаго боку, бюракратычную сістэму бяздушнага чыноўніцтва „Министерства околичностей", а з другога боку—прымірэнне аўтара перад пакутамі дробнай буржуазіі.

Тайна гадзінніка, тайна сноў, загадка спадчыны паказваюць на той шлях жыцця, які пройдзен праўдай і няпраўдай дробнай буржуазнай сям'ей Кленэм (і ў прыватнасці-містрыс Кленэм), паказваюць на пакутны жыццёвы шлях Крошкі Дорыт, паказваюць на заблытанасць і бездапаможнасць бюракратычнай дзяржаўнай сістэмы.

Значны інтарэс выклікае майстэрства будаваць малыя мастацкія формы ў амерыканскага пісьменніка эпохі прадваеннага капіталізма—О. Генры.

Рэчаіснасць бярэцца Генры (тыповы амерыканскі кансерватыўны дробны буржуа) без соцыяльных канфліктаў і супярэчнасцей. Рэчы бяруцца ў іх часовым адхіленні ад норм. Устраненне канфліктаў і супярэчнасцей у расказах Генры не законамерна, а пастаўлена ў поўную залежнасць ад выпадка. Адсюль—такое выключнае становішча набывае фінальная развязка. Пры гэтым развязванне канфліктаў заключаецца ў звароце да адпраўнага пункта апавядання, навелы. Рэчаіснасць не падупадае пад якасныя змены. Умелы канструктар павярхоўнай, фабульна-заблытанай навелы—О. Генры кампенсуе ідэйную пустату сваіх герoeў знадворнымі раздражальнікамі інтрыгі, козні. Псіхалагічная пустата твораў Генры падмяняецца фабульнай заблытанасцю, нечаканасцю тайн.

Генры, з уласцівасцю кансерватыўнага дробнага буржуа уводзіць свае вобразы-схемы у заблытаныя фабульныя сітуацыі, каб у канцы, зняўшы вуаль фабульнасці з сваіх герояў, сказаць, што нічога асаблівага не адбылося („Блінчыкі“ і інш.) Так фабуліст О. Генры, які па сіле фабульнай будовы можа ўступіць толькі Дзікенсу, выкарыстоўваў тэхнічныя сродкі мастацтва для палітычных ідэалаў кансерватыўнай буржуазіі.

У Генры сіла тайны з'яўляецца сілай спрашчэння жыцця, павярхоўным успрыняццем жыцця, сілай сціра́ння соцыяльных калізій.

Тайна „Блінчыкаў“ уводзіць у заблытаныя канфлікты Ліраіт, і Берда, каўбоя з тым, каб сказаць, што жыццё заўсёды звяртаецца да свайго ідэала—спакою і сытай радасці, што ўсякія сутычкі, канфлікты, цяжкасці—выпадковае і хутка ўступае месца спакою і радасці.

Фінал навелы „Блінчыкі“—шлюб Ліраіт і Берда,

* * *

Мы бачым, як фабульны прыём тайн у розных соцыяльных груп выконвае розныя соцыяльныя функцыі.

Мы бачым, як гэты фабульны прыём з'яўляецца не малай зброяй класавага пазнання і перабудовы рэчаіснасці.

Безумоўна сіла мастацкасці твора змяшчаецца не толькі ў сіле фабульнасці яго. Асноўная стрыжнёвая сіла твора—у яго ідэйным багацці, у багацці рэчаіснасці. І гэта багацце рэчаіснасці расчыняецца не толькі пры дапамозе фабульных прыёмаў, сярод якіх мы адзначылі найбольш важны. Талстой, Бальзак, Ганчароў былі антыфабулістамі, але яны былі геніяльнымі мастакамі. Яны дасягалі вяршын мастацтва метадам глыбокага аналіза псіхалогіі рэчы з'явы праз іх дэталь.

Тут метад аналіза падмяняў фабульныя сродкі, фабульны метад. У гэтым плюс і адначасова—мінус. Бо гэта было ў некаторай ступені аднабаковасцю ў перадачы рэчаіснасці, аднабаковасцю ў выкарыстанні ўсяго багацця мастацкіх сродкаў адлюстравання. Крапатлівы аналіз стварaў статычнасць твора так сама, як самадаўлеючая фабульнасць стварае абстрактны дынамізм.

Часамі ў літаратурных кулуарах, часамі ў выступленнях чуецца голас аб тым, што фабулісты, фабульная літаратура пачынаюць уступаць месца іншым прыёмам творчасці. Асабліва гэта адносіцца да твора, які пабудаваны пры дапамозе тайн.

Можа і сапраўды прыём тайны здольны быў заўсёды выражаць, або кампенсацыю ідэйнай пустаты твора, або хаос непазнаваемага, або шкалу ад едкага сатырызма да прымірaючага гумара?

Можа сапраўды прыем тайны, наогул, з'яўляецца рысай дваранска-буржуазнай культуры, ад якога пролетарыяту неабходна адмовіцца.

Можа сапраўды фабульная лінія тайны па сваёй прыродзе заўсёды разбурае сваю службовую ролю і пачынае даўлець над творам?

Не. Рознастайнасць, багацце і шырыня зместа соцыялістычнай рэчаіснасці павінны знайсці рознастайнасць, багацце і шырыню форм праяўлення сябе.

Соцыялістычны рэалізм, як найвялікшае багацце форм праяўлення (у літаратуры) рэчаіснасці—прымае ўсе творчыя прыёмы, адкуль-бы яны не ішлі, калі гэтыя творчыя прыёмы не ідуць у разрэз з сутнасцю соцыялістычнага рэалізма.

Соцыялістычны фабульны раман, пабудаваны пры дапамозе прыёма тайны, не будзе выражаць знадворную эфектыўнасць фарб, эстэтызіраваную трагічнасць, а будзе сваёй тэмпераментнасцю і энергічнасцю—перабудоўваць свет на карысць бяскласаваму грамадству.

Соцыялістычны раман тайн не будзе, як у Дзікенса выражаць хістанне паміж бічаваннем і прымірэннем, а будзе выражаць палітычную страснасць класа, які адзін толькі і здольны перабудаваць свет.

Гэта будзе раман тайн, выражаючы не стыхію, не хаотычны дынамізм з'яў, рэчаў і г. д., а рэалістычную дынаміку руху матэрыі, абумоўленую законамі—выражаючымі дынамізм, які толькі і магчымы ў соцыялістычнай культуры, дынамізм бесперапыннага ператварэння матэрыі, дзе тайна—элемент адносна пазнанага, дзе тайна адзін з момантаў праяўлення з'явы, адзін з момантаў фармавання з'явы, адзін з момантаў разгортвання з'явы, як працэса. Гэта будзе раман тайн, выражаючы не кампенсацыю ідэйнай пустаты, як у Генры, а будзе выражаць багаццё зместа, змагацца за яго, пакажа, як дынамічная напружанасць формы твора стварае вялікую ідэйна-мастацкую сілу, калі гэта форма спалучаецца з жывым багатым зместам.

Задача заключаецца ў тым, каб крытычна пераапрацаваўшы класічную спадчыну прыём псіхалагічнага паказа рэчы з'явы праз дэталь спалучыць з прыёмам фабульнага твора, і ў прыватнасці, з прыёмам тайн.

Гэта будзе адна з лепшых форм нашай літаратуры.

II

## ПРЫХОД ФАБУЛІСТА

Беларуская літаратура ў параўнанні з рускай—бедная літаратура ў галіне стварэння багатых фабульнасцю твораў і асабліва гэта неабходна падкрэсліць у галіне стварэння літаратуры з фабулай тайн. З гэтай прычыны, не гледзячы на ўсе недахопы—аповесць „Тэорыя Каленбрун“ заслугоўвае значнай увагі грамадскасці.

Маладога пісьменніка Эдуарда Самуйленка можна лічыць адным з першых пісьменнікаў у беларускай літаратуры, які смела ўзышоў на шлях стварэння фабульнай літаратуры.

Апрача мастацкасці аповесць набывае значэнне сваёй шырынёй і актуальнасцю паднятых пытанняў.

...Апошні тур прадсмертнага балявання фашыстоўскага імперыялізма. Імперыялізм у агіднай нагаце. Ісці наперад—немагчыма і страшна:

чакае смерць растучай пролетарскай рэволюцыі. Спыніцца на дарозе гісторыі—тая-ж смерць.—„фронта няма",—кажа маёр Каленбрун, начальнік разведкі, у гутарцы з Дабравольскім, сябром па справах,—і мы у агні. Клас, супроць класа, маёр. Набліжаецца час вялікіх дрыгаў, але гэта прадбачаць толькі нямногія з нас...

Я магу арганізаваць удалую атаку, я магу праз цэлыя гады плесці ніць самых складаных, разведачных аперацый, у мяне хопіць і вытрымкі і здольнасцяй. Але калі я гляджу навакол сябе і бачу ворага за кожным вуглом, чую яго крокі за сваім хрыбтом, калі я разумею што кожны завод—гэта дывізія варожых сіл, кожная вуліца іх акоп, калі я адчуваю што фронта няма, але разам з тым вораг націскае з кожным днём усё больш, што гэты вораг на зямлі, пад зямлёй, у паветры,—тады я губляюся, маёр!

... Нам патрэбна незвыклая канцэнтрацыя сіл, надзвычайна ўмелая арганізацыя ўсіх баявых рэсурсаў і вынаходных вышынь, надзвычайна ўмелая палітыка з масамі, на якіх мы яшчэ не згубілі ўплыў! Нам патрэбна ўмелая работа ў стане нашага ворага, і нават, пры гэтых умовах—перамога не забяспечана. Іх мільёны! А нас „толькі дзве тысячы! Мы акружаны!.. Вып'ём, маер!" („Полымя рэвол" .№ 8-9, ст. 23-24).

Правільна зразумеўшы імперыялізм, як вышэйшую форму капіталізма і канун пролетарскіх рэволюцый, як капіталізм гніючы і адначасова капіталізм мілітарыстычных актывізацый—Самуйлёнак зусім правільна падыходзіць да ўскрыцця тактыкі фашызма ў яе новым праяўленні.

Прыадчынены габінет дэфензівы. Расшыфроўваюцца таямніцы сейфаў: „Наступаюць так, каб вораг лічыў, што ты адступаеш". Гэтую тэорыю Каленбрун называе „салдацкай". На першы погляд яна аддае парадаксальнасцю. На справе—яна адбівае ўсю складанасць і заблытанасць, агалцелую авантуру і правакатарства, чалавечую непрыстойнасць і імперыялістычную драпежнасць фашыстаў.

Яна (тэорыя) паказвае, што польская дэфензіва з'ўляецца адным з галоўных аддзяленняў штаба сусветнай контррэволюцыі. Яна паказвае, што галоўныя сілы контррэволюцыі Совецкай Беларусі увесь час знаходзяцца пад непасрэдным кіраўніцтвам начальнікаў польскай дэфензівы Пфэрц-Дабравольскіх.

Раскрываючы агідныя намеры польскіх фашыстаў, паказваючы ў мастацкіх вобразах усю крывавую драпежнасць гэтых намераў—аповесць ператвараецца ў трывожны сігнал аб небяспецы актывізацыі беларускага фашыстоўскага нацыяналізма, ператвараецца ў сігнал аб мабілізацыі сіл пролетарыята ў барацьбе супроць мясцовай, унутранай і сусветнай контррэволюцыі.

У гэтым немалае значэнне аповесці. Ідэйна-мастацкая сіла аповесці значна і таму, што Самуйлёнак змог паказаць у заблытаным клубку метадаў барацьбы імперыялістаў—асноўнае і важнейшае звяно, характэрнае для сёняшняга капіталізма.

Паручнік Рыдэль—фанатычны патрыёт, выхаванец англафранцузскай школы, разам з белагвардзейцам Гагаем атрымоўваюць ад Пфэрц-Дабравольскага і Каленбруна заданне ўвайсці ў давер'е раённай партарганізацыі. Рыдэль пад прозвішчам Турчын і Гагай робяцца актыўнымі працаўнікамі партыйнай арганізацыі.

Раскрываючы вобразы гэтых правакатараў і шпіёнаў аўтар вельмі ўдала паказвае складанасць умоў працы комуністычнай падпольнай арганізацыі, тую небяспеку, якая падпільноўвае партарганізацыю ва

ўмовах фашысцкай дыктатуры. Каленбрун і Дабравольскі так ставяцца да партарганізацыі, што на першы погляд складаецца ўражанне, як быццам дэфензіва не ўмешваецца ў справы рэволюцыйнага руху. Гэтая мімікрыя ствараецца дэфензівай для таго, каб адваяваць давер'е ў шырокіх мас, каб шляхам дэмагогіі і тактыкай нейтралітэта стварыць глебу для сваіх аперацый.

Згодна плана Каленбрун адзін з гэтых двух шпіёнаў застаецца ў партарганізацыі надалей, другі—разам з выдатнейшым прадстаўніком партыйцаў—Крамарчуком пападае ў турму. Дабравольскі стварае ўсе ўмовы, каб Крамарчук і Турчын (Рыдэль) былі аслабанены як бы сіламі партарганізацыі і адпраўлены ў Совецкі Саюз на правах палітэмігрантаў.

На тэрыторыі Саюза Турчын павінен забіць Крамарчука, уключыцца ў совецкую партарганізацыю, весці шпіянаж, заняцца шкодніцтвам і трымаць сувязь з дэфензівай.

Праз некаторы час у партарганізацыю (у Польшчы) павінен прабрацца новы супрацоўнік дэфензівы. Тут ужо ролю Рыдэля павінен паўтараць Гагай. Зноў пераход мяжы, зноў забойства на тэрыторыі Совецкага саюза выдатнейшага партыйнага дзеяча Польшчы, зноў уключэнне ў контррэволюцыйную працу на тэрыторыі Советаў. І так—адвечнае кола. Вынік „тэорыі"—паступовае фізічнае знішчэнне польскай комуністычнай партыі, паступовая падрыхтоўка ўмоў інтэрвенцыі ў Совецкім саюзе.

Як здані вякоў інквізіцыі паўстаюць адзін за другім цывілізаваныя сыны „Бялага ожала", страціўшыя усё, апрача смагі крыві і страсці да залатога мяшка.

Постаць натхніцеля польскай дэфензівы створана, у большасці, штрыхамі. Месцамі яны пераходзяць ў саркастычны гратэск і шарж (тое-ж і ў вобразе Дабравольскага), што, бязумоўна, зніжае сілу мастацкага паказа. Гэта сведчыць і пра слабасць мастацкай палітры аўтара. Вось, напрыклад, як даецца характарыстыка гэтых двух герояў. Падкрэсліваючы агіднасць Каленбруна, Самуйлёнак кажа: „Звярыная маска Каленбруна ашчэрылася ўсмешкай", або „на твары Каленбруна з'яе зялёнымі і вар'яцкімі агнямі пратэза вока". Калі даецца знадворны выгляд Дабравольскага—гаворыцца: „Кароткі і тоўсты, як крывяная каўбаса". Гэта вельмі танна. Гэта аддае таннай плакатнасцю. Безумоўна назваць ворага „звярынай маскай", прыпісваць яму рысы вар'яцтва, гаварыць на яго „крывяная каўбаса"—значна лягчэй, чым даць глыбокі псіхалагічны вобраз.

Не гледзячы на гэта, ужо ў штрыхах мы можам убачыць, што разам з плакатнасцю, шаржам ідуць тонкія лініі псіхалагічных нюансаў.

Вобраз Каленбруна—гэта не проста звярыная дзяржыморда, або постаць калібана, памножаная на смагу заваёў рынкаў і капітала.

Вобраз Каленбруна—гэта не проста Гамлет у плашчы 20-га стагоддзя.

Вобраз Каленбруна створан з матэрыялаў актыўных і пасіўных бакоў імперыялізма, як сукупнасці соцыяльных адносін.

— „Некалькі я меў,—кажа Каленбрун,—дзвццаць тысяч дзесяцін зямлі ў Чарнігаўшчыне. Гняздо маіх продкаў. Блізка адтуль былі мае два цукровых заводы. Узамен гэтага я атрымаў чатыры шчыліны ў чэрапе, які трэснуў як спелы гарбуз, атрымаў шрам і немагчымыя болі галавы. Да сваіх маёнткаў і заводаў і акрамя ўсяго дадаў і левае вока... Што вы кажаце маёр?" („Пол. рэв". №8-9, стар. 23).

Хвалі грамадзянскай вайны і рэволюцыі выкінулі яго поўжывым на чужы, але блізкі сэрцу—бераг. Змяніліся часы, абстаноўка і людзі, і Каленбрун збірае сілы аддзякаваць сваім ворагам фізічным зніш-чэннем большэвізма.

Каленбрун адчувае, што гісторыя даўно зачыніла для іх наглуха дзверы. Прыходзіцца ламаць, крышыць. Ён добра ведае, што самая моцная у свеце сіла—сіла сапраўднасці. Авось—мо' і пераможам яе!

Ён верыць у вайну, як у збавенне ад усяго чырвонага, як ачыш-чэнне энергіі капіталізма. Але, ён адначасова баіцца вайны. „Людзям не нашага класа нельга верыць“. А тэхніка? Яна патрабуе людзей.

Часамі яго агортваюць мары-галюцынацыі. Часамі яму здаецца, як „сотні і тысячы тысяч душаць гіганцкія машыны, як пад іх гусяніцамі пад жалезнай нагой гінуць яны, як клапы, лопаецца мяса, плыве рэчкамі праклятая чырвоная кроў!“ (стар. 24)

Але фантастычная рамантыка тут-жа пакідае „героя“. Спробы Каленбруна рэалізаваць сваю „тэорыю“ церпяць крах.

Аповесць канчаецца мажорнай музыкай перамогі раённай партар-ганізацыі і верай у перамогу пролетарскай рэволюцыі ў Польшчы.

Аповесць паказвае, што справа барацьбы супроць мілітарыстыч-нага „воодушевления“ капіталістаў, супроць падрыхтоўкі новай су-светнай вайны, супроць нападу інтэрвенцыі на Савецкі саюз—справа комуністычнай партыі і працоўных кожнай краіны.

Аповесць паказвае, што асноўнымі задачамі комуністычнай партыі Польшчы ў сучасны момант з'яўляюцца іменна гэтыя задачы.

— „Гэтыя знарады—для нас саміх! Мы не будзем рыхтаваць самі сабе крываву лазню! Мы не будзем рыхтаваць смяротныя падарункі для нашых братоў на Ўсходзе! Даволі! Мы патрабуем зняць з завода вайсковы заказ і павялічыць расцэнкі на ўсе гатункі работы!“ (стар. 11). З такімі лозунгамі пад кіраўніцтвам раённай партыйнай арганізацыі уступаюць у забастоўку рабочыя металургічнага завода.

Пісьменнік падкрэслівае, што з кожным днём уплыў компартыі на працоўныя масы расце, але яшчэ ёсць такія рабочыя, як Кольбэ, якія не адвояваны з палону „нейтральнасці“, якія часамі свае сямей-ныя бытавыя справы ставяць вышэй класавага змагання, якія пасту-пова пераходзяць у рады рэволюцыйнага пролетарыята.

На фоне змагання рабочага класа з тактыкай фашызма—вырысоў-ваюцца рэволюцыянеры-партыйцы Марцін Крамарчук, Врон, Чэст, Ян і інш. Крамарчук—гэта кроўны сын пролетараў. Ён далёкі ад тых, хто марыць пра перамогу Дон-Кіхотамі фаталістычна звязвае сябе са справай. Ён далёкі ад тых, хто мае жалеза-бетоннае сэрца і сталёвую галаву.

Ён проста чалавек з вялікай і шчырай любоўю да працоўнага народа, з чуткай і нежнай душой да сябра па класу, няўмольны вораг капіталізма, адданы да канца справе рэволюцыі.

Гэта ён—па даручэнню Камітэта арганізоўвае забастоўку супроць вайсковага заказа. Гэта ён, ахвяруючы сабою, пераносячы зняво-ленне, пракладае шлях да ліквідацыі авантуры Каленбруна. Гэта ён прабіраецца цярністымі ляснымі сцежкамі у Совецкі саюз, каб толькі скарэй і канчаткова раззброіць агіднага правакатара Рыдэля і дала-жыць аб небяспецы бацькаўшчыне усіх працоўных!

Гэта ён паказвае, што самаахвярнасць і адданасць справе, магут-ная воля большэвікоў вядуць заўсёды да перамогі, не гледзячы ні на якія авантурна-драпежніцкія намеры фашызма.

З амаль даходзячай да інтымнай цяплыні лірычнасцю намаляваны вобраз партыйца Врона, пад практычным кіраўніцтвам якога праводзіцца ліквідацыя „тэорыі". Яму вызначана зусім малае месца ў аповесці. Але кожны яго рух зжаты, важкі, прымушае думаць, хваляваць.

У гэтым вобразе аўтар падкрэслівае, што біялагічныя фактары бяссільны перад соцыяльнымі, што яны падпарадкоўваюцца соцыяльным. Врон, не гледзячы на надзвычайна дрэннае фізічнае становішча, ніколі не думаў здрадзіць зброі і ідэям партыі. У самыя цяжкія моманты свайго здароўя ён не пакідае самаахвярна стаяць ля стырна класавай барацьбы.

— „Яны пайшлі назад, у напрамку да дома. Абодва маўчалі (Ян і Брон). Не адазваліся ніводным словам і гэтак моўчкі ўвайшлі у дом. Тут па старому надзвычайна спакойна. Таварыш Врон падышоў да яе і выцягнуў далоні над абажурам. Нібы не было за сцяной навальніцы, нібы не было бліскавіц і стрэлаў і гэтай скарэжанай постаці, што падае ў ноч.

Цяпло ад лямпы грэла далоні.

Прыемнае цяпло,—сказаў тав. Врон,—надзвычайна прыемнае цяпло. Я адчуваю, як сціхае у мяне пад скурай бунт палачак Коха.

— Табе патрэбна курортнае лячэнне, Врон,—сказаў Ян. Трэба ехаць лячыцца.

— Правільна. У Швейцарыю. Не гавары глупства, Ян." („Пол. рэвол" №10, стар 49).

Врон ведае, што кожная гадзіна барацьбы за ліквідацыю „тэорыі Каленбруна" даражэй яго асабістых інтарэсаў.

* * *

Да недахопаў твора трэба аднесці бледныя, крыклівыя вобразы— Чэста—кіраўніка райпартарганізацыі і Станіслава Дроба, сержанта і комуніста.

Недахоп паглыбляецца тым, што як кіраўніку ўсёй працы партарганізацыі вызначана роля толькі масавай сцэны. Паказ апаратыўнага кіраўніцтва ўсёй працай падменен нязначным актам прамовы на сходзе.

Таксама непераканаўчы вобраз Дроба. Між іншым, вобраз паступовай перабудовы некаторай праслойкі інтэлігенцыі, трапіўшай пад уплыў буржуазіі, павінен быў атрымаць найбольшую ўвагу аўтара.

Шлях Дроба ад моманта забойства яго бацькі паліцыяй, праз галечу і нэндзу гадоў юнацтва, да сержанта і паступовае вызваленне ад буржуазных ілюзій і прыход у компартыю—павінен быць найбольш выпуклым і мастацкі пераканаўчым. У сапраўднасці гэты шлях аказаўся скомканым, залішне нацягнутым. Перабудова Дроба адбылася за дзвярыма аповесці, і ў кантэксце пісьменнік падмацоўвае аргументацыю перабудовы публіцыстычнымі рэмаркамі.

„Штуршок (для перабудовы) ёсць магутны класавы інстынкт" („Пол. рэв." № 8—9, стар. 35).

„Справа ў тым, што ён (Дроб) не можа больш чакаць, не можа больш заставацца ў баку ад барацьбы, ён, сын пралетара Лукаша Дроба. Яго месца ў першых шэрагах ланцугоў, што ідуць на прыступ, і ён гэта месца зойме." („Пол. рэв.", стар. 43—44).

„А калі па шляху да партыі давядзецца загінуць Станіславу Дробу—

дык што азначае смерць аднаго, калі застаюцца жыць і змагацца мільёны" (там-жа).

Недахопам трэба лічыць і тое, што Самуйлёнак, заняўшы ўвагу чытача справай тэорыі, як бы адсунуў на задні план штодзённую крапатлівую палітыка-выхаваўчую працу партарганізацыі сярод шырокіх працоўных мас. Можа стварыцца ўражанне, што партарганізацыя стаіць як-бы па-за масамі і ў замкнутых канспіратыўных кулуарах вядзе палітычную працу. Таму і сцэна забастоўкі гучыць эпізодычна.

Аповесць носіць сляды яшчэ непоўнай апрацаванасці і творчых пошукаў.

Адчуваецца залішняя перагружанасць трагічнага, напружана-драматычнага. Непатрэбна смерць галоўнага кіраўніка завода Змрочэка, рабочага Кольбэ. Адначасова трэба адзначыць, што трагізм Каленбруна цікавы, арыгінальны, глыбока соцыяльны і патрэбны.

Самуйлёнак імкнецца ствараць рэчы, з'явы найбольш эмоцыянальнымі і поўнымі праз паказ іх у форме надзвычайнасці, у форме „вопиющего". Бярэцца надзвычай спакойнае, ціхае і супроцьстаўляецца надзвычай напружанаму, драматычнаму, у фон падзей нечакана ўрываецца з'ява, не маючая звычайных дачыненняў да гэтага фона, і г. д.

Ціхая, спакойная ноч акраін горада Польшчы, ноч, якая ў сваім спакоі як бы хавае нейкую трывогу і, зусім нечакана—чалавечы голас: плач маці ў ног памёршага ад голаду дзіцяці. Ад гэтага плачу маці пачынае плакаць, і крычаць уся ноч, усё жывое, якое мае пачуцці. Ад гэтага плачу пачынае закіпаць кроў у грудзях, пачынае шалёна біцца сэрца, і пачынае абуджацца, расці і ператварацца ў дзеянне класавая нянавісць. І ў гэтым сіла супроцьстаўлення.

У гэтым сіла стаўлення з'яў у трагічную напружанасць.

Амаль такую-ж сілу набывае малюнак расстрэла Гагая. Дзікая, разгневаная стыхія прыроды. Глыбокая ноч, дождж, маланка і далёкая акраіна. Вялікая волевая фігура Врона партыйца і адначасова маленькая хваравітая постаць Врона—чалавека. Нечакана выбухнуўшы страх на фоне глыбокай ночы, на фоне раз'юшанай стыхіі, стрэл у правакатара Гагая—набывае аграмадную эмоцыянальную сілу. Ён поўніць гневам супроць ворага, ён выклікае любоў да партыйца Врона.

Так стыхія прыроды, вобраз правакатара, проціпастаўленыя вялікай заспакоенасці партыйца, яго ўдумлівасці і адданасці рабочаму класу—робяць найбольш выпуклым паказ соцыяльнай барацьбы.

А калі нечакана памірае кіраўнік металургічнага завода—гэта выклікае ўсмешку па адрасу аўтара, гэта танны паказ дэгенерацтва, фізічнага выраджэння буржуазіі.

Самуйлёнак любіць з'яву ў яе трагічнай напружанасці, ён любіць „вопиющее", і гэта не дрэнна. Бо трагічнае, „вопиющее"—гэта найбольшыя і наймаксімальнейшыя магчымасці „самообнажения" сутнасці рэчаіснасці.

Гэта—расцягнутая да адказу спружына. Далей расцягнуць нельга—трэсне. Ты добра бачыш, якая моц спружыны, наколькі можа расцягнуцца, якая яе даўжыня, якая яе энергія.

Але тут хаваецца небяспека смакавання трагічным, небяспека эстэтызацыі самадаўлеючай трагічнай лініі.

І гэта трэба ўлічыць Самуйлёнку, бо гэта небяспека ў яго ў наяўнасці.

## III

## „ТАЙНА“ ТЭОРЫІ КАЛЕНБРУН.

Тайна тут бярэцца як умаўчанне аўтара або перад героям, або перад чытачом, а часамі перад адным і другім.

Аповесць карыстаецца рэгрэсіўнай развязкай. Усё палотно твора пакрыта змрокам тайн, на якія з напружанай затарможанасцю падаюць светавыя праменні. Чытач хвалюецца, шукае ключа да разумення з'явы, напалову знаходзіць, зацікаўленасць яшчэ больш нарастае, расце гнеў, жаданне, любоў. І толькі канцоўка паказвае, у чым справа.

Кожная тайна сродак раскрыцця сутнасці. Яна форма разгортвання паняцця ад з'явы да сутнасці не толькі як суб'ектыўны фактар творчага прыёма, але і як элемент аб'ектыўнай заканамернасці паняцця.

Цэнтральныя тайны: Тэорыя Каленбрун і тактыка барацьбы комуністаў з ёю.

Свет з'яў гэтых тайн вядомы: для тэорыі Каленбрун—„наступаць так, каб вораг лічыў, што ты адступаеш“. Для тактыкі комуністаў—„ісці на ліквідацыю плана цалкам і поўнасцю“.

Ад галоўных тайн ідуць шэраг вытворчых тайн: тайна, што Гагай і Турчын правакатары, што Крамарчук прабіраецца ў Совецкі саюз не па асабістай справе, а з пэўным заданнем арганізацыі, тайна, што Крамарчук пападае ў турму не выпадкова, а з пэўным планам і г. д.

Расстрэлам Гагая даецца намёк, што гэта падазроная асоба. Залішняя мімікрыя Турчына ў лесе, у часе адпачынка—становіцца падазронай.

Пачынаючы ад адпраўнай станцыі фенаменальнага боку сутнасці: „наступаць так, каб вораг лічыў, што ты адступаеш“—фенаменальнасць шырыцца, разрастаецца, паглыбляецца, ідзе праз акт расстрэла Гагая, праз абнажэнне мімікрыі Турчына. Але фенаменальнасць пакуль што ёй і застаецца, не гледзячы на сваё перарастанне і набліжэнне да сутнасці. Сутнасць агорнута фенаменальнасцю, або тайнай. Яна (фенаменальнасць) аўтарам разгортваецца да апошняй мяжы, пры гэтым разгортваючы эмоцыянальна-ідэйную энергію чытача і ўзрываецца і кідае ўсю энергію чытача на ўспрыняцце сутнасці. Гагай, Турчын, якія на працягу аповесці былі „презрительными“ сфінксамі—паўстаюць у сваёй агіднасці імперыялістаў.

Постаць Крамарчука, які перанёс страшэнныя мукі, катаванні—у канцы аповесці вырастае ў гераічную самаахвярную фігуру байца рэволюцыі.

Тут прыём тайны стварае сілу вобраза.

Мы бачым, што сцвярджэнне, „наступаць так, каб вораг лічыў, што ты адступаеш“—ёсць частка шляху да сутнасці „тэорыі“, яно ёсць адносна пазнаная сутнасць, бо патрабуе больш удасканальвання і паглыблення, бо патрабуе канкретызацыі і ў даным выпадку, з'яўляецца тайнай, бо сутнасць „тэорыі“ яно не вычэрпвае, бо агульнае без канкрэтнага заўсёды незразумела, загадка, тайна.

Калі да гэтага сцверджэння далучаюцца другія, паглыбляючыя яго—паняцце „тэорыя“ пачынае больш разгортвацца ад фенаменальнага боку да сутнага і ўжо факт расстрэла Гагая і мімікрыя Турчына дапаўняюць і пашыраюць формулу „наступаць“... Але дапаўняючы і пашыраючы яе, гэты факт пакуль што не выводзіць яе з стану

фенаменальнасці і тайны і пры гэтым сам не аслабаняецца яшчэ ад стану тайны.

І на працягу ўсёй аповесці нарастаючыя звенні фенаменальнага боку паняцце ўсё больш і больш адкрываюць падступ да сутнасці, самі-ж пры гэтым з'яўляюцца тайнамі. Гэтыя тайны самі сабе знімаюць на сваёй апошняй ступені разгортвання.

Значыць, у даным выпадку, змест паняцця ад з'явы да сутнасці разгортваецца праз форму тайн.

Фабульны прыём тайн стварае дынамічнасць твора. Гэты дынамізм адбівае гістарычную канкрэтнасць рэчаіснасці, бо з'яўляецца энергіяй разгортвання паняцця ад пачатковай да канечнай дыстанцыі. Ён востра класава накіраваны, бо ставіць сваёй задачай з максімальнай сілай разгарнуць вобраз фашыстоўскай правакацыі.

Пачынаючы ад старта аповесці разгортванне мастацка-ідэйнай энергіі ідзе павольна. Паступова ўсё узрастаючы—гэтая энергія разгортваецца ўсё шпарчэй і шпарчэй (па меры ўвядзення ў тайны элементаў расшыфроўкі). Але адначасова шыфр тайн застаецца тайнай. Гэты шыфр, разгортваючы твор, накіроўваючы сілу яго ў напрамку як мага больш ускрыць класавы твар фашызма, ён (шыфр) як-бы беражэ разгортванне твора. Атрымоўваецца як-бы стрыманы магутны рух энергіі твора.

Гэты рух дасягае эпагея ў момансе рэгрысіўнай развязкі.

Былі небяспекі:

Шляхам тармажэння папасці ў палон фармалізма, дзе „прием искусства является приемом „отстранения“ вещей и приемом затруднительной формы, увеличивающей трудность и долготу восприятия, так как воспринимательный процесс в искусстве самоценен и должен быть продлен“ (Шклоўскі, „Теория прозы“). У сваёй першай палове аповесці блізка падыходзіць да „затруднения“ и долготы „восприятия“, аднак гэтае „затруднение и долгота восприятия“ не з'яўляецца самамэтай і не ператвараецца ў яе.

Стаяла небяспека ператварыцца дынамізму ў самадаўлеючы абстрактны эстэтычны рух.

Стаяла небяспека ператварыцца фабульнай лініі (асабліва прымаючы пад увагу сілу нечаканасці канцоўкі) у самадаўлеючую сілу каскадных агнёў, ператварыцца фабульнай лініі ў самадаўлеючую эстэтычную лінію.

У аповесці мы не адчуваем гэтай самадаўлеючай эстэтычнай лініі фабулы. Але трэба прызнацца, што фабуле твора дано залішне многа праў. Фабула часамі пачынае ў некаторых месцах аповесці ствараць рамкі матэрыялу, вобразу і гэтыя рамкі пад час зусім не патрэбны.

Ні чым іншым, як гэтымі рамкамі фабулы тлумачыцца той факт, што паказ справы тэорыі Каленбрун адсунуў на задні план паказ штодзённай палітвыхаваўчай працы партарганізацыі сярод шырокіх мас. Не чым іншым, як гэтымі рамкамі фабулы, тлумачыцца тое, што малюнак забастоўкі гучыць эпізодычна.

Гэтым-жа можна растлумачыць і тое, што вобразы Чэста і асабліва вобраз Дроба засталіся не разгорнутымі.

Таму і асноўная ўдзельная вага падзей была пакладзена на невялікае кола людзей. Маса з эпізодычным фактам забастоўкі—засталася як бы ў баку.

Патрабаванні фабулы прымусілі Дроба прыйсці ў аповесць перабудаваўшымся, перабудавацца за дзвярыма аповесці.

Дроб на хаду і ў два-тры прыёмы перабудоўваецца і чэсна парэволюцыйнаму выконвае абавязак грамадзяніна, калі зварочвае атрад вайскавікоў зноў у казармы, вайскавікоў, якія былі накіраваны на падаўленне забастоўка.

Такая перабудова сержанта зусім выпадкова і не мае ніякіх падстаў.

Гэтыя недахопы зусім не пазбаўляюць права гаварыць, што фабульны прыём у асноўным апраўдаў сябе.

Фабульны прыём тайн дае шмат магчымасцей разгортванню творчай фантазіі.

Можна падумаць, што тактыка ліквідацыі тэорыі Каленбрун аддае надуманнасцю, не сапраўднасцю, абстрактным палётам фантазіі, якая цесна мяжуецца з налётам тэрарыстычных метадаў барацьбы і авантурызма (што зусім не ўласціва компартыі). І сапраўды, на першы погляд гэта як-бы так. Лозунг Врона „сабаку—сабачая смерць“, авантурна-прыгодніцкі метад раскрыцця правакатарства Рыдэля Крамарчуком—як быццам за гэта гавораць. Безумоўна, тут ёсць пагроза гэтай небяспекі. Гэтая пагроза магла-б перайсці ў наяўнасць, каб не была папярэджана надзвычайна-складанай жыццёвай сітуацыяй, праўдзівасцю гэтай сітуацыі, у якой аказалася партарганізацыя.

Абмежавацца папярэджаннем сваёй арганізацыі аб небяспецы з боку дэфензівы, захаваць партарганізацыю ў глыбіні падполля і толькі—азначала-б капітулянства і абарончаства для партарганізацыі.

Тэорыя Каленбрун, калі-б не тут, дык у другой партарганізацыі знайшла-б глебу для сваёй рэалізацыі. Застаўся-б не папярэджаны аб небяспецы Савецкі саюз. Пры сітуацыі: зусім знішчан правакатар Гагай і папярэджан аб намерах дэфензівы Савецкі саюз—дасягаецца максімальнае выкарыстоўванне ўсіх магчымасцей для знішчэння афёры Каленбруна.

Тут мы маем творчую фантазію, якая не перарастае ў бясплённую лятуценнасць і несапраўднасць. Гэтая фантазія звязана з жыццём.

Складаная і на першы погляд заблытаная фабульная будова тайн у значнай ступені садзейнічае стварэнню партыйнасці вобразаў, стварэнню страснасці любві і нянавісці да людзей.

Каленбрун ужо пажынае грамавыя авацыі імперыялістаў усяе кулі за вынаходніцтва „тэорыі“. Гагай чакае ад свайго начальства ўзнагароды за адданую і ўмелую сваю работу. Турчын, расцілаючыся перад Крамарчуком кроўным пролетарам, уносіцца думкамі на межы Саюза Советаў, дзе можна будзе, пакончыўшы з Крамарчуком, аддацца сваёй слаўнай агіднасці дзеяння шпіона і шкодніка.

Ніхто з іх не падазрае аб сваёй смешнай ролі. Гэта выклікае да іх вялікае пачуццё класавай нянавісці. Гэта абнажае іх агіднасць слуг эксплаататараў, іх бездапаможнасць і асуджанасць.

Яны не падазраюць, што ўмелая тактыка Крамарчука, Врона, Чэста ўжо разбурыла іх вынаходніцтва. Катастрофу сваёй працы яны пачынаюць адчуваць, калі Турчын прадстаўляецца Крамарчуком начальніку заставы, як паручнік Рыдэль, калі Гагай атрымоўвае смяротны ўдар свінца, калі Каленбрун даведваецца, што Дроб комуніст.

У сваіх творчых прыёмах Самуйлёнак часта пападае ў палон выпадковасцей. І гэта вельмі небяспечна. Памылкай аповесці, зніжаючай усю яе сілу, з'яўляецца ўвядзенне матыва падслухоўвання. Дроб зусім выпадкова трапляе ў габінет дэфензівы. Зусім выпадкова складаецца сітуацыя: або быць выданым дэфензіве, або забіць Кален-

## ЗМЕСТ



---

